ШТОМЕСЯЧНЫ НАВУКОВЫ І МЕТАДЫЧНЫ ЧАСОПІС

# Роднае слова

2011/3
(279)
сакавік

ЗАСНАВАЛЬНІК:
МІНІСТЭРСТВА
АДУКАЦЫІ
РЭСПУБЛІКІ
БЕЛАРУСЬ

УСТАНОВА
«РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСА
"РОДНАЕ СЛОВА"»

Часопіс выходзіць
з 1988 года
(у 1988 – 1991,
№№ 1 – 48,
выдаваўся пад назвай
**"Беларуская мова
і літаратура ў школе"**)

Галоўны рэдактар

**Зоя
ПАДЛІПСКАЯ**

**WWW.RS.UNIBEL.BY**

# Змест


Старонка галоўнага рэдактара . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 3

### ЛІТАРАТУРА І ЧАС

**Васючэнка Пятро.** Таямніца неўміручасці Кандрата Крапівы: Да 115-годдзя з дня нараджэння . . . . . . . . . . 5

**Максімовіч Валерый.** Шляхам служэння Беларусі: Старонкі творчасці Максіма Гарэцкага . . . . . . . . . . . . . . 10

**Жыбуль Віктар.** Хаўрус не толькі літаратурны: З эпістальнай спадчыны Феліксa Купцэвіча . . . . . . . . . . . . . 15

**Трафімчык Анатоль.** Літаратуразнаўства і новыя тэхналогіі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 22

**Каяла Ірына.** "Энеіда" Вергілія: з гісторыі напісання і асэнсавання паэмы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 26

**Воінава-Страха Марыя.** Асаблівасці жанру навелы ў творчасці Юрыя Станкевіча . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 29

**Ярац Віктар.** Кніга – як свята: "Паміж небам і зямлёй" Васіля Зуёнка . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 32

### МОВЫ РЫСЫ НЕПАЎТОРНЫЯ

**Суркова Алена.** Кірыла-Мяфодзіеўская філалагічная школа IX – X стст.: Крытэрыі вызначэння паняцця . . . 35

**Астапкіна Кацярына.** Семантычная дэрывацыя прыметнікаў тактыльнага ўспрымання са значэннем 'цвёрды', 'мяккі' . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 38

**Кулеш Ганна.** *Пастанова, азначэнне, вызначэнне*: Станаўленне назвы аднаго з відаў судовых пастаноў . . . 41

**Каўрус Алесь.** *У сярэдзіне, усярэдзіне:* Калі як пісаць . . . 44

**Бандаровіч Вераніка.** Вартасці і недахопы электронных перакладчыкаў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 49

**Сачанка Святлана.** Моўныя пытанні ў публіцыстыцы Максіма Гарэцкага . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 52

**Садоўская Анжаліка, Баравік Максім.** Суадносіны аптымізму / песімізму ў нацыянальным характары беларусаў: На матэрыяле парэміялогіі . . . . . . . . . . . . . . 55

**Гаўрош Ніна, Нямковіч Ніна.** "Альфа і амега сяброўства – спагадлівасць і надзейнасць": Сяброўства, давер, згода, лад – у афарыстычных выслоўях . . . . . . . . . 58

### МЕТОДЫКА І ВОПЫТ

**Іўчанкаў Віктар.** *Блакітна-прамяністыя вочы*, ці Напісанне праз злучок складаных прыметнікаў; *Одинънадесяте*, ці Правапіс складаных лічэбнікаў. *Працяг* . . . 60

**Савіцкая Ірына.** Беларускі правапіс: дыдактычны матэрыял. *Заканчэнне* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 63

**Давыдава Тамара.** Складаныя сказы з рознымі відамі сувязі: Заняткі па беларускай мове . . . . . . . . . . . . . . . . . 64

**Калініна Эліна.** Загадны лад: значэнне, утварэнне, ужыванне і правапіс: Урок беларускай мовы (VI клас) . . . 70

**Рагойша Усевалад, Радзевіч Аляксандр, Савіцкая Ірына.** Комплексная работа па беларускай мове і літаратуры: Трэці (абласны) этап рэспубліканскай алімпіяды школьнікаў. 2010/2011 навучальны год. X клас. *Працяг* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 72

**Есіс Яўген.** Жыццё і творчасць Максіма Багдановіча: Урок беларускай літаратуры (IX клас) . . . . . . . . . . . . . . . . 75

**Дамброўская Наталля.** Раман "Чужая бацькаўшчына" Вячаслава Адамчыка . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 78

**Мартынкевіч Святлана.** Камунікатыўная кампетэнцыя: Сутнасць паняцця і прынцыпы адбору зместу яе фарміравання . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 82

**Праскаловіч Вольга.** Конкурс вусных выказванняў: Метадычныя парады . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 86

**Кныш Антон.** Фарміраванне ўменняў і навыкаў вучэбна-даследчай дзейнасці ў працэсе вывучэння лірыкі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 89

### НАЦЫЯНАЛЬНАЯ І СУСВЕТНАЯ КУЛЬТУРА

**Статкевіч-Чабаганаў Анатоль.** Кернажыцкія герба "Юноша" і Маствіловічы герба "Даленга" . . . . . . . . . . . . . 90

**Саламевіч Алена.** Адукацыя на Валожыншчыне: Пачатак стварэння нацыянальнай школы . . . . . . . . . . . . . . . . . 94

**Семікава Алена.** Музычнае жыццё Беларусі канца XIX – пачатку XX ст.: Каля вытокаў жанраў вакальнай эстрады . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 97

**Наркевіч Наталля.** Колты як частка ўрачыстага ювелірнага ўбрання жанчын на тэрыторыі Беларусі XII – XIII стст. *Заканчэнне* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 102

**Галубовіч Аляксандра.** Плакат у перыяд кіравання Хрушчова: ад "адлігі" да "застою" . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 105

**Шаранговіч Наталля.** Адлюстраванні мінулага [Андрэй Задорын] . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 108

***Віншуем!*** Да юбілею Любові Гарэлік (20).

***Паэтычная старонка.*** **Гарэлік Л.** "Шэсць гадоў у дажджы і мяцеліцы…". Калі чую гаворку… Дзіця вайны. Мая Хацяноўшчына. У бібліятэцы. Маска (20). **Швед В.** Дзесяць запаведзяў (71). **Караткевіч У.** "І тады закахалася хмара…" (73).

***Наш каляндар.*** **Голікава-Пошка Я.** Слова пра Вольгу Нячай (110).

***Літаратурны ветразь.*** **Буланда В.** Я вярнуся. "Пасля сустрэчы…". Паэзія. "Ласкавым паглядам матулі…" (111).

***Каляндар памятных датаў і юбілейных дзён на 2011 год:*** май (14, 62, 74).

***Крыжаванка.*** **Карпыза І.** Да Дня жанчын (112).



Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках, мастацтвазнаўстве, культуралогіі, педагагічных навуках (тэорыя і методыка навучання беларускай мове і літаратуры).

# НАВУЧЫМСЯ ДЗЯКАВАЦЬ ДНЮ СЁННЯШНЯМУ І ВЕРЫЦЬ У ДЗЕНЬ ЗАЎТРАШНІ!

Дарагія сябры! Вось і дачакаліся мы цёплых веснавых дзён. Незаўважна прамільгнула зіма з яе калляднымі маразамі і незабыўнымі святамі.

21 лютага мы адзначалі асаблівы дзень для кожнага сапраўднага грамадзяніна краіны – Міжнародны дзень роднай мовы. Сэрца перапаўнялі самыя розныя пачуцці: ад гонару за сваю мову – адну з найвялікшых каштоўнасцей і нашу адметнасць у свеце – да глыбокай трывогі і жадання яшчэ лепш працаваць, каб матэрыялы нашы былі цікавымі і неабходнымі, каб як мага больш карысці прынесці настаўніку, каб "дастукацца" нарэшце да тых, хто, жывучы ў Беларусі і навучаючы дзяцей роднай мове, "забыўся", што ёсць такі часопіс "Роднае слова"…



У роднасловаўцаў, як і заўсёды, напярэдадні свята кіпелі справы. Аднак за звычайнымі рэдактарскімі і карэктарскімі клопатамі мы знайшлі час на дзве цёплыя і шчырыя сустрэчы. Адна з іх адбылася 17 лютага: супрацоўнікі рэдакцыі часопіса і настаўнікі, вучні, педагогі, студэнты Мінска сустрэліся ў Літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, дзе дырэктарам шчырые Зінаіда Камароўская. Менавіта ёй і цудоўнаму калектыву музея мы ўдзячны за шматгадовае плённае супрацоўніцтва і за тую шчырасць, якой прасякнута кожнае мерапрыемства ў музеі.

На гэты раз у сустрэчы бралі ўдзел сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы член-карэспандэнт НАН Беларусі Аляксандр Лукашанец, паэты Анатоль Зэкаў і Дзмітрый Пятровіч, старшыня праўлення Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Гора" Хізры Асадулаеў. Нягледзячы на тое, што падчас сустрэчы ўздымаліся пэўныя праблемы, на сэрцы было светла і хораша, як і заўсёды ад спаткання з аднадумцамі і людзьмі, якія клапоцяцца пра адну з табою справу…

А непасрэдна 21 лютага справы паклікалі мяне ў дарогу: па запрашэнні галоўнага рэдактара раённай газеты "Слуцкі край" Анатоля Жука я ўдзельнічала ў рабоце круглага стала, прысвечанага Міжнароднаму дню роднай мовы і абмеркаванню выканання плана мерапрыемстваў Слуцкага райвыканкама па папулярызацыі і пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы. Шчыра прызнаюся, было пэўнае хваляванне: так хацелася, каб у маіх землякоў усё ладзілася, каб на старажытнай слуцкай зямлі беларуская мова гучала не толькі ў агульнаадукацыйных установах і ўстановах культуры, каб сферы яе ўжытку былі значна шырэйшымі. Як аказалася, хваляванне было дарэмным.

У горадзе шмат увагі аддаецца папулярызацыі і пашырэнню сферы выкарыстання беларускай мовы ў жыцці грамадства, праводзіцца сістэмная інфармацыйна-тлумачальная работа па прапагандзе Закона Рэспублікі Беларусь "Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" ў СМІ, у тым ліку праз газету "Слуцкі край", праграму радыёвяшчання "Весткі Случчыны". Пачынаючы з 2010 г., для дарослых па месцы працы і вайсковай службы арганізаваны бясплатныя курсы па авалоданні новай рэдакцыяй правапісу.

Што датычыць кіраўнікоў устаноў адукацыі, настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, педагогаў школ з беларускай мовай навучання, справаводаў і іншых катэгорый работнікаў у галіне адукацыі, усе яны павысілі кваліфікацыю па пытаннях змен у правілах беларускай арфаграфіі праз курсавую падрыхтоўку яшчэ ў першым паўгоддзі 2010 г.

Як паведаміў прысутным намеснік начальніка аддзела адукацыі Слуцкага райвыканкама Аляксандр Шыловіч, у раёне ўсе сельскія агульнаадукацыйныя ўстановы – беларускамоўныя, сярод гарадскіх, на жаль, такіх пакуль што няма. У аддзеле адукацыі распрацаваны план пашырэння выкарыстання беларускай мовы. Праведзена вучоба для спецыялістаў аддзелаў райвыканкама па новай рэдакцыі беларускага правапісу. Кіраўнік з прыемнасцю зазначыў, што пераможцай сёлетняга раённага этапу конкурсу "Настаўнік года" стала настаўніца беларускай мовы і літаратуры СШ № 13 г. Слуцка Іна Серадзінская. Дарэчы, конкурсны ўрок, падрыхтаваны ёю, па тэме змен у беларускім правапісе.

Галіна Астроўская, метадыст аддзела адукацыі Слуцкага райвыканкама, зазначыла, што актывізацыя работы па пашырэнні выкарыстання беларускай мовы ў грамадстве супала са зменамі ў беларускім правапісе. Падрыхтаваны кансультанты, творчая група настаўнікаў аказвае практычную дапамогу як педагогам, так і бацькам.

Арганізавана ведамасная падпіска на часопіс "Роднае слова", які ў значнай ступені дапамагае падрыхтаваць настаўнікаў роднай мовы, усіх зацікаўленых да выкарыстання Закона "Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" на практыцы.

У раёне паступова павялічваецца колькасць гурткоў па вывучэнні гісторыі Беларусі, культуры мовы ва ўстановах пазашкольнага навучання і выхавання. Штогод у верасні аддзелам культуры і аддзелам ідэалагічнай працы Слуцкага райвыканкама з мэтай папулярызацыі беларускіх культурных традыцый праводзяцца Дні еўрапейскай спадчыны.

Дырэктар раённай цэнтральнай бібліятэкі Людміла Гурыновіч паведаміла пра распачатую акцыю "Чытаем па-беларуску", адзначыла добрае забеспячэнне бібліятэкі творамі і такую новую форму работы, як гучнае чытанне, распавяла пра арганізацыю сустрэч з пісьменнікамі.

Кожная гарадская структура дакладна выконвае пастаўленую задачу. Адна з іх у абласнога ўнітарнага прадпрыемства "Слуцкая ўзбуйненая друкарня" – пашырэнне асартыменту тавараў для школьнікаў з тэкстамі на беларускай або на беларускай і рускай мовах і выявамі, звязанымі з беларускай гісторыяй і літаратурай. Дырэктар друкарні Васіль Жогаль адзначыў, што з набыццём сучаснай тэхнікі магчымасці друкарні павялічыліся, наладзілася супрацоўніцтва з шэрагам арганізацый і ўстаноў, падзяліўся планамі на будучае і прадэманстраваў прысутным цікавую кніжку-размалёўку, якая нядаўна выйшла ў друкарні, з выявамі Мірскага замка, Нясвіжа і інш.

Настаўніца гімназіі № 2 г. Слуцка, кіраўнік раённага метадычнага аб'яднання настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры Таццяна Зубовіч зазначыла, што многае залежыць ад аўтарытэта педагога: вучні з першага класа павінны бачыць паважлівыя адносіны да нацыянальнай мовы, тады і самі будуць карыстацца ёю; падзялілася добрымі вынікамі – 25 выпускнікоў гімназіі сёлета абралі для праходжання цэнтралізаванага тэсціравання беларускую мову. І не таму, што здаваць яе лягчэй, а таму што яна – родная.

Справай папулярызацыі роднай мовы ў Слуцку займаюцца не толькі аддзелы адукацыі і культуры, але таксама і аддзелы ЗАГС, архітэктуры і будаўніцтва, жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Па жаданні грамадзян у горадзе ўрачыстая рэгістрацыя шлюбаў адбываецца на беларускай мове. Інфармацыйныя надпісы ў населеных пунктах і арганізацыях выконваюцца на беларускай і рускай мовах або толькі на беларускай. Як патлумачыў дырэктар аўтобуснага парка № 2 г. Слуцка, дэпутат раённага Савета дэпутатаў Мікалай Валетка, пашыраецца практыка аб'яўлення па-беларуску назваў прыпынкаў у грамадскім транспарце, гучыць беларуская мова на слуцкім аўтавакзале. У планах – правядзенне экскурсій па горадзе, падрыхтоўка відэааб'яў прадпрыемстваў на беларускай мове.

Трэба зазначыць, што запланаваныя Слуцкім райвыканкамам шматлікія мерапрыемствы па папулярызацыі і пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы строга выконваюцца ўсімі структурамі, стымулюецца пашырэнне беларускамоўнага асяроддзя.

Прыемна было пачуць словы ўдзячнасці ў адрас рэдакцыі часопіса і пацвярджэнне калегамі запатрабаванасці нашага выдання сярод педагогаў.

Перадаўшы падборку часопісаў у раённую бібліятэку і прэзентаваўшы прысутным найлепшыя матэрыялы, я з вялікай прыемнасцю выказала словы шчырай падзякі спецыялістам аддзела адукацыі, начальніку аддзела адукацыі Слуцкага райвыканкама Івану Дзерману за тое, што паважлівыя адносіны да роднай мовы, клопат пра метадычную падрыхтоўку настаўніка і адпаведнае стаўленне да нашага навуковага і метадычнага выдання праяўляюцца ў раёне на справе: кожная з 43 агульнаадукацыйных устаноў з'яўляецца падпісчыкам часопіса "Роднае слова".

Удзельнікі круглага стала абмеркавалі шмат пытанняў, размова была канструктыўная і мэтанакіраваная. У планах – увесці факультатыўны курс "Слуцказнаўства" на беларускай мове, адкрыць беларускамоўныя групы ў дзіцячых садках, выправіць памылкі ў назвах населеных пунктаў і многае іншае.

Падводзячы вынік, Анатоль Жук адзначыў, што зроблена нямала, але яшчэ больш – наперадзе. І толькі сумеснымі намаганнямі ўсіх зацікаўленых можна вырашыць шэраг задач, якія стаяць перад грамадствам на сучасным этапе.

Думаецца, калі ў кожным рэгіёне краіны будуць так ставіцца да пытання захавання і зберажэння роднага беларускага слова, як на Случчыне, нам не будзе сорамна перад нашчадкамі, а наша заўтра стане сонечным і светлым.

Дарагія сябры, трэці нумар часопіса "Роднае слова" выходзіць у святочны сакавіцкі месяц. Шчыра віншую ўсіх чытачоў з вясною! Асаблівыя словы віншавання – жанчынам. Здароўя і шчасця вам, кахання і невычарпальнай энергіі!

Няхай на душы заўсёды будзе светла і радасна, а ў сям'і – па-вясноваму цёпла і ўтульна. Давайце навучымся дзякаваць дню сённяшняму і верыць у дзень заўтрашні!

З павагай **Зоя ПАДЛІПСКАЯ**.



# ЛІТАРАТУРА І ЧАС

*Літаратура ў люстэрку часу*

Пятро ВАСЮЧЭНКА

## ТАЯМНІЦА НЕЎМІРУЧАСЦІ КАНДРАТА КРАПІВЫ

### ДА 115-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

У вёсцы Нізок на Уздзеншчыне, дзе нарадзіўся народны пісьменнік, мне давялося пагаманіць з бабуляй, якая не памятала, колькі ёй гадоў, але ведала пэўна, што ўжо больш за сто. Яна і Кандрата Кандратавіча памятала і згадвала добрым словам, і прыпеўку складную праспявала, і паабяцала жыць яшчэ мінімум гадоў трыццаць. У Нізку шмат такіх доўгажыхароў, казала яна.

Мабыць, ёсць у гэтай вёсцы якаясь вартая навуковага доследу энергетыка, дзякуючы якой людзі жывуць доўга. Кандрат Крапіва (1896 – 1991) пражыў у добрым творчым здароўі без малога сто гадоў.

Нізок выпусціў у свет, апроч Крапівы, яшчэ тузін паэтаў і празаікаў, і далёка не кожны з іх атрымаў дар доўгажыхарства. Вось Паўлюк Трус (1904 – 1925), чый жыццёвы палёт быў зусім кароткім, нібы ў аўсяніка або сняжынак з яго знакамітай паэмы “Дзясяты падмурак”:

*Падаюць сняжынкі –*
*дыяменты-росы,*
*падаюць бялюткі*
*за маім акном…*

Жыццёвы і творчы лёс мастака ўзаемапераплятаюцца, і дзесьці, на нейкім вітку, адбываецца так, што мастацкія тэксты пачынаюць уздзейнічаць на лёс іх стваральніка. У гісторыі літаратуры такіх фактаў безліч. Не выключана, што разгадка таямніцы Кандрата Крапівы прыхавана ў створаных ім вершах, байках, п’есах.

Сатырык, байкапісец, камедыёграф тварыў адметную мадэль мастацкага часу. Яе прысутнасць адчуваецца ўжо ў сатырычных вершах і байках, напісаных у 1920-я гг. Іх стваральнік надзелены асаблівай чуйнасцю да часу, якая дапамагала яму вылучаць у асяроддзі ўстойлівыя, неўміручыя аб’екты сатыры. Востры зрок, тая спецыфічная ўедлівасць, пякучасць, якую я назваў бы яшчэ “крапіўніцай”, хвосткая рыфма і сакаўны народны смех спрыялі таму, што байкі “Дыпламаваны баран” і “Ганарысты парсюк”, “Саманадзейны конь” ды іншыя да сённяшняга



***Мікалай Гусеў.*** **Партрэт Кандрата Крапівы.**

часу завучваюцца на памяць і расцягваюцца на цытаты. Сучасны музычны гурт называе сябе “Жаба ў каляіне” і са смакам, у рокавай манеры выконвае знакамітыя радкі:

*І – скок Жабоцька смела*
*Ды ў каляіну села.*
*Тут колам – хрась!..*
*І кроў і гразь…*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Пад кола, жаба, не падлазь.*

Сатырыкаў баяліся ва ўсе часы. Сентыментальная царыца Кацярына ІІ нямала слёз праліла з нагоды шпілек, якія адпускаў на яе адрас выдавец “Трутня” Мікалай Навікоў. Хоць прасцей ёй, здавалася, было не зважаць на аўтара або закінуць яго ў якую крэпасць.

Не дужа ліберальныя рэжымы проста знішчалі сатырыкаў – маральна або фізічна. Сталін ва ўласцівай яму крывадушнай манеры абвясціў, што Саветам “патрэбны Салтыковы ды Гогалі”. І якраз у сталінскую эпоху былі знішчаны беларускія сатырыкі Андрэй Мрый, Леапольд Ро-

***Пятро Васільевіч Васючэнка** – літаратуразнаўца, пісьменнік. Кандыдат філалагічных навук (1983). З 1984 да 1997 г. працаваў малодшым, затым старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН Беларусі. З 1997 г. – загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Аўтар літаратуразнаўчых манаграфій "Драматургія і час" (1991), "Драматургічная спадчына Янкі Купалы" (1994), "Пошукі страчанага дзяцінства" (1995), "Беларуская літаратура XX стагоддзя і сімвалізм" (2004), зборніка літаратурна-крытычных прац "Адлюстраванні першатвора" (2004), вучэбнага дапаможніка "Сучасная беларуская драматургія" (2000), зборнікаў прозы "Белы мурашнік" (1993), "Прыгоды аднаго губашлёпа" (1999), зборніка п'ес "Маленькі збраяносец" (1999), кніг казак "Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага" (1997), "Каляровая затока" (2008), ста васьмідзесяці літаратуразнаўчых артыкулаў, рэцэнзій, эсэ.*



дзевіч, Анатоль Дзяркач. Крапіва ацалеў не таму, што быў больш асцярожны. Наадварот, ён, што называецца, гуляў з агнём.

Мастакоўская смеласць Крапівы звязана і з ягонай прыналежнасцю да літаратурнай суполкі "Узвышша", сябры якой практыкавалі ў творчасці сацыяльную крытыку.

Літаратуразнаўцы адзначылі такую прыкмету сатыры Крапівы, як "дальнабойнасць". Байкі "Дэкрэт", "Мандат", "Язычок", "Казёл", "Чорт" былі надзвычай смелыя і рызыкоўныя для свайго часу і захавалі вастрыню да сёння.

Байка "Саромлівы" распавядае пра дзецюка, дужа ахвочага да жанчын. Хлапец падчэплівае *"цікавую"* хваробу, але да лекараў ісці не спяшаецца, бо саромеецца. Нарэшце хвароба пагнала яго да доктара, але той, паглядзеўшы на балячку, скрывіўся ды вымавіў: *"Позна!"*

Мараль байкі:

*Хлапца, вядома, нам шкада,*
*Але шкадней у сотню столак,*
*Калі хварэе грамада,*
*А мы з-за сораму не бачым болек –*
*Тады саўсім бяда.*

Выратавала Крапіву ад масавых рэпрэсій яго шчасная доля і, можа, у нейкай ступені адчуванне часу, якое праяўлялася ў экстрэмальныя моманты. Яно і дало Крапіве магчымасць стварыць адну з самых вострасацыяльных камедый у надзвычай неспрыяльныя для сатыры 1930-я гг. Гэта камедыя **"Хто смяецца апошнім"** (1939), не менш "дальнабойная", чым байкі і сатырычныя вершы майстра.

Лёс гэтага твора незвычайны. П'еса напісана ў самыя змрочныя ў гісторыі Савецкай Беларусі часы – разгул сталінскіх рэпрэсій, пошук "ворагаў народа" і расправа над імі. "Ворагаў" знаходзілі паўсюль, у тым ліку і ў асяроддзі пісьменнікаў, навукоўцаў. Невыпадкова ў 1930-я гг. была практычна вынішчана не толькі творчая, гуманітарная, але і тэхнічная інтэлігенцыя Беларусі.

Усюды "ворагі"… Вораг Гарлахвацкі, чалавек з цьмяным мінулым, невук і шарлатан, атабарыўся ў інстытуце геалогіі і спакваля распачаў там падрыўную дзейнасць. Абшальмаваны сумленны Чарнавус, смяротна запалоханы Туляга. Але махляр выкрыты, і апошнімі смяюцца яго ахвяры. У 1939 г. смяяліся з ворагаў народа, выведзеных Крапівой у абліччы Гарлахвацкага і Зёлкіна. Падвойнае дно камедыі выявілася праз дзесяцігоддзі: у ёй пачалі праглядацца сатанінскія праявы сталінскага часу, страх, падазронасць, шабас шматлікіх гарлахвацкіх.

Час зняў з гэтага твора налёт палітычнай кан'юнктуры. Глядач з задавальненнем назірае крах *"свінтуса грандыёзуса"*, а славуты навуковы даклад Гарлахвацкага пра *"мамантаву свінню"* робіцца, як і байка "Дыпламаваны баран", усенародна прызнанай класікай.

Інакш бачыцца і вобраз Тулягі, якога ранейшая крытыка папракала за нясмеласць і беспрынцыповасць. Супраціў Тулягі – гэта па-беларуску, "партызанскім" спосабам выяўлены пратэст супраць сістэмы, якая ператварала чалавека ў кволую, безабаронную істоту. І гэта форма пратэсту важыць больш, чым дзеянні парторга Чарнавуса, які выконвае ў п'есе ролю deus ex machina і, такім чынам, аўтарскай воляй загарантаваны ад небяспекі.

Аб'ектыўна камедыя разам са сваім падтэкстам выступала супраць масавых рэпрэсій у асяроддзі навуковай інтэлігенцыі, а Гарлахвацкі паказаны як праваднік рэпрэсіўнай палітыкі.

Ці меў Кандрат Крапіва нейкую далёкую стратэгічную задуму, калі пісаў гэты твор? Ці прадбачыў святло напрыканцы тунэля – той, *апошні* смех, калі постсавецкае грамадства будзе развітвацца са змрочнай палітычнай спадчынай 1930-х гг.? Хутчэй за ўсё, тут адыграла ролю інтуіцыя мастака, які падсвядома адчуваў логіку гісторыі і не мог не здагадвацца, што адзін з пастулатаў гэтай логікі – усё праходзіць, усё змяняецца.

Дальнабойнасць смеху і варыянтнасць трактоўкі вобразаў уласцівыя і незаслужана забытай і не ацэненай як след камедыі **"Мілы чалавек"** (1945).

Твор гэты парадаксальным чынам выпадае з літаратурнага кантэксту часу, калі прынята было ўслаўляць перамогу і адлюстроўваць "канфлікт паміж добрым і яшчэ лепшым". Сатыра, скіраваная сваім вастрыём не супраць "фрыцаў"-кураедаў, а ў глыбокі савецкі тыл, у горад Энск, выглядала "небяспечнай".

Здаецца, што нават сам драматург прадчуваў не вельмі просты лёс камедыі. Гэтае прадчуванне выказана ў пралогу. На авансцэне спрачаліся два літаратары – драматург Язва і *"былы драматург і будучы паэт"* Праменны:

*П р а м е н н ы. Прывітанне Шэкспіру!*

*Я з в а. Здароў, братка Мальер!*

*П р а м е н н ы. Адкуль?*

*Я з в а. З тэатра.*

*П р а м е н н ы. Што там чуваць?*

*Я з в а. Кажуць, глядач смяяцца хоча.*

*П р а м е н н ы. Ён хоча смяяцца, а нашаму брату хоць ты плач.*

*Я з в а. Некаторыя драматургі з гэтай задачай лёгка спраўляюцца.*

*П р а м е н н ы. Я ведаю: яны паказваюць гледачу палец. Лічаць, што калі глядач вельмі пасмяяцца захоча, дык і з пальца пасмяецца.*

*Я з в а. Смяецца, смяецца, ды нарэшце пакрыўдзіцца. За каго вы, скажа, мяне лічыце? Што я вам – блазан, што вы мне палец паказваеце?*

*П р а м е н н ы. І чаму гэта так? Можа, таму, што ў нашай сапраўднасці няма камедыйных герояў – тарцюфаў, прастаковых, фамусавых?*

*Я з в а. Ты хочаш сказаць, што камедыя аджыла свой век?*

*П р а м е н н ы. Сапраўды, каго нам асмейваць? Каго ты ні возьмеш, дык гэта будзе або рабочы, або калгаснік, або інтэлігент, адным словам, чалавек савецкі. Пажартаваць з яго яшчэ можна, але паспрабуй яго асмяяць. Паспрабуй вывесці на сцэну сучаснага недарасля або сучаснага сквазнік-дмуханоўскага.*

*Я з в а. Ну што ж, і паспрабуй.*

*П р а м е н н ы. Дык жа пакрыўдзіцца.*

*Я з в а. Хто?*

*П р а м е н н ы. Той жа савецкі глядач.*

Праменны, абачлівы канфарміст, не памыляўся ў тым, што рамяство камедыёграфа, смехатворцы сапраўды было на той час небяспечным. Яму пагражаў не савецкі глядач, а савецкая афіцыйная крытыка і цэнзура. Пройдзе няшмат часу, і будзе жорстка раскрытыкавана аповесць "Прыгоды малпы" Міхаіла Зошчанкі, аўтар якой асмеліўся смяяцца падчас змагання з навалай…

Язва робіць антыгероем сваёй будучай камедыі не фашыстоўца, дыверсанта, шпіёна або паліцая, а суседа, *"мілага чалавека"*.

Знаходзіць аб'екты сатыры "па суседстве" было прафесіянальнай звычкай самога Крапівы, які ў свой час у апавяданні "Мой сусед" (1927) паказаў саматужнага паэта *"Лукавіцына – Цыбульскага – Цыбулевіча"*, што за царскімі часамі ўслаўляў двухгаловага арла і *"лобызал край порфиры"*, а за Саветамі гатовы быў жыццё пакласці *"за чырвань гэту"*…

Цяпер сусед камедыёграфа – хтось Жлукта, які займеў сабе рамантычны псеўданім Чарскі, каб можна было ў зручным выпадку намякнуць на сваяцтва з "тым самым" Луначарскім. Жлукта не проста камедыйны махляр, а махляр-мараліст:

*Ж л у к т а. …Людзі жывуць па-рознаму, і рэдка хто жыве па-людску. Я хачу па-людску апранацца, па-людску есці, па-людску піць, па-людску любіць. Пакуль што я нічога гэтага не маю.*

На сённяшні розум цяжка асудзіць жаданне Жлукты: есці, піць, апранацца, любіць, адным словам – жыць па-людску. Здаецца, што гэта не заганнае крэда абывацеля, а нармальнае чалавечае жаданне. Але невялікую папраўку да гэтага робіць Язва, калі Жлукта прапануе выпіць за людскае жыццё: *"І самі каб людзьмі былі"*. Стваральнік *"блатканторы"* прапаведуе жыццёвыя прынцыпы, якія бяруць пачатак ад страўніка.

Другую папраўку робіць час, у які жыруе Жлукта, паглынаючы каньяк "Арарат", ікру і балык. Гэта адбываецца на фоне нішчымнага, галоднага ваеннага ліхалецця. Мараль сытага жыцця больш пасуе да мірнага часу. У вайну яна набывае звыродлівыя формы, пра якія згадваў у "Паэме сораму і гневу" Пімен Панчанка:

*Сябры часоў вайны…*
*О Божа мой!*
*Стагналі,*
*Нібы пёк палын у роце.*
*Не бачылі ў агні перадавой.*
*(Я не пра тых,*
*Хто вёў баі на фронце.)*

*Яны жылі ў маскоўскіх нумарах,*
*Пілі гарэлку, трэскалі тушонку.*
*Калі іх працінаў за блізкіх страх,*
*Дык прыязджалі суцяшаць іх жонкі*.*

*"Блатмайстарская кантора"*, арганізаваная Жлуктам, насамрэч спароджаная феноменам сацыялізму, калі квітнеў дэфіцыт. Кліенты могуць атрымаць у Жлукты ўсё: электрарухавік, скрыню гарэлкі, нават казу, зразумела, за пэўныя паслугі або ўзнагароду. Даволі рызыкоўнае прызнанне Жлукты не аспрэчваецца ні героем, ні аўтарам:

*Я з в а. Мяне здзіўляе не столькі ваша правіла, колькі бліскучае правядзенне яго ў жыцці…*

* **Панчанка, П.** Паэма сораму і гневу / П. Панчанка // Анталогія беларускай паэзіі : у 3 т. – Мінск, 1993. – Т. 2. – С. 523.

*У чым сакрэт вашага поспеху, я так і не магу зразумець.*

*Ж л у к т а. Ніякіх сакрэтаў тут няма. Ёсць здольнасць адказаць на запатрабаванні жыцця. Дзякуючы гэтай здольнасці я з'яўляюся маленькай папраўкай да сістэмы размеркавання. Праўда, дзеля гэтага мне прыйшлося часова адкласці свае творчыя замыслы.*

*Я з в а. Папраўка да сістэмы размеркавання… Гэта ўжо цэлае тэарэтычнае абгрунтаванне таго, што мы называем… (Падшуквае слова.)*

*Ж л у к т а. Блатам, вы хочаце сказаць?*

*Я з в а. Можа, і так…*

*"Папраўка да сістэмы размеркавання…"* Узнікае пытанне: якой сістэмы? Аўтар не дае адказу. Інакш давялося б прызнаць, што блат і блатмайстры пры такой сістэме – з'ява непазбежная. Можна паказаць Жлукту яшчэ і дэзерцірам, як гэта зрабіў Крапіва, можна напісаць пра яго фельетон, як гэта зрабіў Язва, – і ўсё ж корань сацыяльнай хваробы застанецца некрануты.

Пры ўсёй "адмоўнасці" герой Крапівы – востры на язык, дасціпны персанаж. Яго выказванні – цынічныя і ў той жа час трапныя. Вось якім чынам ён характарызуе сяброўку свайго жыцця:

*Ж л у к т а. Дзівак чалавек. Ён думае, што жанчыны жывяцца паэзіяй. Спытайцеся ў мяне, чым яны жывяцца. Ты яе спачатку мясам накармі, дай выспацца ды выгуляцца добра, адзень як мае быць, а тады яе і на паэзію пацягне; тады яна і над вершам можа паўздыхаць. А пакуль вы нічога гэтага даставіць ёй не можаце, дык вы для мяне не канкурэнт.*

Слова *блат* чалавекам XXI ст. успрымаецца бадай як гістарызм, аднак назіранні Крапівы за жыццём блатмайстра не губляюць актуальнасці і ў час перамены грамадска-эканамічнага ўкладу.Ператварэнне чалавека ў кліента, жыццёвая мараль, якая бярэ пачатак ад страўніка, – усё гэта прадбачаныя Крапівой заганныя рэаліі XXI ст.

Актуальнай, жывучай гэтую камедыю робіць не толькі смех, але і выразны падтэкст, недамоўленасць, разлік на дадумванне, розныя тэатральныя "навароты" ды тая сцэнічная, у духу Луіджы Піранэлы, гульня з фіктыўным аўтарам, які творыць камедыйнае дзеянне ў прысутнасці гледача.

Крапіва-драматург ператвараўся ў Крапівуфілосафа, ішоў да стварэння інтэлектуальнай п'есы, і гэты шлях прывёў да напісання фантастычнай камедыі **"Брама неўміручасці"** ў 1973 г.

Яшчэ ў часіну творчае маладосці аўтар, заняты, здавалася, падзеямі зямнымі і хуткабежнымі, задумваўся пра сутнасць такой субстанцыі, як час. *"Час – гэта нешта бясконца бясчулае і бесстаронняе: якія б ні адбываліся акты найвышэйшай гуманнасці ці нечуванага здзеку над асобаю чалавека, ён застаецца спакойным і безудзельным"*, – такія сталыя развагі маладога аўтара памянёнага вышэй апавядання "Мой сусед". А вось цяпер драматург выпрабоўвае дзёрзкую гіпотэзу: а што, калі чалавек стане раптам валадаром часу, павялічыўшы працягласць свайго жыцця да бясконцасці?

Твор не меў фармальных прыкмет, якія далучалі б яго да жанру навуковай фантастыкі. Адна з такіх прыкмет, як ні дзіўна, праўдападабенства, дакладней, навуковападобнасць. І хоць лабараторыі, пацукі і навукоўцы ў Крапівы як быццам рэальныя, сама магчымасць неўміручасці выглядае не як навукова-фантастычнае, але як проста фантастычнае дапушчэнне. Ствараецца эксперыментальная сітуацыя: а што, калі б раптам… чалавецтва, чалавек пазбавіліся свайго адвечнага фатуму – смерці?

Вядома, Крапіва не быў першым драматургам, які распрацоўваў такую праблему. На пачатку былога стагоддзя Бернард Шоу стварыў драматургічную ўтопію "Вяртанне да Мафусаіла" (1918 – 1920). Аўтар быў перакананы ў тым, што чалавецтва недасканалае з тае прычыны, што чалавечы век кароткі і людзі не маюць часу паразумнець і выправіць памылкі. Героі Шоу жывуць мафусаілавы век, а то і болей, у выніку чаго цывілізацыя няўхільна аздараўляецца. У сацыяльна-фантастычнай п'есе Карэла Чапека "Сродак Макропуласа" (1922) ствараецца аналагічная эксперыментальная сітуацыя.

Варта згадаць таксама філасофскую п'есу Францішка Аляхновіча "Круці ні круці, а трэба памярці" (паст. 1943). Там Алхіміку ўдаецца перамагчы смерць і нават запячатаць яе ў бочцы. Ф. Аляхновіч спрабаваў падагульніць не толькі ўласны жыццёвы досвед, але і досвед чалавецтва. Ён ішоў да абагульнення выпрабаваным шляхам – праз фальклорную стылізацыю, праз казачнасць. Перамога смерці бачыцца як штосьці натуральнае, як пацвярджэнне агульных законаў жыцця, хоць Алхімік сваім шчыраваннем выклікае сімпатыю, а няўдзячная грамада – грэблівасць.

Жыццялюбец і аптыміст, прыхільнік здаровага ладу жыцця, Шоу пражыў 94 гады. Кепскі прагноз Ф. Аляхновіча, наадварот, абярнуўся супраць яго самога, бо ён загінуў пры таямнічых абставінах неўзабаве пасля напісання п'есы пра Смерць.

Адкрыццё несмяротнасці, паводле Крапівы, няздатнае ашчаслівіць чалавецтва. Яно пацягнула за сабой процьму праблем: дэмаграфічных, сацыяльных, псіхалагічных, этычных. Галоўная ж загвздка ў тым, што, як папярэджвае герантолаг Дабрыян, *"неўміручасці на ўсіх не хопіць"*. Яе, як і іншыя матэрыяльныя даброты, трэба размяркоўваць.

І вось паўстае новая *"папраўка да сістэмы размеркавання"* – Караўкін, які набыў значную вагу ў грамадстве і распладзіўся:

*Караўкін. Гэта піша Антон Фёдаравіч.*

*Дабрыян. А хто такі Антон Фёдаравіч?*

*Караўкін (здзіўлена). Як, вы не ведаеце Антона Фёдаравіча?*

*Дабрыян. Прызнаюся, не ведаю.*

*Караўкін. Дык я вам скажу, што вы многа траціце.*

*Дабрыян. Так... Значыць, вы лічыце, што сваімі добрымі справамі заслужылі неўміручасць?*

*Караўкін. Вось жа і Антон Фёдаравіч вам піша. Толькі прашу мець на ўвазе, што мне патрэбны вопытныя памочнікі.*

*Дабрыян. Дык іх таксама ў неўмiручыя?*

*Караўкін. Ну, а што ж рабіць?*

*Дабрыян. І шмат іх у вас?*

*Караўкін. Вось тут заява і невялікі спіс.*

*Дабрыян (бярэ ў рукі спіс). Мнагавата... І ўсё Караўкіны?*

*Караўкін. Ну, не ўсе, але ёсць крыху. Гэта ўсё добрыя работнікі.*

*Дабрыян. Караўкіна Марыя Захараўна. Год нараджэння... Ёй колькі ж гадоў?*

*Караўкін. Гэта мая бабка. Ёй пад дзевяноста, але ж нельга крыўдзіць старую.*

*Дабрыян. Леанід Караўкін... Гэта таксама работнік?*

*Караўкін. Будучы. Унук, Лёнька. Яму шосты год. Але не сумнявайцеся, ён увесь у дзеда пайшоў.*

*Дабрыян. Так... Што ж мне рабіць з вашай заявай?*

*Караўкін. Напішыце рэзалюцыю.*

*Дабрыян. Якую?*

*Караўкін. Напішыце, каб моцна было. Ну, скажам, забяспечыць неўміручасць у першую чаргу.*

*Дабрыян. Няхай будзе моцна. (Піша.)*

*Караўкін (бярэ паперу). Вялікае вам дзякуй. З разумным чалавекам прыемна справу мець. (Чытае рэзалюцыю.) Што?! Пайшоў... Куды пайшоў?*

*Дабрыян. Там напісана.*

*Караўкін. К чортавай мацеры?!*

*Дабрыян. Так. К чортавай мацеры. Разам з бабкай і ўнукам.*

*Караўкін. Дык, можа, і з Антонам Фёдаравічам?*

*Дабрыян. І з ім таксама.*

*Караўкін (з пагрозай). Добра ж. Мы яшчэ сустрэнемся.*

*Дабрыян. Я толькі пра гэта і мару.*

*Караўкін выходзіць.*

*Фу, якая поскудзь!*

*Марына Сяргееўна (ставіць чай). Поскудзь таксама хоча быць неўмiручай.*

Да вынаходцы пхнуцца шматлікія аматары "жыць і не тужыць", прайдзісветы, махляры, шэльмы ўсялякіх гатункаў... Праз выпрабаванне неўмiручасцю праводзіцца стракаты натоўп незвычайных асоб: караўкіных, застрамілавых, скараспеяў, васюкоў, якія на вачах "самавыкрываюцца" як сатырычныя тыпы. Палітра сатырычных фарбаў у характарыстыцы гэтых монстраў надзвычай яркая. Хто б мог дадумацца, як, напрыклад, Торгала, прынесці на аналіз замест сваёй мачы... конскую. На што Дабрыян кідае з'едлівую рэпліку:

*Торгала. Дык што ж, нам так і паміраць?*

*Дабрыян. Не зразу. Пажывяце яшчэ. Тым больш, што здароўе ў вас, як паказвае аналіз... конскае. А прыйдзе пара, памраце, як усе смертныя.*

У выніку драматург разам з Дабрыянам прыходзіць да высновы: чалавецтва не падрыхтавана да такога дарунка лёсу, як вечнае зямное жыццё.

Не памянялася сітуацыя і ў XXI ст., калі буйнымі крокамі рухаецца геранталогія. Эйнштэйнава выснова пра тое, што маральны прагрэс не паспявае за тэхнічным, на жаль, не абвергнута і сёння.

Паўстаюць пытанні. Дык хто ж неўмiручы? Хто смяецца апошнім? І што можа зрабіць сатыра?

"Творы Крапівы зрабілі мяне лепшай", – запэўнівае студэнтка на экзамене па літаратуры і, па-мойму, перабольшвае. У тым і рэч, што дыпламаваныя бараны, ганарыстыя парсюкі, махальнікі івановы, гарлахвацкія, жлукты, караўкіны не звяліся да сёння. Што паробіш? Крапіве не наканавана было зрабіць тое, чаго не зрабілі яго папярэднікі Арыстафан, Эзоп, Брант, Свіфт, Салтыкоў-Шчадрын. За тыя некалькі тысячагоддзяў, што існуе сатыра, свет не ачысціўся ад брыды, не знішчылася ў ім метафізічнае ліха.

На што здатная ў такім разе сатыра? Яна творыць альтэрнатыўную эстэтычную рэчаіснасць, своеасаблівую зону смеху, само існаванне якой пераконвае ў хісткасці зямнога ліха, якое можна і трэба перамагаць. Менавіта такой зонай з'яўляецца створаная Крапівой *"ферма"*, дзе жывёлы надзяляюцца чалавечымі заганамі, а людзі выяўляюць звярыныя інстынкты.

Доўгажыхарства Крапівы звязана з яго аптымізмам, вітальнай сілай, узятай у спадчыну ад "узвышэнства", імкненнем "пераджыць" не самыя светлыя эпізоды савецкай рэчаіснасці. А яшчэ і тым, што ён дбаў пра неўмiручасць сваіх твораў.

Мастацтва неўмiручае. Неўмiручыя яго творцы, незалежна ад таго, пражываюць яны вялікі век, як Кандрат Крапіва, або кароткі, як Паўлюк Трус. І што б ні здаралася ў жыцці, апошняе слова за мастаком, якое гучыць нават пасля таго, калі ўпала тэатральная заслона.

Валерый МАКСІМОВІЧ

# ШЛЯХАМ СЛУЖЭННЯ БЕЛАРУСІ

## СТАРОНКІ ТВОРЧАСЦІ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА

У гісторыі беларускага прыгожага пісьменства імя Максіма Гарэцкага займае адно з першых месцаў. Пісьменнік шырокага творчага дыяпазону, шматграннага таленту, ён усё жыццё прысвяціў высакароднай справе адраджэння нацыянальнай культуры і літаратуры, выяўленню глыбінных вытокаў народнага жыцця, шматстайных праяў нацыянальнай духоўнасці. Валодаючы вялікім унутраным патэнцыялам, зайздросным творчым запалам, М. Гарэцкі, усведамляючы грамадзянскі абавязак і спраўджваючы творчае і жыццёвае крэда, усяго сябе ахвяраваў на алтар Беларушчыны. Ён смела адкрываў новыя, неабжытыя мацерыкі творчасці, імкнуўся зазірнуць у душу сучасніка, каб выхаваць пачуццё нацыянальнага гонару, самапавагі. Творы пісьменніка пазначаны высокай ступенню мастацкай праўдзівасці і глыбінёй пранікнення ў характар і псіхалогію чалавека.

З імем і лёсам пісьменніка звязана цэлая эпоха ў літаратуры – эпоха кардынальнага перагляду грамадскіх і эстэтычных пазіцый, пераацэнкі каштоўнасцей, эпоха палемічнасці, суровай крытычнасці і патрабавальнасці ў адносінах да рэчаіснасці і да самога чалавека. Гэта быў час, калі з усё большай відавочнасцю паўставала задача актывізацыі пачуцця асабістай адказнасці чалавека ў агульнай плыні гісторыі. М. Гарэцкі, чуйны да новых павеваў мастак, у сілу грамадзянскага тэмпераменту не мог не закрануць праблемы дзейснасці актыўна-творчага пачатку як у асобным чалавеку, так і ў шматлікай людской масе, паказаць, гаворачы словамі Караленкі, значнасць асобы на глебе значнасці масы.

Мастацкі свет твораў М. Гарэцкага настолькі арганічны, насамрэчны, жыццёвы, што не паддаецца грубаму механічнаму прэпараванню. Пісьменнік імкнуўся не парушыць логіку развіцця характару героя, меў на мэце прасачыць працэс яго ўнутранага станаўлення. Самавыяўленню героя надавалася першаступеннае значэнне. Прысутнасць аўтара амаль не заўважалася. У выніку ствараецца ўражанне, што пісьменнікам паказана толькі знешняе дзеянне, рух, у той час як ступень суб’ектыўнага, эмацыянальнага выяўлення абумоўлена выключна ўнутранымі рэфлексіямі галоўнага героя. Таму і дзеянне ў апавяданнях М. Гарэцкага працякае сапраўды нязмушана, натуральна. Менавіта адсюль бярэ пачатак тая суб’ектыўна-аналітычная плынь, якая ў далейшым стала замацуецца ў творчасці К. Чорнага, М. Зарэцкага, Я. Брыля, І. Мележа, М. Стральцова.

Перачытваючы раннія апавяданні М. Гарэцкага, змешчаныя ў зборніку “Рунь” (1914), міжволі заўважаеш, як далікатна, ашчадна адносіцца пісьменнік да герояў: выпісвае кожную рыску. Вядомы літаратурны і грамадскі дзеяч В. Ластоўскі пісаў: «“Рунь” – гэта не зборнік апавяданняў мляўка-стагнальных і не скалазубства з вяскоўца, з яго мазалёў і цемнаты, гэта першая ў нашай літаратуры паэма-трагедыя Маладой Беларусі. Першы голас беларускай, маладой, набалелай душы “на ўвесь свет, на Белу Русь”» [1]. В. Ластоўскі высока ацаніў галоўную вартасць зборніка – яго “грунтавы”, “заземлены” псіхалагізм, які сягаў далёка ўглыб, пад “карэнне”.

Сапраўды, апавяданні М. Гарэцкага – гэта свайго роду першаадкрыццё новага і незнаёмага дасюль мацерыка, голасу душы беларуса ў акіяне людской нематы, сацыяльнай неўладкаванасці і агульнага ўбоства жыцця. *“…Адраджаць чалавека ў беларусе (не ў другім кім, бо ён* [герой аднаго з апавяданняў пісьменніка] *– сын беларускага народу і найлепі мог паслужыць Беларусі)”* – было асноўнай і адраджэнскай, і жыццёвай, і мастацкай праграмай М. Гарэцкага. Кіруючыся гэтай высакароднай задачай, пісьменнік на першы план у творчасці ставіць трагедыю і боль душы чалавека, шчыра заклапочанага лёсам Бацькаўшчыны. І невыпадкова ў цэнтры ўвагі мастака – лёс маладога беларускага інтэлігента ў першым пакаленні, выхадца з сялянскага асяроддзя, які пакутуе ад “нязгоды” з родным краем. Гэтая “нязгода” – духоўная ўзрушанасць, рэфлексія, інтраспекцыя, – якая ў папярэднікаў толькі абрамляла дзеянне, у М. Гарэцкага становіцца сэнсавыяўленчым ядром, базісам, на ёй трымаецца сюжэтна-кампазіцыйная канва. Асаблівая вобразастваральная мадэль Гарэцкага-псіхолага дапамагае пранікнуць у глыбіню характару персанажа.

Героі М. Гарэцкага раскрываюцца праз дынаміку пачуцця і думкі. Людзі неспакойнага, пошукавага характару, яны, з аднаго боку, прадстаўнікі таго пакалення, якому адкрылася магчымасць далучыцца да культурных набыткаў чалавецтва, а з другога – моцна звязаны з глыбінна народным. Балюча ўспрымаючы несправядлівыя папрокі людзей, накшталт *“запанеў,*

*запышэў, гардзіцца"*, герой апавядання "У лазні" Клім Шамоўскі разважае: «*І лацвей ім… страляць у вочы "запанеў", ведаючы вагу свае векавечнае працы мужыцкае, а хай бы яны пабачылі боль сэрца і смутак душы ў мяне, прымача ў "панстве" і пасынка вёскі, і яны лепей паехалі б з сахою на родныя палеткі, чымся, адарваўшыся ад дзядоўскіх сяліб, вісець у новым і невыразным паветры…*» [2, с. 51].

Праз самарэфлексію героя М. Гарэцкі выяўляе ў характары Кліма валявы, актыўны пачатак: Клім спрабуе прышчапіць культуру роднай вёсцы, хоць яго захады і разбіваюцца аб глухую сцяну вясковай інертнасці: "*Я вёз дамоў кніжкі, каб чытаць ім, – не без крыўды ў голасе гаворыць ён, – а яны кожны вечар, кожнае свята гуляюць у карты ў Мікітавай хаце, а на кніжкі не звярнулі ніякай увагі…*" [2, с. 50]. Адсюль такое адчайнае самаапраўданне, якое сведчыць пра трагедыю духоўнага раздвоення героя: «*Скуль жа ведаць гэтаму старому вяскоўцу, "прыгонніку" Мікіту, што ён, Клім, вучыўся не дзеля таго, каб "заграбаць" грошы, што ён іншы, што ён жа не цураецца вёскі, любіць яе і шануе, як родны сын, што ён хоча кіравацца ўсімі сіламі, каб бачыць яе цвярозай, светлай, здаволенай жыццём ды сумленнай…*» [2, с. 51]. Як бачым, Клім імкнецца апраўдаць і зразумець аднавяскоўцаў, таго ж Мікіту.

Канфлікт героя з аднавяскоўцамі праўдзівы, сітуацыйна апраўданы. Пісьменнік ішоў ад жыцця, ад канкрэтных сітуацый, імкнучыся сродкамі мастацкай мовы перадаць, выразіць непаўторнае аблічча героя, яго памкненні і перажыванні, сум і боль, крыўду і адчай. Духоўны канфлікт героя – гэта канфлікт паміж рэальным, побытавым (сацыяльная неўладкаванасць, бруд, цемната, звыклая абыякавасць) і ідэальным, свядомасна-сутнасным (вера ў лепшую будучыню, у хараство душы чалавека). Менавіта супярэчнасць паміж рэальным і ідэальным прыводзіць героя да глыбокага роздуму, да ўнутранага супрацьстаяння, пэўнай духоўнай дваістасці. Персанажа М. Гарэцкага не задавальняе сацыяльная роля «*прымача ў "панстве"*» і "*пасынка вёскі*". Але яго мары і добрыя намеры разбіваюцца аб глухую сцяну жорсткай рэчаіснасці. І як заканамерны вынік – песімізм і расчараванасць. Праўда, яны не прыводзяць да безвыходнасці і духоўнай дэпрэсіі, а толькі да найвышэйшага напружання ўсіх душэўных сіл, за якім наступае духоўнае ачышчэнне, прасвятленне. У гэтым мы пераконваемся, калі чытаем унутраны маналог героя: "*Але не адракацца, не быць здраднікам, а любіць, шанаваць родную Бацькаўшчыну павінен, доўжан…*" І далей такое шчымліва-сыноўняе, запаветнае: "*Мой родны кут, люблю цябе без меры!*" [2, с. 53].

Сімптаматычна, што апавяданне заканчваецца светлым лірычным акордам. Паэтызацыя чалавека і яго ўзаемаадносін са светам, на нашу думку, – свядомы крок М. Гарэцкага ў асэнсаванні эпохі "адраджанізму". Пры знаёмстве з раннімі апавяданнямі лёгка заўважыць, што ўсе галоўныя героі пісьменніка – натуральныя эстэты, рамантыкі духу, яны тонка разумеюць і цэняць хараство і, што асабліва важна, прагнуць не толькі бачыць, але і тварыць гармонію ў жыцці. Унутраны драматызм іх пачуццяў мяжуе з тонкім адчуваннем прыгажосці прыроды, філасофскім асэнсаваннем агульначалавечых ідэалаў, этычных катэгорый дабра і зла, жыцця і смерці, любові і нелюбові. І накал барацьбы за ідэалы з'яўляецца той сілай, якая ўзнімае герояў апавяданняў да вяршынь духу, названых Чалавечай прыгажосцю.

Засяродзіўшыся на разгадцы "праклятых пытанняў", жадаючы даведацца *"не толькі як яно, але і адкуль яно"*, Архіп Лінкевіч (апавяданне "Роднае карэнне"), а ўслед за ім і аўтар, імкнецца да разгадкі жыцця, сутнасці нацыянальнага менталітэту. *"Што за народ наш, беларусы?"* – пытанне Архіпа Лінкевіча становіцца лейтматывам, які пранізвае ўсю творчасць М. Гарэцкага. Таямніца народнага быцця настолькі захапіла героя, што ён цвёрда вырашае *"збіраць матэрыялы аб духоўным жыцці свайго народа"*.

Глыбокія духоўныя рэфлексіі, сумненні часам прыводзяць Архіпа да агнастыцызму, адмаўлення навукі, сведчаць аб яго філасофскім успрыманні жыцця. Няўрымслівая натура героя спараджае новую загадку, яшчэ адно "праклятае" пытанне: «*І то яшчэ дзіва: няхай бы людзі далікатныя, чуткія, не запрацаваныя ад цяжкае працы, няхай бы яны гібелі ад гэткай мукі; дык не, дык жа народ просты, народ, каторага лаюць "цёмным", чаго ён, гэты шэры, аднатонны народ, па глухіх кутках, у лясах сваіх, сярод балот і пнёў, чаму ён мучыўся і мучыцца ад той жа болькі?*» [2, с. 66]. За ўсімі гэтымі разважаннямі героя ў першую чаргу заўважаюцца яго ўласныя пакутлівыя пошукі, звязаныя з разгадкай сэнсу быцця ўвогуле. Адсюль і рэфлексіі, спавядальнасць, роздумы "пра сябе", унутраныя разгорнутыя маналогі, якія падпарадкоўваюцца задачы чалавеказнаўства – выявіць свет асобы, яе маральную сутнасць, а разам з тым зразумець, асэнсаваць жыццё, разабрацца ў рэчаіснасці.

Менавіта прага красы, гармоніі і разуменне немагчымасці іх здзяйснення прыводзіць галоўнага героя да ўнутранага раздваення, нязгоды са светам. Больш за тое, для Архіпа Лінкевіча прыгажосць выступае адначасна перадумовай і вынікам сацыяльнай роўнасці, справядлівасці як найвышэйшых формаў праяўлення прыгожа-



***Валерый Аляксандравіч Максімовіч*** *– літаратуразнаўца. Доктар філалагічных навук. З 1992 г. працаваў у БДУ дацэнтам кафедры беларускай літаратуры XX ст. У 2003 – 2006 гг. – першы прарэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. З 2006 г. – в. а. дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук. Цяпер в. а. намесніка дырэктара па навуковай рабоце Інстытута філасофіі НАН Беларусі. Даследуе беларускую літаратуру пачатку XX ст. Аўтар манаграфій "Эстэтычныя пошукі ў беларускай літаратуры пачатку XX ст." (2000), "Беларускі мадэрнізм: эстэтычная самаідэнтыфікацыя літаратуры пачатку XX ст." (2001) і іншых, шэрагу дапаможнікаў.*

га ў грамадстве. Гэтая ж думка, толькі з большай сацыяльнай акрэсленасцю, пранізвае і лірычную імпрэсію "Стогны душы": «*Я не хачу трываць! І не вытрываю, бо нельга вытрываць. Я скіну, сарву ланцугі свайго старога жыцця і зраблю жыцце новае. Зраблю! Парву ланцугі спрадвечнай гульні-лені, ланцугі глуму, шальмоўства і страшэннай, аграмаднай цемнаты векавечнай, тыя ланцугі, што робяць з чалавека скаціну, быдлё, што твораць "паноў" і "мужыкоў"*» [2, с. 58].

Героі М. Гарэцкага – вялікія праўдалюбы, максімалісты, што жывуць моцнай прагай жыццёвых перамен, хоць іх мары і добрыя намеры разбіваюцца аб глухую сцяну жорсткай рэчаіснасці. І як заканамерны вынік – песімізм і расчараванасць, якія прыводзяць часам да безвыходнасці, адчаю, духоўнай дэпрэсіі. Падобную сітуацыю назіраем у апавяданні "Рунь", яго герою Уладзімеру З. даводзіцца "*шукаць сабе чалавека спаміж людзей*". У пачатку апавядання, напісанага нібыта ад імя былога таварыша, прыводзіцца наступнае красамоўнае сведчанне: "*Я ведаў вялікія сілы яго душы маладой і крышталльную чыстату гэтай душы.*

*Я ведаў… І я павінен расказаць братам беларусам, якую, можа, сілу, што была спаміж нас, страцілі мы*" [2, с. 104].

Аўтар падкрэслівае пры гэтым, што Уладзімера З. "*займалі не толькі што грамадзянска-палітычныя пытанні, але і перажыванні чалавека, яго псіхалогія. Значыцца тож, любіў ён хараство, прыгажосць, хаця і не любіў паказваць таго занадта, бо па яго сумленню жыццё ў наш практычны век вымагае іншага. Але гэта быў такі рамантык. Колькі вершаў умеў ён напамяць! З беларускай жа народнай паэзіі найбольш ён любіў ціхія легенды і страшныя паданні; таксама – казкі, у каторых даводзіцца, што некалі праўда возьме верх над злом*" [3, с. 10 – 11]. Але парадокс у тым, што жыццёвыя абставіны, сляпата людская ўцягваюць героя ў бездань пакут, нараджаюць нуду і боль, крыўду і адчай, правакуюць на духоўнае сіроцтва.

Спасцігнуць філасофскую пазіцыю героя магчыма, калі ўзяць пад увагу ўсе яго роздумы "пра сябе". У іх – квінтэсэнцыя этыка-філасофскіх перакананняў, своеасаблівы маральна-светапоглядны кодэкс, якога прытрымліваецца аўтар і яго герой. Кароткія, але надзвычай ёмістыя прызнанні з'яўляюцца бясспрэчным сведчаннем таго, што для героя вельмі важным быў этычны прынцып, захаванне справядлівасці і сумленнасці ва ўсім, уключаючы і сам працэс нацыянальнага адраджэння.

Пісьменніцкае майстэрства М. Гарэцкага яскрава выявілася ў другі перыяд творчасці (1915 – 1917), калі напісаны апавяданні "Рускі" (1915), "На этапе", "Генерал", "Літоўскі хутарок" (усе 1916 г.). Пісьменніку, як вядома, давялося стаць непасрэдным удзельнікам Першай сусветнай вайны, прайсці праз суровыя выпрабаванні і нягоды. Убачанае і перажытае нястрымна вярэдзіла памяць і свядомасць, прымушала наноў задумвацца над праблемай псіхаэмацыянальнага пачування і паводзін чалавека ў жорсткіх абставінах вайны. Ваеннае ліхалецце, паводле глыбокага пераканання пісьменніка, прыносіць шмат фізічных пакут і яшчэ больш пакут духоўных, маральных.

Разбуральны, антычалавечы характар вайны пераканальна паказаны ў апавяданні "Літоўскі хутарок". Вайна нікога не шкадуе: калечацца чалавечыя лёсы, трагічна абрываюцца маладыя жыцці, крышацца надзеі на ўратаванне, на вяртанне ранейшага ўкладу жыцця. Ліхая навала не абышла і сям'ю хутарскога гаспадара Яна Шымкунаса. Незваротна страчаны гаспадарскі набытак, нанесена глыбокая душэўная рана дачцэ Монці. Героі, якія аказаліся ў эпіцэнтры ваенных баталій, сталі закладнікамі сітуацыі, вымушаны цярпець прыніжэнне чалавечай годнасці, рызыкаваць жыццём. Страшны малох вайны дратуе і нішчыць усё, што трапляецца на яго шляху. Фінал твора адкрыты. Але поўніцца жудаснай атмасферай здранцвення і гібелі ўсяго жывога, адчаем, што цяжкім бярэмем павіс над жыхарамі злашчаснага хутара.

Яшчэ больш суровая праўда пра вайну раскрыта М. Гарэцкім у дакументальна-мастацкіх запісках "На імперыялістычнай вайне". Пісьменнік вачыма салдата 2-й батарэі N-скай артылерыйскай брыгады – свайго духоўнага двайніка Лявона Задумы – з гуманістычных, антымілітарысцкіх пазіцый паказвае жудаснае аблічча вайны, малюе антычалавечую карціну бязлітаснай крывавай бойкі, калецтва маладых салдат – фізічнага і духоўнага, – самай высокай мерай вымярае духоўныя магчымасці чалавека,

яго здольнасць супрацьстаяць разбуральнай сіле зла, гвалту, нянавісці. Шараговыя ўдзельнікі вайны штодня сутыкаюцца са смерцю, і кожны з іх павінен знаходзіць у сабе моц, каб выстаяць у гэтым пекле, захаваць годнасць і чалавечае аблічча. Занатоўваючы страшныя эпізоды вайны, герой імкнецца пакінуць плён сваіх балючых роздумаў, перажыванняў і турбот. Гэтыя роздумы маюць не толькі асабісты характар, яны непасрэдна спалучаны з агульназначным, агульнанародным, дзе яскрава праступае вострая боль за лёс роднага краю. У адзін з такіх момантаў і прыходзяць думкі пра сэнс і характар вайны: «*Усё гэта цяпер згіне, як згіну, можа, і я сам… ва славу… ва славу… чаго? Вызваленне "малых" народаў? А ці вызваліцца мой народ? Што яму дасць гэтая вайна?*» [4, с. 21]. Пытанні, на першы погляд, застаюцца без адказу. Уласна, самі бязлітасныя абставіны вайны, тая страшная калатнеча, удзельнікам якой даводзіцца быць Лявону, выклікаюць у душы героя магутны пратэст супраць злачыннай машыны вайны, што ненасытна забірае чалавечыя жыцці, прыносіць непапраўнае гора, страшныя пакуты, непамысныя разбурэнні. "*Будзь праклят Вільгельм і кожны, хто хоча вайны!*" – гэтыя словы вырываюцца з глыбіні душы ў аднаго з шараговых удзельнікаў вайны.

Празаік з максімальнай аб'ектыўнасцю і глыбокай дакументальна-эпічнай пераканаўчасцю паказвае чалавека ў экстрэмальных абставінах вайны. Адлюстраваныя ў дзённіку падзеі пазбаўлены мастацкай ідэалізацыі і гераізацыі. М. Гарэцкі імкнецца спасцігнуць глыбіні чалавечага духу, зразумець паводзіны і ўчынкі чалавека ў кожнай канкрэтнай сітуацыі. У напружаных, трагічных абставінах асобе, з аднаго боку, вельмі цяжка было авалодаць сабой, стрымаць эмоцыі, не паддацца імгненным пачуццям страху і роспачы. З іншага боку, сама атмасфера бою, надзвычайная – стрэсавая – сітуацыя дапамагала гранічна мабілізавацца, адкрыць у сабе прыхаваную моц і рашучасць, праявіць смеласць і адвагу, што часам межавала са здзяйсненнем геройскага ўчынку. Але, нягледзячы на ўсё, вайна ва ўспрыманні Лявона Задумы – вялікае злачынства, жудасны выклік жыццю. Недаравальна тое, што яна пакідае незагойныя душэўныя раны, відавочна дэфармуе ўвесь комплекс светапоглядных і маральна-этычных пераканнняў, парушае цэльнасць чалавека як разумнай, культурна-цывілізаванай істоты. Героя не пакідае адчуванне таго, што на яго вачах абрынаюцца асновы жыцця, і ён сам становіцца выканаўцам чыёйсьці злой волі. "*А я ж не пасабляю, не – не пасабляю, а сам разам з другімі старанна забіваю людзей. Забіваю такіх жа нявольнікаў, як сам. Што гэта я раблю? Пакуль што я не адчуў усяе глыбіні гэтага жаху! Не адчуў, а толькі думаў, што тут – вялікі страх, і жудасную сутнасць гэтага страху я зразумею толькі некалі пасля…*" [4, с. 71 – 72], – у хвіліну пакутлівага роздуму з болем і скрухай прызнаецца сабе Задума. Здольны да глыбокага аналізу ўсяго, з чым сутыкаецца, герой адчувае цяжар віны за здзейсненае, за безліч нявінных ахвяр – такіх, як і ён сам, паднявольных удзельнікаў вайны.

Запіскі "На імперыялістычнай вайне", якія ўпершыню ўбачылі свет у 1926 г., сталі адметнай з'явай у беларускай літаратуры. Крытыка справядліва аднесла твор да яскравых узораў антываеннай літаратуры, паставіўшы яго ў адзін рад з такімі вядомымі раманамі пра імперыялістычную вайну, як "Агонь" А. Барбюса і "Чалавек добры" Л. Франка.

Неадназначныя працэсы, якія разгортваліся ў краіне пасля 1917 г., не прынеслі карэнных змен у творчую палітру мастака. Пісьменнік, па сведчанні даследчыкаў яго творчасці, паслядоўна прытрымліваўся абранай эстэтычнай пазіцыі і ранейшых поглядаў на ролю мастацтва ў жыцці грамадства. Ён упэўнена рэалізоўваў устаноўкі, сфармуляваныя ў самым пачатку творчага шляху. Каб пазбегнуць магчымых непажаданых абвінавачванняў і неабгрунтаваных закідаў з боку пільнай пралетарскай крытыкі, "неистовых ревнителей" рэвалюцыі, М. Гарэцкі канцэнтраваў увагу на творчай дапрацоўцы, структурнай пераарганізацыі ранейшых твораў з далейшым аб'яднаннем іх у буйныя жанравыя формы. Працэс творчага ўдасканалення ранейшых твораў, паводле справядлівай заўвагі М. Мушынскага, перадусім быў "звязаны з імкненнем пісьменніка праз канкрэтныя чалавечыя лёсы даць разгорнутую гісторыю духоўнага станаўлення інтэлігента-беларуса сялянскага паходжання, а гэта, безумоўна, маштабная мастацкая задача, вырашыць якую была заклікана ўся нацыянальная літаратура" [5, с. 290].

Вынікам творчай перапрацоўкі апавяданняў "У лазні" (1912) і "У чым яго крыўда?" (1914) стала аповесць "У чым яго крыўда?" (1925 – 1926). У гэтым творы ў новых гістарычных умовах пісьменнік развівае тэму інтэлігенцыі. Аповесць сцэментавана асобай галоўнага героя – Лявона Задумы, вобразам у многім аўтабіяграфічным, які, разам з аўтарам, маючы пэўны жыццёвы досвед, шмат думае, разважае, аналізуе, бо адкрылася аб'ектыўная магчымасць параўноўваць дзве эпохі – старую і новую. Празаік паказвае працэс паступовага ўзмужнення, сталення героя, выспявання ў ім высакароднага пачуцця вернасці свайму краю, беларускай нацыянальнай ідэі, родным караням. Жыццё прымушала глыбока задумвацца над сутнасцю грамадскіх перамен, шукаць ім аналогіі ў нядаўнім мі-

нулым. Таму ў творах М. Гарэцкага гэтага часу ўзмацняецца аналітычны пачатак, імкненне да шырокага эпічнага ахопу з'яў рэчаіснасці. Многае набывала рэтраспектыўны характар, мінулае ў падтэксце праецыравалася на сучаснасць. Нацыянальна-адраджэнская канва твораў не прыглушалася, а, наадварот, атрымлівала новае эпічнае вырашэнне, ускладнялася сацыяльнымі і грамадскімі супярэчнасцямі эпохі.

Разгледжаныя намі творы – невялікая частка таго літаратурнага мацерыка, што быў створаны дзякуючы творчаму і жыццёваму подзвігу пісьменніка. М. Гарэцкі прысвяціў жыццё беларускаму адраджэнню, самаахвярна служыў Бацькаўшчыне. Найвялікшы пісьменніцкі клопат палягаў у тым, каб акрэсліць шляхі паяднанасці нацыянальнай інтэлігенцыі з народам, з *"родным карэннем"*. Яшчэ ў раннім праграмным артыкуле "Развагі і думкі" (1914) празаік, звяртаючыся да маладога сучасніка, у прыватнасці, пісаў: «*Калі не хочаш ты расчаравацца ў жыцці, калі-ткі ты папраўдзе ёсць інтэлігент і жывеш не так, што "наеўся, напіўся і хвосцік завіўся", – не глушы ў сваім дэмакратычным сэрцы беларускіх здаровых народных пачуццяў. Дай веры, не расчаруешся. Не бяжы ад народа, а бяжы да народа. Ён цябе разварушыць. А ў падзяку таму, хто даў табе сэнс жыцця, ты папрацуй шчыра*». Словы, прамоўленыя амаль сто гадоў таму, не страцілі актуальнасці і ў нашы дні.

На вялікі жаль, жыццё Максіма Гарэцкага трагічна абарвалася ў самым росквіце творчых сіл. Многія планы і задумы пісьменніка не спраўдзіліся. Але ўсё напісанае рукою выдатнага майстра слова і сёння мае вялікую мастацкую каштоўнасць, вылучаецца грунтоўнасцю, цеснай спрычыненасцю да глыбінных праяў жыцця. Мы не перастаём захапляцца мужнасцю і высакароднасцю гэтага слаўнага сына нацыі. Творы пісьменніка-грамадзяніна здзіўляюць і захапляюць глыбокім пранікненнем у сутнасць народнага жыцця, чалавечай душы. Літаратурная спадчына Максіма Гарэцкага стала арганічнай часткай нацыянальнага прыгожага пісьменства, узорам высокай эстэтычнай вартасці, мастацкай праўдзівасці і шчырай заклапочанасці лёсам чалавека ў бязлітасных віхурах часу.

**Спіс літаратуры**

1. **Наша Ніва.** – 1914. – 2 кастр.
2. **Гарэцкі, М.** Збор твораў : у 4 т. / М. Гарэцкі. – Мінск : Маст. літ., 1984. – Т. 1.
3. **Гарэцкі, М.** Рунь / М. Гарэцкі. – Вільня, 1914.
4. **Гарэцкі, М.** Збор твораў : у 4 т. / М. Гарэцкі. – Мінск : Маст. літ., 1985. – Т. 3.
5. **Мушынскі, М.** Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі : жыццёвы і творчы шлях Максіма Гарэцкага / М. Мушынскі. – Мінск : Беларус. навука, 2008.

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2011 год

МАЙ

**1 мая** (паводле іншых звестак, красавік) – 130 гадоў з дня нараджэння Янкі Журбы (сапр. Івашын; 1881 – 1964), паэта, перакладчыка

115 гадоў з дня нараджэння Адама Сакольчыка (1896 – 1983), бібліёграфа

105 гадоў з дня нараджэння Аляксандры Бергман (1906 – 2005), гісторыка, публіцыста, дзяячкі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Жыла ў Польшчы

80 гадоў з дня нараджэння Алега Лойкі (1931 – 2008), паэта, празаіка, літаратуразнаўцы, крытыка

75 гадоў з дня нараджэння Лідзіі Главацкай, майстра пляцення мастацкіх вырабаў з саломкі

75 гадоў з дня нараджэння Мікалая Палякова (1936 – 2008), скульптара

**2 мая** – 70 гадоў з дня нараджэння Аскольда Сухіна (1941 – 1994), спевака, заслужанага артыста Беларусі. З 1985 г. жыў у Расіі

**4 мая** – 100 гадоў з дня нараджэння Пятра Рунца (1911 – 1997), празаіка

**5 мая** – 105 гадоў з дня нараджэння Васіля Пацехіна (1906 – 1963), рэжысёра, заслужанага артыста Беларусі

90 гадоў з дня нараджэння Рыгора Булацкага (1921 – 1995), гісторыка, журналіста

75 гадоў з дня нараджэння Васіля Якавенкі, празаіка, нарысіста, драматурга

**7 мая** – 100 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Касмачова (1911 – 1992), жывапісца і графіка, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**9 мая** – 100 гадоў з дня нараджэння Сцяпана Ліхадзіеўскага (1911 – 1979), паэта, перакладчыка, крытыка, літаратуразнаўцы

75 гадоў з дня нараджэння Віктара Шматава (1936 – 2006), мастацтвазнаўцы і мастака

70 гадоў з дня нараджэння Леаніда Давідзенкі (1941 – 2002), скульптара

**10 мая** – 80 гадоў з дня нараджэння Сцяпана Гаўрусёва (1931 – 1988), паэта, перакладчыка, крытыка

75 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Краўчука, сцэнографа

**12 мая** – 150 гадоў з дня нараджэння Мар'яна Здзяхоўскага (1861 – 1938), польскага літаратуразнаўцы і публіцыста, ураджэнца Беларусі, прафесара Ягелонскага і Віленскага ўніверсітэтаў

110 гадоў з дня нараджэння Любові Сямашкі (Васюковіч; 1901 – 1982), спявачкі

85 гадоў з дня нараджэння Мікалая Кругавых (1926 – 1994), рускамоўнага празаіка

**13 мая** – 70 гадоў з дня нараджэння Анатоля Сербантовіча (1941 – 1970), паэта

*Працяг на с. 62, 93.*

*З архіваў часу*

# ХАЎРУС НЕ ТОЛЬКІ ЛІТАРАТУРНЫ

## З ЭПІСТАЛЯРНАЙ СПАДЧЫНЫ ФЕЛІКСА КУПЦЭВІЧА

Лісты да родных, сяброў, знаёмых, калег – неад'емная частка творчай спадчыны любога пісьменніка. Яны адкрываюць нам многія рысы асобы аўтара, а таксама перадаюць дух яго эпохі і ў шэрагу выпадкаў з'яўляюцца каштоўнымі крыніцамі па вывучэнні гісторыі літаратурнага працэсу пэўнага перыяду. У перапісцы 1930-х гг. адбілася трагічная старонка айчыннай гісторыі – рэпрэсіі супраць нацыянальнай інтэлігенцыі. На той час некаторыя выбітныя пісьменнікі знаходзіліся ў высылцы і былі адхілены ад легальнай літаратурнай працы, але ў лістах працягвалі дзяліцца навінамі, думкамі і развагамі на розныя тэмы, а зрэдку перасылалі адзін аднаму і нешматлікія творы, напісаныя ў выгнанні. Сёння апублікаваны лісты з турмаў і высылкі Адама Бабарэкі, Уладзіміра Дубоўкі, Лукаша Калюгі, Язэпа Пушчы… Што ж датычыць лістоў Фелікса Купцэвіча, то яны напісаны ад імя чалавека, што вярнуўся на волю, але душой заставаўся са зняволенымі сябрамі.

Зробім невялічкі экскурс у тагачасную гісторыю літаратурна-мастацкага згуртавання "Узвышша".

У працы "Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры (1917 – 1957)" былога ўзвышэнца Антона Адамовіча адзін з раздзелаў пра 1929 год мае загаловак "Пачатак канца". Менавіта тады ЦК КП(б)Б узмацніў кантроль над "Узвышшам", патрабуючы прызнання ідэалагічных "памылак". Каб гэтае патрабаванне больш эфектыўна выконвалася, ЦК паслаў на "дапамогу" "Узвышшу" двух упаўнаважаных – Арэста Канакоціна і Станіслава Будзінскага. На сходзе, скліканым імі, выявілася, што большая частка сяброў арганізацыі гатовая прызнаць "памылкі", а меншая – намеціла курс "паслядоўнай і непрымірымай апазіцыі" [1, с. 984]. Большыню склалі ўзвышэнцы, якім незадоўга да гэтага давялося наведаць ДПУ, – К. Крапіва, М. Лужанін, З. Бядуля і Т. Кляшторны, а таксама перацягнутыя імі на свой бок іншыя сябры згуртавання. У меншыні ж засталіся галоўныя тэарэтыкі "Узвышша" – А. Бабарэка, У. Дубоўка, Я. Пушча, а таксама А. Адамовіч, У. Жылка і Ф. Купцэвіч. Такі ўнутраны раскол быў на карысць бальшавіцкім функцыянерам, якія імкнуліся паралізаваць літаратурную арганізацыю, скарыць яе перад дыктатурай "генеральнай лініі".

Пакуль У. Дубоўка, Я. Пушча і А. Бабарэка ў снежні 1929 г., па словах А. Адамовіча, ездзілі "ў Маскву на калядныя канікулы" (хоць, мяркуючы па Дубоўкавых лістах, Бабарэка як мінімум з 29 снежня знаходзіўся ў Мінску), С. Будзінскі і А. Канакоцін «склікалі надзвычайны сход "Узвышша", на якім неспадзеўкі запрапанавалі выключыць з арганізацыі крытыка Фэлікса Купцэвіча, толькі нядаўна (увесну 1929 году) прынятага. Яны абгрунтавалі сваю прапанову толькі тым, што Купцэвіча – адзінага партыйца, што калі-колечы належаў да "Ўзвышша" – кагадзе выключылі з партыі; прычына гэтага апошняга выключэньня не падавалася» [1, с. 709]. Усё патлумачыў артыкул Юрыя Такарчука "Лісты рэнегата", што выйшаў праз некалькі дзён у газеце "Зьвязда" (1929, 27 снеж.). У ім былі пададзеныя цытаты з прыватных лістоў Ф. Купцэвіча трохгадовай даўніны, на падставе якіх крытык абвінавачваўся ў антысавецкай дзейнасці, "нацыянал-дэмакратызме", змове з беларускімі "нацыянал-фашыстамі" за мяжой.

Асуджэнне Ф. Купцэвіча стала толькі падставай для склікання экстраннага сходу, «на якім ува ўльтыматыўнай форме было запатрабавана завяршыць справу "прызнання памылак"» [1, с. 985]. У выніку паслядоўнага і грубага ціску на суполку 12 студзеня 1930 г. узвышэнскай "бальшынёй" прынята пастанова, дзе пісьменнікі каяліся ў "грахах" перад "правільнай лініяй" сацыялістычнага будаўніцтва і абяцалі "ўпарта змагацца з усімі тымі, хто праводзіць і абараняе шкодныя погляды як унутры згуртаваньня, так і па-за межамі яго" [8, с. 11].

Напады на "Узвышша" сталі толькі часткай кампаніі бальшавіцкіх улад, скіраванай фактычна супраць усёй беларускай інтэлігенцыі. У ліпені 1930 г. па вядомай сфабрыкаванай справе "Саюза вызвалення Беларусі" (альбо "Крымінальнай справе па абвінавачанні Ластоўскага В. У. і іншых") было арыштавана 108 дзеячаў беларускай навукі і культуры, у тым ліку амаль уся "меншыня" "Узвышша": А. Адамовіч, А. Бабарэка, У. Дубоўка, У. Жылка, Я. Пушча. 29 жніўня за краты трапіў і выключаны з суполкі Ф. Купцэвіч. Але менавіта аднаму яму – з усёй кагорты "непакорных" узвышэнцаў – пашчасціла праз месяц, 4 кастрычніка, быць адпушчаным на волю. Тыя ж узвышэнцы, якіх не арыштавалі ("бальшыня"), 30 лістапада 1930 г. склікалі сход, дзе прынялі рэзалюцыю пад загалоўкам: "Патрабуем жорсткай кары агентам міжнароднае буржуазіі ў Савецкай Беларусі – беларускім контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратам" (Узвышша, 1930, № 9-10), г. зн. арыштаваным былым таварышам з іх "нацыянал-дэмакратычнымі і антыпралетарскімі ўстаноўкамі"…

Прыгадваюцца словы Уладзіміра Дубоўкі, сказаныя ў 1928 г., калі Язэпу Пушчу пагражала вы-



**Ганна Бабарэка.** Кіраў. 1947 г.

ключэнне з універсітэта па ідэйных матывах: “Мы заключылі хаўрус ня толькі літаратурны, але і наогул. З кожным з нас можа здарыцца няшчасьце” [7, с. 369]. І вось, калі няшчасце здарылася ажно з пяццю актыўнымі ўдзельнікамі “Узвышша”, а іншыя мусілі ад іх адмовіцца і, у дадатак, публічна запатрабаваць для іх “суровай кары”, хто ж цяпер мог хоць як-небудзь дапамагчы бязвінна асуджаным? Толькі Фелікс Купцэвіч, які адзіны з узвышаўскай “меншыні” цудам апынуўся на волі. І ён не збаяўся паўторнага пераследу і арышту, а без ваганняў кінуўся дапамагаць палітвязням. Прычым незалежна ад ступені блізкасці сяброўскіх адносін. Вось, да прыкладу, вытрымка з паказанняў Адама Бабарэкі: «У “Узвышшы” мае асабістыя дачыненьні да сваіх таварышаў па згуртаваньню вызначаліся наступным чынам. – У больш блізкіх таварыскіх адносінах я знаходзіўся з Ул. Дубоўкам, Крапівою, Я. Пушчам і К. Чорным. Прыязнымі былі адносіны з З. Бядуляй. З малодшымі сябрамі “Узвышша” – П. Глебкам, С. Дарожным, А. Адамовічам, М. Лужаніным, Т. Кляшторным, Л. Калюгаю – былі адносіны старэйшага таварыша па літаратурнай працы ў згуртаваньні да малодшых. Па свайму нахілу да літаратурна-крытычнай і гісторыка-літаратурнай працы, г. зн. тэй галіны працы, якою я займаўся ў “Узвышшы”, з гэтых таварышаў бліжэй да мяне быў А. Адамовіч. Болей далёкія адносіны былі ў мяне з Ул. Жылкам і Ф. Купцэвічам (выключаны з “Узвышша” ў 1930 г.). Нарэшце самыя далёкія дачыненьні былі ў мяне да В. Шашалевіча і А. Мрыя» [10, с. 382].

Як бачым, згодна з гэтымі паказаннямі, стасункі паміж А. Бабарэкам і Ф. Купцэвічам былі не такімі ўжо і блізкімі. І тым не менш Ф. Купцэвіч актыўна дапамагаў зняволенаму тэарэтыку “Узвышша” – як сябру, аднадумцу, амаль роднаму чалавеку. Пра гэта сведчаць захаваныя лісты Фелікса Купцэвіча да Ганны Бабарэкі.

Некалькі слоў пра згаданую асобу. Ганна Іванаўна Бабарэка (дзявочае прозвішча Дзянішчык) была жонкай пісьменніка Адама Бабарэкі і стрыечнай сястрой мовазнаўцы Янкі Бялькевіча. Нарадзілася 12 ліпеня 1901 г. у вёсцы Шулякі Кастравіцкай воласці Слонімскага павета ў шматдзетнай сям’і заможных сялян Янкі і Магдалены. Падчас Першай сусветнай вайны разам з бацькам і сёстрамі (маці па дарозе памерла) жыла ў бежанстве ў горадзе Мядыні Калужскай губерні, вучылася ў гімназіі. У 1919 г., ужо пры новай уладзе, закончыла школу другой ступені, працавала настаўніцай у сяле Каляева Калужскай губерні. Вярнуўшыся ў 1920 г. на Беларусь, працягнула педагагічную працу: у мінскай школе I ступені № 19, слуцкай школе II ступені, а потым – ізноў у Мінску, у школе № 11, куды быў прызначаны на працу пісьменнік і настаўнік Адам Бабарэка. Паміж Ганнай і Адамам узнікла каханне, і 1 жніўня 1924 г. яны ўзялі шлюб. Адначасова з працай у школе Ганна набывала вышэйшую адукацыю на педфаку БДУ, аднак пасля заканчэння яго (1927) спачатку не працавала, бо ў 1925 г. у маладой сям’і нарадзілася дачка Элеанора, а ў 1928-м – Алеся. У 1930 – 1931 гг. Ганна Бабарэка настаўнічала ў мінскай школе № 29 у Серабранцы. Пасля пераезду да высланага мужа працавала ў школах Слабадскога і Кірава. Дачка Алеся Адамаўна ўспамінае, што маці “*мела шмат вучэбных часоў, то і прышоўшы дамоў, ня мела сілы пераапрануцца і засынала. А ноччу ўставала правіць вучнёўскія сшыткі (выкладала расейскую мову і літаратуру), гатовіцца к наступнаму вучэбнаму дню. Дочкі дапамагалі, трымалі парадак у кватэры, калі-нікалі гатавалі абед (старэйшая дачка). Падросшы, абедзве дапамагалі з вучнёўскімі сшыткамі, таму і ніводная з іх не пажадала гуманітарнае вышэйшае адукацыі, а абедзве набылі тэхнічныя прафесіі*” [4, с. 6]. Пакінула працу Г. Бабарэка ў 1958 г., пераехаўшы ў Маскву да дачкі Алесі, каб дапамагаць выхоўваць унучку Алену. Памерла Ганна Іванаўна 24 лютага 1982 г. (пахавана на Вастракоўскіх могілках у Маскве).

Жыццёвы подзвіг Ганны Бабарэкі сувымерны з подзвігам жонак расійскіх дзекабрыстаў, якія таксама выправіліся ў высылку да сваіх мужоў. Пасля другога арышту і смерці Адама Бабарэкі ёй давялося адной гадаваць дзвюх дачок. Акрамя таго, Ганна Бабарэка ў складаных умовах рэпрэсій іператрусаў

здолела захаваць рукапісны архіў мужа – каштоўную крыніцу па гісторыі беларускай літаратуры.

Усяго збераглося 5 лістоў Фелікса Купцэвіча да Ганны Бабарэкі, напісаных у перыяд з 26 лістапада 1930 г. да 26 верасня 1931 г. Сляды ранейшага ліставання захаваліся ў выглядзе двух пустых канвертаў. На штэмпелі аднаго з іх пазначана дата *8.XII.1929 г.* [6, с. 2], на другім канверце – таксама за 1929 г. – дакладная дата не чытаецца, аднак напісаны тагачасны адрас Ф. Купцэвіча: *"Москва, 48, Малые Кочки, 14, корп. 4, кв. 174"* [6, с. 1к.]. Згаданая вуліца Малыя Кочкі з 1960 г. носіць імя Льва Даватара.

Існавала перапіска паміж Ф. Купцэвічам і А. Бабарэкам, але яна не захавалася. Вось запіс у нататніку А. Бабарэкі ад 9 жніўня 1931 г.: "Купц[эвічу] ліст: пра асла, які рабіў за мужыка, лічыльн[ік] як адлюстраваньне працэсаў вытвор[часьці] і опэрацый, як зьява вучоту гэт[ых] працэсаў" [2, с. 2 адв.]. На той час Ф. Купцэвіч жыў ужо па іншым адрасе: *"Москва-12, Б. Черкасский пер., 13, к[ом]. 20"* [3, с. 2 адв.].

Неўзабаве А. Бабарэка атрымаў ліст ад У. Дубоўкі (датаваны 8 жніўня 1931 г.), дзе той паведамляў, што Ф. Купцэвіч (відаць, жадаючы трымаць Дубоўку ў курсе падзей літаратурнага жыцця) даслаў яму ў высылку камплект новых нумароў "Узвышша". Дубоўка, аднак, адаслаў іх назад і папрасіў Купцэвіча, каб болей не пасылаў: крыўдна было чытаць артыкулы К. Крапівы і П. Глебкі, якія выступалі з "выкрыццём" "ідэалагічна шкоднай" дзейнасці асуджаных колішніх сяброў [7, с. 526]. Але гэтае непаразуменне выглядала дробяззю на фоне дапамогі, аказанай Ф. Купцэвічам зняволеным і высланым.

Тады ж Бабарэкі дамаўляліся з Ф. Купцэвічам пра магчымы пераезд Ганны да мужа і яе працаўладкаванне ў Слабадскім: "Шэф казаў, што па пытаньні наконт пэдагогічнай работы паслаў ён запрос у Вятку і, пэўна, да 1 мае быць адказ. Чакаю Першага. Калі-ж нічога ня будзе пэўнага, трэба будзе папытаць у Маскве. Шкода от што мы пра гэта не пагаварылі, але, праўда, можна-ж напісаць Фэльку, хай сходзіць і даведаецца. А то лепш, мусіць, падаць заяву, а Фэльку папрасіць, каб дазнаўся вынікаў" [3, с. 10 адв.]. Працягваў Ф. Купцэвіч адносіны з Бабарэкамі і пасля свайго арышту ў 1933 г. і высылкі (па іншых звестках, быў адпраўлены ў лагер) у далёкі Мінусінск, пра што мы крыху распавядалі ў артыкуле пра жыццё і творчасць Ф. Купцэвіча [5, с. 20 – 24].

У чэрвені 1935 г. жонка Фелікса Купцэвіча – Марыя – у час чарговага адпачынку наведвала высланага мужа. Яе шлях пралягаў праз горад Кіраў, дзе таксама жыло нямала высланых беларусаў. З адным з іх – Алесем Аніхоўскім – Марыя Купцэвіч папярэдне дамовілася сустрэцца на вакзале, паведаміўшы нумар цягніка і дату выезду з Масквы. Разам з А. Аніхоўскім на вакзал на сустрэчу з М. Купцэвіч прыйшлі Адам Бабарэка, Антон Адамовіч, Мікалай Улашчык і жонка Аніхоўскага – Ганна Сапун. Падчас гэтага кароткага спаткання А. Аніхоўскі, А. Бабарэка і А. Адамовіч напісалі Ф. Купцэвічу ў лагер сяброўскую запіску, у якой падбадзёрвалі таварыша па няшчасці, раілі трымацца, берагчы сілы, выказвалі салідарнасць [9, с. 67]. Гэтая сустрэча з жонкай палітычнага рэпрэсаванага і стала адной з падстаў для паўторнага арышту А. Аніхоўскага (5 жніўня 1935 г.), А. Бабарэкі (25 ліпеня 1936 г.) і А. Адамовіча (25 чэрвеня 1937 г.). Найбольш трагічна склаўся лёс А. Бабарэкі, жыццё яго скончылася ў лагернай бальніцы ў Комі АССР. А. Аніхоўскі зведаў яшчэ 5 гадоў высылкі і 10 гадоў лагераў. І толькі А. Адамовіч, які, як мяркуецца, падпісаў дамову аб супрацоўніцтве з органамі дзяржбяспекі, быў вызвалены ў 1938 г. і вярнуўся ў Мінск. Сам Ф. Купцэвіч быў 23 лістапада 1937 г. арыштаваны трэці раз і 31 сакавіка 1938 г. расстраляны.

Збольшага кароткія, але спагадлівыя, прасякнутыя клопатам пра сяброў лісты Фелікса Купцэвіча да Ганны Бабарэкі з'яўляюцца цікавым дакументам эпохі, а іх аўтар выступае мужным і самаахвярным чалавекам, да канца жыцця верным запавету сябра Уладзіміра Дубоўкі: "Мы заключылі хаўрус ня толькі літаратурны…"

**Спіс літаратуры**


1. **Адамовіч, А.** Да гісторыі беларускае літаратуры / А. Адамовіч. – Менск : Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005.
2. **Бабарэка, Адам.** Запісная кніжка, ліпень – жнівень 1931 г. / А. Бабарэка // БДАМЛМ. – Ф. 407. – Воп. 1. – Адз. зах. 102.
3. **Бабарэка, Адам.** Ліст да Ганны Бабарэкі ад 25 жніўня 1931 г. / А. Бабарэка // БДАМЛМ. – Ф. 407. – Воп. 1. – Адз. зах. 109. – Арк. 8 – 10 адв.
4. **Бабарэка, Алеся.** [Звесткі пра родных] / А. Бабарэка // БДАМЛМ. – Ф. 407. – Воп. 1. – Адз. зах. 318.
5. **Жыбуль, В.** Паміж савецкім і беларускім : Крытык і празаік Фелікс Купцэвіч / В. Жыбуль // Роднае слова. – 2010. – № 10.
6. **Купцэвіч, Ф.** Лісты да Г. Бабарэкі, 26 лістапада 1930 г. – 26 верасня 1931 г. / Ф. Купцэвіч // БДАМЛМ. – Ф. 407. – Воп. 1. – Адз. зах. 246.
7. **"Мы застанемся чыстымі сумленьнем перад гісторыяй і народам…"** : Лісты Ўладзімера Дубоўкі да Адама Бабарэкі // Arche. – 2009. – № 11-12.
8. **Пастанова беларускага літаратурна-мастацкага згуртаваньня "Узвышша" аб палітычных памылках у літаратурна-публіцыстычнай творчасьці** // Узвышша. – 1930. – № 1.
9. **Угасание** : Письма Адама Бабареки из ссылки, тюрем и лагеря : материалы к биографии / сост., вступ. ст., подгот. текста и коммент. Н. Н. Илькевича. – Смоленск, 2001.
10. **Уголовное дело по обвинению Ластовского В. У. и других** : показания Адама Бабареко от 23 августа 1930 г. // Архіў КДБ РБ. – Спр. № 20951-с. – Арк. 365 – 384.



**Віктар ЖЫБУЛЬ,**
вядучы навуковы супрацоўнік
Беларускага дзяржаўнага архіва-музея
літаратуры і мастацтва.

# ЛІСТЫ ФЕЛІКСА КУПЦЭВІЧА ДА ГАННЫ БАБАРЭКІ

**№ 1**

26/XI-30 г.

Шаноўная Аня!

1) Пры гэтым пасылаю маленечкую пасылачку, якую перадасьцё маім лепшым прыяцелям.

2) Ліст Уладзіку Жылку, які папрашу яму перадаць як найхутчэй і асабіста, а ў крайнім выпадку 29 у суботу пад час перадачы праз Пракулевічыху.

3) Прашу прабачэньня ўСтасі, што да гэтага часу не магу нічога знайсьці для яе лялек. Трэ' то карткі дзіцячыя, то няма нічога. Але як толькі што натраплю, дык з рук не выпушчу. Запэўняй.

Бывайце.

Фэлікс.

Масква.

(Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Ф. 407, воп. 1, адз. зах. 246, арк. 1.)

*Жылка Уладзімір Адамавіч* (1900 – 1933) – паэт, перакладчык. Арыштаваны ДПУ БССР 19.07.1930 г. па справе "Саюза вызвалення Беларусі". 10.04.1931 г. асуджаны на 5 гадоў высылкі, якую адбываў ва Уржуме, дзе і памёр ад сухотаў.

*Пракулевічыха* – Лізавета Яўгенаўна Цітова (1889 – пасля 1938), жонка беларускага нацыянальнага дзеяча Уладзіміра Пракулевіча, высланага ў 1931 г. у Свярдлоўск.

*Стася* – Станіслава Эдуардаўна Плашчынская (1908 – 1997), мемуарыстка, жонка Язэпа Пушчы (Плашчынскага).

*…для яе лялек…* – маюцца на ўвазе дочкі Язэпа і Станіславы Плашчынскіх: Галіна (нар. у 1926 г.) і Валерыя (нар. у 1929 г.).

**№ 2**

4/V-31 г.

Дарагая Аня!

Я і Марыя Пятроўна вельмі непакоімся пра стан здароўя Уладзіка і Адама. Можа бы вы напісалі, як яны сябе пачуваюць у апошнія дні. Калі што здарылася ў справе пагоршаньня іх здароўя і стану, то прасіў бы напісаць раней мне па адрасу: Масква 12, Б. Черкасский пер., 13, ком. 20 (б. общежитие), і я ўжо паведамлю М[арыі] П[ятроўне]. А калі ўсё пастарому, дык значыць нашыя страхі дарэмныя. Перадайце прывітаньне Стасі і моцна, шчыра прывітайце дзетак. Жыву па-старому, здароў адносна, чакаю хутчэй лета.

Ваш Фэлікс.

(БДАМЛМ. Ф. 407, воп. 1, адз. зах. 246, арк. 4.)

*Марыя Пятроўна* (1900 – 1980) – настаўніца, мемуарыстка, жонка Уладзіміра Дубоўкі.

*Уладзік* – Уладзімір Мікалаевіч Дубоўка (1900 – 1976), паэт, перакладчык, празаік, крытык, мовазнаўца. Арыштаваны АДПУ СССР 20.07.1930 г. у Крамлі па справе "Саюза вызвалення Беларусі"; 10.04.1931 г. асуджаны на 5 гадоў высылкі ў Яранск.

*Адам* – Адам Антонавіч Бабарэка (1899 – 1938), крытык, празаік, філосаф, паэт. Арыштаваны ДПУ БССР 25.07.1930 г. па справе "Саюза вызвалення Беларусі". 10.04.1931 г. асуджаны на 5 гадоў высылкі, якую адбываў у Слабадскім Кіраўскай вобласці і ў Кіраве (Вятка).

**№ 3**

26/IV 31 г.

Шаноўная Аня!

Паводле чутак, што дайшлі да нас, сёлетняе разводзьдзе ў Менску набыло незвычайныя памеры, кажуць, што палова гораду пад вадой, не гаворучы ўжо пра тое, што няма вады і сьвятла.

Ведаючы, як блізка Вы жывеце ля ракі і ў якой нізіне, падобныя чуткі выклікаюць у нас вялікі непакой – ці ўсё добра скончылася, ці пасьпелі Вы пераехаць куды вышэй, ці засталіся здаровы дзеткі, ці не перапалохаліся або барані божа застудзіліся. Напішэце хутчэй паштоўкай, як пражылі і ў якім стане зараз. Сёньня толькі даведаўся, што некалькі дзён не ішлі цягнікі, і таму непакоюся, ці атрымалі Вы пасылку для Адама – чаравікі. Калі атрымалі і калі яны мо', на велькі жаль, не па назе (малыя), зараз жа пішэце – буду шукаць другія, і запытайцеся, ці ня трэба чаго Язэпу. М[арыя] П[ятроўна] атрымала ўсьцешны ліст ад Уладзіка і адчувае сябе досыць спакойна.

Пішэце больш падрабязна пра Адама. Бывайце.

Ваш Фэлікс.

(БДАМЛМ. Ф. 407, воп. 1, адз. зах. 246, арк. 5.)

*…і ў якой нізіне…* – у Мінску сям'я Бабарэкаў жыла па вуліцы Гарбарнай, 18, кв. 1 (сучасная вул. Кастрычніцкая; цяпер на гэтым месцы дом № 6).

*Язэп* – Язэп Пушча (сапр. Іосіф Паўлавіч Плашчынскі; 1902 – 1964), паэт, крытык. Арыштаваны ДПУ БССР 25.07.1930 г. па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Пастановай Калегіі АДПУ СССР ад 10.04.1931 г. асуджаны на 5 гадоў высылкі. Накіраваны ў Шадрынск на Урале.

**№ 4**

20/VII 31 г.

Аня! Толькі што атрымаў ліст ад Аніхоўскага, які, як вам вядома, будзе жыць разам з Адамам у

Слабодску і які піша, што Адам яшчэ сёньня знаходзіцца ў Вяцкім астрозе, з прычыны абвешчанага там карантыны на сыпны тыфус. Ён-жа, дзякуючы стараньням свае жонкі, вышаў 7/VII, і з 10/VII жыве ўжо ў Слабодску. У сваім лісьце ён раіць зьвярнуцца тут у Маскве да пракурора па справах ГПУ, каб хутчэй вызваліць Адама. Аднак я асабіста на гэта пакладаю мала надзеі, бо калі была ў Маскве Ганна, дык яна што дня абівала парогі гэтае ўстановы і нічога станоўчага не дабілася. І толькі тагды, калі паехала сама ў Вятку, то праз 4 дні дабілася вызваленьня свайго мужа. Зважаючы на слабы стан здароўя Адама, я бы лічыў нялішнім вам параіць, паколькі вы, так ці іначай, усё роўна маеце паехаць да Адама, прысьпешыць час вашага выезду з Менску і дабіцца (як гэтага дабілася Ганна) вызваленьня з астрогу Адама. Бо чакаць, пакуль здымуць карантыну, – справа вельмі ж няпэўная. І калі толькі ў вас няма жадных прычын, што бы затрымоўвалі вас у Менску, то выязжайце хутчэй. Калі ж выехаць ня можаце, то напішэце заяву на імя пракурора па [с]правах ГПУ ў Маскве, тэрмінова яе прышліце мне, і я падам яе, хоць, паўтараю, будзе больш карысьці, мне так чамусьці здаецца, калі Вы самі непасрэдна ў Вятцы будзе[це] дабівацца вызваленьня.

У Вятцы жыве Максім Гарэцкі, у якога вы зможаце спыніцца і які безумоўна паможа Вам хлапатаць за Адама. Вазьмеце толькі ў яго жонкі адрас ягонае кватэры, каб там не шукаць у чужым горадзе.

Марыя Пятроўна ўжо даўно на месцы, заехала добра і, здаецца, застанецца там з Уладзікам.

Пісаў таксама Аніхоўскі, што ў Слабадзку ёсьць Пэдтэхнікум, у якім абяцалі даць працу Ганне, так што, калі не Адам, то Вы, я думаю, можаце роўным чынам разлічаць на больш-меньш пэўны кавалак хлеба. Адно толькі трэба – каб як найхутчэй вызваліць Адама, каб ён хоць кароткае паўночнае лета выкарыстаў для папраўкі – ня жарты цэлы год турмы ў такіх страшных умовах. А адзіны сродак, па-моему, – гэта як мага хутчэй Вам выехаць і больш актыўна дабівацца яго вызваленьня там на месцы.

Калі ня цяжка, дык даведайцеся ў Стасі, – яна мне нешта нічога ня піша і не адказывае на лісты (ці не пакрыўдзілася чаго?), – адрас Язэпа, у мяне засталіся яго грошы, і я не маю як яму пераслаць, а слаць да вастрэбаваньня ў Шадрынск не хацеў бы.

Вось і ўсё. Вітайце дзетак і хутчэй выязжайце. Дайце тэлеграму – мы вас сустрэнем.

Бывайце. Фэлікс.

(БДАМЛМ. Ф. 407, воп. 1,
адз. зах. 246, арк. 6 – 6 адв.)

*Алесь Аніхоўскі* (Аляксандр Георгіевіч; 1897 – пасля 1956) – педагог, краязнаўца, зямляк А. Бабарэкі (нар. у в. Старыца на Капыльшчыне). Быў сябрам прэзідыума Калінінскай філіі "Маладняка" (1925). Працаваў інспектарам школ сацвыхавання і педагагічных тэхнікумаў Народнага камісарыята асветы. У 1931 г. сасланы на 5 гадоў у г. Слабадскі Ніжагародскага краю.

*Слабодск*, правільна Слабадскі (рус. Слободской) – горад Ніжагародскага (пазней Горкаўскага) краю (з 1936 г. – Кіраўская вобласць, Расія), дзе адбывалі высылку Адам Бабарэка, Алесь Аніхоўскі, Генадзь Багдановіч, Міхась Маркевіч.

*…у Вяцкім астрозе…* – у Вяцкім доме зняволення А. Бабарэка знаходзіўся з 8 чэрвеня да 20 ліпеня 1931 г.

*Ганна* – Ганна Адамаўна Сапун, жонка Алеся Аніхоўскага.

*Вятка* – горад у Ніжагародскім (з 1932 г. – Горкаўскім) краі (Расія). У 1934 г. перайменаваны ў Кіраў.

*Гарэцкі* Максім Іванавіч (1893 – 1938) – празаік, драматург, літаратуразнаўца, перакладчык, лексікограф, фалькларыст. Арыштаваны ДПУ БССР 18.07.1930 г. па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Пастановай Калегіі АДПУ СССР ад 10.04.1931 г. паводле арт. 58, п. 4, 7, 11 КК РСФСР высланы ў Вятку на 5 гадоў. Пазней расстраляны.

**№ 5**

26/IX 31 г.

Аня!

Сёньня атрымалі Вашу паштоўку, у якой Вы паведамляеце, што нарэшце надумалі зусім пераехаць да Адама. Гэта вельмі добра, як бы там ні было, а ўсё ж разам неяк ляпей і лягчэй будзе. Мы вас безумоўна і сустрэнем, і выправім, і пра гэта асабліва клапаціцца Вам ня трэба, только паведаміце заўчэсьне пра **дзень вашага выезду з Менску і якім цягніком**. Калі-б Вам удалося папасьці на цягнік, што ідзе проста без перасадкі, дык ня гледзючы на тое, што хоць і даражэй крыху будзе каштаваць, але затое дзецям будзе не так трудна пераносіць падарож. Уважайце самі, а нас абавязкова паведаміце, калі і якім цягнікам – сустрэнем абавязкова.

Ваш Фэлікс.

(БДАМЛМ. Ф. 407, воп. 1,
адз. зах. 246, арк. 7.)

*…зусім пераехаць да Адама…* – Ганна Бабарэка з дочкамі Элеанорай і Алесяй пераехала да мужа ў Слабадскі ў пачатку кастрычніка 1931 г.

*Падрыхтоўка да друку і каментарыі*
*Віктара ЖЫБУЛЯ.*
*Захаваны правапіс арыгінала.*

# ДА ЮБІЛЕЮ ЛЮБОВІ ГАРЭЛІК



Любоў Мікалаеўна Гарэлік – крытык, літаратуразнаўца. Нарадзілася 16 сакавіка 1941 г. у вёсцы Хацяноўшчына (неафіцыйная назва – Гарэлікі) Мінскага раёна (былога Заслаўскага). Бацькі – Мікалай Гіляравіч Гарэлік і Анісся Аляксееўна (Бароўская) – працавалі ў калгасе жывёлаводамі, паляводамі. Малодшая з семярых дзяцей, Люба скончыла Раўкуцевіцкую (цяпер Шаршунская) сярэднюю школу ў пасёлку Шаршуны (1958), аддзяленне беларускай мовы і літаратуры Белдзяржуніверсітэта (1964), працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры і выхавацелем Радашковіцкай школы-інтэрната. У 1968 – 1971 гг. вучылася ў аспірантуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. З 1971-га – малодшы, з 1981-га – старшы навуковы супрацоўнік. Абараніла кандыдацкую дысертацыю (1973), выдала манаграфіі: “Аляксей Пысін: Нарыс жыцця і творчасці” (1981), “Зямля бацькоў дала мне права: Станаўленне творчай індывідуальнасці Рыгора Барадуліна” (1983), “Сатыры слова гнеўнае” (1989); падрыхтавала раздзелы ў калектыўных кнігах: “Андрэй Александровіч”, “Паўлюк Трус” (“Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20 – 30-х гг.”, Мінск, 1985), “Чытач – кніга – час” (“Сучасная літаратура і чытач”, Мінск, 1988), “Праблемы літаратурнага рэцэнзавання” (“Праблемы сучаснай беларускай крытыкі”, Мінск, 1996), “Эстэтыка гарманічна-кантраснага адлюстравання свету ў сучаснай беларускай паэзіі” (“Сучасная літаратура: каардынаты ідэйна-мастацкага пошуку”, Мінск, 2008).

Адна з аўтараў біябібліяграфічнага слоўніка “Беларускія пісьменнікі: у 6 т.” (Мінск, 1992 – 1995). Аўтар шматлікіх артыкулаў і рэцэнзій у газетах і часопісах (“Літаратура і мастацтва”, “Полымя”, “Нёман”, “Беларуская думка”, “Народная асвета”, “Беларуская мова і літаратура ў школе”, “Роднае слова”), дакладаў у зборніках матэрыялаў навуковых канферэнцый.

Яшчэ ў школьныя гады пачала пісаць вершы, фельетоны, гумарэскі, якія друкаваліся ў раённай газеце “Шлях камунізму”, у “Мінскай праўдзе”. У час вучобы ў БДУ і наступныя дзесяцігоддзі не друкавалася. У апошнія гады зноў звярнулася да вершатворчасці і мастацкай прозы.

Увазе чытачоў прапануецца некалькі вершаў розных гадоў.

Любоў ГАРЭЛІК

* * *

*Маім дарагім настаўнікам*
*і светлай памяці тых, каго няма ў жывых.*

Шэсць гадоў у дажджы і мяцеліцы
Нас вяла сцяжынка да школы.
Сёння згадваецца і не верыцца:
Быў нялёгкі той шлях, ды вясёлы.
Даспявалі ажыны ўвосень,
На шляху навісалі арэхі,
І асенняга неба просінь
Заглядала ў вяршалін стрэхі.
Урокі матэматыкі, літаратуры, мовы,
Гісторыі, батанікі… Той вопыт адмысловы
Ў педагагічнай працы мне стаў арыенцірам.
Маёй падзякі словы я адрасую шчыра
(Лепш позна, чым ніколі)
Маёй Шаршунскай школе.

**КАЛІ ЧУЮ ГАВОРКУ…**

Калі чую гаворку на мове чужой, –
Нібы сэрца пілуюць іржавым нажом.
Нібы ў вір галавою, на самае дно
Бултыхаешся, выплываеш, падаеш зноў.
Дом – не дом, а быццё за чужою мяжой,
І ў настроі пануе мінор, не мажор.
А да роднага слова – ніякай спагады,
Толькі ў мове суседзяў –
красамоўства даўпаду.
У майстэрстве маўлення
спаборніцтва ладзяць,
Не бядуюць, што роднай
гісторыі здрадзяць.
За ступені і званні, пасады грашовыя
Ўжо даўно расплаціліся роднаю моваю.

### ДЗІЦЯ ВАЙНЫ

Дзіця вайны, вайной скалечана,
У працы пражыла свой век.
Трагічнай меткай зрок памечаны,
Але ў душы святло жыве.

О! Як была б дзяўчынка рада
Пазнаць знаёмых за два крокі.
Надзея, вера і спагада
Кампенсавалі страту зроку.

На ўроках шчыра прыпадала
Да кніжнай мудрасці крыніцаў.
Расла дапытлівай і дбалай,
Была стараннай вучаніцай.

Настрой вясёлы, часцей сумны
Сяброўства з кнігай выклікала,
Ды і ў сямейцы школьнай, тлумнай,
Бывала, крыўдзілі нямала.

Абразы разам са слязамі
Душу вярэдзілі глыбока.
Пакуты рвалі сэрца маме,
Боль за дачку на кожным кроку.

Ішлі гады. Расла дзяўчынка.
Сяброўкі мелі кавалераў.
Ёй замянялі вечарынку
Асадка, кніга, стос паперы.

Казала мама засмучона:
– Табе няма тут кавалераў,
Табе, з калецтвам заручонай,
Не варта пэўных мець намераў.

Дзяўчынка з гонарам шляхетным,
Ёй справў да кавалераў мала.
Святлом душы ды інтэлектам
Сваіх сяброў яна здзіўляла.

Але хлапцоўскія пагляды
На ёй спыняліся нярэдка.
Дзяўчынка рада і не рада:
– Як жыць з вайны праклятай меткай?!

Лічыла, што наканавана
Правекаваць адной свой век,
Але знайшоўся нечакана
Ёй муж, сумленны чалавек.

Жылі ўдала ці няўдала –
Сям'я была, як у людзей.
Дачушак слаўных гадавалі
І ў людзі вывелі дзяцей.

Калісь найлепшая сяброўка
Дала карысную параду:
– Смялей кіруй жыццёвай лодкай
І будзь вышэй усякіх звадаў! –

І хто б ні быў ты – ці калека,
Ці стапрацэнтны здаравяк, –
Калі душы патрэбны лекі,
Ты ўсё ж пражыў жыццё не так.

### МАЯ ХАЦЯНОЎШЧЫНА

Ёсць вёсачка ў Мінскім раёне,
На карце яна не пазначана,
Але жывая і сёння,
Хоць многае ў памяці страчана.
Хто памяць вайны незабыўнай
Унукам бы мог перадаць, –
Нікога няма, як ні дзіўна!
Дзяды пад крыжамі ляжаць.
Жыве мая Хацяноўшчына,
Хоць і няма на карце.
З былым і цяперашнім зрошчана,
У будучага на варце.

### У БІБЛІЯТЭЦЫ

Чысцюткі снег, які ты белы!
Ты – бясклапотны мяккі пух.
О, як бы я цяпер хацела
У снег, з акна, ад кніг, ад скрух…

О не! Надзейна і трывала
Пасталі кнігі дружна ў строй,
Нібы байцы пасля прывалу,
У абароне кругавой.

Ад іх мне збегчы немагчыма,
Яны – дарадцы і сябры.
Гляджу навокал іх вачыма
Яшчэ з дзіцячае пары.

Жыццё без кніг – без солі страва,
Што пeражоўванне травы.
Я чую голас іх ласкавы,
Стагоддзяў маналог жывы.

Ні тэлевізар, ні кампутар
Не могуць кнігу замяніць,
Бо ў ёй і радасць, і пакуты,
І памяці трывожнай ніць.

### МАСКА

Ад прыроды была смяшлівай,
А калі-нікалі свавольнай.
Мною зроблена многа надзіва,
Ды магла быць на большае здольнай.

Як хацелася быць прыгожай!
Як хацелася быць каханай!
Ну няхай не прынцэсай, дык, можа,
Хоць звычайнаю пекнаю паннай.

А была я ўсяго Папялушкай,
Як заўсёды, на балі чужым.
Мроі рваліся ў неба птушкаю
І развейваліся, як дым.

Мне хацелася быць чароўнай –
Рыцар бачыўся толькі ў сне,
Але ён прыкмячаў больш дыхтоўных
І ніколі не бачыў мяне.

Нацягну непрыступную маску,
Каб схавацца ад гора і слёз,
Захіну пяшчоту няласкай…
Дзякуй, Божа, за зманлівы лёс!

*Слова ў сеціве*

# ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА І НОВЫЯ ТЭХНАЛОГІІ

Значэнне інфармацыйных тэхналогій (ІТ) для гуманітарыяў з кожным годам узрастае. На дапамогу філолагам прыходзіць штучны інтэлект: спрашчае і паскарае аналітычную працу ў працэсе даследавання пры старых метадах, значна яе ўдасканальвае, прапануе і метады новыя.

Ва ўсім свеце інтэнсіфікуецца ўвага філолагаў да магчымасцей ІТ. Публікуюцца як асобныя артыкулы, так і падручнікі. На старонках беларускага друку таксама ўсё часцей з’яўляюцца аналітычныя меркаванні пра асвойванне літаратуразнаўчай навукай ІТ*.

Праблема аўтарства некаторых тэкстаў, у тым ліку класічных, – бадай, найбольш вядомая ў літаратуразнаўчай навуцы (прычым яна выйшла за яе межы, стала тэмай для шырокага абмеркавання і літаратараў, і чытачоў). Дзясяткі, а ў некаторых выпадках сотні гадоў вяліся дыскусіі наконт стваральнікаў розных мастацкіх тэкстаў. І толькі на мяжы ІІ і ІІІ тысячагоддзяў былі расстаўлены кропкі над “і”. У многім паспрыялі моваznаўчыя падлікі ўжывання той ці іншай лексемы, граматычнай формы ў пэўных кантэкстах і дыскурсах [4, с. 33, 37]. У цэлым жа комплекс крытэрыяў, праз якія з дапамогай ІТ аналітычна прапусцілі літаратурныя творы, дапамагаў вызначаць найбольш характэрныя рысы і суадносіць вынікі з тэкстамі, сумнеўнымі ці спрэчнымі ў сэнсе аўтарства.

Такім чынам літаратуразнаўства і, у прыватнасці, тэксталогія ступілі на шлях грандыёзных адкрыццяў, якія ўплываюць на літаратурны працэс цягам усёй яго гісторыі – ад Гамера да кожнага актуальнага нам тэксту (калі з дапамогай ІТ правяраюць на прадмет плагіяту працы і навучэнцаў, і навукоўцаў). Так, выказана меркаванне пра міфалагічнасць таго ж Гамера, а таксама Шэкспіра (прынамсі, датычна тэкставых карпусоў, якія традыцыйна ім прыпісваліся). І, наадварот, пацверджана аўтарства “Ціхага Дона”, дагэтуль жа некаторымі даследчыкамі лічылася, што М. Шолахаў быў занадта малады, каб стварыць такую эпапею [4, с. 36 – 39].

У той жа час застаецца нямала нявырашаных праблем, асабліва ў беларускім літаратуразнаўстве, напрыклад пытанне пра аўтарства п’ес канца 1930-х гг. “Цудоўная дудка”, “Дзед і Жораў” і ў першую чаргу “Несцерка”, што прыпісваюцца В. Вольскаму, даўно пара зняць з дапамогай інфармацыйна-камп’ютарных методык.

Тым не менш нават ІТ пры ўсіх іх маштабных вартасцях не заўсёды здольны закрыць пэўную тэму, вырашыўшы канчаткова пытанне аўтарства. Так, нягледзячы на “машыннае” пацверджанне старажытнасці “Слова пра паход Ігаравы” і яго непадробную метафізічную глыбіню, амерыканскі даследчык Э. Кінан працягвае ставіць пад сумненне калі не ўвесь тэкст, то яго фрагменты, інспіруючы думку пра верагоднасць стварэння твора ў канцы XVIII стагоддзя – веку адкрыцця і распаўсюджання старажытных эпасаў як канцэптуальнай прынады ў працэсе фарміравання нацый.

Адсюль лагічным чынам выцякае яшчэ адна праблема, вырашэнне якой з дапамогай ІТ апошнім часам набыло сапраўды глабальныя маштабы, – праблема захавання пісьмовых помнікаў. Сучасная тэхніка дазваляе без шкоды для дакументаў пераносіць іх аўтэнтычны змест шляхам капіравання ў электронны фармат. Гэтым самым гарантуецца, што тэкставыя помнікі, якія ўяўляюць гістарычную каштоўнасць, ва ўсіх нюансах дойдуць праз вякі да нашчадкаў, чаго не адбылося б пры ранейшых метадах захоўвання, хоць і дарагіх (напрыклад, з дапамогай вакуумных установак), але ўсё роўна не заўсёды эфектыўных.

Электронныя копіі больш даступныя для даследчыкаў, зручныя ў карыстанні, бо не патрабуюць такой ступені асцярожнасці, як, напрыклад, аўтэнтычны палімпсест, што ў выніку электроннага капіравання (і расчытвання пластоў тэксту) робіцца набыткам шырокага кола грамадскасці.

Неадназначнасць гістарычнага развіцця прывяла да таго, што культурныя скарбы кожнага народа не сабраны толькі на яго тэрыторыі, а раскіданы па ўсім свеце, перадусім па тых краінах, з якімі народ меў асабліва цесныя стасункі, прычым неабавязкова міралюбнага характару. Вярнуць такія скарбы часцей за ўсё немагчыма. Тым больш што многія з іх з’яўляюцца агульнай каштоўнасцю для дзвюх і болей нацый. Варта прыгадаць тое ж “Слова пра паход Ігаравы”. Многія каштоўныя для беларускай культуры гістарычныя помнікі – летапісы, хронікі, кнігі etc. – знаходзяцца на тэрыторыі Расіі ці Польшчы. Так, у бібліятэках Расійскай Федэрацыі ёсць выданні Францыска Скарыны. Не кожны даследчык мае магчымасць папрацаваць з імі. Аднак захаванне іх у электронным фармаце прынцыпова спрашчае доступ. Сёння галоўныя бібліятэкі і архівы свету вядуць каласальную працу па стварэнні

* Адны з першых: **Баркоўская, Т. П.** Сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі ў літаратуразнаўстве / Т. П. Баркоўская // Роднае слова. – 2001. – № 4. – С. 78 – 83; **Мінскевіч, С. Л.** Літаратурны працэс і інфармацыйныя тэхналогіі / С. Л. Мінскевіч // Роднае слова. – 2005. – № 6. – С. 74 – 76.

электронных фондаў – і дзеля зберагання гістарычных дакументаў, і з мэтаю пашырэння іх рэпрэзентацыі, маштабы якой могуць быць абмежаваны толькі рэсурсамі сусветнага сеціва.

Як ні дзіўна, але праблема захавання і рэпрэзентацыі мастацкіх ці навуковых тэкстаў з дапамогаю ІТ датычыцца не толькі гістарычных помнікаў, але і вынікаў актуальнага літаратурнага працэсу. Патлумачым на некаторых прыкладах айчыннага дыскурсу. Папулярны калісь "Бум-Бам-Літ" практыкаваў літаратурныя перформансы, паўтарыць якія немагчыма. Апошнім часам распаўсюдзіліся слэмы – эфектнае чытанне вершаў, своеасаблівыя спектаклі, пабудаваныя на аснове не тэатральнага мастацтва, а прыгожага пісьменства. Такі эксклюзіў фіксуецца з дапамогай відэаапаратуры і прадстаўляецца ў лічбавым фармаце – як для навуковага аналізу спецыялістаў у гэтай галіне мастацтва слова, так і для эстэтычнага спажывання аматараў падобнага мастацтва.

Не цураюцца выкарыстання ІТ не толькі творцы з авангардысцкімі прэтэнзіямі, але і паслядоўнікі традыцыйнай плыні. У нашы дні імкліва распаўсюджваюцца электронныя кнігі як у тэкставым, так і ў гукавым фармаце, апошнія – нярэдка нават у аўтарскім выкананні. Такія павевы дайшлі і да Беларусі. Чытач, перакваліфікаваўшыся ў слухача, мае магчымасць атрымаць асалоду ад твораў Р. Барадуліна ці У. Арлова (прычым у іх выкананні, што ў большай ступені інтымізуе працэс) або Я. Коласа (у выкананні артыстаў ці малодшага сына песняра М. Міцкевіча). Падобныя выданні рэалізаваны на кампакт-дысках у фармаце MP3.

У беларускай літаратуры пакуль слаба развіты працэс фарміравання на электронных носьбітах бібліятэк, карпусоў мастацкіх тэкстаў, што ў сусветнай практыцы даўно ўсталявалася. У сеціве варта адзначыць хіба "Камунікат" (kamunikat.org) і "Беларускую палічку" (knihi.com).

Між тым у 2010 г. цікавасць да электронных кніг у свеце рэзка ўзрасла: іх продажы склалі 9% ад усяго рынку кніг. Перавагі электронных і папяровых кніг прааналізаваў А. Снег*: "**Чаму электронныя кнігі лепш за папяровыя**: 1. Сацыяльны складнік**; 2. Магчымасць рабіць нататкі; 3. Слоўнікі; 4. Магчымасць адпраўляць цытаты ў Twitter і Facebook; 5. Пошук у тэксце. **Чаму папяровыя кнігі лепш за электронныя:** 1. Эмоцыі; 2. Пакаванне; 3. Сумеснае выкарыстанне; 4. Захаванасць; 5. Магчымасць купляць ужываныя кнігі".

Не так даўно ў нашай краіне пачалася праца па ўтварэнні баз дадзеных для электронных даведнікаў, слоўнікаў. За кароткі час ёсць прыкметны даробак. Так, на сайце slounik.org ужо змешчана 27 энцыклапедый (10 580 артыкулаў) і 49 слоўнікаў (192 476 артыкулы). З'явіўся параўнальна багаты (135 тыс. слоў) электронны граматыка-парадыгматычны слоўнік беларускай мовы "Парадыгма". Іх наяўнасць не толькі ўдасканальвае працу даследчыка і тым больш аматара (напрыклад, школьніка) з матэрыяламі па мове і літаратуры, але і не загрувашчвае паўсядзённы быт, што вельмі важна ва ўмовах рэдукавання прасторы сучаснага чалавека. Тым не менш на гэтай ніве беларушчыну чакае яшчэ даволі аб'ёмны фронт работ, які да таго ж патрабуе вялікіх фінансавых уліванняў.

З кожным годам усё больш удасканальваюцца і распаўсюджваюцца перакладчыцкія праграмы. Канечне, іх прымяненне немагчымае для мастацкіх тэкстаў з-за полівалентнасці апошніх. Але ў XX ст. літаратуразнаўчыя даследаванні навукоўцаў розных краін у сваёй тэматыцы і праблематыцы часта сталі перасякацца (у чым гуманітарная навука зраўнялася з дакладнымі навукамі). Зразумела, навуковец павінен грунтоўна азнаёміцца з дасягненнямі папярэднікаў. А для гэтага яму трэба ведаць замежныя мовы, што, на жаль, застаецца істотнай праблемай. Пэўнай кампенсацыяй становіцца прымяненне машыннага перакладу навуковых тэкстаў. У сілу імкнення любой навукі да адназначнасці і дакладнасці машынны пераклад навуковых тэкстаў патрабуе значна меншага рэдагавання і ў прынцыпе можа перадаць асноўны сэнс літаратуразнаўчай работы. Гэта дазваляе навукоўцам з розных куткоў свету павысіць ступень абазнанасці пра тыя ці іншыя даследаванні, асабліва тэарэтычнага і метадалагічнага характару, у чым беларуская гуманітарная навука мае прабелы.

Найбольш распаўсюджанымі ІТ для даследчыкаў мастацтва слова па-ранейшаму застаюцца офісныя тэхналогіі: перадусім тэкставы рэдактар Word (абсалютная большасць даследаванняў аформлена **толькі** з прымяненнем гэтай праграмы), а таксама PowerPoint, Fine Reader і СКБД Access, Excel. Зразумела, чаму ў філалогіі першасным, асноўным, а нярэдка і адзіным з'яўляецца тэкставы рэдактар Word. Аднак з дапамогай іншых праграм літаратары і лінгвісты вырашаюць цэлы комплекс праблем. Так, СКБД Access і іншыя праграмы служаць упарадкаванню інфармацыі, асабліва, калі той ці іншы элемент даследавання можа фігураваць у розных катэгорыях***. (Дарэчы,

---

* **Сьнег, А.** Электронныя кнігі : ці дапамогуць яны беларускай літаратуры? / А. Сьнег // [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : http://westki.info/artykuly/10950/. – Дата доступу : 29.01.2011.

** У нашым разуменні гэта: лёгкасць пры перамяшчэнні, незагрувашчванне прасторы, малы кошт (часам нулявы, як у выпадку з беларускімі віртуальнымі бібліятэкамі).

*** Гл.: **Захаров, Н. В.** Новые информационные технологии и филологические науки / Н. В. Захаров // [Электронный ресурс]. – Режим доступа : http://www.zpu-journal.ru/e-zpu/1/zakharov/. – Дата доступа : 29.01.2011.

зусім нядаўна рэалізаваны праект праграмы “Электронная Беларусь” па стварэнні інфармацыйнай сістэмы дзяржаўнай бібліяграфічнай інфармацыі.) PowerPoint дазваляе дэманстраваць на навуковых форумах асноўныя вынікі аналізу. Ёсць і спецыяльныя праграмы, напрыклад “Лінгвааналізатар”, “Атрыбутар”, – для распазнавання аўтарства тэкстаў. Так, аналізатар тэксту Text Analyst добры для выкарыстання ў кампаратывістыцы, таму што магчымасці праграмы пры наяўнасці пэўных недахопаў, як распавяла Г. Алексяевіч, надзвычай шырокія*. Аднак, паводле заўсёдных заўваг айчынных даследчыкаў, укараненне ў беларускі дыскурс праграм IT ажыццяўляецца не так імкліва, як хацелася б. Прычым праблемы карэляцыі літаратуразнаўства і IT узаемазвязаныя. Напрыклад, тое ж укараненне праграм для атрыбуцыі тэкстаў абмяжоўваецца адсутнасцю неабходнага беларускамоўнага дыскурсу.

Перавага традыцыйных праграм IT у даследаваннях мастацкай літаратуры звязана з галоўнай асаблівасцю інфармацыі ў філалагічных навуках – даследуецца слова (яно ж у іншых навуках – толькі сродак для перадачы інфармацыі). Але адназначнасці ў кірунку даследаванняў няма. Бо аспекты – самыя розныя, іншы раз палярныя па сваёй сутнасці. Напрыклад, літаратуразнаўства найчасцей базуецца на ацэначна-эстэтычных прынцыпах, з дапамогаю іх аналіз адбываецца пры паралельнай эмацыйнай перцэпцыі. А вось мовазнаўства, на вынікі даследаванняў якога часта абапіраюцца даследчыкі літаратуры, практыкуе і строга матэматычныя падлікі.

Выкарыстанне IT у літаратуразнаўстве дасягнула высокага ўзроўню, які некаторым можа падацца нават неверагодным. Стала магчымай імітацыя прыгожага пісьменства. Да гэтага інтэлектуалы ішлі здаўна. Так, яшчэ стагоддзе таму М. Гумілёў вынайшаў алгарытм складання вершаў. З нядаўняга часу праграмы даведзены да такой ступені дасканаласці, што здольны пісаць творы, у якіх праўдападобна імітуюцца душэўныя перажыванні. Варта прывесці прыклад 1988 г.:

**Машина “СА-301”**

**Стихотворение ⊥ 027**

Пока жизнь создает ошибочные,
совершенно пустые образы.
Пока медленное время
течет мимо полезных дел,
А звезды устало кружатся в небе,
Люди не могут смеяться**.

* [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : http://hanaaleks.narod.ru/vypusknaja.doc. – Дата доступу : 29.01.2011.

** **Утешев, А.** Теория стихосложения и ее приложения / А. Утешев // [Электронный ресурс]. – Режим доступа : http://www.apmath.spbu.ru/ru/staff/uteshev/th_stih.html. – Дата доступа : 13.03.2010.

Асабліва шырокага асвятлення сёння патрабуе роля і значэнне сусветнай электроннай сеткі ў літаратуразнаўчай навуцы. Узнікненне яшчэ адной прасторы – віртуальнай – значна паўплывала на тое, што найперш базуецца на слове, фактычна з’яўляючыся ім самім. Гэта – і мастацкая літаратура, і яе навуковае вывучэнне.

Яшчэ нядаўна чалавек мог спажываць толькі корпус мастацкіх тэкстаў, наяўны на даступнай яму тэрыторыі. Магчымасці ўзрасталі па меры павышэння адміністрацыйнай значнасці таго ці іншага населенага пункта. Але існаванне ў многіх краінах, у прыватнасці ў Савецкім Саюзе, палітычнай цэнзуры абмяжоўвала і творцу, і карыстальніка.

Эпоха інтэрнэту, зламаўшы ўсе бар’еры, здзейсніла рэвалюцыю ў распаўсюджванні твораў прыгожага пісьменства. Маштаб колькасці тэкстаў, даступных сёння, іначай як глабальным нельга назваць. Абмежаванасць у іх спажыванні ўзнікае ўжо з іншага боку: яна абумоўліваецца інтэлектуальнымі магчымасцямі чалавека (перадусім веданнем моў) і наяўнасцю ў яго часу.

З узнікненнем сусветнага сеціва паўстала незлічоная колькасць электронных бібліятэк. Галоўныя кнігасховішчы краін інтэнсіўна займаюцца алічбоўкай сваіх матэрыялаў і выкладаннем на адпаведных серверах. У выніку знікае неабходнасць далёкіх паездак дзеля апрацоўкі пэўнага выдання – дастаткова наведаць бібліятэчны сайт. Першыя беларускамоўныя бібліятэкі ўзніклі ў віртуальнай прасторы гадоў дзесяць-пятнаццаць таму. Аднак яны традыцыйна характарызуюцца параўнальна бедным корпусам тэкстаў: найбольш вядомы “Камунікат” на студзень 2011 г. папаўняў толькі трэцюю тысячу кніжных выданняў. Беларуская віртуальная бібліятэка на сайце http://library.by уключна з рускамоўнымі разнафарматнымі публікацыямі (якіх, можна меркаваць, большасць) дэкларуе больш за 100 тыс. пазіцый.

Увогуле беларускамоўны віртуальны дыскурс на парадак меншы, чым у некаторых народаў, якія саступаюць беларусам па колькасці насельніцтва. Як паведамляе даследчык мовы, супрацоўнік Фізіка-тэхнічнага інстытута НАН Беларусі Ф. Піскуноў, ёмістасць беларускамоўнага інтэрнэту ва ўсіх даменах складае каля 3,77 млн старонак, у тым ліку ў нацыянальным дамене .by – каля 0,66 млн (для параўнання: ёмістасць дамена Македоніі – 9,3 млн македонскамоўных старонак, Латвіі – 34,5 млн латышскамоўных старонак, Эстоніі – 71,9 млн эстонскамоўных старонак, Украіны – 24,1 млн старонак на ўкраінскай мове) [3, с. 44].

Тэхналогіі інтэрнэту гарманічна сінтэзаваліся з эпохай постмадэрну, што пануе ў мастацтве апошнія колькі дзесяцігоддзяў. Літаратура, з даўніх часоў карыстаючыся спасылкамі і ад-

сылкамі да іншых тэкстаў і кантэкстаў, з лёгкасцю падхапіла сцяг гіпертэкставых магчымасцей, рэалізаваць якія такім чынам стала значна прасцей – адным націсканнем клавішы. З'явіліся творы, што прапануюць чытачу самастойна канструяваць сюжэт. Аўтар адсоўваецца на другі план (загаварылі ўвогуле пра "смерць аўтара"). У беларускай літаратуры з канца 1990-х гг. дастаткова плённа распрацоўваюцца "віды верша, якія паўсталі ў выніку сінтэзу паэзіі і тэхнікі"*.

Узраслі магчымасці выпусціць у свет твор, не публікуючы яго ў друкаваных выданнях. Узнікла цэлая дзялянка такой літаратуры – *сеціратура*. Дый літаратурна-мастацкія перыёдыкі сталі выкладацца ў інтэрнэце (як правіла, пасля таго, калі іх надзённасць прытупляецца) [1; 2; 5].

Ёсць і адваротны бок медаля. Зніжаецца каштоўнасць кнігі (праўда, усе прызнаюць, што ліквідацыі друкаваных выданняў не наступіць). Віртуальная прастора запаўняецца нізкапробнымі тэкстамі, што засмечваюць яе і ўскладняюць пошукі *сапраўднага*. Гэтаму спрыяе і тое, што няма цэнзуры. Можа парушацца аўтарскае права (калі твор трапляе ў віртуальную прастору з парушэннем заканадаўства).

Літаратуразнаўчая навука дзякуючы інтэрнэту таксама зрабіла крок наперад. Віртуальныя камунікацыі не адмянілі традыцыйных формаў працы, але зрабілі больш шчыльнымі стасункі паміж вучонымі розных краін як у неафіцыйным (асабістыя кантакты), так і ў афіцыйным фармаце (электронныя канферэнцыі).

Для большай аператыўнасці абмену інфармацыяй навуковыя работы могуць змяшчацца ў віртуальнай прасторы на адпаведных сайтах, у электронных часопісах ці электронных дублёжах папяровых выданняў. Прычым тут жа пры неабходнасці наладжваецца абмеркаванне, што магчыма зрабіць у рэжыме рэальнага часу паміж людзьмі, якіх раздзяляюць тысячы кіламетраў. Аднак аўтарскае права часта абмяжоўвае навукоўцаў: без іх згоды ці / і згоды выдання выкладаць у інтэрнэце вынікі даследчай працы нельга. Многія баяцца, што іх праца будзе выкарыстана плагіятарамі.

З'явіліся і новыя гарызонты. Напрыклад, Г. Адамовіч гаворыць: «У сувязі з развіццём і пашырэннем інфармацыйных тэхналогій актуалізуюцца дзве праблемы, акрэсленыя паняццямі "тэзаўрус" і "тэзаўрусны падыход". Першая – праблема сістэматызацыі ведаў з розных галін літаратуры, культуры (па сусветнай літаратуры ў беларускім кантэксце і беларускай літаратуры як часткі сусветнай літаратурнай спадчыны). Другая праблема – вылучэнне сістэмы прыярытэтаў у працэсе сістэматызацыі, класіфікацыя літаратурных фактаў на той ці іншай сістэмаўтваральнай аснове»**.

Тым не менш выкарыстанне ІТ у літаратуразнаўстве, на наш погляд, мае пакуль вынікаў меней, чым магло б мець, асабліва што тычыцца беларускага дыскурсу. Гэта звязана з інертнасцю і кансерватыўнасцю нашых даследчыкаў. Выкрышталізаваліся наступныя асноўныя праблемы, якія на Беларусі маюць асабліва вострый характар: нізкі ўзровень валодання ІТ філолагамі, асабліва старэйшым пакаленнем, недастатковая тэхнічная база, адсутнасць сістэматычнага распаўсюджвання ІТ у філалагічным асяродку [4, с. 40]. У той жа час узнікае шэраг пагроз неадэкватнага прымянення ІТ, найперш дэгуманізацыя гуманітарнай навукі, абясцэньванне кнігі і чытання ў вачах маладога пакалення.

Такім чынам, за апошні час асваенне літаратуразнаўчай навукай ІТ ва ўсім свеце набыло асабліва хуткія тэмпы, дзякуючы чаму назіраецца небывалы прагрэс: вырашаюцца многія дагэтуль неадназначныя праблемы, адкрываюцца новыя магчымасці, бакі і вектары даследаванняў з адкрыццямі і перспектывамі. Варта адзначыць, што айчыннае літаратуразнаўства прыкметна адстае ад агульнаеўрапейскага па ўзроўні выкарыстання ІТ, хоць за апошнія гады розніца нівеліруецца. У той жа час назіраюцца і дэструктыўныя тэндэнцыі для літаратуры і яе даследаванняў, якія, аднак, па прагнозах, не павінны рэвалюцыйным чынам знізіць каштоўнасць мастацтва слова і вартасць літаратуразнаўчай навукі.

**Спіс літаратуры**

1. **Ад манускрыпта да блога – і назад** // Літаратура і мастацтва. – 2010. – 5 сак. – С. 4.

2. **Бязлепкіна, А.** Уяўленне традыцыі / А. Бязлепкіна // Літаратура і мастацтва. – 2009. – 23 кастр. – С. 7.

3. **Піскуноў, Ф.** Дуба ці дубу? : Яшчэ раз пра формы роднага склону назоўнікаў мужчынскага роду ў святле кап'ютарна-лінгвістычнага аналізу / Ф. Піскуноў // Роднае слова. – 2010. – № 1. – С. 40 – 47.

4. **Хроленко, А. Т.** Современные информационные технологии для гуманитария : практическое руководство / А. Т. Хроленко, А. В. Денисов. – М. : Флинта : Наука, 2007. – 128 с.

5. **Шаўлякова, І.** Культурны двубой, або Сеціратура = літаратура? / І. Шаўлякова // Літаратура і мастацтва. – 2009. – 16 кастр. – С. 4.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК,**
метадыст аддзела міжнароднай
і сацыякультурнай дзейнасці
Інстытута культуры Беларусі.

* **Мартысевіч, М.** Маргінальныя жанры вершу ў сучаснай беларускай паэзіі : Паміж паэзіяй і не-паэзіяй / М. Мартысевіч // [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : http://baj.by/belkalehium/lekcyji/litaratura/martysievicz_03.htm. – Дата доступу : 13.01.2011.

** **Адамовіч, Г. Я.** Да праблемы тыпалогіі беларускага кантэксту / Г. Я. Адамовіч // Русская и белорусская литературы на рубеже XX – XXI вв. : сб. науч. статей : в 2 ч.; под ред. С. Я. Гончаровой-Грабовской. – Минск : РИВШ, 2010. – Ч. 2 // [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : http://www.philology.bsu.by/publications/. – Дата доступу : 29.01.2011.

*Еўрапейская літаратурная класіка*

# "ЭНЕІДА" ВЕРГІЛІЯ: З ГІСТОРЫІ НАПІСАННЯ І АСЭНСАВАННЯ ПАЭМЫ

У 26 г. да н. э. у літаратурных колах Рыма стала вядома, што Вергілій працуе над гераічнай паэмай пра Энея – аднаго з траянскіх герояў. Менавіта Вергілію вырашаюць даверыць напісанне самага важнага ідэалагічнага твора, які павінен быў абагульніць гістарычную аснову самасвядомасці рымскага народа, грамадска-палітычныя ідэі эпохі Актавіяна Аўгуста. Па словах В. Янковіча, "ён [Вергілій] задаўся мэтай падараваць свайму народу кнігу з кніг, даць сваім суайчыннікам, у новай пераліцоўцы, тое, што Гамер даў грэкам; паказаць рымлянам, быццам у люстэрку, усё свяшчэннае і дарагое з іх мінулага" [10, с. 3]. Сучаснік Вергілія паэт Праперцый, пачуўшы некалькі ўрыўкаў з паэмы, аб'явіў, што ствараецца твор, які пераўзыходзіць знакамітую "Іліяду" Гамера.

Вергілій пісаў "Энеіду" ў той час, калі рымская дзяржава адчувала патрэбу не толькі ў новых палітычных структурах, але і ў новай сістэме культурных каштоўнасцей. Гэта быў час фарміравання як імперыі, так і ўласна імператарскага культу. Прыярытэтным напрамкам рэформаў Актавіяна Аўгуста было рэлігійнае жыццё дзяржавы – рэлігія ўваходзіла ў новую дактрыну ўлады. Аўгуст адбудоўваў храмы, адраджаў рэлігійныя абрады, скіроўваў інтэлектуалаў на вывучэнне рымскай міфалогіі, клапаціўся пра "чысціню нораваў". На думку знакамітага археолага і гісторыка рымскай літаратуры Гастона Буасье, "каб выратаваць старажытныя ўстановы ад разбурэння, было карысна паказаць, што яны ідуць здалёк. У народа, такога кансерватыўнага па прыродзе, як рымляне, яго даўняе існаванне было падставай для таго, што яны [рымляне] будуць існаваць заўсёды. Зрабіўшы іх старымі, Вергілій зрабіў іх больш цікавымі і больш свяшчэннымі" [2, с. 207].

Мір, які толькі ўсталяваўся, такі доўгачаканы для грамадства, змучанага грамадзянскімі войнамі і ўзрушэннямі, прыводзіў да актыўнага развіцця рымскай ідэі – улады над усім светам. Ідэалогія абвяшчала, што місія Рыма выканана: за гэтую ўладу над сусветам і ваявалі стагоддзямі рымляне, змагаўся сенат. Падпарадкаваўшы ўвесь свет, Рым быццам выконваў боскае прадвызначэнне – ён станавіўся больш значным, чым сама дзяржава, абвяшчаў сябе Градам Вечным.

Асаблівасцю эпохі Актавіяна Аўгуста было супадзенне інтарэсаў шырокіх колаў рымскага грамадства, да якіх Вергілій адносіў і сябе, з інтарэсамі афіцыйнага Рыма.

Вернасць дзяржаве станавілася рэлігійным дзействам, маральным імператывам, а культ імператараў – яе сакральным праяўленнем. "Залаты век" сыходзіў на зямлю з уступленнем на прастол Аўгуста, у сувязі з чым абагаўленне прынцэпса не магло не пачацца яшчэ пры яго жыцці. Як слушна адзначае В. Меліхаў, "узнікненне культу імператара адносіцца да той пары, калі вера ў жыхароў неба амаль канчаткова ўпала; узнікае захапленне выпрацаванай розумам філасофіяй; шырока распаўсюджваецца ўшанаванне культаў" [7, с. 5].

Праслаўлены паэт, аўтар папулярных твораў "Буколікі" і "Георгікі", лічыць неабходным стварыць вялікую паэму пра пачатак Рыма. Усе адзначаныя вышэй тэндэнцыі сваёй эпохі ён адлюстроўвае ў эпічнай паэме "Энеіда": "Ён зрабіўся паплечнікам Аўгуста, працаваў з захапленнем над усталяваннем яго дынастыі, над трываласцю яго рэформаў, спадзеючыся, што такім чынам ён аказвае вялікую паслугу сваёй краіне" [2, с. 207].

Біёграфы падкрэсліваюць карпатлівую працу Вергілія. Паэт прысвячае новаму твору дзесяць гадоў жыцця, якія праводзіць у Кампаніі, Сіцыліі, старанна апрацоўвае кожны радок. Паводле М. Гаспарава, «апошнюю сваю рэч – "Энеіду" ён пісаў няўпэўнена, як пачатковец: спачатку сачыніў усе дванаццаць кніг у прозе, потым часткамі, пад настрой, надаваў ім вершаваную форму. Ён баяўся, што майстэрства адыме ад яго натхненне; таму тое, што не давалася яму адразу, ён пакідаў у чарнавым варыянце або адкладаў на будучыню» [3, с. 112]. Асобныя эпізоды застаюцца недапрацаванымі аж да канчатковай рэдакцыі ўсяго твора.

Сябры паэта, Актавіян Аўгуст і Мецэнат, робяць ўсё неабходнае, каб Вергілій не адчуваў нястачы і мог працаваць, не беручы пад увагу розныя жыццёвыя нягоды. Сам імператар з асаблівай цікавасцю сочыць, як рухаецца праца над паэмай, і прыспешвае Вергілія завяршыць твор пра прадвызначаную гісторыяй веліч Рыма. З асобнымі часткамі паэмы творца час ад часу знаёміць Актавіяна і яго сяброў. Паводле Светонія, "чытаў ён і больш шматлікім слухачам, але толькі зрэдку, галоўным чынам тое, у чым не быў упэўнены, каб

лепш даведацца пра меркаванне людзей" [9, с. 279]. Вядома, што чытанне першых трох кніг "Энеіды" перад Аўгустам адбывалася каля 22 г. да н. э. Як піша В. Дураў, "першапачатковая задума спазнала істотныя змяненні. Паэт адступіў ад намеру адлюстроўваць рэальныя падзеі, і зместам паэмы стаў міф, а не гісторыя, як ён меркаваў спачатку" [5, с. 15]. Нялёгкая задача патрабуе ад Вергілія азнаямлення з агромністым міфалагічным і гістарычным матэрыялам. Ён чытае шматлікую грэчаскую і рымскую літаратуру, працы па старажытнай гісторыі, наведвае галоўныя месцы, у якіх даводзілася, паводле легенды, спыняцца Энею. Засведчана таксама знаёмства аўтара з сакральным правам і абрадамі. Такім чынам, як справядліва адзначае літаратуразнаўца М. Дзератані, «"Энеіда" – вынік работы эрудыта. Вергілій – вучоны, паэт, творчасць якога адлюстроўвае новы цвярозы дух гандлёва-грашовай культуры, калі мастацтва пачынае набліжацца да навуковай творчасці» [4, с. 25].

У працы над "Энеідай" паэт выкарыстоўваў самае лепшае з вопыту сваіх папярэднікаў. Узнаўляючы вялікі міфалагічны эпас, ён быццам уступае ў спаборніцтва з Гамерам і завяршае справу рымскіх пісьменнікаў Невія і Энія. Парваўшы з эстэтычнымі прынцыпамі александрызму, Вергілій жадае задаволіць сучасныя густы, распешчаныя бездакорнай шліфоўкай эпіліяў "неатэрыкамі". Пры гэтым аўтар выяўляе індывідуальнасць. Гэта падкрэслівае і С. Аверынцаў: "…міфалагічныя генеалогіі для жывых людзей, спробы ўкараніць гісторыю ў міфе – усё гэта было і раней… але ў Вергілія ўпершыню ў гісторыі еўрапейскай культуры з такой жа паўнатой эстэтычна прачута і ператворана ў асобую паэтычную тэму блізкасць далёкага і аддаленасць блізкага, якая ўражвае ўяўленне чытача" [1, с. 38].

Асноўнымі вытокамі міфаў, з якіх чэрпае сюжэты Вергілій, відавочна, з'яўляюцца найперш "Іліяда" і "Адысея" Гамера, а таксама старажытнагрэчаскі кіклічны эпас, у прыватнасці траянскі цыкл, які прымыкае да "Іліяды" і "Адысеі". Ужо ў "Іліядзе" Гамера Эней – выхадзец з траянскага роду, сын Анхіза і Афрадыты, самы адважны воін пасля Гектара. Матыў прыбыцця Энея ў Італію сустракаецца яшчэ ў грэчаскага лірыка VI ст. да н. э. Стэсіхора. Па словах Д. Нагуеўскага, Стэсіхор распаўсюдзіў легенду ў Сіцыліі і паўднёвай Італіі і "яна, дзякуючы абставінам, усталявалася ў некаторых месцах… У эпоху вайны з Пірам грэчаскі гісторык Тымей надаў устойлівую форму легендзе, якая з гэтай пары ўвайшла ў галіну бясспрэчных, непарушных вераванняў рымлян" [8, с. 19]. Так паданне становіцца вельмі папулярным у Рыме, і дзяржава ў ранні перыяд свайго існавання прымае яго афіцыйна. Рымскія эпікі і гісторыкі ўслед за грэкамі аддаюць даніну гэтай легендзе. Вергілій пераймае менавіта Гамера, запазычвае ў яго шэраг асобных выказванняў і нават цэлых эпізодаў.

Вергілій піша не толькі для знаўцаў, але і для шырокага кола простых чытачоў, прыкладае ўсе намаганні, каб закрануць пачуцці дарагімі сэрцу рымлян мясцінамі і рэаліямі. Г. Буасье прысвячае гэтаму пытанню цэлы шэраг даследаванняў. Ён лічыць, што Вергілій дакладна малюе гэтыя мясцовасці і што падарожнік можа хадзіць па слядах "Энеіды". І "не адну толькі гэтую паслугу аказвае нам Вергілій: адзначаючы месцазнаходжанне горада, ён дапамагае нашаму ўяўленню прыпомніць і сам горад" [2, с. 200]. Паводле таго ж Г. Буасье, "калі старанна вывучаць яго апошнія вершы, у якіх дзеянне адбываецца на італійскай глебе, дык можна зазначыць, што паўсюдна сустракаюцца звычаі яго краіны і яго часу" [2, с. 206]. Паэт стварае вобразы, якія абуджалі рэлігійныя і патрыятычныя пачуцці рымлян.

У 19 г. да н. э. "Энеіда" была амаль гатова. На пяцьдзясят другім годзе жыцця, збіраючыся надаць твору канчатковы выгляд, Вергілій накіроўваецца ў падарожжа па Грэцыі і Малой Азіі, плануе пражыць там тры гады, каб самому ўбачыць апісаныя Гамерам мясціны і там завяршыць "Энеіду". Аднак смерць парушае гэтыя планы. Вяртаючыся з паездкі з новым запасам вобразаў і ўражанняў, з гарачым жаданнем праверыць яшчэ раз тое, што было ўжо напісана, і ўнесці папраўкі, Вергілій нечакана занядужвае. Як піша М. Гаспараў, «паміраючы, ён папрасіў сяброў [Варыя Руфа і Плотыя Туку] падаць яму рукапіс: яны адмовіліся, зразумеўшы, што ён кіне яго ў агонь, тады ён папрасіў не выдаваць нічога, што не выдаў бы ён сам; і "Энеіда" выйшла ў свет пасмяротна, беражліва падрыхтаваная сябрамі-паэтамі па распараджэнні самога Аўгуста» [3, с. 112]. Па загадзе прынцэпса ў тэкст былі ўнесены толькі самыя неабходныя папраўкі. У ім застаюцца нясконччанымі асобныя часткі, таксама даследчыкамі адзначаецца шэраг няўвязак, у асноўным нязначных і непрыкметных, якія сям-там закранаюць асноўныя лініі сюжэта.

Так ствaралася "Энеіда", якая стала не толькі адным з самых значных твораў мастацтва, але і дакументам інтэлектуальнага і духоўнага жыцця эпохі Вергілія.

Яшчэ пры жыцці Вергілія прызналі ўпрыгожаннем "залатога веку" Актавіяна Аўгуста. Яго

вывучаюць у школах, перакладаюць, цытуюць. Яго імітуюць і парадзіруюць ужо антычныя паэты. Кожная эпоха выкарыстоўвала творчасць Вергілія, перш за ўсё знакамітую "Энеіду", у сваіх мэтах, зыходзячы з эстэтычных пазіцый свайго часу, у адпаведнасці з узроўнем развіцця нацыянальнай літаратуры.

У канцы XVIII ст. выходзіць рускі пераклад "Энеіды", выкананы В. Пятровым, у XIX ст. з'яўляецца інтэрпрэтацыя Г. Шаршаневіча. Над перакладам "Энеіды" таксама працавалі В. Жукоўскі, М. Квашнін-Самарын, А. Фет, В. Брусаў і С. Салаўёў. У сучасных выданнях "Энеіда" прадстаўлена ў перакладзе вядомага філолага С. Ошарава.

Прыблізна ў канцы XVIII – пачатку XIX ст. як перайманне паэмы рымскага пісьменніка з'яўляецца беларуская паэма "Энеіда навыварат". Яе з'яўленне было праяўленнем глыбокага духоўнага яднання аўтара са сваім народам і яго культурай. Навукоўцы лічаць, што аўтар паэмы – Вікенцій Равінскі, адстаўны афіцэр з Духаўшчынскага раёна Смаленскай вобласці.

Як адзначае літаратуразнаўца Д. Лебядзевіч, "парадзіраванне рымскага папулярнага паэта ні ў якім разе не адзначае адмоўнага стаўлення да яго спадчыны, а падпарадкоўваецца заканамернасцям літаратурнай традыцыі. Прычыну травесціі трэба шукаць у гістарычных умовах развіцця беларускай нацыі і грамадска-літаратурнай атмасферы, якая склалася на Беларусі ў пачатку XIX стагоддзя" [6, с. 309].

Беларуская паэма адразу пасля напісання, па зразумелых прычынах, не друкавалася, але, як вельмі цікавы і дасканалы твор, яна перапісвалася рознымі асобамі і такім чынам шырока распаўсюдзілася па ўсёй Беларусі. Дзякуючы гэтаму ў паэму трапіла шмат новых уставак і пазнейшых перапрацовак. Цалкам да нас паэма не дайшла – захаваўся толькі пачатак твора.

Прыём парадзіравання даваў аўтару магчымасць напоўніць вобразы Вергілія новым зместам, стварыць характэрныя тыпы прадстаўнікоў розных грамадскіх груп, выявіць свае адносіны да жыцця. Характарызуючы грэчаскіх і рымскіх багоў, аўтар надае ім беларускае аблічча і прапануе сапраўдную характарыстыку тагачаснага жыцця. Дзякуючы гэтаму "Энеіда навыварат" набывае вялікае нацыянальнае значэнне.

На аснове вышэйвыкладзенага можна зрабіць наступныя высновы:

– у эпічнай паэме "Энеіда" Вергілій адлюстроўвае асноўныя тэндэнцыі эпохі Аўгуста, гістарычны лёс рымскай дзяржавы, загадзя дакладна азнаёміўшыся з навуковым матэрыялам і тапаграфіяй тых мясцін, куды пераносіцца дзеянне паэмы;

– з мэтай стварыць паэму для шырокага кола чытачоў паэт робіць паняцці і вобразы твора яснымі і вельмі дарагімі сэрцу рымскага народа;

– план задумы паэмы "Энеіда" ў цэлым з'яўляецца выкананым, а некаторыя нязначныя недапрацаваныя эпізоды не могуць пазбавіць яе мастацкага значэння;

– беларуская пародыя не толькі прадоўжыла і развіла адметную ў сусветнай літаратуры традыцыю твораў "навыварат", але і адыграла вырашальную ролю ў станаўленні і развіцці новай нацыянальнай літаратуры.

**Спіс літаратуры**

1. **Аверинцев, С. С.** Две тысячи лет с Вергилием / С. С. Аверинцев // Поэты. – М. : Школа "Языки русской культуры", 1996. – С. 19 – 42.

2. **Буасье, Г.** Вергилий из последней археологической поездки / Г. Буасье; пер. с франц., под ред. И. Р. – Оренбург, 1894. – 223 с.

3. **Гаспаров, М. Л.** Вергилий – поэт будущего / М. Л. Гаспаров // Об античной поэзии. – СПб. : Азбука, 2000. – С. 110 – 147.

4. **Вергилий и его "Энеида"** // Энеида / Вергилий; пер. В. Брюсова и С. Соловьева, ред. Н. Ф. Дератани. – М. – СПб. : Academia, 1933. – С. 7 – 37.

5. **Дуров, В. С.** Поэзия Вергилия / В. С. Дуров // Собрание сочинений / Вергилий; отв. ред. С. В. Чистобаев. – СПб. : Биографический институт "Студия Биографика", 1994. – С. 5 – 22.

6. **Лебядзевіч, Д. М.** З жыватворных крыніц Гелікона. Антычная спадчына і станаўленне беларускай класічнай літаратурнай традыцыі / Д. М. Лебядзевіч. – Гродна : Слонімская друкарня, 2002. – 112 с.

7. **Мелихов, В. А.** Культ императоров в римской поэзии золотого века / В. А. Мелихов. – Харьков : Типография "Мирный труд", 1915. – 51 с.

8. **Нагуевский, Д. И.** Введение / Д. И. Нагуевский // Энеида Вергилия. Часть первая. Второе издание; пер. А. Фета, с объяснениями и проверкою текста Д. И. Нагуевского. – СПб. : Издание А. Ф. Маркса, 1887. – С. 13 – 28.

9. **Светоний, Г. Т.** Жизнь двенадцати цезарей. О знаменитых людях (фрагменты) / Г. Т. Светоний; пер. и прим. М. Л. Гаспарова, статья Е. М. Штаерман. – СПб. : Издательство "Алетейя", 1998. – 436 с.

10. **Янкович, В. А.** Вергилий / В. А. Янкович // Энеида. Песнь I / Издание II. С введением, примечаниями и алфавитным словарем В. А. Янковича. – Харьков : Книгоиздательство "Всеобщее образование", 1916. – с. 1 – 8.

**Ірына КАЯЛА,**
аспірантка кафедры польскай філалогіі
Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам філалагічных навук прафесарам А. Бельскім.*

*Пісьменніцкая лабараторыя*

# АСАБЛІВАСЦІ ЖАНРУ НАВЕЛЫ Ў ТВОРЧАСЦІ ЮРЫЯ СТАНКЕВІЧА

У беларускай літаратуры пачатку XXI ст. жанр навелы – адзін з найбольш папулярных. Даволі лёгкі і рухомы, але цвёрда падпарадкаваны строгай сістэме правіл, гэты жанр здольны імгненна адгукацца на любыя запыты эпохі, ставіцца з пільнай увагай да самых знакавых, праблемных і пераломных момантаў і зрухаў у грамадстве. Менавіта акрэсленымі характарыстыкамі можна растлумачыць запатрабаванасць навелы ў беларускім мастацтве слова. Аднак да гэтага часу ў айчыннай літаратуразнаўчай навуцы не вызначаны жанравыя асаблівасці беларускай навелы, характар яе канфлікту, асноўныя мастацка-стылёвыя сродкі і прыёмы, а таксама ўзаемадзеянне з іншымі блізкімі па структуры жанрамі.

Звернемся да вызначэння адметнасцей сюжэтна-кампазіцыйнай арганізацыі навелы і выяўлення асаблівасцей жанравага ўзаемадзеяння ў творчай практыцы Ю. Станкевіча.

У мастацкай сістэме пісьменніка адбываецца своеасаблівае пераадоленне нарматыўнага характару навелістычнага жанру. Абнаўленне і "асучасніванне" навелы пры захаванні асноўных, ключавых элементаў, таго, што вылучае дадзены жанр з ліку іншых, – вынік натуральнага заканамернага працэсу. Менавіта літаратурны жанр, па словах М. Бахціна, "заўсёды і той і не той, заўсёды і стары і новы адначасова. Жанр – прадстаўнік творчай памяці ў працэсе літаратурнага развіцця. Менавіта таму жанр і здольны забяспечыць адзінства і бесперапыннасць гэтага развіцця" [1, с. 141 – 142].

Нягледзячы на відавочнае падпарадкаванне навелістычных тэкстаў канонам традыцыйнай класічнай паэтыкі, аналіз твораў многіх айчынных мастакоў слова даказвае, што любая "структурная мадэль твора шукае свой індывідуальны варыянт" [2, с. 85]. І сапраўды, у выніку творчага працэсу нараджаецца індывідуальна-аўтарская мадэль, якая (і гэта натуральна) выходзіць за межы існуючага сюжэтна-кампазіцыйнага шаблону, а часам нават сама становіцца ўзорам для іншых. Акрэсленае відавочна рэалізуецца ў навелістычнай творчасці Ю. Станкевіча.

Навелістычнае апавяданне **"Пакупнік сноў"** складаецца з трох сюжэтна-кампазіцыйных сегментаў, кожны з якіх мае самастойную зместавую тканіну, навелістычнае падзейнае ядро і развязку. Пры гэтым кожны з сегментаў з'яўляецца своеасаблівым звяном у агульнай навелістычнай тэкставай прасторы і падпарадкаваны адзінаму pointe*, змешчанаму ў канклюзіўным сегменце.

Перадгісторыя, агульная для трох сегментаў, выдзелена тэкстуальна, не толькі ўтрымлівае інфармацыю азнаямляльнага характару, але з'яўляецца пачаткам першага сюжэтна-падзейнага сегмента. Выпадковая сустрэча двух суседзяў па лесвічнай пляцоўцы Яўгена Мігеля і Кука стала лёсавызначальнай для апошняга. Мігель паміж іншым распавёў пра свой сон, незвычайны і незразумелы па змесце. Як высвятляецца ў першым інфармацыйна-падзейным сегменце, гэты сон не проста мае непасрэднае дачыненне да лёсу Кука, але напрамую ўздзейнічае на фарміраванне жыццёвай карціны персанажа пры ўмове афармлення акта куплі-продажу.

Фантастычная падсвядомая повязь двух чалавек дэманструецца на канкрэтных прыкладах з жыцця аднаго з герояў і, на першы погляд, здаецца, супярэчыць развіццю традыцыйнай навелістычнай нечаканасці, бо чытач ужо пасля першага шчаслівага выпадку здзяйснення сну падрыхтоўваецца да аналагічнага разгортвання падзей. І сапраўды, пэўны час сюжэтная лінія разгортваецца нібы па мадэлі, створанай аўтарам у пачатку. Пасля чарговай куплі сну Куку ізноў лёс падарыў шчаслівы выпадак: яму пашанцавала выйграць на іпадроме і тым самым значна палепшыць сваё фінансавае становішча.

Нечаканы паварот у ходзе падзей адбываецца ў апошнім сюжэтным блоку. Дэманструецца магія лічбы "тры". У трэці раз Кукам парушаецца закон дзеяння матыву куплі сну. Неістотны, на першы погляд, сон Мігеля стаў прарочым у жыцці Кука. Але ў дадзеным выпадку адбылася адмоўная трансфармацыя ўяўнага ў рэальным: *"Які ж ён быў ідыёт, бо не патурбаваўся вытлумачыць гэты прапанаваны яму знак бяды, гэтую перасцярогу. Ён так неабдумана не купіў той сон"* [3, с. 32].

Здагадка Кука – кульмінацыйны момант у сюжэтнай канве твора. Акрэсленае разгортванне падзей уяўляе з сябе класічнае навелістычнае pointe, на якім і заканчваецца твор. Згадаем, што менавіта pointe – гэта навелістычная жанравая канстанта, якая ўплывае на свядомасць чытача

* ***Pointe*** (фр. 'пуант') – самае "моцнае" месца навелы, звычайна кароткая фраза, якая характарызуецца вастрынёй і нечаканасцю. З пункту гледжання рытму, pointe – заканчэнне на няўстойлівым моманце, як у музыцы заканчэнне на дамінанце.

ці даследчыка на рэцэптыўна-інтэрпрэтацыйным узроўні. Вось як вызначае псіхалагічны эфект навелы Л. Выгоцкі: "Мы адчуваем складаны разрад пачуццяў, іх узаемнае пераўтварэнне, і замест пакутлівых перажыванняў мы маем навідавоку высокае і натхняльнае адчуванне лёгкага дыхання" [4, с. 280]. Выкарыстоўваючы тэрміналогію Ю. Лотмана, pointe можна лічыць "цэнтрабежнай" сілай сюжэтна-кампазіцыйнай сістэмы любога навелістычнага тэксту. Бясспрэчна, менавіта pointe займае дамінантную пазіцыю ў агульнай мастацкай палітры сродкаў і прынцыпаў арганізацыі навелы.

Для твора "Пакупнік сноў" уласціва неад'емная прыкмета навелістычнай паэтыкі – лаканізм у працэсе характарызацыі. Адзін складаны сказ з некалькімі даданымі ці адзін развіты складаназалежны сказ з некалькімі аднароднымі членамі дазваляе пісьменніку даць асноўную, без лішняй дэталізацыі, але пры гэтым ёмістую, вычарпальную інфармацыю пра герояў. Такім чынам, увага чытача канцэнтруецца на галоўным падзейным плане, не засяроджваючыся на другасным, менш істотным для спасціжэння ідэйнай сутнасці.

Згодна з падобнай мадэллю арганізацыі тэксту аформлены твор **"Стрыечніца"**. У дадзеным выпадку таксама прадстаўлены такі элемент навелістычнай кампазіцыі, як заканчэнне на "няўстойлівым моманце" (згодна з тэрміналогіяй А. Рэфармацкага [5]). Іншымі словамі, твор застаецца "адкрытым", пакідаючы чытачу магчымасць суаўтарства. Пры гэтым незавершаная канцоўка адпавядае зместу класічнага pointe, бо па сваёй сутнасці ўступае ў контрадыкторныя адносіны з асноўным падзейным планам твора. Розніца паміж тэкстамі "Пакупнік сноў" і "Стрыечніца" заключаецца ў акцэнце жанравызначальнага складніка. Першы тэкст адпавядае патрабаванням тэорыі паэтыкі жанру навелы, другі ж змяшчае толькі яе элемент. Менавіта па дадзенай прычыне па характары арганізацыі тэкставай прасторы твор "Стрыечніца" правільна класіфікаваць як навелістычнае апавяданне.

У "Стрыечніцы" прадстаўлены адзін эпізод з жыцця галоўнага героя. Зміцер Дашкевіч накіроўваецца ў мегаполіс з мэтай наведаць стрыечную сястру Аню. Гэтая інфармацыя даецца аўтарам чытачу ў самым пачатку твора. Прычым важна адзначыць, што пісьменнік не проста паведамляе пра намер ажыццявіць задуманае – герой паказваецца непасрэдна ўжо ў працэсе дзеяння.

Такім чынам, у пачатковым сегменце часавапрасторавая характарыстыка спалучаецца з раскрыццём прычынна-матывацыйнага элемента ў паводзінах галоўнага героя. Але ж пры рэалізацыі зададзенага сюжэтнага плана адсутнічае лінейнасць у разгортванні прычынна-выніковага ланцуга. Наратыўная прастора тэксту пашыраецца шляхам увядзення беглай рэтраспекцыі (інфармацыя пра мінулае Ані, кароткія звесткі з біяграфіі Змітра Дашкевіча), пададзенай у форме ўскоснай мовы апавядальніка, а таксама зваротам у мінулае персанажаў праз дакладную перадачу дыялогу Змітра і Ані напярэдадні яе ад'езду ў сталіцу. Акцэнтуем увагу на дэталізацыі пры апісанні дыялогу: расповед Ані пра прычыну пераезду і настойлівы намер Змітра пераканаць сястру ў памылковасці прынятага ёю рашэння. Дыялог суправаджаецца філасофскімі развагамі пра сутнасць жыцця, характарыстыкай псіхалагічнага стану персанажаў, аўтарскімі параўнаннямі і каментарыямі.

Згадаем, што беглая рэтраспекцыя не супярэчыць канонам навелістычнага жанру, але ж дэталізацыя і пашырэнне апавядальнай часткі, якая адчувальна паслабляе ўвагу чытача на галоўнай падзеі і супярэчыць механізму сфакусіраванасці на цэнтральным інфармацыйным моманце, сведчыць пра прыналежнасць дадзенага тэксту да жанру апавядання.

Твор складаецца з сямі тэкстуальна выдзеленых блокаў, кожны з якіх уяўляе самастойную сэнсавую частку адзінага цэлага. Адзначым асаблівасці тэкставай прасторы аналізаванага навелістычнага апавядання: 1) унутраны маналог персанажа, перададзены апасродкаваным шляхам; 2) апісанне навакольнага асяроддзя як сродак стварэння знешняга антуражу без прамой суаднесенасці з эмацыянальным настроем і галоўнай сюжэтна-падзейнай лініяй; 3) дэталёвыя прадметна-бытавыя замалёўкі; 4) апісанне знешняга аблічча з акцэнтацыяй увагі на асобных дэталях; 5) беглы зварот да дэталей, якія пры разгортванні кульмінацыі набываюць акцэнтную афарбоўку.

"Стрыечніцу" і "Пакупніка сноў" аб'ядноўвае незавершанасць сюжэтнай лініі. Розніца заключаецца ў змесце адкрытай канцоўкі. "Пакупнік сноў" заканчваецца на навелістычнай дамінанце, у той час як "Стрыечніца" завяршаецца філасофскім роздумам, якому папярэднічае раскрыццё навелістычнага pointe.

Адкрыты фінал тэксту "Стрыечніцы" не з'яўляецца сведчаннем наяўнасці коды як структурнага элемента навелы (згодна з тэорыяй А. Рэфармацкага, кода – элемент, які прадугледжвае нешта новае ў фінальнай частцы [5]). Навелістычнай прыкметай можна лічыць прысутнасць яскравага нечаканага павароту ў ходзе развіцця незвычайнага ўчынку героя. Астатнія вышэйакрэсленыя прыкметы з'яўляюцца выразнымі жанравызначальнымі паказчыкамі апавядання. Адзначанае дазваляе ідэнтыфікаваць жанравую прыроду дадзенага тэксту як навелістычнае апавяданне.

Выразным навелістычным характарам вылучаецца твор Ю. Станкевіча **“Прытча пра жука-чарнацёлку”**. Згодна з канонам навелістычнага жанру ў цэнтры ўвагі пісьменніка адзін незвычайны момант з жыцця галоўнага героя, следчага Локаса. Знешняя арганізацыя тэксту традыцыйная. Уступны інфармацыйны сегмент адразу паведамляе чытачу максімум фактаў, неабходных для спасціжэння сутнасці сюжэтнай лініі.

Уступная частка вызначаецца прасторава-часавай сфакусіраванасцю і інфармацыйна-паведамляльнай насычанасцю, якая дасягаецца шляхам лаканічнага выкладу падзей: знаёмства з цэнтральным персанажам, што суправаджаецца знешняй характарыстыкай і змяшчэннем звестак пра яго прафесію, абмалёўка часу і месца дзеяння, пачатак прычынна-выніковай падзейнай лініі.

Лаканізм, які гарманічна суправаджаецца інфармацыйнай насычанасцю, акцэнтацыя толькі на сюжэтна істотных дэталях – адметныя рысы, якія вылучаюць дадзены тэкст з шэрагу вышэйпрааналізаваных і служаць яскравым прыкладам рэалізацыі класічнага жанру навелы як у творчасці Ю. Станкевіча, так і ў сучасным прыгожым пісьменстве ў цэлым.

Змест дзеяння раскрываецца пры дапамозе развіцця дыялагічнай формы. Следчы Локас праводзіць допыт грамадзяніна Крэза, які абвінавачваецца ў забойстве сваёй нявесты. Зразумела, на прапанову добраахвотнага прызнання Крэз не згаджаецца, таму Локас вымушаны прымяняць іншыя прафесійныя спосабы раскрыцця заблытанай крымінальнай справы. Побач з традыцыйнымі следчы выкарыстоўвае незвычайны метад – асацыятыўны, пошук матывацыі дзеяння па падабенстве.

Распавед пра насякомае вылучаецца метафарычным характарам, а таксама выступае ў якасці ключа да пошуку навелістычнай разгадкі. Сярод разнастайных навелістычных падказак-ключоў (эпіграфы, выпадковыя дэталі, загалоўкі твораў, метафарычныя словазлучэнні) прыведзеная ў тэксце Ю. Станкевіча форма вызначаецца арыгінальнасцю. Па сутнасці, аповед пра жука-чарнацёлку з’яўляецца самастойнай сэнсавай часткай, устаўным падзейным блокам у адносінах да вядучай падзейнай лініі. Гэтая частка мае асобную структурную арганізацыю і сюжэтны план. Цэнтральны сюжэтны стрыжань выконвае кампазіцыйную функцыю абрамлення. І наадварот, аповед пра жука-чарнацёлку выконвае ролю сэнсава-матывацыйнага элемента ў агульнай прычынна-выніковай прасторы. Падобная ўзаемаабумоўленасць – лагічная і нечаканая адначасова. Дзякуючы акрэсленай антытэтычнасці навелістычная навізна набывае выразную вастрыню.

Прывёўшы ўсе істотныя аргументы, маючы на руках неабходныя бясспрэчныя доказы віны падследнага Крэза, Локас насуперак лагічнаму мысленню і ўстаноўленым прафесійным правілам здзяйсняе нечаканы ўчынак: ён знішчае пісьмовае сведчанне, якое дазволіла б абвінаваціць Крэза і ўстанавіць справядлівасць, прадпісаную законам.

Адметнай рысай раскрыцця навелістычнага pointe ў дадзеным творы Ю. Станкевіча з’яўляецца дэталёва прадстаўленая прычынна-выніковая сувязь у характары дзеяння. Аўтар падрабязна вымалёўвае матывацыйную лінію паводзін свайго персанажа: перш чым здзейсніць учынак, які цалкам супярэчыць прафесійнай этыцы, следчы Локас усебакова аналізуе сітуацыю, аддаючы перавагу спрадвечнай мудрасці, што за стагоддзі стала своеасаблівай аксіёмай: *«“Над жыццём няма суддзі”, – раптам успомнілася яму»* [3, с. 44].

Прыведзеная фінальная фраза – ключавая ў дачыненні да раскрыцця навелістычнай загадкі, лагічная кропка ў прычынна-выніковым ланцугу сюжэтнай лініі. Акцэнтуем увагу на тым, што дадзены твор, як і “Пакупнік сноў”, “Стрыечніца”, заканчваецца на навелістычнай дамінанце: пуантычны сегмент з’яўляецца канклюзіўным для ўсяго тэксту і не прадугледжвае з’яўлення коды.

Згадаем, што спецыфічнай навелістычнай прыкметай з’яўляецца лаканізм у выкладзе падзей, адсутнасць апісальнасці і кампазіцыйная строгасць. Адзначаныя асаблівасці характэрныя для твора “Прытча пра жука-чарнацёлку”. Лаканізм лёгка прасочваецца на марфалагічным узроўні: у якасці вядучага сродку пры раскрыцці падзей Ю. Станкевіч выбірае найбольш прадуктыўную для навелы часціну мовы – дзеяслоў. Менавіта з дапамогай дзеяслова сюжэтная лінія развіваецца хутка, а сэнсавая тканіна не перагрувашчваецца дэталямі, якія здольны паслабіць увагу чытача: *“І вось вы дома.* ***Увахodзіце*** *ў пад’езд,* ***падымаецеся*** *па лесвіцы. Ключ пры вас.* ***Адчыняеце*** *дзверы і ціхенька* ***ўваходзіце****. Тое, што* ***бачыце****,* ***прымушае*** *насцярожыцца… Вы па-ранейшаму бязгучна* ***ідзяце*** *да спальні,* ***прыадчыняеце*** *дзверы… Вы* ***адступаеце*** *на кухню і* ***вяртаецеся*** *з нажом…”* [3, с. 43]. Калі апусціць дадатковыя члены сказа, то па выказніках, выражаных дзеясловамі закончанага трывання, можна без асаблівых цяжкасцей скласці сюжэтную лінію. У гэтым і заключаецца спецыфіка навелістычнага тэксту. Такім жа чынам дасягаецца не менш істотная прыкмета навелы – дынамізм у развіцці падзей.

На падставе праведзенага даследавання мы можам зрабіць наступныя вывады: у творчасці

Ю. Станкевіча прадстаўлены класічныя і мадыфікаваныя формы навелы. Для навелістычных тэкстаў аўтара ўласцівы лаканізм у працэсе характарызацыі, наяўнасць адкрытай фінальнай часткі, што ўступае ў контрадыкторныя адносіны з асноўным падзейным планам твора і прадстаўляе чытачу права суаўтарства, адсутнасць лінейнасці ў разгортванні прычынна-выніковага ланцуга падзейнай лініі, чляненне адзінага тэкставага поля на сюжэтна-кампазіцыйныя сегменты, кожны з якіх мае самастойную зместавую тканіну, навелістычнае падзейнае ядро і развязку. Пры гэтым усе сегменты з'яўляюцца своеасаблівым звяном у агульнай навелістычнай тэкставай прасторы і падпарадкаваны адзінаму pointe, змешчанаму ў канклюзіўным сегменце. Часта аўтар звяртаецца да беглай рэтраспекцыі, а таксама да дэталізацыі і пашырэння апавядальнай часткі, якая адчувальна паслабляе ўвагу чытача на галоўнай падзеі і супярэчыць механізму сфакусіраванасці на цэнтральным інфармацыйным моманце, сведчыць аб набліжэнні да жанру апавядання. Асаблівасцямі тэкставай прасторы з'яўляюцца: дэталёвыя прадметна-бытавыя замалёўкі, спалучэнне прасторава-часавай сфакусіраванасці і інфармацыйна-паведамляльнай насычанасці, дыялагічная форма як сродак раскрыцця сюжэтна-падзейнай лініі, лаканізм у выкладзе падзей, адсутнасць апісальнасці і кампазіцыйная строгасць, ужыванне разнастайных сродкаў псіхалагічнага аналізу (мастацкая дэталь, партрэтныя і пейзажныя замалёўкі, жэстава-мімічная мова). Навелістычныя жанравыя рэалізацыі, прадстаўленыя ў творчасці Юрыя Станкевіча, з'яўляюцца істотным узбагачэннем навелістычнай сістэмы сучаснай літаратуры.

**Спіс літаратуры**

1. **Бахтин, М.** Проблемы поэтики Достоевского / М. Бахтин. – М. : Наука и техника, 1963. – 320 с.

2. **Жураўлёў, В. П.** Структура твора. Рух сюжэтна-кампазіцыйных форм / В. П. Жураўлёў. – Мінск : Навука і тэхніка, 1978. – 312 с.

3. **Станкевіч, Ю.** Пакупнік сноў. Стрыечніца. Прытча пра жука-чарнацёлку / Ю. Станкевіч // Полымя. – 2007. – № 12. – С. 25 – 44.

4. **Выготский, Л. С.** Психология искусства / Л. С. Выготский. – М. : Искусство, 1968. – 576 с.

5. **Реформатский, А. А.** Опыт анализа новеллистической композиции / А. А. Реформатский. – М. : Проф. техническая школа полиграф. производства, 1922. – 20 с.

**Марыя ВОІНАВА-СТРАХА,**
даследчыца літаратуры.

*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам філалагічных навук, прафесарам Іванам Штэйнерам.*

*Новыя выданні*

# КНІГА – ЯК СВЯТА

## "ПАМІЖ НЕБАМ І ЗЯМЛЁЙ" ВАСІЛЯ ЗУЁНКА

У кожную эпоху, якою яна ні была б шчодрай ці скупой для творцаў, ёсць шчаслівыя выпадкі выяўлення мастацкага таленту і асабістага духоўна-інтэлектуальнага свету ў самых розных жанрах. Новая кніга "Паміж небам і зямлёй" Васіля Зуёнка (Мінск: Беларуская навука, 2009) – адна з тых, якіх заўсёды не многа, але якія пацвярджаюць тэзіс пра няспыннасць руху незацуглянай ніякімі абставінамі людской думкі, пранікнёнай развагі над часам і жыццём, роздуму над з'явамі, адлюстраванымі ў вобразным слове.

Сам аўтар вызначыў жанравы дыяпазон кнігі так: *"Літаратурна-лінгвістычныя эсэ, эцюды, падарожныя нататкі"*. Нечым блізкія да яе з апошніх выданняў "Наталенне смагі" Янкі Сіпакова з падзагалоўкам "Дзённік настрою" (2007) і "Сума немагчымасцяў" (2009) Алеся Разанава. Блізкія багатымі тыпалагічнымі паралелямі, супастаўленнямі фактаў не толькі айчыннага прыгожага пісьменства, але і літаратур іншых народаў, эстэтычнай прыродай, ступенню густых асацыяцый, стылёвай манерай, не заціснутай жорсткімі рамкамі, лексічным снабізмам, што не дапускае на сваю тэрыторыю пранікнення адзінак з "ніжэйшых паверхаў": гутаркова-пабытавых слоў, наўмыснага сутыкнення высокіх і нізкіх рэгістраў інтанацыйна-семантычнай афарбоўкі тэксту, ягонай вольна-квяцістай плыні з элементамі падтэксту, гумару, вясёлай дзёрзкасці. І Зуёнак, і Сіпакоў, і Разанаў не толькі трывала прапісалі сябе ў паэтычнай анталогіі Беларусі, але і ўпэўнена сцвердзіліся ў эсэістыцы, крытыцы і літаратуразнаўстве, нярэдка даючы плён добрай псіхалагічнай прозы, сюжэтных апавяданняў і лірычных мініяцюр, істотна ўзбагацілі традыцыі Янкі Брыля і Міхася Стральцова.

Калі я чытаў раздзелы "Гукаючы слова…", "Матылёк", "На хвалях лясной дарогі" і "Дзесяць дзён другога адкрыцця", часта адчуваў тое, што і пры чытанні вершаў. Хоць кніга напісана мовай празаічнай, да яе арганічна стасуецца выказванне цудоўнага рускага лірыка Мікалая Забалоцкага пра трыяду чыннікаў паэзіі: "Думка, вобраз, музыка". Менавіта ў такой паслядоўнасці. У не-

падзельным адзінстве, у шчыльнай суладнасці тут знітаваны гэтыя іпастасі, якія выяўляюць індывідуальную манеру майстра, ягоныя эмацыянальныя імпульсы і філасофскую разважлівасць, аналітычнасць мыслення і яркую экспрэсіўнасць бачання кантрасных малюнкаў.

Большасць старонак зуёнкаўскай кнігі – пра паэзію, пра творчасць класікаў, арыгінальных майстроў сярэдзіны і канца ХХ ст., сённяшніх прадстаўнікоў паэтычнага цэха. Адвечныя пытанні, што яшчэ ў Старажытнай Грэцыі і антычным Рыме хвалявалі розум і пачуццё, жывуць і сёння. Што такое паэзія? Для каго яна і дзеля чаго? Якія яе функцыі ў грамадстве, у жыцці асобы? Чым яна адметная і самабытная? Ці патрэбна яна ўвогуле?

Васіль Зуёнак па-свойму, пераканальна-доказна, з моцнай аргументацыяй раскрывае непаўторны свет Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Янкі Сіпакова. Тут не толькі ўдумлівая размова пра папярэднікаў і равеснікаў (Юрась Свірка, Мікола Купрэеў, Раман Тармола – поруч з вышэйзгаданымі) – тых, хто ўваходзіў у літаратуру ў 1950-я – пачатку 1960-х гг., – малодшыя генерацыі таксама ў полі пільнага зроку. Варта пазнаёміцца з эсэ і эцюдамі "Гукаючы слова…", "Цівам", "Вельмі ўсё проста – як прошча…", "Акварэлі лета, графіка зімы…", "№ 26", "Згубіцца, каб застацца…", "На свеце было толькі двое…", "Хацеў бы парадавацца…", "Маснічка ў свет сунічны…" – і паўстануць выразна выяўленыя постаці Алеся Разанава, Сяргея Законнікава, Алеся Пісьмянкова, Леаніда Дранько-Майсюка, Віктара Шніпа, Алы Петрушкевіч, Кацярыны Варанцовай, Алены Якаўлевай.

Пра кожнага аўтара В. Зуёнак гаворыць не сцёртымі і збітымі фразамі, а паўнакроўна-свежа. Багатыя моўныя адметнасці лексічных абсягаў цвердзяць пра магутныя рэсурсы роднага слова, але творца перадае і заўжды надзённы клопат: "*Мова – душа народа. Берагчы, узбагачаць мову – значыць берагчы, узбагачаць душу народную. Мова народа – той неацэнны і непаўторны скарб, якім ён робіць неацэнны і непаўторны ўнёсак у скарбніцу сусветнай цывілізацыі…*"

І ў самых лаканічных мініяцюрах ("Прывезенае і згубленае", "Мышынае вочка", "Пра Іванаў… і не толькі…", "Дзе яшчэ знойдзеш…"), і ў аб'ёмна-грунтоўных матэрыялах ("І жаўранак, і цэлы свет у сэрцы…", "Паэзіі птушка чароўная", "Вы шуміце, бярозы…") – жаданне спасцігнуць і перадаць іншым шчырае здзіўленне ад сустрэчы з незвычайным і яркім, смелым і нечаканым, дасціпным і сардэчным у чалавеку, у ягонай гаворцы, ягонай душы і адносінах да людзей і ўсяго існага на зямлі і ў небе.

Асэнсаванне творчага працэсу ў кнізе В. Зуёнка не дэкларацыйна-схаластычнае, а прасякнутае глыбокімі развагамі, паяднанымі з вопытам вякоў, з філасофскімі, тэалагічнымі, эстэтычнымі ўрокамі і запаветамі, пакінутымі нашчадкам. Шукаючы адказы на пытанні, што перадаюцца з пакалення ў пакаленне, аўтар звяртаецца і да біблейскіх матываў, і да лёсу выдатных асоб мінулых эпох: «*Як Бог з Хаосу стварыў гармонію Сусвету, так кампазітар стыхійны космас гукаў скіроўвае ў рэчышча музыкі; гэтак і паэт у невычэрпным моўным акіяне чуе і "выводзіць у людзі" тыя, адзіныя, словы, раўназначныя, гарманічна адпаведныя яго пачуццю, яго душэўнаму настрою і інтэлектуальнаму запыту. Слова – перш-наперш гучыць, а потым ужо выяўляецца сэнсам. Гэты "гукавы штуршок" рэзануецца не толькі з фізіялагічным слыхам, але і, – пэўна, перш за ўсё, – з тымі вобразамі, што тояцца недзе ў глыбінях душы, чакаюць свайго паклікання… Нездарма ж Аляксандр Блок у хвіліну творчага крызісу з горыччу ўсклікнуў, што ён не чуе музыкі, маючы на ўвазе гармонію Сусвету і ўласнага духу*».

Сур'ёзнасць гаворкі, не абцяжаранай стылёвай груваcткасцю, не перанасычанай дыдактычнымі формуламі і маралізатарскімі віньеткамі-сентэнцыямі, яднаецца ў кнізе з даверлівай усмешкай, адкрытым запрашэннем да дыялогу і спрэчкі – дзеля ісціны.

Васіль Зуёнак рупіцца, каб мастацкае слова не зрабілася пустой забаўкай-цацкай, наборам рыфмаваных (ці без рыфмы) фанцікаў дзеля гульні групкі аматараў, якім хочацца абвясціць сябе першапраходцамі. На справе ж высвятляецца, што "навінка" ўжо не раз да нас была ў гісторыі літаратуры.

Майстэрства палеміста і дасведчанага знаўцы эвалюцыі вершаванай мовы, яе шматграннай прыроды дэманструе пісьменнік на многіх старонках. Але, бадай, найбольшую цікавасць і ў практыкаў, і ў тэарэтыкаў, і ў чытачоў, неабыякавых да паэтычнай творчасці, выкліча артыкул "Гукаючы слова…". Ён складаецца з дзвюх частак: "Генетычная памяць вобраза" і "Рыфма, гучная сяброўка…". Тут даследчыцкі талент В. Зуёнка, яго інтэлектуальная база, агульная эрудыцыя, веданне многіх літаратур выявіліся надзвычай пераканальна, займальна, бліскуча.

Даследаванне шчодра і, разам з тым, з адчуваннем патрэбнай меры насычана прыкладамі-ілюстрацыямі як з беларускай паэзіі, так і з рускай – самых розных часоў. У цесным сяброўстве, "у добрай згодзе" Купала і Пушкін, Колас і Твардоўскі, Багдановіч і Блок, Панчанка і Ясенін, Вялюгін і Бродскі… Спасылкі на англійскіх, французскіх, нямецкіх філосафаў і майстроў мастац-

кага слова (Шэкспір, Буало, Гюэ, Гётэ) не толькі пашыраюць кола аргументацый, але і садзейнічаюць стварэнню панарамнага еўрапейскага абсягу бачання верша, не замкнёнага выключна ў нацыянальных рамках.

Калі чытаеш эсэ "Гукаючы слова…", то ўзнікае ўражанне, што з табой размаўляе выдатна дасведчаны экскурсавод, які з любоўю адкрывае многія краявіды ў краіне Паэзіі. Невыпадкова ў памяці ўсплывае вобраз апантанага апавядальніка, знаўцы архіўных таямніц Іраклія Андронікава, што збіраў каля чорна-белых тэлеэкранаў мільёны гледачоў розных прафесій і ўзростаў. Гаворка вядзецца не пра любоўныя інтрыгі ці зігзагі мадам Фартуны ў жыцці паэтаў, а ўсяго толькі пра… дзеяслоўную рыфму, яе месца ў радку, страфе, творы, яе службу ў паэтычным войску. Дрэнная яна ці добрая? Банальна-праходная ці апраўданая? Дзе яна – "краса і сіла", а дзе – шлёганне бізуном па вадзе? Зрабіўшы экскурс у мінулае, добра павадзіўшы (але не стаміўшы) чытача па сцежках сучасных паэтычных паркаў і садоў, В. Зуёнак у фінале вандроўкі "рэабілітуе" неаднойчы сапхнутую з вершаванай магістралі ў кювет дзеяслоўную рыфму. Але апраўдвае яе не агулам, а там, дзе яна на неабходным месцы, дарэчы, дзе не паслабляе, не зніжае эстэтычных функцый твора. І колькі ў гэтым аналізе трапных назіранняў, яркіх малюнкаў, дакладных вызначэнняў!

Вельмі свежа ўспрымаюцца зуёнкаўскія лаканічныя абразкі пра пісьменнікаў – і пра жывых, і пра тых, каго забрала зямля: Васіля Вітку ("Астэціка"), Янку Брыля ("Сонца з-за ліпы"), Міколу Лупсякова ("Матылёк")…

Узбагачаюць тэматычную прастору кніжкі і эцюды «Отказ "Сыроежке"», "Рытмы і мерны аршын", "В пугачёвском тулупчике…", дзе роздум пра творчы лёс, пра індывідуальную непаўторнасць і акалічнасці нараджэння асобных твораў рускіх аўтараў – Міхаіла Прышвіна, Яраслава Смелякова, Веліміра Хлебнікава. Некаторыя эпізоды іх творчых біяграфій раскрываюцца і праз пісьменніцкія дзённікі, і праз публікацыі, адмежаваныя ад нашых дзён многімі дзесяцігоддзямі.

Даследуючы *"сакрэты паэтычнага майстэрства, этымалагічныя глыбіні слова"*, В. Зуёнак прапануе чытачу і цыкл зусім лапідарных мініяцюр "На хвалях лясной дарогі" – пра людзей Беларусі і нашу прыроду, пра імгненні радасці і свята звычайных будняў, пра шчасце адкрыцця свету і чалавека ў творах Антона Чэхава ("Зламаныя ды нязломныя!.."), Льва Талстога ("Лядзела зярнятка…"). Між сусветна вядомых асоб ёсць месца і нашым суайчыннікам. Замалёўка "Шапку не знімаў…" – пра "не заносістага" празаіка, франтавіка Аркадзя Марціновіча. Яна вельмі арганічна дапаўняе галерэю пісьменніцкіх імёнаў. У ёй – штрыхі да жывога партрэта чалавека, які шмат ведаў і выцерпеў.

Псіхалагічна багаты, па-мастацку ёміста насычаны абразок "Павучок" нібы падказвае сучасным педагогам: вось гэты твор – ды ў хрэстаматыю па роднай літаратуры! Тут ёсць пра што падумаць – і не толькі дзецям…

Увогуле, пра што ці каго ні пісаў бы В. Зуёнак, усюды ў яго мова шматфарбная, вобразная, узгодненая сэрцам і дыханнем. Што ж, як паэт ні "хаваўся" б у іншых жанрах – ад сябе не ўцячэш. Пацвярджае сказанае і эсэ "Дзесяць дзён другога адкрыцця" – своеасаблівы нарыс пра ўласнае ўспрыманне Амерыкі, пра тых, з кім сустракаўся і знаёміўся, хто запомніўся, пакінуў след у беларускай душы. Россып асацыяцый, развагі, запытанняў – усё, што турбуе і выклікае дыскусійны градус, знаходзіць месца ў публікацыі, якая… не толькі пра Амерыку. Тут і тактоўная, але разгорнутая палеміка з паэтам і крытыкам Фёдарам Яфімавым, і згадкі пра Уладзіміра Караткевіча і "Летающего мужика" (Андрэй Вазнясенскі) – неардынарнага гаспадарніка, знакамітага кіраўніка-аграрніка, двойчы Героя Сацыялістычнай Працы Уладзіміра Бядулю… І гаворыць В. Зуёнак пра ўсё і ўсіх не пратакольна-суха ці халадна-млява, а па-маладому захоплена і страсна і па-сталаму пранікнёна і ўзважана.

Добра працуюць на аўтарскую канцэпцыю кнігі шматлікія фотаздымкі – летапіс змястоўна пражытых гадоў. У дакументах часу – і сябры дзяцінства, выпускнікі Узнацкай сямігодкі (1950), і пабрацімы з Балгарыі і Украіны (Найдан Вылчаў, Іван Драч – 1984 і 1994 гг.), і амерыканскія сябры Сюзана і Джэф Поп (1988), і калегі-землякі па творчым прызванні, ад 90-гадовага патрыярха Кандрата Крапівы да Яўгеніі Янішчыц, Алы Канапелькі, Генрыха Далідовіча, Леаніда Дранько-Майсюка… Усе яны былі аднойчы пакліканы лёсам служыць літаратуры, многія – капрызнай паненцы Паэзіі.

…Загорнута апошняя старонка. Само па сабе выспела жаданне: паболей бы такіх кніг сёння. Яны патрэбны духоўнаму свету чалавека, душа якога і на грэшнай зямлі, і ў святых нябёсах. А яшчэ падумалася: як не хапае сучаснікам, не хапае нам усім Алеся Адамовіча, Уладзіміра Калесніка, Міхася Стральцова, Віктара Каваленкі, Варлена Бечыка – тых, для каго роднае слова было сэнсам жыцця, яго штодзённым клопатам і натхненнем.

**Віктар ЯРАЦ,**
кандыдат філалагічных навук,
дацэнт кафедры беларускай літаратуры
Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны.

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*



# МОВЫ РЫСЫ НЕПАЎТОРНЫЯ

*З гісторыі мовазнаўства*

## КІРЫЛА-МЯФОДЗІЕЎСКАЯ ФІЛАЛАГІЧНАЯ ШКОЛА IX – X стст.

### КРЫТЭРЫІ ВЫЗНАЧЭННЯ ПАНЯЦЦЯ

**1. Уводзіны.** Большасць сучасных даследаванняў, прысвечаных найважнейшаму перыяду славянскай гісторыі – перыяду стварэння Канстанцінам-Кірылам і Мяфодзіем пісьменнасці для славян, – паказвае Кірыла-Мяфодзіеўскую школу як выключна практычна-перакладчыцкую. Аднак дадзеныя помнікаў, напісаных славянскімі першаасветнікамі і іх вучнямі, патрабуюць распрацоўкі новага погляду на дзейнасць прадстаўнікоў Кірыла-Мяфодзіеўскага кола як самастойнай сярэдневяковай філалагічнай школы, у межах якой не толькі вырашаліся вузкапрактычныя задачы (пераклад літургічных тэкстаў і распаўсюджанне хрысціянскага вучэння на славянскай мове), але і фарміраваліся асновы тэарэтызавання аб мове як сацыяльнай з'яве.

**1.1. Паняцце "школа" ў сучаснай палеаславістыцы.** У сучасных палеаславістычных даследаваннях існуе некалькі падыходаў да вызначэння паняцця "школа". Адрозніваюць некалькі тыпаў "школ" у гісторыі кніжна-пісьмовай культуры славянскага Сярэднявечча: 1) графічная школа, прыкметай прыналежнасці да якой з'яўляецца адзіны графічны стандарт; 2) перакладчыцкая школа, для якой характэрны адзіныя прынцыпы (па літары або па сэнсе) і прыёмы перакладу, агульныя рысы мовы і стылю, асаблівая манера выкладу; 3) літаратурная ("кніжная") школа, што прадугледжвае аўтарскую творчасць індывідуумаў, якая вылучаецца адметнасцямі паэтыкі, стылю і мовы, тэматыкі і жанру, што ў прынцыпе маласумяшчальнае з нормамі сярэдневяковай літаратурнай сферы, арыентаванай на ўніверсалізм і ананімнасць. У сувязі з гэтым некаторыя даследчыкі прапануюць гаварыць не пра кніжную школу, а пра кніжны цэнтр, які аб'ядноўвае функцыі ўсіх вышэйпералічаных школ, паколькі ў ім "у рэальных умовах літаратурныя творы чытаюцца, перакладаюцца, пішуцца і перапісваюцца" [1, с. 107]. На самай справе, такія цэнтры славянскай пісьменнасці, як Охрыд і Прэслаў, Хіландар і Заграф, Тырнава і Рэсава ўяўляюць сабой "асяродак" кніжна-пісьмовай культуры, будучы цэнтрамі "сапраўднага літаратурнага дзеяння і творчасці" – ад элементарнага перапісвання кніг да арыгінальных і глыбокіх аўтарскіх знаходак. У кантэксце такога разумення *школы* ў дачыненні да славянскай пісьмовай гісторыі варта адзначыць, што змест паняцця "сярэдневяковая філалагічная школа" прадугледжвае больш шырокі набор функцый і дыферэнцыйных крытэрыяў у параўнанні, напрыклад, з перакладчыцкай або літаратурнай школамі.

Такім чынам, філалагічная школа, што склалася ў славян у IX – X стст., можа быць вызначана як структура з асветніцкімі і навуковымі мэтамі. Яе ўзнікненне было абумоўлена дзейнасцю Канстанціна-Кірыла і Мяфодзія, якія распрацавалі сістэму агульных асноватворных прынцыпаў і кірункаў развіцця гэтай школы ў сувязі з рэфлексіяй над моўнымі праблемамі самага шырокага спектра – ад канкрэтных выпадкаў моўнага вар'іравання пры перакладзе да тэарэтычных пытанняў, звязаных з моўнай семантыкай пры інтэрпрэтацыі складаных тэолага-філасофскіх катэгорый. Для вызначэння межаў паняцця "Кірыла-Мяфодзіеўская філалагічная школа" мы будзем зыходзіць з лінгвістычных і экстралінгвістычных крытэрыяў.

**1.2. Лінгвістычныя крытэрыі паняцця "Кірыла-Мяфодзіеўская філалагічная школа IX – X стст.".** Да лінгвістычных крытэрыяў, якія дазваляюць даць прадметную характарыстыку феномена Кірыла-Мяфодзіеўскай філалагічнай школы IX – X стст., варта аднесці яе першапачатковы *білінгвізм*. Выкарыстанне грэчаскай і славянскай моў у якасці мовы-арыгінала і мовы-рэцыпіента пры трансляцыі грэка-візантыйскага дыскурсу ў славянскую маўленчую галіну – гэта не адзіна магчымая сітуацыя рэалізацыі двухмоўя славянскіх асветнікаў. Білінгвізм першанастаўнікаў славян і іх вучняў быў запатрабаваны ў розных сферах іх дзейнасці. У прыватнасці, характарызуючы ступень валодання грэчаскай мовай Канстанціна-Кірыла, Я. Верашчагін мяркуе: калі мы не дапусцім, што Канстанцін-Кірыл добра валодаў грэчаскай мовай, "то мы павінны адмаўляць сведчанне падрабязнага жыцця Кірыла пра яго спрэчку са звергнутым патрыярхам Іаанам Граматыкам, мы павінны адмаўляць яго багаслоўскую падрыхтоўку, мы павінны адмаўляць яго шматлікія місіянерскія поспехі, мы павінны адмаўляць яго аўтарства ў стварэнні канона Клімянту і г. д." [2, с. 177]. З іншага боку, аналіз мовы

кірыла-мяфодзіеўскіх перакладаў дазваляе гаварыць пра тое, што "славянскія першанастаўнікі цудоўна валодалі славянскай мовай. Аргументам тут у першую чаргу з'яўляецца выбар залежных слоў у словазлучэннях. <…> Указанне на зусім неабумоўлены грэчаскай мовай выбар залежных слоў валодае яшчэ большай пераканальнасцю" [2, с. 172 – 173].

Варта таксама адзначыць, што білінгвізм кніжнікаў Кірыла-Мяфодзіеўскай школы не выключаў праяў моўнага плюралізму. Акрамя першапачатковага грэка-славянскага двухмоўя саміх салунскіх братоў, якое абумовіла характар перакладчыцкай дзейнасці школы, неабходна ўлічваць факты выкарыстання іх вучнямі (напрыклад, мараванінам Гараздам, добра знаёмым з хрысціянскай тэрміналогіяй, якая ўжо была распаўсюджана ў Маравіі) лацінскіх і старажытнаверхненямецкіх крыніц для стварэння славянскага літургічнага дыскурсу.

Кірыла-Мяфодзіеўская агіяграфія захавала звесткі пра тое, што білінгвізм славянскіх асветнікаў сапраўды ўспрымаўся як адметная адзнака, якая вызначала характар іх дзейнасці. Так, аўтар адкрытай К. Івановай "Службы святому Кірылу", якая была напісана пасля XVI ст. і ўключана ў склад Мюнхенскай святочнай мінеі XVII ст., прыўносіць у культ першанастаўніка матыў "забыцця" Канстанцінам-Кірылам грэчаскай мовы і наданне перавагі славянскай: **мнѡга искꙋшеніа претрьпель еси ст҃лю Кѵриле. ѿ солꙋнганы ненависть. како забыль еси езыка грьчьскаго. словесных бльгарех бл҃годареніе** [цыт. па: 3].

Адным з асноўных лінгвістычных крытэрыяў вызначэння прыналежнасці помніка да кола аўтараў Кірыла-Мяфодзіеўскай школы IX – X стст. з'яўляецца *алфавітная сістэма*, з дапамогай якой быў запісаны аўтарскі арыгінал. Прыцягваючы да даследавання славянскую частку Кірыла-Мяфодзіеўскага корпуса, мы зыходзім з таго факта, што асноўныя створаныя ў рамках раннеславянскай філалагічнай школы тэксты першапачаткова мелі глагалічныя пратографы.

Акрамя гэтага, фактарам, што пацвярджае існаванне філалагічнай школы або іншай формы арганізаванай і сістэматычнай філалагічнай працы, з'яўляецца *тэксталагічная традыцыя*, якая праяўляецца ў выпрацоўцы стабільных па складзе тэкстаў. У сувязі са старaславянскімі перакладнымі богаслужбовымі тэкстамі, якія ўзніклі ў Кірыла-Мяфодзіеўскай школе IX – X стст., можна гаварыць пра тое, што "правільным" для перапісчыкаў быў кірыла-мяфодзіеўскі архетып*, замацаваны літургічнай практыкай.

**1.3. Экстралінгвістычныя крытэрыі паняцця "Кірыла-Мяфодзіеўская філалагічная школа IX – X стст."**. Найважнейшымі экстралінгвістычнымі крытэрыямі варта лічыць дадзеныя пра *храналогію* і *лакалізацыю* школы.

У храналагічным плане ўзнікненне Кірыла-Мяфодзіеўскай філалагічнай школы можа быць аднесена непасрэдна да таго перыяду місіянерскай дзейнасці Канстанціна-Кірыла і Мяфодзія, які прынята звязваць з першым этапам станаўлення традыцыі *Slavia Orthodoxa*. У гэты час, г. зн. з 863 да 885 г., закладзена аснова Кірыла-Мяфодзіеўскай філалагічнай традыцыі: напісаны на грэчаскай мове і перакладзены на славянскую праграмныя творы, у якіх вызначаны найважнейшыя напрамкі метамоўнай рэфлексіі; абгрунтаваны прынцыпы перакладчыцкай дзейнасці; пакладзены пачатак стварэнню філалагічнай тэрміналогіі і інш. Ніжняй мяжой існавання школы мы будзем лічыць час заканчэння другога этапу ў развіцці вышэйадзначанай традыцыі. Гэты перыяд распачаўся адразу пасля смерці Мяфодзія і выгнання яго вучняў з Маравіі і доўжыўся на працягу ўсёй сімяонаўскай эпохі ў Балгарыі. У гэты перыяд найбліжэйшыя вучні і паслядоўнікі славянскіх першанастаўнікаў змаглі ўмацаваць свае пазіцыі ў дыскусіі вакол статусу старaславянскай мовы дзякуючы кананізацыі салунскіх братоў: святасць апосталаў славян азначала артадаксальнасць іх справы. Акрамя таго, менавіта ў гэты час (у апошнія дзесяцігоддзі IX – першыя дзесяцігоддзі X ст.) сумеснымі намаганнямі вучняў Мяфодзія і балгарскіх кніжнікаў было завершана стварэнне корпуса богаслужбовых тэкстаў на славянскай мове, а таксама зроблены пераклады цыклаў казанняў, багаслоўскіх твораў, помнікаў візантыйскай гістарыяграфіі і інш.

Лакалізацыя Кірыла-Мяфодзіеўскай філалагічнай школы вызначаецца тым, якія цэнтры дамінавалі ў працэсе развіцця кніжна-пісьмовай культуры арэала *Slavia Orthodoxa* ў розныя перыяды дзейнасці прадстаўнікоў школы. Лагічна суаднесці гэтыя перыяды з *мараўска-панонскім* і *балгарскім* этапамі, якія традыцыйна вылучаюцца ў гісторыі стварэння славянскай пісьменнасці і старaславянскай мовы.

Мараўска-панонскі перыяд можа быць адзначаны безумоўным адзінствам школы, якую, прытрымліваючыся гістарыяграфічнай традыцыі, варта першапачаткова лакалізаваць у Велеградзе. Як сведчаць археалагічныя дадзеныя, гэта быў найстарэйшы хрысціянскі цэнтр у Вялікай Маравіі, які таксама меў камерцыйныя і культурныя кантакты з Візантыяй. Акрамя таго, ёсць звесткі, што ў гэтым цэнтры існавала паселішча грэчаскіх святароў, якія прыбылі ў Велеград да 863 г. і, верагодна, спрыялі Канстанціну-Кірылу і Мяфодзію ў іх місіянерскай, катэхізатарскай і адукацыйнай дзейнасці [гл. 5, с. 119 – 120]. У Паноніі ў якасці такога цэнтра варта назваць Блатэнград – сталіцу князя Коцела.

У наступны – балгарскі – перыяд існавання Кірыла-Мяфодзіеўскай філалагічнай школы можна гава-

* Вядома, што арыгіналы кірыла-мяфодзіеўскіх тэкстаў не захаваліся. Старaславянскія помнікі, што дайшлі да нашага часу, датуюцца X – XI стст. і змяшчаюць значныя адхіленні ад мовы першых перакладаў.

рыць пра яе лакалізацыю ў двух канкурэнтных цэнтрах у Охрыдзе і Прэславе. Традыцыі першанастаўнікаў у гэтых найбуйнейшых цэнтрах раннеславянскай кніжна-пісьмовай культуры захоўвалі і развівалі Клімент Охрыдскі (пам. 916) і Канстанцін Прэслаўскі (пам. каля 910). З Охрыдскай кніжнай школай, якая вядзе свой пачатак з дасімяонаўскай пары, былі таксама звязаны Навум Охрыдскі (пам. 910), архіепіскап Феафілакт (каля 1085 – каля 1107). Гісторыя Прэслаўскага кніжнага цэнтра фарміравалася ў сувязі з дзейнасцю цара Сімяона (893 – 927) і яго кола, да якога былі блізкія Іаан, экзарх балгарскі (пач. X ст.), Казьма Прэсвітэр і, магчыма, Чарнарызец Храбр. Храналагічныя межы Прэслаўскага кніжнага цэнтра варта вызначыць, пачынаючы з 885 – 886 гг. і да 972 г. – часу разбурэння Прэслава. Охрыдскі і Прэслаўскі кніжныя цэнтры вызначылі аблічча славянскай літаратуры IX – X стст., яе залаты век, на працягу якога былі створаны такія помнікі, як "Вучыцельнае Евангелле" Канстанціна Прэслаўскага, "Нябёсы" і "Шасцідзён" Іаана Экзарха, прамоўніцкая проза Клімента Охрыдскага, гімнаграфічныя сачыненні Канстанціна Прэслаўскага і Навума Охрыдскага.

Да экстралінгвістычных крытэрыяў вызначэння паняцця "школа" таксама можна аднесці наяўнасць агульнага для ўсіх прадстаўнікоў школы культу асабліва шанаванага святога, які ў той ці іншай ступені вызначаў аксіялагічныя прыярытэты. Як вядома, прадстаўнікі Кірыла-Мяфодзіеўскага кола знаходзіліся пад уплывам культу св. Клімента Рымскага, чацвёртага рымскага папы, пакутніка, які загінуў у Херсоне падчас кіравання імператара Траяна (97 – 117 гг.). Гэты ўплыў дакументальна пацвярджаюць звесткі, змешчаныя ў перададзеным у VIII раздзеле "Падрабязнага Жыція Мяфодзія" пасланні рымскага папы Адрыяна II да славянскіх князёў. Адрыян, у прыватнасці, піша пра тое, што стварэнне славянскай пісьменнасці было магчыма дзякуючы заступніцтву св. Клімента, які шанаваўся як апякун вялікамараўскай місіі і Славянскай царквы ў Маравіі: **ꙗкоже ѥсть философъ началъ Костантинъ бж҃ию бл҃годатью и з[а] мл҃твы ст҃го Климента, такоже же, аще инъ кърто възможеть достоино и правовѣрьно съказати** (ПЖМ VIII, 189).

Акрамя таго, на думку Ф. Грывеца [6, с. 223], верагодна, з мэтай богаслужбовага выкарыстання былі перакладзены на стараславянскую мову тры сачыненні Канстанціна-Кірыла, напісаныя ім з нагоды атрымання мошчаў св. Клімента. Гэта згаданыя Анастасіем Бібліятэкарам у лісце да Гаўдэрыха кароткая гісторыя (*historia brevis*), пахвальнае слова (*sermo declamatorius*) і гімн "аб праслаўленні Бога і добраслаўёнага Клімента" (*FL* VII, 206 – 207), першыя два з якіх Анастасій сам пераклаў з грэчаскай на лацінскую мову. Сведчанні крыніц, звязаных з імем Анастасія Бібліятэкара, дазваляюць выказаць здагадку, што ён давярае гісторыі атрымання мошчаў св. Клімента. Аднак Анастасій таксама піша пра тое, што сам Канстанцін Філосаф адмовіўся распавесці пра гэты эпізод сваёй херсонскай місіі [гл. 7].

Вядома, што культ рымскага папы Клімента адначасова з культам св. Дзмітрыя Салунскага быў актуальны для Кірыла-Мяфодзіеўскай традыцыі, якая назаўсёды звязвае з імёнамі першанастаўнікаў не толькі стварэнне славянскай пісьменнасці, але і распаўсюджанне сярод славян культу рымскага святога. У прыватнасці, вядома, што ўшанаванне св. Клімента мела месца ў сярэдневяковай Балгарскай царкве ў якасці своеасаблівага "богаслужбовага маравізму", які захаваўся ў літургічнай практыцы (яго імя было ўключана ў малітоўнікі побач з асабліва шанаванымі ўсходнімі і заходнімі святымі), таксама імя святога сустракаецца ў старабалгарскіх помніках (у асноўным агіяграфічных) і ў складзе надпісаў на сценах старажытных храмаў (напрыклад, у балгарскім сяле Раўна) [гл. 4].

**1.3. Вывады.** Місіянерская дзейнасць Канстанціна-Кірыла і Мяфодзія сярод славян прадугледжвала стварэнне філалагічнай школы, што выконвала акрамя ўласна асветніцкіх задач функцыі навуковага цэнтра, адной з мэт якога было тэарэтызаванне з нагоды ўсяго комплексу праблем, звязаных з уяўленнем пра мову ў эпоху Сярэднявечча. Дадзены напрамак дзейнасці кніжнікаў Кірыла-Мяфодзіеўскага кола абумовіў тое, што першая раннеславянская філалагічная школа забяспечыла глыбокія сувязі паміж навуковымі пошукамі папярэдняй візантыйскай філалагічнай традыцыі і наступнымі этапамі станаўлення і развіцця лінгвістычнай навукі ў славян.

### Прынятыя скарачэнні

**ПЖМ** – Пространное Житие Мефодия. Цит. по : Климент Охридски. Събрани съчинения. – София, 1973. – Т. 3. – С. 160 – 212; **FL** – Латински извори за българската история (Fontes Latini historiae Bulgaricae). – София, 1960. – Т. 7, ч. 2. – 410 с.

### Спіс літаратуры

1. **Богданович, Д.** Књижовна школа и књижовно средище / Д. Богданович // Старобългаристика. – 1983. – Г. VIII, № 4. – С. 106 – 109.
2. **Верещагин, Е. М.** Из истории возникновения первого литературного языка славян. Переводческая техника Кирилла и Мефодия / Е. М. Верещагин. – М. : Изд-во МГУ, 1971. – 255 с.
3. **Иванова, К.** Неизвестна служба за св. Кирил в състава на Празничен миней от XVII в. / К. Иванова // Старобългаристика. – 1992. – Г. XVI, № 3. – С. 37 – 40.
4. **Попконстантинов, К.** За почитането на Климент, папа римски в средновековна България (по епиграфски данни от IX – X век) / К. Попконстантинов, Т. Смядовски // Старобългаристика. – 1983. – Г. VIII, № 4. – С. 86 – 92.
5. **Dittrich, Z. R.** Christianity in Great Moravia / Z. R. Dittrich. – Groningen : J. B. Wolters, 1962. – 316 p.
6. **Grivec, F.** Konstantin und Method, Lehrer der Slaven / F. Grivec. – Wiesbaden : O. Harrassowitz, 1960. – 270 s.
7. **Pastrnek, F.** Dějiny slovanských Apoštolů Cyrilla a Methoda / F. Pastrnek. – V Praze : Nakl. jubilejního fondu Král, České společnosti, 1902.

**Алена СУРКОВА,**
кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

*Малады даследчык прапануе*

# СЕМАНТЫЧНАЯ ДЭРЫВАЦЫЯ ПРЫМЕТНІКАЎ ТАКТЫЛЬНАГА ЎСПРЫМАННЯ СА ЗНАЧЭННЕМ ‘ЦВЁРДЫ’, ‘МЯККІ’

Усе словы любой мовы могуць быць класіфікаваны на семантычнай аснове. Аб’яднанне моўных адзінак у лексіка-семантычныя групы (ЛСГ) адбываецца на падставе інварыянтнага значэння, агульнай функцыі або камбінацыі гэтых крытэрыяў.

Прыметнікі пачуццёвага ўспрымання пазначаюць прыкметы, якія ўспрымаюцца органамі пачуццяў. Семантычнае поле “ўспрыманне” мае выразную структуру, што адлюстроўвае сам працэс фізічнага ўспрымання і складаецца з пяці мікрапалёў: прыкметы, якія ўспрымаюцца зрокам, на слых, на смак, нюхам і датыкальна. У сваю чаргу ў склад кожнага мікраполя ўваходзіць некалькі тэматычных падгруп з розным аб’ёмам і рознай структурай [1, с. 30].

Тактыльнае ўспрыманне складаецца з тактыльных, тэмпературных адчуванняў скуры, болевых і мускульна-сустаўных адчуванняў. Тактыльныя прыметнікі пазначаюць прыкмету, якая ўспрымаецца органамі дотыку, а іх першаснае значэнне ўтрымлівае сему ‘які ўспрымаецца навобмацак’. Дадзеная ЛСГ у беларускай мове прадстаўлена наступнымі тэматычнымі падгрупамі: прыметнікі, з дапамогай якіх апісваюцца прыкметы вонкавай будовы прадмета (якасць паверхні, прыкмета ‘вільготнасць / сухасць’, форма прадмета) і ўнутранай будовы прадмета (прыкметы ‘цвёрдасць / мяккасць’, ‘гнуткасць / нягнуткасць’, ‘гушчыня / вадкасць’), тэмпературныя, вібрацыйныя і болевыя прыметнікі.

Выбар тактыльных прыметнікаў, а менавіта лексем са значэннем ‘цвёрды’,‘мяккі’ як аб’екта даследавання, тлумачыцца тым, што дотык з’яўляецца адным з найбольш старажытных адчуванняў [2, с. 54, 55].

Прыметнікі тактыльнага ўспрымання здольныя да рэгулярнага фарміравання пераносных значэнняў, што звязана з семантычнай блізкасцю прыметнікаў, бо менавіта аднатыпныя кампаненты семантыкі – аснова для ўзнікнення падобных вытворных значэнняў. Тэматычныя падгрупы ЛСГ тактыльных прыметнікаў узаемадзейнічаюць і ўзаемапранікаюць адна ў адну, утвараючы кантынуум. Так, адна і тая ж лексема можа належаць да розных тэматычных падгруп ЛСГ тактыльнага ўспрымання, што праяўляецца ў дыфузнасці асноўных значэнняў шматзначнага слова і аказвае пэўны ўплыў на мадэлі семантычнай дэрывацыі.

Аб’ект дадзенага даследавання – прыметнікі (а таксама ад’ектываваныя дзеепрыметнікі) тактыльнага ўспрымання беларускай мовы з асноўным значэннем ‘цвёрды’ (63 лексемы), ‘мяккі’ (17 лексем), узятыя шляхам суцэльнай выбаркі з “Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы” (ТСБМ).

## СЕМАНТЫЧНАЯ ДЭРЫВАЦЫЯ ПРЫМЕТНІКАЎ СА ЗНАЧЭННЕМ ‘ЦВЁРДЫ’

Прымаючы пад увагу дыфузнасць зыходных значэнняў, тэматычную падгрупу прыметнікаў са значэннем ‘цвёрды’ можна падзяліць на блокі. Прыметнік *цвёрды* – ядро ўсёй групы прыметнікаў са значэннем ‘цвёрды’ – з’яўляецца самым шматзначным і валодае найбольшым наборам мадэлей семантычнай дэрывацыі.

Прыметнік *цвёрды* ў прамым значэнні апісвае аб’ект, які падвяргаецца дэфармацыі і ў выніку гэтага ўздзеяння не змяняе сваёй формы.

У ТСБМ прыметнік *цвёрды* мае 8 значэнняў, аднак яго семантычную структуру можна прадставіць некалькімі мадэлямі. У вытворных значэннях *цвёрдасць* спалучаецца з такімі тактыльнымі прыкметамі, як якасць паверхні, што не прагінаецца (*цвёрдае крэсла*), што з’яўляецца грубай, жорсткай (*цвёрдая скура*) або ўезджанай, убітай (*цвёрдая дарога*). У астатніх значэннях прыметнік *цвёрды* надае прыкмету стойкасці, трываласці, канчатковасці больш або менш канкрэтным праявам чалавечай дзейнасці (*цвёрды голас, цвёрды крок*), а таксама абстрактным з’явам (*цвёрды характар, цвёрдыя веды, цвёрдыя цэны, цвёрдая дысцыпліна, цвёрдае рашэнне*). Гэтыя прыклады ілюструюць у слоўніку 7 значэнняў, аднак зрух значэння адбываецца на аснове магчымасці ўжывання прыкметы ‘цвёрдасць’ з назоўнікамі, якія абазначаюць абстрактныя паняцці.

Амаль усе вытворныя значэнні злучаны той агульнай схемай, якая адпавядае прамому значэнню: чалавек уздзейнічае на аб’ект некаторым спосабам, аб’ект не адказвае на дэфармацыю. У пераносным ужыванні тып уздзеяння і дэфармацыі будзе іншым, але размеркаванне роляў захаваецца.

Да найбліжэйшых сінонімаў слова *цвёрды* адносяцца прыметнікі, значэнні якіх указваюць на прыкмету як вынік дзеяння (*ацвярдзелы* – ‘які стаў цвёрдым, зацвярдзелы’, *зацвярдзелы* – ‘які стаў цвёрдым, каляным’), але не ўтвараюць пераносных значэнняў па рэгулярных мадэлях, а таксама прыметнікі, якія абазначаюць роз-

ную колькасць прыкметы ‘цвёрдасць’. Меншая ступень цвёрдасці абазначаецца прыметнікамі *цвердаваты, мулкаваты, паўцвёрды*, большая ступень цвёрдасці выяўляецца за кошт параўнання яго з прыкметай, уласцівай першапачаткова вельмі цвёрдым прадметам (драўніна, камень, косць). Гэта знаходзіць сваё адлюстраванне як у агульных, так і ў спецыфічных мадэлях семантычнага развіцця: пры параўнанні з цвёрдасцю драўніны, каменя, косці (‘які стаў цвёрдым як драўніна, камень, косць’) можна апісаць фізіялагічны стан чалавека – ‘анямелы, застылы, які страціў адчувальнасць’ (*задзервянелая нага, скамянелы твар*), эмацыянальны стан чалавека – ‘абыякавы, безуважны, застылы ад здзіўлення’ (*адзервянелы твар, акамянелае сэрца*). Параўнанне з цвёрдасцю косці надае абстрактнай з’яве прыкметы жывога арганізма, абазначае ступень развіцця – ‘які застыў у пэўных формах, перастаў развівацца’ (*закасцянелы рэакцыяніст, акасцянелыя традыцыі*).

Прыкмета ‘цвёрдасць’ у першасным значэнні можа ўзаемадзейнічаць з іншымі тактыльнымі прыкметамі (‘гнуткасць’, ‘сухасць’, якасць паверхні, тэмпературныя прыкметы), што пэўным чынам адлюстроўваецца ў пераносных значэннях тактыльных прыметнікаў.

Пры спалучэнні з супрацьлеглымі прыкметамі ‘гнуткасць / нягнуткасць’ прыметнікі не развіваюць процілеглых па значэнні лексіка-семантычных варыянтаў (ЛСВ), а, наадварот, выкарыстоўваюцца для характарыстыкі паверхні як ‘жорсткай, калючай’. Гэтая мадэль з’яўляецца агульнай для лексем, у значэннях якіх прыкмета ‘цвёрдасць’ спалучаецца з ‘гнуткасцю / нягнуткасцю’ (*пруткія калошы, каляныя крупінкі снегу*). Спалучальнасць з прыкметай ‘гнуткасць’ дае большыя магчымасці для ўтварэння пераносных значэнняў, што апісваюць фізічны стан чалавека – ‘поўны сілы і здароўя’ (*крамяны чалавек*); выкарыстоўваюцца для абазначэння такой праявы асобы, як маўленчая дзейнасць – ‘грубаваты’ (*крамянае слоўца*), а таксама для апісання рухаў – ‘спружыністы, лёгкі ў рухах’ (*пруткія рухі*) і надвор’я – ‘свежы, ядраны’ (*крамянае надвор’е*). Дадзеныя вытворныя значэнні, акрамя характарыстыкі маўленчай дзейнасці, не сустракаюцца больш ні ў адной тэматычнай падгрупе. Падобна да прыметнікаў з “чыстым” значэннем цвёрдасці ЛСВ лексем з дадатковай прыкметай ‘нягнуткасць’ выкарыстоўваюцца для характарыстыкі эмацыянальнага і фізіялагічнага стану (*здранцвелы чалавек, задубелыя ногі*).

Злучэнне прыкметы ‘цвёрдасць’ з прыкметай ‘сухасць’ знаходзіць сваё адлюстраванне ў двух варыянтах зыходнай семантыкі прыметнікаў: ‘які засох, зацвярдзеў, ператварыўся ў корку’ (характарыстыка паверхні, верхняга пласта) і ‘які страціў свежасць, мяккасць, стаў цвёрдым, сухім’ (характарыстыка асаблівасцей унутранай будовы прадмета). Пры апісанні ў першасным значэнні менавіта паверхні прадмета як сухой і цвёрдай на пярэдні план у пераносных значэннях выходзіць або характарыстыка толькі якасці паверхні – ‘пакрыты засохлай граззю, крывёй і падобнае, карэлы, брудны’ (*закарэлая гразь*), або характарыстыка якасці паверхні сумесна з гнуткасцю і формай – ‘загрубелы, нягнуткі, з шурпатай скурай’ (*каравыя пальцы*), ‘пакрыўлены, вузлаваты, з нарасцямі’ (*каравая алешына*). Прыметнік *каравы* ўжываецца і для характарыстыкі маўленчай дзейнасці ў значэнні ‘няскладны, няўмелы, груба выкананы’ (*каравая фраза*).

Што тычыцца характарыстыкі ўнутранай будовы прадмета як цвёрдай і сухой, то семантычнае развіццё знаходзіць сваё выражэнне ў двух значэннях: пры абазначэнні цвёрдасці і якасці паверхні чаго-небудзь – ‘закарузлы, зацвярдзелы; жорсткі’ (*чэрствая глеба, счарсцвелы снег*), а таксама пры апісанні рыс характару, паводзін, эмацыйнага стану чалавека – ‘нячулы, бяздушны’ (*чэрствы чалавек, счарсцвелае сэрца*). Апошняя мадэль суправаджаецца метанімічным значэннем ‘які сведчыць пра нячуласць, бяздушнасць’ (*чэрствае слова, чэрствы позірк*).

У асобны блок можна вылучыць лексемы са значэннем ‘цвёрды, зацвярдзелы ад холаду’, дзе прыкмета ‘цвёрдасць’ спалучаецца з тэмпературнай прыкметай. Дадзеныя прыметнікі развіваюць метанімічныя значэнні наступнага тыпу: ‘пакрыты лёдам, ледзяной коркай’ (*замёрзлыя вокны*), ‘сапсаваны марозам, выведзены са строю; які загінуў ад холаду’ (*замёрзлая вадакачка, мёрзлая бульба*). Пры спалучэнні тактыльных прыкмет такога роду ўтвараецца ўласцівае амаль усім найменням цвёрдасці значэнне фізіялагічнага стану – ‘моцна азяблы, прамёрзлы’ (*мёрзлыя пальцы*).

Пад уздзеяннем тэмпературы ніжэй за норму вадкае рэчыва становіцца не толькі цвёрдым, але і густым. Тут таксама ажыццяўляецца метанімічны перанос для абазначэння якасці паверхні – ‘пакрыты лёдам, прымерзлы’ (*застылая лужына*), фізіялагічнага стану – ‘адубелы; акалелы’ (*застылыя ногі*), эмацыянальнага стану (*застылая ўсмешка*).

Адзінкавыя прыметнікі сумяшчаюць у сваёй зыходнай семантыцы прыкмету ‘цвёрдасць’ з прыкметай якасці паверхні (*загрубелыя боты, цупкі шынэль*).

Так, тып і мадэль пераносу залежаць ад зыходнай семантыкі прыметніка. Рэгулярнасцю вызначаецца ўзнікненне вытворных значэнняў для апісання эмацыянальнага стану паводзін,

рыс характару чалавека (пры гэтым *цвёрды* мае станоўчую канатацыю, а пры змяненні колькасці прыкметы ‘цвёрдасць’ прыметнікі выкарыстоўваюцца з адмоўнай характарыстыкай) і фізіялагічнага стану, што звязана са стратай тактыльнай адчувальнасці па розных прычынах.

## СЕМАНТЫЧНАЯ ДЭРЫВАЦЫЯ ПРЫМЕТНІКАЎ СА ЗНАЧЭННЕМ ‘МЯККІ’

З дапамогай прыметніка *мяккі* ў прамым значэнні апісваецца няжорсткі, няцвёрды аб’ект, які ўгінаецца пры націсканні, не робіць уражання цвёрдасці, шчыльнасці пры датыканні: *мяккая пасцель, мяккі абутак, мяккая гліна*.

Прыметнікаў са значэннем ‘мяккі’ значна менш, чым прыметнікаў са значэннем ‘цвёрды’ ў сувязі з тым, што прыкмета ‘мяккасць’ не так актыўна, як прыкмета ‘цвёрдасць’, узаемадзейнічае з іншымі тактыльнымі прыкметамі.

У пераносным значэнні (‘які паддаецца ўплыву’) слова *мяккі* будзе спалучацца з найменнямі абстрактных паняццяў: *мяккі характар, мяккая натура*. У гэтым выпадку *мяккі* характарызуе асобу як аб’ект уздзеяння, аднак мяккі аб’ект можа сам уздзейнічаць на чалавека. Семантычнае развіццё можа ісці па наступных напрамках: ‘чалавек успрымае ўздзеянне з боку аб’екта пры дапамозе органаў пачуццяў, пры гэтым прадмет дэфармуецца ў адпаведнасці з формай частак цела чалавека’ (*мяккі абутак, мяккае крэсла*), ‘чалавек успрымае ўздзеянне з боку другой асобы і лёгка паддаецца чужому ўплыву’ (*мяккі чалавек*), ‘аб’ект не дэфармуецца, але выклікае прыемныя пачуцці’ (*мяккі клімат, мяккія рысы твару*). Гэтыя значэнні суправаджаюцца метанімічнымі значэннямі: ‘які выражае сардэчную дабрату’ (*мяккія словы*) і ‘нястрогі, несуровы’ (*мяккі прыгавор*).

На аснове падобнага прыемнага ўспрымання развіваюцца значэнні, якія адносяцца да іншых мадальнасцей, а прыметнік *мяккі* характарызуе святло, колер, гук як ‘прыемны для ўспрымання’ (*мяккае святло, мяккі голас, мяккія ружовыя цені*).

Лексемы, якія абазначаюць розную ступень прыкметы ‘мяккасць’, у пераносным ужыванні абазначаюць ‘няўпэўненасць, нерашучасць’, што можа быць уласціва як рухам чалавека (*няцвёрды крок*), так і характару і паводзінам чалавека (*няцвёрды характар, мяккацелы чалавек*), што вядзе да ўтварэння пераноснага значэння па метанімічнай мадэлі: ‘які выражае нерашучасць’ (*няцвёрды адказ*).

Прыметнікі, значэнні якіх указваюць на названую прыкмету як вынік дзеяння (‘які памякчэў, стаў мяккім’), у пераносных значэннях ужываюцца для апісання фізіялагічнага стану чалавека – ‘расслаблены, вялы’ (*абмяклы, рязмяклы чалавек*), а таксама характару, паводзін чалавека – ‘які страціў суровасць, стаў больш лагодным’ (*памякчэлы бацька, размяклы дырэктар*).

Прыкмета ‘мяккасць’ спалучаецца з іншымі тактыльнымі прыкметамі. Узаемадзеянне мяккасці з вільготнасцю прыводзіць да развіцця метанімічных значэнняў: ‘які загінуў ад лішку вільгаці’, ‘які сапсаваўся, расклеіўся ад вільгаці’ (*адмоклыя расліны*).

Цесна ўзаемазвязаны паміж сабой прыкметы мяккасці і якасці паверхні ў такіх лексемах, як *пухкі, пышны*, дзе пераноснае значэнне апісвае форму прадмета: ‘пухлы, поўны, круглявы’ (*пухкія губы, пышнае цела*).

Трэба таксама адзначыць спецыяльнае ўжыванне прыметнікаў цвёрдасці і мяккасці ў фанетыцы, аднак у гэтым выпадку спалучальнасць прыметнікаў абмяжоўваецца найменнямі гукаў (*мяккія, цвёрдыя, зацвярдзелыя зычныя*).

Прыметнікі цвёрдасці і мяккасці аб’ядноўваюцца ў тэматычныя падгрупы на аснове агульнага значэння, аднак не ўсе мадэлі пераносных значэнняў гэтых лексем знаходзяць сваё адлюстраванне ў другасных значэннях іншых прыметнікаў гэтай жа тэматычнай падгрупы, што яшчэ раз падкрэслівае дыфузнасць лексічнага значэння.

Нароўні з узаемадзеяннем з іншай тактыльнай прыкметай зыходнае значэнне можа паказваць колькасць прыкметы, абазначаць прыкмету як вынік дзеяння. Менавіта змена зыходнага значэння, памяншэнне, а часцей павелічэнне колькасці прыкметы, узаемадзеянне з іншымі тактыльнымі прыкметамі абумоўліваюць вызначаныя асаблівасці і адрозненні ў мадэлях семантычнай дэрывацыі разгледжаных лексем.

Да частотных зрухаў адносіцца метафарычны перанос розных фізічных уласцівасцей неадушаўлёных аб’ектаў на нефізічныя ўласцівасці чалавека ці праявы яго дзейнасці.

### Спіс літаратуры

1. **Мерзлякова, А. Х.** Типы семантического варьирования прилагательных поля ‘Восприятие’ (на материале англ., рус. и франц. языков) / А. Х. Мерзлякова. – М. : Едиторил УРСС, 2003. – 352 с.

2. **Ананьев, Б. Г.** Теория ощущений / Б. Г. Ананьев. – Л. : Изд-во Ленингр. ун-та, 1961. – 456 с.

3. **Шрамм, А. Н.** Очерки по семантике качественных прилагательных (на материале современного русского языка) / А. Н. Шрамм. – Л. : Изд-во Ленингр. ун-та, 1979. – 134 с.

4. **Тлумачальны слоўнік беларускай мовы** : у 5 т. – Мінск : БелСЭ, 1977 – 1984.

**Кацярына АСТАПКІНА,**
аспірантка кафедры тэарэтычнага
і славянскага мовазнаўства БДУ.

*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам філалагічных навук А. Рудэнкай.*

Ганна КУЛЕШ

# ПАСТАНОВА, АЗНАЧЭННЕ, ВЫЗНАЧЭННЕ

## СТАНАЎЛЕННЕ НАЗВЫ АДНАГО З ВІДАЎ СУДОВЫХ ПАСТАНОЎ

У сучасным заканадаўстве адзін з відаў судовых актаў, якія прымаюць пры вырашэнні крымінальных, цывільных, арбітражных спраў, мае назву *вызначэнне*: "*Вызначэнне* – усякае, акрамя прыгавору, рашэнне, вынесенае судом першай інстанцыі пры судаводстве па крымінальнай справе" (КПК-61, 22).

Звярнуць увагу на гэтую назву больш уважліва, прасачыць гісторыю яе станаўлення стымулявала сумненне ў яе дакладнасці. Думалася, што юрысты яе ўжываюць, праігнараваўшы тонкія семантычныя адрозненні слоў *вызначэнне* і *азначэнне*. Была амаль поўная ўпэўненасць, што такі від судовага рашэння неабходна называць назоўнікам *азначэнне*, утвораным ад дзеяслова *азначыць* 'даць фармулёўку чаму-небудзь' [ТСБЛМ, с. 51], паколькі менавіта слова *азначэнне* выкарыстоўваюць у агульналітаратурным ужытку, калі маецца на ўвазе не працэс выяўлення сутнасці, раскрыцця зместу чаго-небудзь, а само 'абагульненне, якое раскрывае сэнс, змест чаго-небудзь' [ТСБЛМ, с. 51]. Аднак меркаваць, наколькі дакладна названа тая або іншая рэалія, можна толькі маючы пра яе ўяўленне. У нашым выпадку неабходна зразумець, як выглядае гэты дакумент. Адной з асноўных характарыстык афіцыйнага дакумента з'яўляецца яго структура, пэўны набор рэквізітаў, г. зн. інфармацыйных элементаў, якія сведчаць пра яго прызначэнне, функцыянальныя асаблівасці. Вызначэнне суда можа афармляцца як асобны дакумент, а можа і заносіцца ў пратакол судовага пасяджэння. Складаецца яно з чатырох частак: уступнай – указваецца дата, месца, назва суда; апісальнай – выкладаецца сутнасць пытання; матывавальнай – прыводзяцца матывы суда, якія абгрунтоўваюць прынятае рашэнне; рэзалюцыйнай – указваецца рашэнне суда, тэрмін і парадак яго абскарджання [4, с. 245]. Арганізоўным звяном рэзалюцыйнай частцы выступае рэквізіт "вызначыў". Пасля яго асобным абзацам запісваецца фармулёўка рашэння суда па пэўным пытанні. Гэты рэквізіт і пацвярджае перавагу назвы дакумента *вызначэнне* перад *азначэнне*.

Дзеяслоў *вызначаць*, які матываваў дэрыват *вызначэнне*, быў створаны шляхам калькавання як адпаведнік рускаму *определять*. Паводле класіфікацыі, прапанаванай у манаграфіі "Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы", яго можна залічыць да групы структурна адпаведных калек накшталт *адлюстроўваць* (*отражать*), *аднавіць* (*восстановить*), *ажыццявіць* (*осуществить*), *дапасаваць* (*согласовать*), *укараніць* (*внедрить*), якія вар'іруюць матываванасць калькаванага аб'екта. Такія калькі называюць творчымі, паколькі яны не "з'яўляюцца вынікам прамога памарфемнага перакладу" калькаванага аб'екта, а "ўзнікаюць у выніку творчай дзейнасці перакладчыка і таму не паўтараюць, а відазмяняюць, вар'іруюць матываванасць арыгінала" [2, с. 126 – 129]. Ускосным узорам* для слова *вызначэнне* паслужыў рускі назоўнік *определение*, які ўзыходзіць да дзеяслова *определять* (прыставачна-суфіксальнага ўтварэння ад старaславянскага *предел* 'мяжа, граніца'), першапачаткова ён меў значэнне 'ўстанаўліваць мяжу чаго-небудзь' [ЭС, с. 72]. Матыватарам беларускага тэрміна *вызначэнне* стаў корань *-знак-*. *Определение*, у сваю чаргу, – аналаг лацінскага слова *definition* (літаральна – 'абрамленне, контуры'; *finis* – 'канец, край'), у навуковы зварот упершыню ўведзена Цыцэронам [3].

Варта адзначыць, што ў заканадаўчых тэкстах 1920-х гг. да рускага аддзеяслоўнага назоўніка з прадметным значэннем і значэннем выніку дзеяння *определение* выкарыстоўваўся адпаведнік *пастанова*:

***определение** суда о признании лица пропавшим* – ***пастанова** суду аб прызнаньні асобы прапаўшаю* (КЗаШС-27, дадатак, 28); *выносить **определения** о направлении приговоренных к лишению свободы в общие места заключения – выносіць **пастановы** аб накіраваньні прысуджаных да пазбаўленьня волі ў агульныя месцы зьняволеньня* (КК-28, 31); *освобождение от назначенной ранее меры социальной защиты по **определению** суда, вынесшего приговор – вызваленьне ад назначанай раней меры сацыяльнай абароны **пастановаю** суду, які вынес прысуд* (КК-28, 32).

У той жа час тэрмін *пастанова* выступаў эквівалентам не толькі рускаму *определение*, але і тэрмінам *решение*, *постановление*:

*суд выносит **решение** о признании одного из них отцом ребенка – суд выносіць **пастанову** аб*

*Цыкл артыкулаў "Мова заканадаўства" **Ганны Кулеш** друкуецца ў "Родным слове" з 2010 г.*

* Ускосным – паколькі ўтварэнне аддзеяслоўных назоўнікаў з суфіксам *-енн-* / *-энн-* было прадуктыўным яшчэ і ў старабеларускай мове.



***Ганна Іванаўна Кулеш*** *– мовазнаўца. Кандыдат філалагічных навук (1992). Дацэнт кафедры гісторыі беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Закончыла БДУ (1977). Займаецца пытаннямі гісторыі беларускай літаратурнай мовы, лексікалогіі, культуры мовы. Аўтар больш як 90 публікацый. Суаўтар хрэстаматыі для студэнтаў філалагічных факультэтаў "Гісторыя беларускага мовазнаўства (1918 –1941)", дапаможнікаў для старшакласнікаў і абітурыентаў "Рэпетытар па беларускай мове: фанетыка, арфаэпія і правапіс" і "Рэпетытар па беларускай мове: марфалогія і правапіс".*

*прызнаньні аднаго з іх за бацьку дзіцяці* (КЗаШС-27, 46); *суд обязан вынести* ***постановление*** *– суд павінен вынесьці* ***пастанову*** (КЗаШС-27, 45).

Выкарыстанне аднаго беларускага адпаведніка да некалькіх рускіх тэрмінаў, бясспрэчна, нельга лічыць выпадковым. Можна меркаваць, што такое ўжыванне тэрмінаў было апраўдана іх гіпера-гіпанімічнымі (рода-відавымі) адносінамі. У юрыспрудэнцыі тэрмін *постановление* можа выступаць у якасці родавага адносна тэрмінаў *решение* і *определение* як відавых. Гэтае меркаванне пацвярджае, напрыклад, цытата з падручніка па грамадзянскім працэсе, якую з мэтай захавання найбольшай дакладнасці прывядзём на мове арыгінала: "Постановления суда первой инстанции выносятся в виде **решения**, которым дело разрешается по существу, и **определения**, которым разрешаются вопросы, возникающие в связи с рассмотрением дела по существу" [4, т. 1, с. 245].

Тое, што тэрмін *пастанова* выступае ў якасці гіпероніма ў гіпанімічным радзе назваў пэўных іншых судовых дакументаў, вынікае і з наступнай дэфініцыі з "Юрыдычнага энцыклапедычнага слоўніка": "Вызначэнне суда – **адзін з відаў** (вылучана намі. – ***Г. К.***) судовых пастаноў па крымінальных і цывільных справах" [ЮЭС, с. 118]. Іерархічнасць адносін у радзе названых тэрмінаў дазволіла перакладчыкам ужываць гіперонім замест пэўнага члена гіпанімічнага рада, паколькі значэнне гіпероніма шырэйшае за значэнне кожнага з гіпонімаў.

У перакладчыцкай практыцы вядомы такі спосаб, як гіперанімічны пераклад – выкарыстанне слова з больш шырокім значэннем, чым у арыгінале, пры адсутнасці ў мове, на якую перакладаюць, поўнага семантычнага эквівалента. Аднак на момант стварэння КЗаШС-27 і КК-28, з якіх узяты вышэйпрыведзены ілюстрацыйны матэрыял, беларускі адпаведнік для тэрміна *определение суда* быў ужо прапанаваны слоўнікамі юрыдычнай тэрміналогіі. Напрыклад, БНТ-10 прапануе беларускі эквівалент *вызначэнне суда* [БНТ-10, с. 42]. Паводле гэтага ж слоўніка, *решение – рашэнне* [БНТ-10, с. 55].

Акрамя таго, пры выкарыстанні аднаго беларускага адпаведніка адразу для трох рускіх тэрмінаў узнікала неабходнасць перакладчыцкіх трансфармацый, калі даводзілася перакладаць тыя фрагменты тэксту, дзе побач з назвай віду судовага акта (*определение*, *решение*) быў аднакаранёвы з беларускім адпаведнікам *пастанова* дзеяслоў *постановить* або аддзеяслоўны назоўнік *постановление* з працэсуальным значэннем. Каб не ўжываць выразы *пастанавіць пастанову* і *пастанаўленне пастановы*, даводзілася прапускаць або назву судовага акта:

*суд* ***постановляет определение*** *о взыскании всех следуемых сборов и штрафов – суд* ***пастанаўляе*** *аб спагнаньні ўсіх належных збораў і штрафаў* (ГПК-30, 147);

або аднакаранёвы аддзеяслоўны назоўнік:

*каждая из сторон может попросить суд о* ***постановлении*** *дополнительного* ***решения*** *– кожная з старон можа прасіць суд аб дадатковай* ***пастанове*** (ГПК-30, 181).

Зразумела, што генералізацыя (пашырэнне) значэння тэрміна *пастанова* стварала працэсуальны дыскамфорт: у выніку такой перакладчыцкай трансфармацыі асобны від судовай пастановы не меў самастойнага абазначэння, у той час як адным з асноўных патрабаванняў да тэрміна з'яўляецца аднназначнасць у межах пэўнай тэрмінасістэмы.

ГПК-30 паралельна з тэрмінам *пастанова* пачаў ужываць *азначэнне*. У колькасных адносінах пераважала *пастанова*: да артыкула 199 (усяго ў ГПК-30 361 артыкул) *азначэнне* не сустракаецца, у астатнім тэксце ў дзесяці выпадках *определение* перакладзена як *пастанова*, у шасці – *азначэнне*. Пры гэтым ніякіх адрозненняў у выкарыстанні першага і другога тэрміна не прасочваецца ні на ўзроўні семантычнага аб'ёму, ні на ўзроўні лексічнай спалучальнасці:

*народный судья выносит* ***определение*** *– народны судзьдзя робіць* ***пастанову*** (ГПК-30, 266); ***определение*** *народного суда может быть обжаловано –* ***пастанова*** *народнага суду можа быць абскарджана* (ГПК-30, 340);

*народный судья выносит* ***определение*** *– народны судзьдзя робіць* ***азначэньне*** (ГПК-30, 199); *после вступления в силу* ***определения*** *суда – пасьля набыцьця законнай сілы* ***азначэньня*** *суду* (ГПК-30, 276).

У ГПК-36 ужыванне тэрміна *азначэнне* як адпаведніка рускаму *определение* ўжо вызначаецца строгай паслядоўнасцю. Каб гэта пацвердзіць, можна параўнаць некалькі артыкулаў ГПК-30, у якіх выкарыстана назва *пастанова*, з адпаведнымі артыкуламі ГПК-36:

***пастановы** суду пра забясьпечаньне іскаў могуць быць абскарджаны ў прыватным парадку* (ГПК-30, 91) – ***азначэнні** суда па справах аб забеспячэнні іскаў могуць быць абскарджаны ў прыватным парадку* (ГПК-36, 91);

*у **пастанове** пра назначэньне экспэртаў павінна быць паказана* (ГПК-30, 154) – *у **азначэнні** аб назначэнні экспертаў павінна быць указана* (ГПК-36, 154);

***пастанова** аб дапушчэньні неадкладнага выкананьня* (ГПК-30, 190) – ***азначэнне** аб дапушчэнні неадкладнага выканання* (ГПК-36, 190).

Такім чынам, пры наяўнасці ў БНТ-10 тэрміна *вызначэнне суда* ў тэксце кодэкса выкарыстоўваецца *азначэнне*. Можна выказаць меркаванне, што такое словаўжыванне прадыктавана імкненнем перакладчыкаў назваць працэс і вынік дзеяння не адным словам, як у рускай мове, а рознымі, утворанымі ад аднаго кораня: *азначэнне* – фармулёўка прынятага судом або суддзёй рашэння, *вызначэнне* – працэс устанаўлення, прызначэння чаго-небудзь (меры пакарання, тэрмінаў і да т. п.). Семантычную дыферэнцыяцыю гэтых тэрмінаў ілюструе наступны прыклад з ГПК-36:

*на неправильное **определение** судом цены иска может быть принесена частная жалоба – на няправільнае **вызначэнне** судом цаны іску можа быць прынесена прыватная скарга* (ГПК-36, 48).

Увогуле прыстаўкі даволі рэдка выступаюць сродкам адрознення значэння аднакаранёвых аддзеяслоўных назоўнікаў. Часцей за ўсё гэтую функцыю выконваюць суфіксы:

***учреждение** опеки над несовершеннолетними – **устанаўленьне** апекі над няпоўналетнімі* (КЗаШС-27, 102); *обжаловать постановление в вышестоящее опекунское **учреждение** – абскардзіць пастанову ў вышэйшую апякунскую **ўстанову*** (КЗаШС-27, 110);

*народный суд вывешивает **объявление** о вызове отсутствующего – народны суд вывешвае **абвестку** аб выкліку адсутнага* (ГПК-30, 204); ***объявление** должнику запрета распоряжения имуществом – **абвяшчэнне** даўжніку забароны распараджэння маёмасцю* (ГПК-30, 320).

Можна дапусціць, што пэўную ролю адыграла і наступная акалічнасць. У 1935 г. выйшаў з друку “Дапаможнік па грамадзянскаму праву БССР” акадэміка АН БССР М. Грэдынгера. Згадваючы ГПК-30 як крыніцу грамадзянскага права, аўтар сцісла характарызуе якасць яго перакладу на беларускую мову, паколькі гэта быў першы беларускамоўны тэкст ГПК. Адносна ўжывання да рускага тэрміна *определение* эквівалента то *пастанова*, то *азначэнне* М. Грэдынгер адзначыў, што гэта “стварае вялікую блытаніну, бо *пастанова* ёсць паняцце агульнае, тады як тут гутарка ідзе пра спецыяльнае паняцце”, і выказаўся за ўжыванне тэрміна *азначэнне* [1, с. 41]. Магчыма, меркаванне аўтарытэтнага спецыяліста і ўлічылі пры перакладзе ГПК-36.

Пачынаючы ад заканадаўчых тэкстаў 1950-х гг. выкарыстоўваецца тэрмін *вызначэнне*:

*исполнение приговора может быть отсрочено по **определению** суда – выкананьне прыгавору можа быць адтэрмінавана па **вызначэнню** суда* (КК-57, 32);

*вынесение неправосудного приговора, решения, **определения** или постановления – вынясенне неправасуднага прыгавору, рашэння, **вызначэння** або пастановы* (КК-61, 173);

*вступившие в законную силу приговор или **определение** суда – увайшоўшыя ў законную сілу прыгавор або **вызначэнне** суда* (ППК-71, 113).

Такім чынам, да канчатковага замацавання назвы *вызначэнне* ёй папярэднічалі варыянты *пастанова* і *азначэнне*. Ваганні ў выбары найбольш адэкватнага тэрміна былі ў пэўнай меры абумоўлены недастатковай акрэсленасцю зместу паняцця (‘усякае, акрамя прыгавору рашэнне’; ‘адзін з відаў пастаноў’), да якога патрабавалася стварыць тэрмін.

**Спіс літаратуры**

1. **Грэдынгер, М.** Дапаможнік па грамадзянскаму працэсу БССР / М. Грэдынгер. – Мінск : Выд-ва Белар. акад. навук, 1935. – 223 с.

2. **Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы** / пад рэд. А. Я. Баханькова. – Мінск : Навука і тэхніка, 1994. – 463 с.

3. **Рудый, Б.** Уставший от слов / Б. Рудый, Л. Савицкая // [Электронный ресурс]. – Режим доступа : http://www.management.web-standart.net/issuse/2000/4/268/.

4. **Тихиня, В. Г.** Гражданский процесс : в 2 т. / В. Г. Тихиня. – Минск : УП “Минская печатная фабрика” Гознака, 2002. – Т. 1 : учебник. – 304 с.

**Скарачэнні (крыніцы)**

**ГПК-30** – Грамадзянскі працэсуальны кодэкс Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. – Мінск: Выд. НКЮ БССР, 1930; **ГПК-36** – Грамадзянскі працэсуальны кодэкс БССР. – Мінск: Дзяржвыд Беларусі, 1936; **ГПК-65** – Грамадзянскі працэсуальны кодэкс БССР. – Мінск: Беларусь, 1965; **КК-28** – Крымінальны кодэкс БССР. Афіц. выд. – Мінск: Выд-ва кіраўніцтва спраў СНК: Выд. эканам. нарады БССР, 1928; **КК-40** – Крымінальны кодэкс БССР. – Мінск: Дзяржвыд БССР. Рэд. паліт. літ., 1940; **КК-57** – Крымінальны кодэкс Беларускай ССР. – Мінск: Дзярж. выд-ва БССР, 1957; **КК-61** – Крымінальны кодэкс Беларускай ССР. – Мінск: Дзярж. выд-ва БССР, 1961; **КЗаШС-27** – Кодэкс законаў аб шлюбе, сям’і і апецы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. – Мінск: Выд. СНК БССР, 1927; **КПК-61** – Крымінальна-працэсуальны кодэкс Беларускай ССР. – Мінск: Дзярж. выд-ва БССР, 1961; **ППК-71** – Папраўча-працоўны кодэкс Беларускай ССР. – Мінск: Беларусь, 1971.

**Скарачэнні (слоўнікі)**

**БНТ-10** – Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 10. Тэрміналогія права. Мінск, 1926; **ЭС** – Этимологический словарь современного русского языка: в 2 т. – М.: Флинта: Наука, 2010. – Т. 2; **ТСБЛМ** – Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. – Мінск, 1996; **ЮЭС** – Юрыдычны энцыклапедычны слоўнік. – Мінск: БелЭн, 1992.

Алесь КАЎРУС

# *У СЯРЭДЗІНЕ, УСЯРЭДЗІНЕ*

## КАЛІ ЯК ПІСАЦЬ

Малады, але ўжо вопытны рэдактар, выпускніца БДУ, паправіла ў маім тэксце спалучэнне *ўсярэдзіне слова* – напісала *ў сярэдзіне слова*. На пытанне "Чаму?" рэдактар адгарнула "Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (2008), дзе чытаю: "Нескладовае *ў* пішацца… **у сярэдзіне слова** пасля галосных перад зычнымі: *аўдыенцыя, саўна, фаўна, аўдыякасета, аўра*…"

Праўда, адразу кінуліся ў вочы "доўгія" словы *аўдыенцыя, аўдыякасета*. Хіба ж тут зычны *ў* стаіць у **сярэдзіне** слова? Хутчэй – на пачатку, у першым складзе, а больш дакладна – у межах, унутры слова ці, кажучы па-беларуску, усярэдзіне слова.

Тады не сталі спыняцца на спрэчным напісанні, пайшлі праглядаць заўвагі рэдактара далей.

А дома, увечары, думкі самі збегліся да маёй "хібы".

Напэўна, калісьці ў сваім артыкуле (цяпер гэта старонкі новай кнігі) я напісаў *усярэдзіне.* Не сумняюся, тады (як і звычайна) я карыстаўся даведнікамі. І што вельмі істотна, друкуючы тэкст у часопісе "Роднае слова", гэтага слова не паправілі – не падзялілі на два (*у сярэдзіне*).

Але праходзяць гады, дзесяцігоддзі… Можа, чаго ў свой час не дагледзеў ці змяніўся правапіс асобных слоў?

Перагарнуў асноўныя нашы слоўнікі: руска-беларускі (1953), беларуска-рускі (1962), руска-беларускі (1982), ТСБМ. І, мне на суцяшэнне, выявілася: *усярэдзіне* як прыслоўе і прыназоўнік даецца адным словам – *у* і *сярэдзіне* напісаны разам.

Пры гэтым заўважаю: у ТСБМ няма ўзгодненасці паміж словамі-артыкуламі **"Усярэдзіне"** і **"Унутры"**.

**Усярэдзіне** тлумачыцца: 1. *прысл*. Унутры, у цэнтры чаго-небудзь. *Міхась стаў… вышароўваць бітон **усярэдзіне** і зверху*; 2. *прыназ. з Р*. Пасярод. …***Усярэдзіне** статка… воўк.*

У слова **ўнутры** таксама вылучаны два значэнні: 1. *прысл*. У сярэдзіне, у межах. …*У мяне ўсё кіпіць унутры*; 2. *прыназ. з Р*. У сярэдзіне, у межах чаго-небудзь. *Доўга яшчэ гудзелі… басы ўнутры раяля.*

Звернем увагу. *Усярэдзіне* (прыслоўе, прыназоўнік) у артыкуле **"Унутры"** чамусьці запісана як два словы (прыназоўнікава-іменнае спалучэнне): *у сярэдзіне*. Можа, скалькавана з рускага *в середине* – тлумачэння слова *внутри*?

Як і ў "тэорыі" (пры тлумачэнні значэнняў), арфаграфічнай спарадкаванасці няма ў сказах-ілюстрацыях да значэнняў слова *сярэдзіна* (ТСБМ). Там, дзе яно ўжыта з прыназоўнікамі *з, за, на, пад*, праблема правапісу не ўзнікае – прыназоўнікі з назоўнікамі пішуцца асобна. У некаторых выпадках цяжка размежаваць, калі з назоўнікам *сярэдзіна* трэба ўжываць *у* як прыназоўнік (*у сярэдзіне*), калі – як прыстаўку (*усярэдзіне*).

У сказе *Петушонак… хуценька адшпіліў яго* [партфель] *і палез **у сярэдзіну*** (І. Пташнікаў. Чакай у далёкіх Грынях. 1962) выдзеленае спалучэнне асэнсоўваецца як прыслоўе *ўнутр*, таму яго належыць пісаць разам – *усярэдзіну*. Гэта пацвярджае сказ: *Паднялі века і падпёрлі яго рыдлёўкай, уставіўшы яе **ўсярэдзіну** ў куфар* (І. Пташнікаў. Найдорф. 1976).

Прыслоўе *ўсярэдзіне* паслядоўна ўжываецца ў творах І. Пташнікава, апублікаваных у другой палове 1960-х – 1970-я гады: …*асіна, старая, зверху ўся ў сівым імху і тоўстай кары, як на дубе, а **ўсярэдзіне** з чорным дуплом* ("Сцяпан Жыхар са Сцешыц"). *Калоціцца ўсё **ўсярэдзіне*** ("Тартак"). [Андрэй] *пайшоў да студні. Круга зруба на зямлі парос густы падарожнік; **усярэдзіне** на чорных мокрых плашках прыляпіліся жоўтыя грыбы* ("Мсціжы"). …*Сядзенне **ўсярэдзіне** ўсё ўжо абдзёрта* ("Найдорф").

Больш адпавядала б выказанаму значэнню ['унутры'] злучнае напісанне *у* з назоўнікам *сярэдзіна* і ў прыкладзе: *Затросся дзед Талаш. Ком гарачыні пракаціўся дзесь **у сярэдзіне** каля сэрца* (Я. Колас). Сапраўды, у 12- і 14-тамовых Зборах твораў Якуба Коласа ў аповесці "Дрыгва" (адпаведна: т. VII, 1963; т. 8, 1975) выпраўлена: …*дзесь **усярэдзіне** каля сэрца.*

А як трактуецца цікавае нам слова ў самых новых слоўніках? Нецярпліва гартаю "Граматычны слоўнік прыметніка, лічэбніка, займенніка, прыслоўя" (2009). Інтрыга памацняецца: слова *ўсярэдзіне* не знаходжу.

Дык чаму ж граматысты абмінулі гэтае замацаванае больш як паўвекавой лексікаграфічнай традыцыяй слова? Можа, яны, як і некаторыя іншыя беларускамоўцы, успрымаючы слова *ўся-*

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1.*

*рэдзіне*, арыентуюцца на рускае спалучэнне *в середине*, не разумеюць і не прымаюць яго (*усярэдзіне*) як адпаведнік рускага *внутри* – з большай звыкласцю і даверам карыстаючыся, мабыць, калькай *унутры*?

У гэтым месцы мушу паправіць сябе: слова *ўсярэдзіне* ёсць у згаданым слоўніку! Проста яно схавалася ад мяне. Насуперак лексікаграфічнай практыцы, прыслоўі (як і лічэбнікі, займеннікі) пададзены тут не ў алфавітным парадку сярод іншых часцін мовы, а вынесены ў асобны раздзел "Прыслоўі".

Значыцца, слова *ўсярэдзіне* я нарэшце знайшоў. Але ці ўсё? Пры ім дадзена памета "прыслоўе". А ці бывае яно прыназоўнікам? Каб даведацца, трэба чакаць, пакуль выйдзе "Граматычны слоўнік прыназоўніка"?! Гэты выпадак – яшчэ адно сведчанне нязручнай падачы слоў у граматычных слоўніках беларускай мовы.

Далейшы пошук даў для мяне станоўчы вынік. У "Беларускім арфаграфічным слоўніку" (2009) пад рэдакцыяй А. Лукашанца чытаем: ***усярэдзіне***, прыслоўе, прыназоўнік. Гэта значыць, што ў ролі названых часцін мовы слова *ўсярэдзіне* ўжываецца. І павінна ўжывацца далей.

Падчас наступнай сустрэчы з рэдактарам паведаміў пра свае "знаходкі". А яна ў сваю чаргу: «Дык чаму ж складальнікі "Правілаў..." пішуць у іх тэксце не так, як у "Беларускім арфаграфічным слоўніку"?» Прызнацца, я прадугледжваў такое пытанне і падрыхтаваў самы просты адказ: «Звароты *ў сярэдзіне сказа*, *у сярэдзіне слова* ўжываюцца ў кнізе "Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (1959). Напэўна, яны перанесены ў новы тэкст "Правілаў..." (2008)».

З "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (1959) словазлучэнні *ў сярэдзіне сказа*, *у сярэдзіне слова* пайшлі ў падручнікі і дапаможнікі. Так, у "Сучаснай беларускай літаратурнай мове. Марфалогія" (1997) прыведзены два сказы з часціцай *нават*: ***Нават** самыя глыбокія дзяды не памятаюць там ніякага паселішча* (Скр.). *Уменне карыстацца словам, культура мовы і **нават** пісьменнасць – усё залежыць ад таго, як загучала для вас слова, пачутае ў маленстве* (Віт.).

Наконт месца часціцы ў сказах адзначаецца: "Узмацняльная часціца *нават* у першым выпадку стаіць у пачатку сказа, у другім – **у сярэдзіне**..." Уважліва паглядзім на другі сказ – і ўбачым, што ў сапраўднасці часціца *нават* стаіць не ў сярэдзіне (г. зн. не ў цэнтры) сказа, а бліжэй да яго пачатку. Таму лепш ужываць у такіх выпадках слова *ўсярэдзіне* ('унутры', 'у межах') ці пісаць болей канкрэтна: "Часціца адкрывае (пачынае) сабою сказ, стаіць перад ці пасля якога-небудзь члена сказа..."

Параўнаем аналагічны кантэкст з рускай мовы: "[Междометия] в интонационно обособленной позиции между двумя предложениями или внутри простого предложения, перед его главным членом, вносят значение неожиданности, внезапности, неподготовленности: *...В один прекрасный вечер вдруг – бац! Сделал предложение...* (А. Чехов)" (Русская грамматика. Т. II. Синтаксис. М., 1982).

У ходзе далейшых размоў з'явілася сумненне, ці карэктна ўвогуле карыстацца паняццем "сярэдзіна сказа (слова)", ці заўсёды можна вызначыць гэтую "сярэдзіну".

Мы ўжо звярталі ўвагу на недакладнасць "вымярэння" працягласці некаторых слоў. Зробім цяпер гэта адносна сказаў – ілюстрацый да "Правілаў..." (1959).

"...Калі дадзены сказ стаіць **у сярэдзіне** галоўнага, ён выдзяляецца коскамі з двух бакоў, напрыклад: *...Раніцаю, як толькі-толькі пачынала займацца на свет, усё войска рушыла ў паход* (Я. Колас)".

У гэтым, як і ў яшчэ чатырох пададзеных побач сказах, дадзены сказ насамрэч стаіць у межах, унутры, усярэдзіне галоўнага сказа.

З прыведзеных звестак і прыкладаў відаць, што, як кажуць, праблема існуе. Ухіляцца ад яе вырашэння, зразумела, – не на карысць культуры мовы.

Каб унікнуць блытаніны, дасягнуць арфаграфічнай паслядоўнасці, варта, паводле "Беларускага арфаграфічнага слоўніка" (2009), пісаць аднолькава (разам) слова *ўсярэдзіне*, калі яно выступае ў сказе прыслоўем ці прыназоўнікам, як напрыклад: *Усярэдзіне жытла* (БелСЭ, т. 4, с. 439). Мэтазгоднае і правамернае такое напісанне і ў спалучэннях *усярэдзіне сказа*, *усярэдзіне слова*.

На гэтым, уласна, і канчалася нататка. Але тут мне надарылася магчымасць пазнаёміцца з новай кнігай Івана Лепешава "Надзённае" (Гродна, 2010), дзе нечакана натрапіў на старонку-другую, прысвечаную закранутай мною тэме. Паўстала патрэба яшчэ раз, другім наваратам разгледзець узнятае пытанне, памацніць даследчы аспект выкладу.

Заканстатаваўшы разыходжанні ў слоўніках і моўнай практыцы пры ўжыванні слова *ўсярэдзіне* і спалучэння *ў сярэдзіне*, навукоўца катэгарычна сцвярджае: "Няма прыназоўніка *ўсярэдзіне*! Ёсць назоўнік *сярэдзіна* і прыназоўнік *у*". На яго думку, у сказе, пададзеным у ТСБМ: *"Каровы равуць, грабуць капытамі зямлю... **Усярэдзіне** статка – на невялічкім пятачку – воўк"* – "па-

мылковае напісанне (замест правільнага *ў сярэдзіне статка*)".

Заўважаецца такая "дыялектыка": суб'ектыўна адмаўляючы наяўнасць у беларускай мове прыназоўніка *ўсярэдзіне*, І. Лепешаў адначасова паказвае аб'ектыўныя падставы да яго з'яўлення.

«Адкуль з'явілася ў слоўніках гэтае прыназоўнікавае значэнне? Хутчэй за ўсё ў выніку перакладу рускіх *посреди*, *посредине*, якія сапраўды выступаюць то як прыслоўе, то як прыназоўнік. "Руска-беларускі слоўнік" дае такія адпаведнікі згаданых слоў: прыслоўе *пасярэдзіне* і прыназоўнік з родным склонам *сярод* (каго-чаго), *пасярод* (каго-чаго), *пасярэдзіне* (каго-чаго). А ў "Беларуска-рускім слоўніку" адпаведнікам рускіх *посреди*, *посредине*, *внутри* ўжо выступае *ўсярэдзіне* (як прыслоўе і як прыназоўнік з родным склонам). Пасля гэтага нібыта двухзначнае *ўсярэдзіне* механічна перайшло і ў іншыя акадэмічныя слоўнікі».

З апошняй цытаты вынікае: слова *ўсярэдзіне* "нарадзілася" ў "Беларуска-рускім слоўніку" (М., 1962, паводле кантэксту). Але ж мы вышэй зазначалі, што яно было ўжо ў "Руска-беларускім слоўніку" (М., 1953). Дык дзе правільна?

Давялося ўважліва перачытаць адпаведныя артыкулы ў названых слоўніках. Каб пазбегнуць магчымай недакладнасці, падамо іх цалкам (з РБС-1953).

ВНУТРИ 1. *нареч.* унутры, усярэдзіне; 2. *предлог с род.* унутры *(каго-чаго)*; усярэдзіне *(каго-чаго)*.

ВНУТРЬ 1. *нареч.* унутр, усярэдзіну; 2. *предлог с род.* унутр *(каго-чаго)*; усярэдзіну *(каго-чаго)*.

ВОВНУТРЬ *предлог с род. разг.* унутр *(чаго)*, усярэдзіну *(чаго)*.

Як бачым, словамі *ўсярэдзіне*, *усярэдзіну* перакладзены рускія *внутри*, *внутрь*, *вовнутрь*. А вось сярод адпаведнікаў рускага *посреди* слова *ўсярэдзіне* ў РБС-1953 не падаецца. Выходзіць, яно з'явілася не "ў выніку перакладу рускіх *посреди*, *посредине*" (як мяркуе І. Лепешаў).

Што да "Беларуска-рускага слоўніка" (М., 1962), дык у ім, нагадаем сцверджанне І. Лепешава, "адпаведнікам рускіх *посреди*, *посредине*, *внутри* ўжо выступае *ўсярэдзіне* (як прыслоўе і як прыназоўнік…)". Папраўдзе ж *внутри* ў слоўнікавым артыкуле стаіць перад словамі *посреди*, *посредине* і аддзяляецца ад іх кропкай з коскай (што істотна для нашай гаворкі). Шкада, І. Лепешаў не адзначыў, што ў ролі беларускіх прыназоўнікаў, апрача *ўсярэдзіне*, БРС-1962 падае *пасярод*, *пасярэдзіне* (апошнія "забіраюць" значную частку ўжыванняў слова *ўсярэдзіне*).

Варта запыніць увагу яшчэ на адным моманце. БРС-1962 так акрэслівае першае значэнне слова *ўсярэдзіне* (праз пераклад на рускую): *нареч.* в середине; посредине, посреди. Спалучэнне актыўнага ўжытку *в середине*, якое часта паўстае перад вачыма тых, хто піша па-беларуску, з'яўляецца нагляднай "падставай" пісаць як два словы яго беларускі адпаведнік (*у сярэдзіне*).

"Няма прыназоўніка *ўсярэдзіне*!" Згадзіцца з гэтым эмацыянальным выказваннем не дазваляе нават разгледжаны матэрыял слоўнікаў.

Але дзеля грунтоўнасці раскрыцця тэмы трэба звярнуцца да моўнай практыкі XX ст. – да тэкстаў пісьменнікаў старэйшых пакаленняў, каб выявіць ужыванні спалучэння *у* з назоўнікам *сярэдзіна* і адпаведных прыслоўяў і прыназоўнікаў *усярэдзіне*, *усярэдзіну*, прасачыць іх усталяванне ў беларускай літаратурнай мове.

Пачнем з Якуба Коласа, з яго вядомай трылогіі "На ростанях", якая пісалася на працягу больш як трыццаці гадоў.

У розных выданнях твора ўжыванне (напісанне) спалучэнняў, а таксама прыслоўяў не супадае. Нават у адным і тым выданні яны арфаграфічна афармляюцца супярэчліва.

*…Будка* ***ўсярэдзіне*** *была досыць памястоўная*; *Самі сцены знадворку і* ***ў сярэдзіне*** *пачарнелі* (т. 9, 1975). – *Самі сцены знадворку і* ***ўсярэдзіне*** *пачарнелі* ("На ростанях", 1958).

Усяго ў трылогіі ўжыта амаль 20 прыслоўяў *усярэдзіне*, *усярэдзіну* і спалучэнняў назоўніка *сярэдзіна* з прыназоўнікамі *у*, *з*, *на*.

Датычна чалавека, яго ўнутранага свету выкарыстаны словы і спалучэнні *нутро*, *унутры*, *у нутрах*, *у нутрах-глыбінях*: *Пракурор нібы зазірнуў у сваё* ***нутро***; ***Унутры*** *ўсё кіпела ад нейкага шчасця і радасці*; *…там, дзесь* ***у нутрах-глыбінях****, штосьці ные, баліць*.

Не сустрэлася ні разу слова *знутры*. Яго значэнне паслядоўна перадаецца спалучэннем *з сярэдзіны*.

Гэтыя факты пацвярджаюць натуральнасць беларускага слова *ўсярэдзіне* ў ролі прыслоўя і прыназоўніка.

Паслядоўна ўжываецца слова *ўсярэдзіне* ў апавяданнях Язэпа Лёсіка ("Творы", 1994).

*Нарабіўшы бяды, ён азірнуўся і раптам пачуў, як застукала сэрца і пагарачэла* ***ўсярэдзіне***; *А дома, апарт польскай Бібліі… кантычак з абразікамі* ***ўсярэдзіне****, Юзік жадных кніжак не бачыў.* (Усяго 7 такіх словаўжыванняў.) Выяўлена таксама прыслоўе *ўсярэдзіну* і спалучэнне *з сярэдзіны*.

Звернем увагу. У першапублікацыях твораў Я. Лёсіка (газеты "Вольная Беларусь", 1918, № 34; "Беларусь", 1919, № 37) выдзеленыя ў сказах сло-

вы надрукаваны як спалучэнні *ў сярэдзіне*, *у сярэдзіну*. Тлумачыцца гэта, відаць, тым, што пры напісанні такіх слоў браліся адпаведныя ўзоры рускай мовы: *в середине*, *в средине*.

Укладальнік, рэдактар і карэктар кнігі Я. Лёсіка "Творы" заканамерна ўспрынялі беларускія спалучэнні, дзякуючы іх пазіцыі і граматычнай ролі ў сказах, як прыслоўі і, у адпаведнасці з нарматыўнымі слоўнікамі, напісалі іх як адно слова – *усярэдзіне*, *усярэдзіну*.

Такім чынам, у пісьменнікаў-адначаснікаў Якуба Коласа і Язэпа Лёсіка выявілася прыхільнасць да спалучэнняў *у сярэдзіне*, *у сярэдзіну*, *з сярэдзіны*. Першыя два з іх у пазнейшых выданнях, паводле РБС-1953 і БРС-1962, надрукаваны як словы (*усярэдзіне*, *усярэдзіну*). Дарэчы, у Лёсікавых апавяданнях прыслоўі і прыназоўнікі *ўнутры*, *унутр*, *знутры* зусім не сустрэліся.

Працягвае, калі можна так сказаць, гэтую лінію Янка Брыль у рамане "Птушкі і гнёзды": *Алесь пачуў, як пахаладзела **ўсярэдзіне***; *Старое, аж зялёнае **ўсярэдзіне** ад бросні* [карыта]; *Спачатку замкнулі **з сярэдзіны** дзверы*; [Увапхнулі] ***усярэдзіну** адзін рог малое падушкі*.

А вось В. Быкаў ад пачатку свае творчасці (зборнік "Жураўліны крык", 1960) аддае перавагу прыслоўям і прыназоўнікам *унутры*, *знутры*: *…усё чарнела **ўнутры** ад непазбыўнага болю мінулага*; *…**унутры** чалавека бурліла хмельная радасць*; *Урэшце яго быццам нешта асвятліла **знутры**…*

Нярэдка ўжываецца назоўнік *нутро*: [Свіст] *скочыў у **нутро** транспарцёра*; *…кулямётнае рэха зусім не заціхла ў гулкім **нутры** ратушы*.

Выяўлена толькі адно ўжыванне спалучэння *ў сярэдзіне*: ***У сярэдзіне** гэтых мараў-развагаў… пачуўся нейчы адрывісты голас*.

Не зазнала прыкметных зменаў гэтая асаблівасць словаўжывання В. Быкава ў далейшай творчасці. Так меркаваць дае падставу раман "Знак бяды", напісаны ў 1982 г. Да згаданых вышэй слоў далучылася яшчэ *ўнутр*: *…рука з гадзіннікам прытрымлівала расчыненымі цяжкія дзверы, запрашаючы заходзіць **унутр***; *Міліцыянера паклікалі **ўнутр** будынка*. Між іншым, слова *ўнутр* укладальнікі "Слоўніка мовы Янкі Купалы" аднеслі да русізмаў.

Па адным разу ў рамане "Знак бяды" ўжыты прыслоўе *ўсярэдзіне* і спалучэнне *ў сярэдзіне*: *З-за іх спін і пілотак відаць была **ўсярэдзіне**… высокая фуражка*; *Хата стаяла **ў сярэдзіне** вёскі*.

Сэнсава блізкае да пададзеных словаўжыванняў спалучэнне *на сярэдзіне* (выяўлена 5 выпадкаў), якое ў пэўных кантэкстах замяняе слова *ўсярэдзіне*: *У сцяне **на сярэдзіне** здымка чарнелася круглая дзірачка*; *Яна скамянела ўся **на сярэдзіне** цеснай істопкі*.

У апісанні псіхічнага і фізічнага стану персанажаў В. Быкаў, як і іншыя пісьменнікі, выкарыстоўвае спалучэнні з назоўнікамі *душа*, *сэрца*, *грудзі*, *нутро*: *…не адчуваў нідзе асаблівага болю, толькі **ў грудзях** было неяк вельмі пуста*; *І хоць вялікі быў яшчэ маральны боль, але **на сэрцы** ўжо палягчэла*; *…гэтак углядаецца, бы праз вочы **ў нутро** хоча зазірнуць*.

Хоць, як бачым нават з прыкладаў-ілюстрацый у нашым артыкуле, няма паслядоўнасці пры перадачы на пісьме прыслоўяў і прыназоўнікаў *усярэдзіне*, *усярэдзіну*, у цэлым моўная практыка дзесяцігоддзяў сведчыць: няўхільна ідзе ўсведамленне спалучэнняў *у нутры*, *у сярэдзіне* як прыслоўяў і прыназоўнікаў, а гэта вымагае пісаць кожнае з іх адным словам (злучна).

Пакажам гэта яшчэ на тэксце рамана Міхася Зарэцкага "Вязьмо". У выданні 1932 г. шырока адлюстравана спалучэнне *ў нутры*, нашмат радзей прыслоўе (прыназоўнік) *унутры*: *…дзіўна было, што **ў нутры** гэтага ціхага чалавека столькі стрыманае сілы, энергіі і запалу*; *І прадчуванне гэтага бою ўзнімала **ў нутры** ў яго вострую нецярплівасць*; *Ён гаварыў бадай што сярдзіта, хоць **унутры** было ясна і радасна*; *Руху ў яго досыць было **ў сярэдзіне** – лёгкага, салодкапавеўнага – і глыбокі навакольны спакой, мякка атуляючы гэты рух, не даваў разляцецца яму ў прасторы, стаўпляў яго **ў нутры**…*

Апошні сказ цікавы і тым, што ён сведчыць пра сінанімічнасць спалучэнняў *у нутры* і *ў сярэдзіне*. Апрача гэтага ўжывання, яшчэ тры спалучэнні *ў сярэдзіне* заўважаны на старонках рамана.

У выданні 1962 г. спалучэнне *ў нутры* амаль паўсюль запісана адным словам – як прыслоўе ці прыназоўнік: *…стаўпляў яго **ўнутры***; ***унутры** гэтага ціхага чалавека*.

Адпаведным чынам пераасэнсоўваецца спалучэнне *ў сярэдзіне*: *Карызна… спыніўся перад варотамі хлева, пільна прыслухоўваючыся да таго, што дзеецца там, **усярэдзіне***.

У прыведзеных ілюстрацыях спалучэннямі выказваецца не прадметнае значэнне 'сярэдзіна, нутро каго-чаго', а значэнне прыслоўя ці прыслоўнага прыназоўніка.

Што прыслоўя *ўсярэдзіне* няма ў беларускай мове, І. Лепешаў не гаворыць. Напэўна, прызнае яго наяўнасць. Дык вось тут трэба нагадаць, што значэнні прыслоўя і прыназоўніка суіснуюць у шмат якіх падобных словах: *уперадзе*, *углыб*, *ззаду*, *збоку*, *пасярэдзіне*, *пасярод* і інш. Параўнаем словы рускай мовы, якія таксама граматычна двухзначныя (прыслоўе і прыназоўнік): *вблизи*,

*внизу*, *внутри*. Няма нейкіх моўных перашкод, каб слова *ўсярэдзіне* пазбягаць выкарыстоўваць як прыслоўе і прыназоўнік.

Каб даказаць, што прыназоўніка *ўсярэдзіне* няма ў беларускай мове, І. Лепешаў спасылаецца на прыназоўнік *у*: "Адно з яго граматычных значэнняў – гэта выражэнне прасторавых адносін (тут нельга абмінаць часавыя адносіны. – ***А. К.***). Ужываючыся з месным склонам, ён указвае на прастору або месца, у межах якіх хто-, што-небудзь знаходзіцца або што-небудзь адбываецца. Менавіта гэтыя адносіны і бачым у спалучэнні *ў сярэдзіне* (лесу, хаты, пакоя, слова, сказа і г. д.)". (Паводле ТСБМ, гэта 5-е значэнне, але сюды падыходзяць яшчэ і 6, 7-е значэнні.)

Возьмем на ўвагу. У ТСБМ не прыведзена ніводнага ўжывання *ў сярэдзіне*, там да прыназоўніка *у* даецца іншая ілюстрацыя: *Дарога ў полі. Спаткацца ў лесе. Ваду ў палонцы зацягнула лядком.* Гэта граматычна і сэнсава завершаныя выказванні. У прыкладзе І. Лепешава спалучэнне *ў сярэдзіне* патрабуе "дапаўнення" якім-небудзь назоўнікам (іх падае ў дужках аўтар).

У шэраг да слоўнікавых спалучэнняў тыпу *ў полі* І. Лепешаў ставіць *у сярэдзіне*. Але ж у гэтым выпадку слова *сярэдзіна* з прыназоўнікам *у* выконвае не столькі намінатыўную функцыю, як службовую (што ўласціва прыназоўнікам).

Як бачым, спасылка на ТСБМ не адыграла ўскладанай на яе ролі.

Спынімся яшчэ на адным сцверджанні І. Лепешава: «Выходзіць, што, паводле слоўнікаў, **трэба заўсёды** (вылучана мною. – ***А. К.***) пісаць *усярэдзіне* разам, як адно слова. Але неяк рука не падымаецца напісаць, напрыклад, "усярэдзіне лета", "усярэдзіне сказа", бо тут *сярэдзіна* выразна ўспрымаецца як назоўнік…»

Паспрабуем разабрацца. Тая акалічнасць, што слова ўжываецца ў значэнні прыслоўя ці прыназоўніка, не пазбаўляе яго магчымасці выступаць назоўнікам. Не супярэчаць слоўнікам напісанні: *у сярэдзіне верасня*, *у сярэдзіне года*, *у сярэдзіне абоза*. Тут *сярэдзіна* мае значэнне 'час ці месца, прыкладна аднолькава аддаленыя ад пачатку і канца ці ад канцоў, краёў чаго-небудзь'. Параўнаем: *у сярэдзіне XIV стагоддзя* (БелСЭ, т. 6, с. 344). Што ж да спалучэння *ўсярэдзіне сказа*, то пра яго гаварылася вышэй.

Але і ў мяне "рука не падымаецца" напісаць "у сярэдзіне хаты", "у сярэдзіне вагона" (пры выказванні значэння 'ўнутры'). Тут трэба пісаць разам. Натуральна таксама ўжываць: *на сярэдзіне хаты*, *пасярэдзіне* (*пасярод*) *хаты*, *на сярэдзіне вагона*, *пасярод вагона*. Наяўнасць сінанімічных канструкцый абмяжоўвае выкарыстанне прыслоўя і прыназоўніка *ўсярэдзіне*.

Увогуле *ўсярэдзіне* як прыназоўнік, параўнальна з прыслоўем, сустракаецца ў пісьмовай мове вельмі рэдка. Пры гэтым бывае іншы раз цяжка адрозніць, што перад намі: прыслоўе ці прыназоўнік. Прачытаем урывак з апавядання Я. Лёсіка "Па-валачобнаму".

*"І раптам моцна, быццам аднекуль вырваўшыся, выбухла недзе ў канцы сяла і заглушыла ўсе іншыя спевы песня са скрыпкай і басэтляй… <…> А дзесь **усярэдзіне**, пасярод сяла, шчабяталі дробна, як птушкі, адны дзяціныя галасы".*

Чаму амаль не сустракаем, напрыклад, спалучэнняў *усярэдзіне хаты*, *унутры хаты*? Бо адпаведнае паняцце звычайна выказваецца з дапамогай прыназоўніка *ў* або прыслоўя *ўсярэдзіне*: *У хаце чыста, парадак*; *Знадворку хата акінутая, усярэдзіне чыста, парадак.*

Распачатая (фактычна І. Лепешавым) гаворка пра складанае пытанне беларускай граматыкі і арфаграфіі, вядома ж, далёка да свайго завяршэння. Тут жа, як дадатак да выкладзенага намі, зазначым.

Іван Лепешаў называе слоўнікі, што падаюць слова *ўсярэдзіне* як прыслоўе і прыназоўнік, – акадэмічныя (ТСБМ, БРС, СБМ) і "Арфаграфічны слоўнік для школьнікаў". Шкада, з пераліку выпалі самы ранейшы, у якім зафіксавана гэтае слова (РБС-1953), і, бадай, самы апошні, самы "абавязаўчы", нарматыўны – "Беларускі арфаграфічны слоўнік" (2009). І. Лепешаў схіляецца да думкі, што варта адмовіцца ад прыназоўніка *ўсярэдзіне*. На наша меркаванне, рабіць гэта немэтазгодна. Слова *ўсярэдзіне* ўсталявалася ў шматлікіх літаратурных тэкстах, кадыфікавана лінгвістычнымі даведнікамі. Было б недаравальным пазбаўляцца ад выяўна беларускай рысачкі на абліччы нашай мовы. [Зара́з спамянем "добрым, ціхім словам" нашых папярэднікаў – рэдактараў "Руска-беларускага слоўніка" (М., 1953) Якуба Коласа, Кандрата Крапіву, Пятра Глебку, якія заўважылі гэтую моўную "драбніцу" і перадалі наступным пакаленням.]

Бясспрэчна, хібы пры ўжыванні слова *ўсярэдзіне* ёсць, іх трэба ўнікаць. Адна з прычын арфаграфічнай цяжкасці: беларускае *ўсярэдзіне* суадносіцца з рускімі словамі *внутри*, *в середине*. На ўзор *внутри* замацавалася *ўнутры* (з ранейшага *ў нутры*). Слова *ўсярэдзіне* таксама зазнае ўплыў рускай мовы, а менавіта спалучэння *в середине* (якое ніколі не ўжываецца як адно слова "всередине").

Наспела патрэба ў стварэнні (фармуляванні) адпаведнага правіла – можа, ахапіўшы ім і іншыя цяжкія словаўжыванні: *у баку – убаку*, *з боку – збоку* і пад.

*Кладзі слова ў лад*

# ВАРТАСЦІ І НЕДАХОПЫ ЭЛЕКТРОННЫХ ПЕРАКЛАДЧЫКАЎ

"Вясёлага эфіру!" – нібыта пажадаў з хітрай усмешкай стваральнік "Белазара", электроннага перакладчыка з рускай мовы на беларускую, карыстальнікам са сферы электронных СМІ. У ёй, дарэчы, "Белазар" вельмі папулярны. "А што, эканоміць час, якога так не хапае, і, здаецца, па-беларуску разумее добра", – прадбачым каментарыі журналістаў.

Спрачацца не станем. Плюсаў вельмі шмат. І ўвогуле добра, што такія сродкі работы з беларускай мовай існуюць.

Вядома, аднак, што нават самымі дасканалымі вынаходствамі трэба карыстацца з розумам. Гэта можна сказаць і пра электронныя перакладчыкі. Яны, дарэчы, ствараліся не для навучання мове з нуля, а для дапамогі, паскарэння працы тым, хто ёй валодае на дастаткова высокім узроўні. А што атрымліваецца ў жыцці? Не толькі для эканоміі часу, а перш-наперш для захавання ўласнай энергіі, з-за нежадання гартаць кнігі "Белазар" становіцца "найлепшым" сябрам дылетантаў. І ў выніку *Папа Рымскі* робіцца *Татам*, а *бялкі – вавёркамі*.

Прааналізуем некалькі кантэкстаў, перакладзеных "Белазарам", і выявім, дзе трэба быць асабліва ўважлівымі, выкарыстоўваючы яго.

**В Москве успешно продают белорусскую продукцию более 50 специализированных магазинов.**

16 февраля, Минск
(Татьяна Лобас – БЕЛТА).

*…Об этом сообщил сегодня на пресс-конференции глава представительства правительства Москвы в Беларуси Владимир Плаксин, передает корреспондент БЕЛТА.*

*Наибольшим успехом москвичей пользуется белорусская молочная и мясная продукция. Она реализуется как в фирменных магазинах, поставки в которые ритмично осуществляются на основе достигнутых договоренностей, так и на ярмарках выходного дня. График проведения таких ярмарок согласован с префектурами административных округов Москвы. "Люди всегда с нетерпением ждут белорусскую продукцию, потому что их устраивает ее высокое, безупречное качество, а также приемлемая цена", – подчеркнул Владимир Плаксин.*

*Кроме продуктов питания, на ярмарках активно реализуются товары народного потребления, малогабаритная мебель, текстиль, льняные и трикотажные изделия, сувенирная продукция. Многие белорусские предприятия имеют свои торговые представительства, фирменные секции в магазинах шаговой доступности.*

*Наряду с положительной динамикой наращивания объемов реализации белорусской продукции на рынки российской столицы Владимир Плаксин отметил, что за последний год товарооборот снизился на 30%. Причины тому разные – как объективные, так и субъективные.*

*«Поэтому предстоящий бизнес-форум "Россия-Беларусь – 2010 (Москва и регионы России). Товары народного потребления: новые контракты и увеличение продаж", который пройдет в Минске с 18 по 19 февраля, как нельзя кстати для развития двустороннего сотрудничества. Форум даст новый импульс для совершенствования торговых отношений. Это мероприятие не только стратегически важно, но актуально необходимо по нынешнему состоянию дел», – подчеркнул Владимир Плаксин.*

*Он напомнил, что Дом Москвы в Минске создавался для более глубокого развития всего спектра сотрудничества российской столицы и Беларуси, реализации договоренностей, достигнутых в рамках Совета делового сотрудничества. Дом Москвы является одним из организаторов предстоящего бизнес-форума.*

*По мнению Владимира Плаксина, в настоящее время между белорусскими производителями и российскими торговыми оптовыми и розничными сетями нет каких-либо серьезных разногласий. Отношения строятся на взаимовыгодной основе. "Пока законодатели решают свои вопросы, товаропроизводители и торговые партнеры сами находят компромиссы: создают торговые представительства, открывают совместные предприятия", – подчеркнул Владимир Плаксин. По его мнению, это "самый лучший вариант вхождения белорусских товаропроизводителей в торговую сеть Москвы и регионов России".*

*Предстоящий бизнес-форум, по его словам, может дать белорусским товаропроизводителям возможность не только заявить о себе, но и решить проблемы сбыта своей продукции, не выезжая за пределы республики. По желанию белорусские товаропроизводители могут организовать на форуме презентацию своих товаров.*

**ПЕРАКЛАД З ДАПАМОГАЙ "БЕЛАЗАРА" (НЕРЭДАГАВАНЫ)**

У Маскве паспяхова прадаюць беларускую прадукцыю **больш 50** спецыялізаваных крам.

Аб гэтым паведаміў сёння на прэс-канферэнцыі **раздзел** прадстаўніцтва ўрада Масквы ў Беларусі **Ўладзімір** *Плаксин*, передае карэспандэнт БЕЛТА.

Найбольшым **поспехам масквічоў** карыстаецца беларуская малочная і мясная прадукцыя. Яна рэалізуецца як у фірмовых крамах, пастаўкі ў якія рытмічна здзяйсняюцца на аснове дасягнутых дамоўленасцяў, так і на кірмашах **выходнага** дня. Графік правядзення такіх кірмашоў узгоднены з прэфектурамі адміністрацыйных акруг Масквы. "Людзі заўсёды з нецярпеннем чакаюць беларускую прадукцыю, таму што іх **уладкоўвае** яе высокая, бездакорная якасць, а таксама прымальны кошт", – падкрэсліў Уладзімір *Плаксин*.

Акрамя **прадуктаў сілкавання**, на кірмашах актыўна рэалізуюцца тавары народнага спажывання, малагабарытная мэбля, тэкстыль, ільняныя і трыкатажныя вырабы, сувенірная прадукцыя. Шматлікія беларускія прадпрыемствы маюць свае гандлёвыя прадстаўніцтвы, фірмовыя секцыі ў крамах *шаговой* дастунпасці.

Нараўне з дадатнай дынамікай нарошчвання аб'ёмаў рэалізацыі беларускай прадукцыі на рынкі расійскай сталіцы Ўладзімір *Плаксин* адзначыў, што за апошні год тавара**зварот** знізіўся на 30%. **Чыннікі** таму розныя – як аб'ектыўныя, так і суб'ектыўныя.

«Таму **які мае быць** бізнес-форум "Расія-Беларусь – 2010 (Масква і рэгіёны Расіі). Тавары народнага спажывання: новыя кантракты і павелічэнне продажаў", які пройдзе ў М**е**нску з 18 па 19 лютага, як нельга дарэчы для развіцця двухбаковага супрацоўніцтва. Форум дасць новы імпульс для ўдасканалення гандлёвых адносін. Гэтае мерапрыемства не толькі **стратэгічна важна**, але **актуальна неабходна** па цяперашнім стане спраў», – падкрэсліў Уладзімір *Плаксин*.

Ён нагадаў, што **Хата Масквы** ў М**е**нску ствара**ў**ся для глыбейшага развіцц**і** ўсяго спектр**у** супрацоўніцтва расійскай сталіцы і Беларусі, рэалізацыі дамоўленасцяў, дасягнутых у рамках **Рады** дзелавога супрацоўніцтва. **Хата Масквы** з'яўляецца адным з арганізатараў **які мае быць** бізнес-форум**а**.

Па меркаванні **Ўладзімір?** *Плаксина*, у цяперашні час паміж беларускімі вытворцамі і расійскімі гандлёвымі **оптавымі** і рознічнымі сеткамі няма які**я**-небудзь сур'ёзных рознагалоссяў. Адносіны будуюцца на ўзаемавыгаднай аснове. "Пакуль заканадаўцы вырашаюць свае пытанні, таваравытворцы і гандлёвыя партнёры самі знаходзяць кампрамісы: ствараюць гандлёвыя прадстаўніцтвы, **адчыняюць** сумесныя прадпрыемствы", – падкрэсліў Уладзімір *Плаксин*. Па **ім** меркаванню, гэта "самы лепшы варыянт уваходжання беларускіх таваравытворцаў у гандлёвую сетку Масквы і рэгіёнаў Расіі".

**Які мае быць** бізнес-форум, па **ім** слов**ам**, можа даць беларускім таваравытворцам магчымасць не толькі заявіць аб сабе, але і вырашыць праблемы збыту сваёй прадукцыі, не выязджаючы за межы рэспублікі. Па жаданні беларускія таваравытворцы могуць арганізаваць на форуме прэзентацыю сваіх тавараў.

**АНАЛІЗ ПЕРАКЛАДУ "БЕЛАЗАРАМ"**

У тэксце вылучаны грубыя памылкі, выяўленыя падчас яго прачытання. Сярод іх і арфаграфічныя (*Ў*), і акцэнтуацыйныя (напісанне слова сведчыць пра няправільную пастаноўку націску: *оптавымі*, *выходнага*), і граматычныя (няправільныя канчаткі), і сінтаксічныя (няправільная пабудова словазлучэнняў і сказаў: *Таму <u>які мае быць</u> бізнес-форум…*), і стылістычныя (недарэчна ўжытыя словы: <u>*раздзел*</u> (трэба ***кіраўнік***) *прадстаўніцтва ўрада*, <u>*чыннікі*</u> (трэба ***прычыны***) – *аб'ектыўныя і суб'ектыўныя*; нанізванне слоў адной часціны мовы: *не толькі <u>стратэгічна важна</u>, але <u>актуальна неабходна</u>*).

Акрамя таго, уласныя імёны не перакладаюцца ўвогуле, а пераклад назваў устаноў і арганізацый не адпавядае афіцыйнаму і часам стварае камічны эфект (*Хата Масквы*).

Чалавек, які не вельмі добра валодае беларускай мовай, многія нават з гэтых, на першы погляд, відавочных агрэхаў, можа не заўважыць. Таму, хоць гэта і парадаксальна, але перш чым карыстацца электронным перакладчыкам, у прыватнасці "Белазарам", трэба вывучыць мову.

Прывядзём яшчэ колькі кантэкстаў, перакладзеных "Белазарам", дзе заўважана парушэнне нормаў беларускай літаратурнай мовы.

*Нобелеўская прэмія па хіміі ўручаецца з 1901 года. **У агульнай складанасці** яе атрымалі 15**3** чалавек**а**.* (Правільна: *Увогуле яе атрымалі 153 чалавекі.*)

*"Трое навукоўцаў – брытанец Венкатраман **Рамакришнан**, амерыканец Томас Штайц і ізраільцянка Ада Йонат – удастоеныя Нобелеўскай прэміі ў вобласці хіміі 2009 года за даследаванні структуры і функцыі **рибосомы**, **счытвальнай інфармацыю** з ДНК і якая сінтэзуе **вавёркі**.*

***Рибосома** счытвае запісаную ў ДНК інфармацыю, вырабляе **бялкі**, якія ў сваю чаргу кантралююць хімічныя працэсы ва ўсіх жывых арганізмах", – гаворыцца ў паведамленні для прэсы, распаўсюджаным акадэміяй.* (Не перакладаюцца некаторыя тэрміны і прозвішчы, няправільна пабудавана частка сказа, абсурднае спалучэнне *сінтэзуе вавёркі*. Аднак у наступным сказе бачым правільны пераклад – *бялкі*.)

Такім чынам, перакладчык **не заўсёды адрозніваe амонімы**. Таму не ва ўсіх выпадках можа перадаць сэнс дакладна і дарэчна. Напрыклад: *мясцовыя выгляды паліва* (трэба ***віды***). Слова *помощник* перакладае заўсёды як *дапаможнік*, хоць для абазначэння асобы ёсць слова *памочнік*.

Машына прапануе і такі пераклад: *Тавар адказвае ўсім патрабаванням*. Справа ў тым, што яна перадае прамы сэнс. Рускі дзеяслоў *отвечать* у пераносным сэнсе (а менавіта так ужыта слова ў прыведзеным кантэксце) на беларускую мову перакладаецца як *адпавядаць*. Такім чынам, правільна па-беларуску – ***адпавядаць патрабаванням***.

Таму варта асобна адзначыць, што перакладаць з дапамогай "Белазара", на нашу думку, можна інфармацыю факталагічнага характару, так бы мовіць, сухую. Што ж да тэкстаў, дзе шмат слоў у пераносным значэнні, напрыклад тэкстаў мастацкай літаратуры, то пасля электроннага перакладу будзе яшчэ больш работы, чым калі б гэта рабілася самастойна.

#### ВЫНІК РАБОТЫ ПЕРАКЛАДЧЫКА TRANSLATE.EU

*У Маскве паспяхова прадаюць прадукцыю беларускіх прадпрыемстваў звыш 50 спецыялізаваных магазінаў. Пра гэта паведаміў сёння на прэс-канферэнцыі кіраўнік прадстаўніцтва ўрада Масквы ў Беларусі Уладзімір Плаксін, перадае карэспандэнт БЕЛТА.*

*Найбольшым поспехам **?** масквічоў карыстаецца беларуская малочная і мясная прадукцыя. Яна рэалізуецца як у **фірмовых** крамах, пастаўкі **у** якія рытмічна ажыццяўляюцца на аснове дасягнутых дамоўленасцяў, так і на кірмашах выхаднога дня. Графік правядзення такіх кірмашоў узгоднены з прэфектурамі адміністрацыйных акруг Масквы. "Людзі заўсёды з нецярпеннем чакаюць беларускую прадукцыю, таму што іх задавальняе яе высокае, бездакорная якасць, а таксама прымальны кошт", – падкрэсліў Уладзімір Плаксін.*

*Акрамя прадуктаў харчавання, на кірмашах актыўна рэалізуюцца тавары народнага спажывання, малагабарытная мэбля, тэкстыль, ільняныя і трыкатажныя вырабы, сувенірная прадукцыя. Многія беларускія прадпрыемствы маюць свае гандлёвыя прадстаўніцтвы, фірменныя секцыі ў крамах крокавай даступнасці.*

*Нараўне **з** станоўчай дынамікай нарошчвання аб'ёмаў рэалізацыі беларускай прадукцыі на рынкі расійскай сталіцы Уладзімір Плаксін адзначыў, што за апошні год тавараабарот знізіўся на 30%. Прычыны таго розныя – як аб'ектыўныя, так і суб'ектыўныя.*

*«Таму маючы адбыцца бізнес-форум "Расія-Беларусь – 2010 (Масква і рэгіёны Расіі). Тавары народнага спажывання: новыя кантракты і павелічэнне продажаў", які пройдзе ў Мінску з 18 па 19 лютага, як нельга дарэчы для развіцця двухбаковага супрацоўніцтва. Форум дасць новы імпульс для ўдасканалення гандлёвых адносін. Гэта мерапрыемства не толькі **стратэгічна важна, але актуальна неабходна па цяперашняму стану спраў**», – падкрэсліў Уладзімір Плаксін.*

*Ён нагадаў, што Дом Масквы ў Мінску ствараўся для больш глыбокага развіцця ўсяго спектра супрацоўніцтва расійскай сталіцы і Беларусі, рэалізацыі дамоўленасцяў, дасягнутых у рамках Савета дзелавога супрацоўніцтва. Дом Масквы з'яўляецца адным з арганізатараў маючага адбыцца бізнес-форуму.*

*На думку Уладзімір**?** Плаксін**?**, **у цяперашні час** паміж беларускімі вытворцамі і расійскімі гандлёвымі аптовымі і рознічнымі сеткамі няма якіх-небудзь сур'ёзных рознагалоссяў. Адносіны будуюцца на ўзаемавыгаднай аснове. "Пакуль заканадаўцы вырашаюць свае пытанні, таваравытворцы і гандлёвыя партнёры самі знаходзяць кампрамісы: ствараюць гандлёвыя прадстаўніцтвы, адкрываюць сумесныя прадпрыемствы", – падкрэсліў Уладзімір Плаксін. На яго думку, гэта "самы лепшы варыянт уваходжання беларускіх таваравытворцаў у гандлёвую сетку Масквы і рэгіёнаў Расіі".*

*Маючы адбыцца бізнес-форум, па яго словах, можа даць беларускім таваравытворцам магчымасць не толькі заявіць пра сябе, але і вырашыць праблемы збыту сваёй прадукцыі, не выязджаючы за межы рэспублікі. Па жаданні беларускія таваравытворцы могуць арганізаваць на форуме прэзентацыю сваіх **товаров**.*

Як відаць, пасля Translate.eu намнога менш агрэхаў, чым пасля "Белазара". Яны звязаны пераважна са стылем і лексікай. Такім чынам, пасля перакладчыка Translate.eu асабліва пільна тэкст неабходна правяраць на дарэчнасць і адпаведнасць сродкаў выражэння стылю, да якога тэкст адносіцца.

Электронныя перакладчыкі не заўсёды і не для ўсіх добрыя памочнікі. Таму, хто ведае мову, яны сапраўды сэканомяць час. Асабліва калі трэба перакласці афіцыйную інфармацыю. Не варта імі захапляцца таму, хто мову толькі вывучае або ведае яе не вельмі добра. Машына сваім перакладам можа ўвесці ў зман. Не падыходзяць электронныя перакладчыкі і для перастварэння мастацкай літаратуры, бо можа сказіцца сэнс, згубіцца каларыт.

**Вераніка БАНДАРОВІЧ,**
кандыдат філалагічных навук,
рэдактар стылістычны і журналіст Беларускага радыё.

*Майстэрства слова*

# МОЎНЫЯ ПЫТАННІ Ў ПУБЛІЦЫСТЫЦЫ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА

Моватворчая практыка – складаная і ўпартая праца на мяжы нормы і адступленняў ад яе [4, с. 121]. Пісьменнік не толькі стварае ўзоры мастацкага слова, але і спрыяе засваенню народам літаратурных нормаў, таму адказвае за мову сваіх твораў [2, с. 54]. Максіма Гарэцкага цікавілі пытанні развіцця беларускай мовы, яго артыкулы адлюстравалі літаратурную палеміку 1920-х гг. У іх пісьменнік абараняў беларускае адраджэнне: нашаму народу "не да твару быць прыбаўкаю, дадаткам да нацыі дужэйшай" [1, с. 180], заклікаў Янку Купалу, Якуба Коласа, іншых пісьменнікаў "менш уважаць на напасці з польскага і расійскага боку, менш азірацца на іх" [1, с. 184]. Гарэцкі патрабаваў ад інтэлігенцыі "вучыцца розуму ў народа" [1, с. 243]. Ён пісаў: "Беларуская інтэлігенцыя не павінна рабіць абмылак: трэба ёй усімі сіламі хапацца за народ", "не глушыць у сваім дэмакратычным беларускім сэрцы беларускіх народных здаровых пачуццяў". У выніку "літаратура… простага народа… будзе мець пры добрых варунках значэнне сусветнае…" [1, с. 191].

Пазнаёміўшыся з працай "Беларусы" Яўхіма Карскага, этнаграфічнымі зборнікамі, "дзе можна знайсці досыць характэрных, прыгожых і граматычна цікавых зваротаў беларускай мовы", М. Гарэцкі параіў студэнтам-беларусам і людзям "з вышэйшай філалагічнай асветай" напісаць беларускую практычную граматыку: "Гэта быў бы важны крок уперад у нашым адраджэнні". У мове мастацкіх твораў ён пагаджаўся з няправільнасцю: "Гэты недахват такі любы і прыгожы, што магнэсам цягне. Так і мова" [1, с. 194]. Праца над мовай абазначала для яго ўжыванне арыгінальных слоў: «Калі ёсць дзе ў кутках Беларусі слова на вышэйшае ("отвлечённое") паняцце (Гродзеншч.: *летуцець – мечтать*) ці добры тэхнічны тэрмін і т. д., каторых няхай… не ведаюць усе беларусы, дык іх варта ўвясці ў нашу літаратурную мову, чымся пазычыць у суседаў… Калі для аднаго якога паняцця ў нас ёсць два ці некалькі слоў, але ў адным кутку Беларусі гавораць адно слова, а ў другім другое, то я раіў бы ўжываць такое, каторае… вядома большай частцы беларусаў». Для пісьменніка тэрміны "расіянізм", "паланізм" былі адноснымі: «Другі нябога крычыць: "Гэта слова – паланізм! Паланізм!" Бяру кніжку песень, казак, пасловіц, загадак беларускіх, запісаных на ўсходзе Беларусі, і паказваю тое слова ў чысцейшай беларускай мове старадаўнай беларускай песні…» [1, с. 196].

Развагам даследчыка наконт неабходнасці ўзмацніць "народны" характар беларускай мовы надаў доказнасць праведзены ім моўны аналіз помнікаў і твораў нашаніўцаў. Даследаваўшы мову кніг Францыска Скарыны, М. Гарэцкі назваў яе тагачаснай беларускай. Але Ф. Скарына карыстаўся і царкоўнаславянскімі словамі, у яго заўважаны ўплывы чэшскай, польскай, літоўскай моў, сустракаюцца нямецкія словы – *майстар, тахта*, "усё да меры". Ужываліся і словы, якія і ў XX ст. можна было пачуць у глухіх кутках Беларусі: *вонках* 'на дварэ, ізўне', *жужэлка* 'яшчарка', *заранíца, волот* 'багатыр', *дзяўкоўна, братанічна* 'пляменніца', *дружына* 'таварышы' і інш. Адзначаны ў Ф. Скарыны словы, якія за чатыры стагоддзі не змяніліся: *борзды, бараніць, вінаваціць, вір, граблі, жыто, забрэхаць, вішчэць, заручыць, лемеш, карагод, пражыцца на скаўрадзе, пуга, скрыня, торг, не цяміць, узгорак, віхор* і інш. [1, с. 205]. У артыкуле "Белорусская литература (Краткий очерк)" даследчык спыніўся на асаблівасцях стылю В. Цяпінскага, Ф. Багушэвіча, паказаў значэнне граматыкі беларускай мовы Я. Карскага, навуковых прац У. Дабравольскага, М. Доўнара-Запольскага, І. Насовіча, М. Нікіфароўскага, Е. Раманава, М. Федароўскага, П. Шэйна, раскрыў ролю нашаніўцаў у развіцці беларускай мовы. Справа нашаніўцаў знайшла працяг у 1920-я гг., калі з "поспехамі беларусізацыі, асабліва ў галіне навукі… усё больш удасканальвалася сучасная беларуская мова, прычым рупліва зберагалася яе народная аснова" [1, с. 326, 328, 331, 335]. "На беларускую мову нашаніўцы глядзелі так, што яна павінна ахапіць усе з'явы жыцця (вышэйшая адукацыя, дзяржаўнае дзелаводства, тэхнічныя тэрміны і г. д.). Нашаніўцы… стараліся развіваць багацце і гібкасць беларускай літаратурнай мовы". У 1920-я гг. разгарнулася праца Інбелкульта, беларусізаваліся ўніверсітэт, сельгасакадэмія, усе дзяржаўныя ўстановы; передавая інтэлігенцыя заўсёды і ўсюды размаўляла "выключна на беларускай мове" [1, с. 285].

Максім Гарэцкі прааналізаваў мову твораў М. Чарота, Я. Нёманскага, М. Грамыкі, М. Зарэцкага, Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, М. Лынькова і многіх іншых пісьменнікаў. У вершах 1919 – 1922 гг. Міхася Чарота даследчык знайшоў "рух, імпэт, імкненне, нават у паасобных вобразных выразах і словах і загалоўках вершаў: *мяцежны бунтар* (хоць гэта і не зусім па-беларуску), *вокліч мой, гудзе звон, вечная бура, завіруха, апошні крык*

і да т. п." [1, с. 294]. У найлепшых паэмах М. Чарота ("Ленін", "Карчма", "Марына") – "рытміка вершаў сучасная, асанансы, алітарацыі, гучная музыкальнасць", "з боку гучнасці – гэта магутны аркестр, якім кіруе самавук". Найбольш пашыраны ў Чарота "эпітэты, паўторы, параўнанні… метафары" [1, с. 298]. Сустракаюцца паўторы псіхалагічныя (*Ой, Рахіль! Ой, шынкаркі дзіця!*; *Многа згіне, згіне многа*) або "залежныя ад перайманя народнай творчасці (*Каля рэчкі касец косіць, каля рэчкі касец косіць…*; *Зашумеце, ды сыры бары, загручэце, перуны-громы…*)… Метафары… вельмі яскравыя (*неба абліта агнём* – пажар, *стогне віхар-бура* – рэвалюцыя)". У мове прозы М. Чарота даследчык знайшоў "антыэстэтызм, грубаватасць стылю", "некаторую неапрацаванасць" [1, с. 299]. Ён пісаў: "На мове Міхася Чарота шмат расійскіх уплываў. Пажадана, каб нашы вучоныя мовазнаўцы часцей пісалі б на гэтыя тэмы" [1, с. 300]. Творчасць Янкі Нёманскага зацікавіла Гарэцкага, бо той паказаў "сутнасць нацыянальных і рэлігійных пытанняў на чыста беларускім грунце" [1, с. 301]. Мова твораў Я. Нёманскага "незвычайна простая, сціплая (скромная), але… вобразная, драматычная і з гумарам… чыстая народная з Навагрудчыны, з прыгожымі, рэдка лішнімі паветалізмамі (*усцішша*), расіянізмамі (*касцёр*) і паланізмамі (*пэнт*)", аднак з ужываннем "некаторых няправільнасцей у значэнні слоў: *астатнія* ў значэнні рэшты, замест расійскага *остальные*". У мове дзейных асоб і ў словах аўтара ўжываюцца "расіянізмы: *дзень-та, хтось-та, чые-та, ліш бы, вачкі* або *ачкі, настаяшчы, наскучыла,* паланізмы: *статэчны, сконтвечная,* украінізмы: *швідка,* нявытлумачаныя рэдкія мясцовыя словы: *андуфэльт, сумелая, спонкі…* паветалізмы: *кангаз, гавяда, бома*, няправільна ўжытыя беларускія словы: *асабіста* замест *асобна*, *астатнія* замест *рэшта* або *іншыя… спадабаецца* замест *падабаецца*, *надзеў новыя лапці* замест *абуў…*" [1, с. 307].

Даследчык разглядаў змест у адзінстве з формай, быў прынцыповым крытыкам. Імкненне да прыгожай формы не павінна шкодзіць зместу твора. Пра Міхайлу Грамыку М. Гарэцкі сказаў: «Форма гняце яго, бо ён не ўмее валодаць ёю, і ад гэтай прычыны ён хоча рабіць над ёю пэўны "гвалт", дапушчае нібы "наўмысныя" вольнасці ў форме, часам сапраўды з вышчарбленнем сэнсу… Патрэбна яму рыфма да слова *снег*, і ён піша: "*Спяць без пацех*" (?!)… Мова беларуская далей ад яго, чым мова расійская… Ён не працуе над паглыбленнем свае веды ў беларускай мове, бо слаба ведае беларускую фразеалогію… Знаходзім гэткія выразы: "*<u>тады як</u> лінія дзедавага брата* (Іван Грамыка) *і дагэтуль працуе <u>над зямлёй</u>*… а па-беларуску трэба было напісаць хоць гэтак: *<u>тым часам</u> лінія дзедавага брата* (Івана Грамыкі) *і дагэтуль працуе <u>на зямлі</u>…*» [1, с. 315]. Мова Міхася Зарэцкага "кніжная… з мастацкага боку – гэта… недахоп, асабліва ў тых выпадках, калі апавяданне павінна быць звязана з… народным бытам". Стыль Зарэцкага – "бойкае пяро", але ў пагоні "за таннай бліскучасцю стылю" ён пісаў «падкрэслена разmеранымі сказамі, абрыўкамі сказаў, рознымі напамінкамі і таннымі слоўнымі фокусамі: "кветка пажоўклая", а не "пажоўклая кветка"»… [1, с. 319]. У мове твораў Цішкі Гартнага М. Гарэцкі знайшоў "збітыя паўторы". Гарэцкі ахарактарызаваў развіццё беларускай мовы ў Заходняй Беларусі пасля падзелу беларускіх зямель увосень 1915 г. як добрае: на беларускай мове працавалі народныя школы, настаўніцкая семінарыя ў Свіслачы, выйшлі "падручнікі, укладаў якія Ластоўскі", граматыка беларускай мовы Пачопкі. Даследчык па заслугах ацаніў апавяданні Я. Лёсіка: "Аўтар многіх граматык і прасторных правапісаў загубіў у ім не вельмі плоднага, але вельмі добрага і нацыянальна-беларускага пісьменніка".

Падзеяй для М. Гарэцкага было выданне ў Вільні ў 1918 г. граматыкі Б. Тарашкевіча, пасля чаго беларускі правапіс зрабіўся навуковым, абавязковым для ўсіх беларусаў [1, с. 336, 338, 340]. Даследчык пісаў пра вершы заходнебеларускай паэткі Н. Арсенневай, што яны "захопліваюць шчырасцю пачуцця, далікатнасцю тону і нейкаю асабліваю пяшчотнасцю вобразаў і слоў". Разглядаючы беларускі рух у Латвіі, ён адзначыў выданне ў Коўне беларускага слоўніка В. Ластоўскага, вершы А. Смаленца назваў "моцнымі думкаю і даволі арыгінальнымі формаю" [1, с. 343].

Максім Гарэцкі слушна адзначаў: "Рэвалюцыйны час даў магчымасць праслаўіцца… маладым паэтам і пісьменнікам не столькі за мастацкасць іхнае творчасці, колькі за ідэалагічны змест яе". Праўда, у 1920-я гг. мастацкі ўзровень твораў павышаецца з-за "агульнага развіцця беларускай культуры… пранікання беларускай мовы ў вышэйшую школу, у навуку і ў штодзённы ўжытак шырокага кола людзей з высокаю інтэлігентнасцю і адукаванасцю". Таму "першыя вершы кожнага… вядомага сучаснага маладога беларускага паэта стаяць… вышэй за першыя вершы нашаніўцаў, а кожны… выдатны малады паэт піша вершы… лепшыя за вершы Ясакара або Цішкі Гартнага". Тагачасныя беларускія аўтары пісалі так, як і нашаніўцы: без "гвалтаў над формаю, з некаторым… ухілам у бок шукання і навізны" [1, с. 351]. Мова пісьменнікаў паслякастрычніцкага перыяду з мастацкага боку больш апрацавана, што абумоўлена "развіццём беларускай навуковай тэрміналогіі, фразеалогіі, беларусізацыяй усіх галін культурнага жыцця ў БССР". Даследчык адзначыў сувязь духоўнага і матэрыяльнага: "Дасканаласць беларускага санета залежыць

ад дасканалага росту беларускай бульбы, але і дасканалы рост беларускай бульбы залежыць ад таго, на якіх санетах будуць мецъ сваё выхаванне студэнты Акадэміі ў Горках" [1, с. 352].

Высокае паэтычнае майстэрства ўласціва творам Янкі Купалы, паэме Якуба Коласа "Новая зямля", у якой "народны характар вобразнасці, незвычайная сакавітасць і прыгаство мовы". Мова пазнейшых апавяданняў Я. Коласа "менш сакавітая" ў параўнанні з мовай ранейшых [1, с. 354]. Творчасць У. Дубоўкі вылучаецца "глыбінёй, музыкальнасцю, свядомым хараством" [1, с. 355]. У творах Міхася Лынькова М. Гарэцкі выявіў як станоўчыя рысы, так і недахопы. Так, напрыклад, у апавяданні "Чыгунныя песні" аўтар даў моцныя і простыя словы, аднак ён хацеў, "каб песні былі *чыгунныя*, гукі – *медныя і чыгунныя*, поступ *чыгунны*, накіп – *сталёвая*" [1, с. 356]. Мова яго зборніка "Апавяданні" (1927) прыгожая, але паказвае любоў да стылізацыі: *Закрыеш вочы – і дзіўныя вобразы адзін за адным лунаюць у карагодзе бясконцым. У карагодзе, сатканым з красак стагоддзяў, з магутных подыхаў людской грамады, з вобразаў даўно мінулых дзён прашумеўшых, з жалезнага рокату расквітаючых дзён будучыні, з чалавечых дум і жаданняў…* Сустракаюцца недакладна ўжытыя словы, выразы: *Ты мне трэба* замест *Ты мне патрэбна*; *Каб іх жыццё праходзіла як мага найлепей* замест *як мага лепей, як найлепей*. Ёсць і русізмы: *сіліцца* 'намагаецца', *гатовіцца* 'рыхтуецца', *вуцюгом* 'прасам'. М. Гарэцкі палічыў русізмамі і словы *прамая* 'простая', *урокаў* 'лекцыяў', *зашыпела* 'засіпела', *лодыр* 'лотра, латруга', *імені* 'імя', *пытаеш мяне* 'пытаешся ў мяне' [1, с. 360]. Яны адзначаны ў сучаснай літаратурнай мове, бо пасля прыняцця пастановы 1933 г., у 1930 – 1950-я гг. і пазней, развіццё беларускай літаратурнай мовы адбывалася пад уплывам рускай мовы [3, с. 46]. Пра сінанімічныя словы *гарбата* і *чай* у мове твораў М. Лынькова даследчык пісаў: "У мове дзеючых асоб, калі яны з усходу Беларусі, можа быць і *чай*, але ў літаратурнай мове даўна прынята слова *гарбата* (ад лацінскага кораня)… *Што кажух – то не вата, што капуста – то не гарбата*". Наконт ужывання слоў *рада* і *савет* М. Гарэцкі зазначыў: слова *савет* ужыта Лыньковым «не толькі ў сэнсе *Савет дэпутатаў*, але і ў сэнсе 'даваць раду, радзіць, раіць'». А беларускія сяляне ўжываюць словы: *рада, дай раду*; *парадзь, парай*, а не *савет, дай савет*. Замест слова *неабходныя* лепей гаварыць *патрэбныя, пільна патрэбныя*. М. Лынькоў апісваў каханне мужчыны і жанчыны словамі *любоў, любві, палюбіўшае*. *Любоў* – гэта 'ўсякая любоў', да таго ж у родным склоне будзе: *любові*, а не *любві*. Не прымаў даследчык у М. Лынькова ўкраінскіх, польскіх слоў: *чобат* 'бот', *прасціралы* 'посцілкі', *да забачэння* 'бывайце' [1, с. 363].

Максім Гарэцкі лічыў, што некаторыя недахопы ў мове твораў З. Бядулі, А. Моркаўкі, П. Галавача і іншых можна растлумачыць паходжаннем пісьменніка, умовамі яго працы. Вершы і апавяданні паслякастрычніцкага перыяду Змітрака Бядулі са зборнікаў "Пад родным небам", "Буралом", "На зачарованых гонях", "Апавяданні", "Танзілія" напісаны "хапаючыся", "у газетных абставінах творчасці". Таму ў іх "ёсць розныя недагляды і неапрацаваныя месцы" [1, с. 365]. Важную ролю ў творчасці пісьменніка мае яго сацыяльнае паходжанне. "Інтэлігент сялянскага паходжання", паэт Аркадзь Моркаўка быў інтэлігентам у творчасці, таму яго лірыка "выкручаная ў матывах, вобразах і проста зваротах мовы" [1, с. 370]. Мову А. Моркаўкі даследчык назваў добрай, з рэдкімі русізмамі: *радам* 'побач', *калясом* 'колам', *на ём* 'на ім', дыялектызмамі з паўднёвай Міншчыны, Случчыны, Бабруйшчыны: *чвыр* 'жвір', *палі* 'віткі, вехі' [1, с. 377]. Выхаваны ў рабочай сям'і, празаік Іляры Барашка імкнуўся выказвацца "ў кароткіх моцных вобразах і словах" [1, с. 382]. Апавяданне "Кантрасты і сугучнасць" ён стварыў "пад уплывам народнай творчасці і паэтычна стылізаванаю моваю"; яго кароткія апавяданні, мастацкія нарысы напісаны прыгожай мовай, поўнай "паэтычнага хараства" [1, с. 384]. Празаік Платон Галавач паходзіў з сялянскай сям'і. Мова яго твораў ахарактарызавана Гарэцкім як "добрая, народная мова", хоць у ёй трапляюцца русізмы, "празаічныя звароты і выразы… лішняя літаратурнасць, кніжнасць" [1, с. 389]. Дбаючы аб высокай мастацкай культуры творчасці, даследчык гаварыў, што форма – таксама ідэалогія, і ў прывітанні 1-й арганізацыі пралетарскіх пісьменнікаў Беларусі "Маладняк" пажадаў, каб маладнякоўцы "пісалі… вершы, якія б зрабіліся песнямі… шырокіх мас… Аднак патрэбна, каб гэта не было зніжэннем да мас, а каб гэта было падняццем мас" [1, с. 391].

Такім чынам, Максім Гарэцкі неабыякава ставіўся да пытанняў развіцця беларускай мовы, беларускай стылістыкі, ухваляў вучобу на ўзорах літаратурнай творчасці, таму яго парады беларускім пісьменнікам актуальныя і ў ХХІ ст.

**Спіс літаратуры**

1. **Гарэцкі, М.** Творы : Дзве душы : Аповесць. Апавяданні. Жартаўлівы Пісарэвіч : П'еса. Літаратурная крытыка і публіцыстыка. Лісты / М. Гарэцкі. – Мінск : Маст. літ., 1990.

2. **Лобан, М. П.** Некаторыя заўвагі аб мове / М. П. Лобан // Пісьменнік і мова : хрэстаматыя; склад. У. В. Анічэнка, А. І. Жураўскі. – Мінск, 1962.

3. **Сямешка, Л. І.** Сацыялінгвістычныя аспекты функцыянавання беларускай літаратурнай мовы ў другой палове ХХ ст. / Л. І. Сямешка // Беларуская мова. – Opole, 1998.

4. **Яскевіч, А. С.** Грані майстэрства / А. С. Яскевіч. – Мінск : Маст. літ., 1974.

**Святлана САЧАНКА.**

# СУАДНОСІНЫ АПТЫМІЗМУ / ПЕСІМІЗМУ Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ХАРАКТАРЫ БЕЛАРУСАЎ

## НА МАТЭРЫЯЛЕ ПАРЭМІЯЛОГІІ

Перадусім лічым мэтазгодным звярнуцца да паняцця *нацыянальны характар*, якое ўзнікла яшчэ ў сярэдзіне – другой палове XIX ст. у межах новай навуковай дысцыпліны – *этнапсіхалогіі*. Аднак, нягледзячы на дастатковую сталасць названага навуковага паняцця, яшчэ і сёння часам узнікаюць дыскусіі на прадмет таго, ці існуе ўвогуле такая з’ява, як нацыянальны характар, а калі існуе, то ў чым яна праяўляецца. У сваёй працы, услед за Эдуардам Дубянецкім, мы зыходзім з разумення нацыянальнага характару як “своеасаблівага набору, сукупнасці розных псіхалагічных рыс і якасцей, уласцівых большасці прадстаўнікоў нацыянальнай супольнасці” [2, с. 3]. Асаблівасці нацыянальнага характару прама ці ўскосна адлюстроўваюцца ў найбольш распаўсюджаных рысах паводзін, пачуццяў і перажыванняў пераважнай часткі людзей, якія адносяцца да аднаго народа. Прадметам увагі ў дадзеным артыкуле сталі суадносіны аптымізму і песімізму ў нацыянальным характары беларусаў. Даследаванне праводзілася на матэрыяле беларускай парэміялогіі, у індуктыўным кірунку – ад фактычнага матэрыялу да яго сістэматызацыі і абагульнення.

Для зручнасці аналізу ўстойлівых моўных адзінак абазначанага семантычнага поля мы падзялілі іх на дзве групы: першую склалі прыказкі і прымаўкі з канатацыяй аптымізму, другую – з канатацыяй песімізму. Аднак варта адзначыць, што намі вылучаны таксама шэраг парэмій, якія вызначаюцца пэўнай шматпланавасцю, сінкрэтызмам і дыфузнасцю – сумяшчаюць у сабе ўказанне на абедзве псіхалагічныя рысы адначасова. Пры ўсім тым ужо колькасная перавага ўстойлівых выразаў беларускай мовы са станоўчай канатацыяй засведчыла бясспрэчную перавагу аптымізму над песімізмам у нацыянальным характары беларусаў.

Аптымізм у нацыянальным характары беларусаў тлумачыцца перш за ўсё расстаноўкай прыярытэтаў. Беларус найчасцей аддае перавагу духоўнаму перад матэрыяльным, усведамляючы, што матэрыяльны дабрабыт чалавека – справа так бы мовіць “нажыўная” і найбольш залежыць ад самой асобы і яе намаганняў, а вось духоўны складнік індывідуума, яго чалавечыя якасці і здольнасці, асабістая свабода, здароўе, каханне і іншыя каштоўнасці часта непадуладныя чалавеку, наканаваныя яму Богам, лёсам, а таму і цаніць найперш неабходна тое, што цяжка ці ўвогуле нельга здабыць самому: *Хоць спіна гола, але свая воля; Хоць галодны, але свабодны; Хоць грошай ні гроша, затое слава хароша; Хоць бяздворны, але ўсюды праворны; Хоць без хлеба пасяджу, але на мілага пагляджу; Хоць не багаты, але зухаваты; Хоць голы, ды вясёлы* і інш.

Даволі часта ў народнай афарыстыцы гучыць упэўненасць у сабе, шчыльна знітаваная якраз з верай у свае магчымасці і сілы забяспечыць уласныя матэрыяльныя патрэбы: *Будзем мы, то будуць і грошы; Будзе хлеб, абы зубы; Жывы нажыве; Абы было каму есці, а будзе што есці; Абы пуга, а кабыла будзе; Абы даў Бог людзям, то і мы здабудзем; Абы былі свінні, а мяса нарасце; Было б сала, а кубел знойдзецца; Была б галава, а шапка будзе; Была б галава на плячах!; Не на Бога надзея, а на саміх сябе.* Прычым гэтыя патрэбы, як правіла, мізэрныя. Беларус не чакае “залатых гор”, умее радавацца таму, што мае цяпер, цэніць ужо здабытае або атрыманае. Тыповы беларус – кансерватыўны і практычны: ён аддае перавагу старому, вядомаму і надзейнаму, не імкнецца забяспечыць сябе чымсьці новым, не маючы ў ім патрэбы: *Калі бульба ёсць, то мужыку не пост; Калі ёсць хлеб і вада, то не бяда; Багатыя ці будзем, а галодныя не будзем.*

Беларус умее знайсці альтэрнатыву, выйсце са складанай сітуацыі. Ён лёгка замяняе адно другім, нават не шкадуючы пра такі падмен і ставячыся да яго як да паўнавартаснага, раўназначнага: *Калі не нажнём, то назбіраем; Калі не намалоцім, то накалоцім; Не сілаю, то розумам.* Таксама ён не губляецца ў, здавалася б, безвыходных сітуацыях. Гэта можа сведчыць пра выключную кемлівасць і вынаходлівасць беларуса і згаданую вышэй веру ў тое, што заўсёды можна знайсці выйсце з пэўнай сітуацыі або спосаб паляпшэння свайго дабрабыту і жыцця: *Замка без ключа не робяць.*

Праяўляецца аптымізм беларусаў яшчэ і ў разуменні таго, што шкадаваннем, смуткам, плачам па страчаным згубленага не вернеш, а новага не набудзеш (*Слязьмі гору не дапаможаш; Слязамі няшчасця не адгоніш*). Таму беларусы мяр-

куюць, што *Лепей жартаваць, чымся гараваць; Абы ўмеў танчыць, а гараваць і гора навучыць.* Такі аптымізм – гэта і спосаб выжыць, і, відаць, свядомае разуменне таго факта, што смутак і плач не спосаб пазнання навакольнай рэчаіснасці і не сэнс жыцця: *Каб мужык не пасмяяўся, то з гора зайшоўся б; Каб не пацешыўся, то павесіўся б; Смех не грэх, а галавы не вешай; Пакінь вешаць нос, не дзеля гэтага рос.*

Комплекс парэміялагічных адзінак з канатацыяй аптымізму перадае тэзіс і веру ў тое, што ўсё негатыўнае (і ліха, і гора, і бяда) мае статус завершанасці і абавязкова саступіць месца лепшаму: *Ліха перамелецца, і ўсё добра будзе; Не датрымае ліха супраць дабра; Будзе і на нашай вуліцы свята!; Прыйдзе тая нядзеля, што будзе і маё вяселле; Будзе кірмаш і на нашай вуліцы!; Бяда не на век; Бяда бядою, але і дабра прычакаем; Як ёсць пачатак, будзе і канчатак; Гукай – дагукаешся, чакай – дачакаешся; Не журыся, тата, будзе й наша свята; Што не выйшла цяпер, то будзе ў чацвер; Жывы верыць: і яго сонца ўзыдзе ў аконца.* Вера беларусаў трывалая, шчырая, яна і ёсць падмуркам аптымізму. З верай шчыльна знітавана і надзея на лепшае: *Без надзеі і жыццё не жыццё; Спадзявайся на лепшае і не бойся спаткаць горшае.*

Беларусы вылучаюцца адэкватным успрыманнем гора, бяды: цвяроза ацэньваючы становішча, разумеюць, што можа быць яшчэ горш: *Даўней было складаней; Ад напасці не прапасці; Адна бяда – не бяда, дзве бяды – паўбяды, але калі трэцюю напаткаеш – вось тады бяду пазнаеш; Не ў ваду ж ад дажджу!; Не бяда, што расце лебяда.*

Поруч з верай у свае магчымасці пераадолець любыя выпрабаванні і цяжкасці жыцця і дачакацца лепшай будучыні на зямлі аптымізм беларуса мацуецца яго верай у абавязковае дасягненне праўды і справядлівасці на "тым" свеце, дзе кожны атрымлівае па заслугах: *Хто на гэтым свеце паніжоны, на тым будзе павышоны.*

Можна вылучыць і яшчэ шэраг рыс беларускага ментальнага характару, дзякуючы якім аптымізм засноўваецца і трымаецца. Гэта жыццястойкасць, практычнасць, працавітасць, цярплівасць, цвярозая разважлівасць, якая дапамагае беларусу зрабіць правільны выбар і цаніць ужо набытае або наканаванае Богам: напрыклад, аддаць перавагу не матэрыяльнаму, якое падчас лёгка набываецца і гэтак жа лёгка можа быць страчана, а духоўнаму, сутнаснаму; уменне ацаніць не прыгожае, новае, а тое, што ўжо выпрабавана часам, стабільнае і мае практычную значнасць: *Мае лапці лазовыя пераносяць твае боты казловыя; Мае латы перабудуць чужыя шаты.*

Аднак цвярозая разважлівасць і схільнасць да ўнутранага псіхалагічнага аналізу забяспечвае беларусу не толькі бадзёры настрой і аптымістычны погляд на свет, але і ўменне заўважаць, што жыццё пры ўсім тым дынамічнае, няўстойлівае, зменлівае, знаходзіцца ў няспынным руху і развіцці. Менавіта таму добрае, трывалае, стабільнае ў любы час можа быць перапынена цяжкімі выпрабаваннямі і пакутамі лёсу: *Бяда не паведамляе, калі прыйдзе; Бяда прыходзіць тады, калі яе не чакаюць; Бяда ходзіць не па лесе, а па людзях; Высокі тын абароніць хату ад злодзея, а не ад няшчасця; І праз замкнёныя дзверы бяда ўвойдзе ў хату; На свеце, як у карэце: едзеш-калышашся, пакуль не вывернешся.* Свет уладкаваны і існуе па сваіх законах, і нават нашым сучаснікам добра вядомая метафара жыцця як паласатай зебры, калі белую паласу шчаслівай бесклапотнасці няўмольна змяняе чорная паласа цяжкасцей і выпрабаванняў. І тут ужо жыццёвы аптымізм – бадзёры, жыццярадасны настрой, пры якім чалавек верыць у светлае будучае, у поспех, – можа саступіць месца песімізму – нявер'ю ў лепшую будучыню, схільнасці бачыць ва ўсім толькі дрэннае.

Тым больш цалкам заканамерна гэта для беларускага народа, "чорныя палосы" ў жыцці якога праз шматгадовы сацыяльна-палітычны прыгнёт і шматпакутную гісторыю, сацыяльную няроўнасць і несправядлівасць, доўгую адсутнасць дзяржаўнасці і іншыя падобныя да таго рэальныя абставіны існавання нярэдка зацягваліся і станавіліся на пэўны час няўмольнай нормай жыцця. Таму і парэмій з адценнем песімізму, якія найперш уздымаюць і выкрываюць сацыяльныя праблемы ў грамадстве, у беларусаў таксама дастаткова.

Гэта прыказкі і прымаўкі пра праўду і крыўду, долю, бяду, гора, беднасць-нястачу, дзе названыя паняцці часта персаніфікуюцца, выступаюць як жывыя істоты: *Такая доля: багатаму дбаць, а самому ў холадзе і голадзе паміраць; Тады перастануць гараваць, як не стане каму панаваць; Бяда на бядзе едзе, бядою паганяе; Бяда ідзе і другую за руку вядзе; Бяда не ходзіць адна, а з дзеткамі; Бяда па бядзе як па нітачцы ідзе; Бяда ідзе і сем сясцёр з сабой вядзе; Бяды, як на кані павезці; Адна бяда міне, другая будзе; Бяда за бядою, як рыбка за вадою; Чалавек адну бяду перабудзе, а дзесяць будзе; Ліха адно не бывае – бяду за руку трымае; Ліха ідзе і бяду за сабой цягне; Едзе ціха – услед ліха, едзе ско-*

*ра – услед гора; Была праўда, ды заржавела; На рукі знойдуцца мукі; Жыву сярэдне: дзве торбы па баках, а сам у сярэдзіне; Жыццё такое, што жыві і ўсяго бойся; Жыццё такое, што не пазайздросціць ніводны сабака; Жыццё: устаў – і за выццё; Жыўшы, жыўшы, ды пойдзеш завыўшы; Жыццё як у зайца: усе ганяюць; Жыве з бядой папалам; І дзяды хапілі бяды, і ўнукі хапілі мукі; Дрэнь пчолы, дрэнь і мёд, дрэнь і дзядзька пчалавод; Дрэнь трава – дрэнь і сена; Хвост выцягнеш – нос увязне, нос выцягнеш – хвост увязне; Хоць сядзі і плач; Хоць ты біся ілбом аб сценку, а стукнешся – наб'еш на лобе шышку* і інш.

Усёпаглынальная несправядлівасць і бяда знайшлі вербальную рэпрэзентацыю ў прымаўках і прыказках кшталту: *Ад Глуска да Кракава – скрозь бяда адзінакава; Там добра, дзе нас няма; Свет вялікі, а дзецца няма дзе.* Натуральна, што калі бяда ў свядомасці чалавека набывае такі глабальны маштаб, аптымізм саступае месца пасіўнасці і песімізму: *Бяздоннай бочкі не напоўніш; Лепш памерці, чым пакутаваць; Як кепска жыць, то лепш згінуць.*

Прычынай песімістычнага настрою для беларуса станавілася таксама складаная, цяжкая, паднявольная і марная праца, якая не заўсёды забяспечвала яму матэрыяльны дабрабыт: *Працуеш, працуеш, а пахавацца няма чым; Скарэй будзеш гарбаты, чымся багаты; Сваёю працаю не пабудуеш палаца.*

У вялікай колькасці прыведзеных парэмій гаворыцца пра панаванне крыўды, несправядлівасці і падману, хоць і ў гэтых адзінках крыўдзе і несправядлівасці вельмі часта проціпастаўляецца праўда, дабро і справядлівасць як найвышэйшыя маральныя і сацыяльныя катэгорыі. Беларускія выразы сцвярджаюць, што *Усё мінецца, адна праўда застанецца; Праўда верх возьме.* Такім чынам, песімістычны настрой у любым выпадку змяняецца аптымістычным, паколькі тая ж разважлівасць дапамагае беларусу асэнсаваць яскравую выхаваўчую і развіццёвую функцыю цяжкасцей і выпрабаванняў, якія выпадаюць на лёс чалавека: гора загартоўвае чалавека, робіць яго духоўна моцным, вучыць цаніць хвіліны шчасця і спачуваць іншым у бядзе: *Хто не бачыў гора, таму і шчасце не прынясе радасці; Хто ніколі не перажыў няшчасця, той і шчасця не ацэніць; Хто хлябнуў свае бяды, той і чужую разумее.* Зміірыцца з выпрабаваннямі і пакутамі дапамагае таксама вытлумачэнне іх наканаванасцю, лёсам, доляй, з якімі чалавеку не варта спрачацца: *Хоць мы ў свет, наша доля ўслед; Што каму на раду напісана, таго не мінеш; Без долі – усюды нядоля; Доля ўсюды знойдзе: яе і канём не аб'едзеш.*

Такім чынам, прааналізаваны намі парэміялагічны матэрыял дазваляе атрымаць уяўленне пра пэўны фрагмент нацыянальнага характару беларусаў, а канкрэтна – пра суадносіны аптымізму і песімізму ў ім. Паказчыкі колькасці ўстойлівых моўных адзінак абранага семантычнага поля (колькасць парэмій з канатацыяй аптымізму ва ўзятых намі ў якасці крыніц зборніках беларускіх прыказак і прымавак фактычна ў два разы перавышае колькасць выразаў з канатацыяй песімізму) засведчылі бясспрэчную перавагу аптымізму над песімізмам у нацыянальным характары беларусаў.

Па дадзеных беларускай парэміялогіі, аптымізм у нацыянальным характары тлумачыцца перш за ўсё адпаведнай расстаноўкай прыярытэтаў: беларус найчасцей аддае перавагу духоўнаму. Ён практычны і кансерватыўны, задаволены рэальным, атрыманым. Ён упэўнены ў сабе, кемлівы і вынаходлівы. Верыць у тое, што ўсё негатыўнае абавязкова зменіцца на лепшае. Беларус усведамляе, што ад шкадавання страчанае не вернецца. Такі аптымізм – гэта і спосаб выжыць, і свядомае разуменне таго факта, што смутак і плач не спосаб пазнання навакольнай рэчаіснасці і не сэнс жыцця. У падмурку аптымізму беларуса і такія рысы нацыянальнага характару, як жыццястойкасць, практычнасць, працавітасць, цярплівасць, цвярозая разважлівасць, схільнасць да ўнутранага псіхалагічнага аналізу, што дапамагаюць адэкватна ўспрымаць гора і верыць у лепшую будучыню. Песімізм жа беларусаў таксама не беспадстаўны, а тлумачыцца шматгадовым сацыяльна-палітычным прыгнётам, сацыяльнай няроўнасцю і несправядлівасцю, марнасцю цяжкай, паднявольнай працы і беднасцю беларускага сялянства.

**Спіс літаратуры**

1. **Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы** / склад. Ф. М. Янкоўскі. – Мінск, 1992.
2. **Дубянецкі, Э. С.** Нацыянальны характар беларусаў / Э. С. Дубянецкі // Беларусазнаўства : навуч. дапаможнік. – Мінск, 1997. – С. 101 – 109.
3. **Лепешаў, І. Я.** Слоўнік беларускіх прыказак / І. Я. Лепешаў, М. А. Якалцэвіч. – Мінск, 2002.
4. **Ліцвінка, В. Д.** Слова міма не ляціць : беларус. нар. прыказкі і прымаўкі / В. Д. Ліцвінка, Л. А. Царанкоў. – Мінск, 1985.

**Анжаліка САДОЎСКАЯ,**
кандыдат філалагічных навук,
**Максім БАРАВІК,**
студэнт філалагічнага факультэта БДУ.

# *"АЛЬФА І АМЕГА СЯБРОЎСТВА – СПАГАДЛІВАСЦЬ І НАДЗЕЙНАСЦЬ"*

## СЯБРОЎСТВА, ДАВЕР, ЗГОДА, ЛАД – У АФАРЫСТЫЧНЫХ ВЫСЛОЎЯХ

*А душа наша – ўся са спагады* (Я. Сіпакоў. Ёсць жа людзі…).

*Ад чалавека да краскі – / Прагнуць усе на зямлі / Шчырай спагады і ласкі…* (С. Законнікаў. Ад чалавека да краскі…).

*Альфа і амега сяброўства – спагадлівасць і надзейнасць* (Г. Марчук. Голас і слова).

*А таму – не з'ем адзін вала, / Не зайздроснік я і не хапуга. / Падзяліць гатовы напалам / Нават скібачку малую з другам* (А. Бялевіч. Падзялюся дабратою).

*Без спагады і раны не гояцца* (М. Башлакоў. Ветры дзьмулі з Чарнобыля).

*Быць жа нехта павінен, / Хто цябе правядзе, / Аднаго не пакіне / У расстайнай бядзе* (М. Шабовіч. Быць жа нехта павінен…).

*Дапамагайце, / як дождж палеткам, / Дапамагайце, / як пчолы кветкам* (П. Макаль. Дапамога павінна быць хуткай…).

*Дзе на стале дармовы цукар, / Там і салодкія сябры* (М. Лужанін. Як нараджаўся новы свет).

*Дзень, што без дружбы й любові пражыты, / Знікне бясследна, навекі забыты* (А. Зарыцкі. Дзень, што без дружбы й любові пражыты…).

*Добры кажух са спагады, / Толькі сцюдзёна ў ім* (М. Танк. Добры з ваўка музыка…).

*Друг сапраўдны назаляць / У бядзе не стане* (В. Зуёнак. Заружовіцца трава).

*Дуб і той, калі ў полі адзін, / Не заўсёды адольвае буру* (А. Бачыла. Роднаму краю).

*Дружнасць – першы крок свабоды, / Згода – сіла грамады* (Я. Колас. Песні вясны).

*Ды горшае – гэта сціранне меж паміж непрыяцелямі і сябрамі* (А. Вярцінскі. Ты кажаш, сяброў усё менш і менш?).

*Жыць па чужой не ўмею мерцы, / Не езджу на чужым кані. / Жадаю дружбе я бяссмерця, / Што загартавана ў агні* (А. Астрэйка. З сябрамі горыч і самоту…).

*Запомніце таго – хто блізка быў. / Далёка хто – не варушыце праху* (Я. Янішчыц. Птах).

*І спрэчку тым яны канчалі, / Што гэту скварку разразалі* (Я. Колас. Новая зямля).

*І ў няшчасці, і ў радасці без дружбы чалавеку нельга быць* (К. Чорны. Насцечка).

*Падборкі афарызмаў беларускіх пісьменнікаў, падрыхтаваныя **Нінай Гаўрош** і **Нінай Нямковіч**, друкуюцца ў "Родным слове" з 2006 г.*

*І ў сцюжу нечай ласкай ты сагрэты, / І ў спёку пекане цябе зіма* (П. Панчанка. Апошні дзень вясны і першы лета).

*І цэлы свет – / Адно дамовіўшыся шчыра – / Пазбыцца зможа страшных бед* (Н. Гілевіч. Родныя дзеці).

*Каго б я выбраў на падмогу – / Не падкіх да прыгожых слоў, / Няхай маўклівых, ды сяброў* (П. Броўка. Калі б нанова пачынаць…).

*Калі спагадаеш жывому – / жывеш! / А сееш жывое – / тым болей!* (Г. Пашкоў. Зялёны верш).

*Калі ты ад клапот / Жыццёвых стараніўся, / Ні хлебам, ні вадой / З сябрамі не дзяліўся, / Нікога не сагрэў / Ні словам, ні спагадай / І ніву не прыкрыў / Грудзьмі ад градападу, / Заўсёды за другіх / Хаваўся ў ліхалецце, – / Лічы, што не было / Цябе на гэтым свеце* (М. Танк. Калі ты ад клапот…).

*Калючы асот – але… пчала з ім сябруе* (А. Разанаў. Пункціры).

*К чужой не прымяраўся мерцы, / Не ездзіў на чужым кані. / Сяброў я выбіраў па сэрцу, / Па іх душэўнай цеплыні* (А. Астрэйка. К чужой не прымяраўся мерцы…).

*Лашчыць і лечыць чалавечую душу часіна згоды ў прыродзе, але найлепшая згода для чалавека – згода з самім сабою, са сваім сумленнем* (М. Стральцоў. Разам з людзьмі).

*Люба цяпельца, / што кожнаму сэрцу жаданае, – / неўтаймаваны, / запалены знічкай давер* (А. Шушко. Садоўнік).

*Не кроч на сцежкі бакавыя – / Ямчэй сказаць, памянш зрабіць, – / Бяры адказ сабе на шыю, / Не на сяброўскія гарбы* (М. Лужанін. Як нараджаўся новы свет).

*Ні сабе, ні камусьці ў блуканнях / Не пасвецяць ні поблізу, ані здалёк / Параслеплыя да шкадавання* (Н. Мацяш. Тая ўсмешка).

*Новы друг – знаходка рэдкая, а стары – каштоўнасць* (Я. Брыль. Сёння і памяць).

*Няхай не будзе больш згрызот / І змоўкнуць непрыязні словы!* (Я. Колас. Рыбакова хата).

*О, боязь за другога чалавека!.. / Адна ты робіш чалавека з нас* (Н. Мацяш. За соснамі – мора).

*Пакуль са мною плачуць вочы друга / Над цяжкай стратай – ёсць яшчэ жыццё* (У. Караткевіч. Крумкачы).

*Раны гояцца часам, а дружбаю – гора* (А. Куляшоў. Грозная пушча).

*Сабе не знойдзеш долі лепшай, / Чым ведаць: ёсць сябры мае* (С. Законнікаў. Каго люблю, таму на вочы…).

*Спачуванне з жыццём нам далі* (Я. Сіпакоў. Ёсць жа людзі…).

*Сустрэча працягнецца датуль, / Пакуль здаецца немагчымай* (І. Багдановіч. Вязь ненапісаных лістоў).

*Сустрэч не перадорваюць* (В. Аколава. Случарыны).

*Сустрэчы – не толькі зближэнне. / Ідзе, скрозь шум і тлум, / Узаемапамнажэнне / Нашых душ і дум* (А. Вярцінскі. Сустрэчы).

*Сяброў бяда не дзеліць, а зблізкае* (Н. Гілевіч. “Паланэз” Агінскага).

*Сяброўскі дар – найдаражэйшы дар* (А. Зарыцкі. Крылы).

*Сяброўству здраджваць не магу, / Пачуцці ў ланцугі не путаю. / Сяброўства сэрцам берагу, / Я з ім жыву, я з ім пакутую* (А. Астрэйка. Сяброўству здраджваць не магу).

*Сябры з адчаю выцягнуць заўсёды, / Хоць знойдуцца між іх сябры з нагоды* (К. Камейша. Круг).

*Сябры не набіраюцца гадáмі. Іх ніколі не бывае так многа, каб сказаць, што сяброў ужо досыць* (Я. Скрыган. Смага).

*Табе зрабіўся блізкім цэлы свет! / А ці бліжэйшым стаў табе сусед?* (Н. Гілевіч. Куды ні глянь – над дахам строй антэн).

*Там, дзе даверу поўнага няма, / Зліць у адну дзве праўды немагчыма* (Н. Гілевіч. “Паланэз” Агінскага).

*Таму, хто век сяброў не меў, / Хто шчыра пакахаць не змог дзяўчыну, / Хто не гарэў, а толькі цьмеў, / Не палюбіць ніколі і Айчыну* (А. Зарыцкі. Таму, хто век сяброў не меў…).

*Той дружбай вернай можа даражыць, / Хто сам прайшоў дарогай крамяністай* (А. Звонак. Шчырасць).

*Той дзень збяднеў, зліняў на сотню радуг / І, попелам пасыпаны, сканаў, / Калі не падзяліў з суседам радасць / І больш за дзень узяў ты, чым аддаў* (П. Панчанка. Той дзень прапаў…).

*Той дзень прапаў і страчаны навекі, / Калі ты не зрабіў таго, што мог, / Калі не паспрыяў ты чалавеку, / Няшчыры быў, зманіў, не дапамог* (П. Панчанка. Той дзень прапаў…).

*Усе мы чакаем друга. Таго, што не здрадзіць, не кіне ў бядзе, зразумее цябе не толькі ў празрыстым шчасці* (Я. Брыль. Тройчы пра адзіноту).

*Усе разумныя дружаць між сабою, усе дурныя – сварацца* (Я. Сіпакоў. Усё, што па пары).

*Хай будзе лад ў сваёй гасподзе / Стварaць народ-уладца сам* (Я. Колас. Да працы!).

*Што значыць сапраўдным другам быць? / – Любіць. / – Што значыць аддана справу рабіць? / – Любіць. / – Што значыць дарогу ў жыцці не згубіць? / – Любіць. / – Што значыць зямное шчасце здабыць? / – Любіць* (А. Вярцінскі. Што значыць сапраўдным другам быць?).

**Ніна ГАЎРОШ,**
**Ніна НЯМКОВІЧ.**

*Аўтары ахвяруюць ганарар на развіццё часопіса.*

## АСЦЯРОЖНА! ТОНКІ ЛЁД!

Калі вы правaліліся пад лёд на рацэ ці возеры, не панікуйце. Спачатку шырока раскіньце рукі па беражках лёду і спрабуйце ўтрымацца ад апускання пад ваду з галавой. Дзейнічайце рашуча і не бойцеся!

Не абломвайце беражок, выбірайцеся без рэзкіх рухаў, напаўзаючы на лёд грудзьмі і па чарзе выцягваючы на паверхню лёду ногі. Выбраўшыся з пралому, трэба паўзці ў той бок, адкуль ішлі раней, каб быць упэўненымі, што лёд у гэтым месцы трывалы. Нягледзячы на тое, што сырасць і холад штурхаюць вас пабегчы і сагрэцца, будзьце асцярожныя да самага берага. А потым ужо не спыняйцеся, пакуль не апынецеся ў цяпле.

Калі на вашых вачах правaліўся пад лёд чалавек, адразу крыкніце яму, што ідзяце на дапамогу. Набліжацца да палонкі можна толькі паўзком, шырока раскінуўшы рукі. Будзе лепш, калі вы падкладзяце пад сябе лыжы, дошку, фанеру, каб павялічыць плошчу апоры. Да самага краю падпаўзаць нельга, інакш вы таксама апынецеся ў вадзе. У ідэальнай сітуацыі, не дапаўзаючы да палонкі, пацярпеламу трэба працягнуць выратавальную лесвіцу даўжынёй каля 8 *м* і шырынёй 50 – 70 *см*, выратавальны шост і г. д.

Але, на жаль, ідэальных умоў у экстрэмальных сітуацыях не бывае. Таму трэба помніць адзін з законаў школы выжывання: у кожнага прадмета, акрамя асноўных якасцей, ёсць мноства іншых – у тым ліку і ўласцівасці прылады абароны ці выратавання. Рамяні ці шалікі, любая дошка ці жэрдка, санкі, лыжы дапамогуць выратаваць чалавека. Кідаць злучаныя рамяні, шалікі, дошкі трэба за 3-4 *м*. Падпаўзаць да самай палонкі недапушчальна. Дзейнічаць трэба рашуча, бо пацярпелы хутка замярзае ў ледзяной вадзе, вопратка мокне і цягне ўніз. Падаўшы пацярпеламу падручны сродак выратавання, трэба выцягнуць яго на лёд і паўзком выбрацца з небяспечнай зоны. Затым яго трэба ўкрыць ад ветру, як мага хутчэй даставіць у цёплае месца, расцерці, перапрануць у сухое і напаіць гарбатай.

*Цэнтральны раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях г. Мінска.*



# МЕТОДЫКА І ВОПЫТ

*Новае ў правапісе*

Віктар ІЎЧАНКАЎ

## *БЛАКІТНА-ПРАМЯНІСТЫЯ ВОЧЫ*, ці НАПІСАННЕ ПРАЗ ЗЛУЧОК СКЛАДАНЫХ ПРЫМЕТНІКАЎ

*Працяг. Пачатак у №№ 1, 2.*

У маўленчай практыцы сустракаюцца рэчы, якія не паддаюцца аднаслоўнаму апісанню. Свае пачуцці мы таксама не заўсёды можам выказаць простымі словамі. Нават нанізванне характарыстык не можа перадаць таго, што хочам выразіць. У такім выпадку звяртаемся да складаных прыметнікаў, у якіх аб'ядноўваем тое, што на першы погляд не падлягае аб'яднанню.

Складаныя прыметнікі часцей за ўсё выкарыстоўваюцца ў мастацкай літаратуры, з іх утвараюцца эпітэты, надзвычай важныя для апісання пэўных прадметаў, пачуццяў і інш. Асабліва багаты на такія апісанні назоўнік *вочы*. Нездарма мы называем іх люстэркам душы. У вачах адлюстроўваюцца асаблівасці характару, вопыт, інтэлектуальныя здольнасці чалавека, перадаюцца ўнутраныя перажыванні, у іх адбіваюцца найтанчэйшыя адценні эмацыянальнага стану і мімалётных настрояў. Адсюль і такая разнастайнасць эпітэтаў. У "Слоўніку эпітэтаў беларускай мовы" (1998) прафесара Н. Гаўрош знаходзім: 1) аксамітна-чорныя, блакітна-прамяністыя, васількова-блакітныя, вільготна-цёмныя, вішнёва-чорныя, жаўтавата-карыя, залаціста-зялёныя, светла-блакітныя, сінявата-шэрыя, чысцютка-сінія, шэра-сінія, ясна-сінія, млява-блакітныя; 2) безабаронна-сінія (*аўт.*), гасцінна-вясёлыя, даверліва-радасныя, дзікавата-цікаўныя, задуменна-пяшчотныя, закахана-раўнівыя (*аўт.*), зіхотка-радасныя (*аўт.*), радасна-пакутныя (*аўт.*), задзірыста-насмешлівыя, лісліва-мітуслівыя, наіўна-легкадумныя, насцярожана-недаверлівыя, пакутна-няўцямныя, палахліва-здзіўленыя, разгублена-дзікія, саркастычна-пагардлівыя, хітравата-пагардлівыя (*аўт.*), шэра-халодныя (*паэт.*).

Напісанне прыведзеных складаных слоў адносіцца да розных арфаграфічных выпадкаў. У першым гаворка вядзецца пра колер вачэй, у другім – больш багатым на семантычныя нюансы – пра выражэнне пачуцця, стану, характару чалавека. Якраз апошні і выклікае больш пытанняў. Напрыклад: *Глаша глядзіць на мяне, вочы вялікія, **безабаронна-сінія**…* (А. Адамовіч); *З яго* [афіцэравай] *няскладнай постаці не зводзілі позіркаў багата сялянскіх вачэй, **насцярожана-недаверлівых** і лісліых, спалоханых і **хітравата-пагардлівых**…* (І. Чыгрынаў).

Правапіс складаных прыметнікаў залежыць як ад фармальных фактараў, так і ад семантычных, калі важным з'яўляецца значэнне, якое ўкладваецца ў словы.

У новай рэдакцыі "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" прыведзены асноўныя нормы, якія датычаць найбольш тыповых правапісных сітуацый ужывання прыметнікаў праз злучок. Яны адпавядаюць "Правілам…" (1959), але ўдакладнены і дапоўнены новымі ілюстрацыямі. Напрыклад, у навуковых тэкстах сустракаем: *Менавіта Т-падобная структура малекулы можа праяўляцца ў зніжэнні даступнасці N-канца Fc-фрагмента…* Такія напісанні таксама патрабавалі рэгламентацыі.

Новай рэдакцыяй вызначана, што пішуцца праз злучок складаныя прыметнікі:

утвораныя ад складаных назоўнікаў, якія пішуцца праз злучок: *вакуум-насосны*, *генерал-губернатарскі*, *унтэр-афіцэрскі*, *ліберал-дэмакратычны*, *давыд-гарадоцкі*, *санкт-пецярбургскі* і інш.;

часткі якіх абазначаюць разнародныя назвы адпаведнай прыкметы: *прыродна-гаспадарчы*, *жыллёва-будаўнічы*, *аграрна-сыравінны*, *лячэбна-працэдурны*, *таварна-грашовы*, *электроннавылічальны*, *навукова-тэхнічны*, *грамадска-палітычны*, *сусветна-гістарычны*, *народна-вызваленчы*, *сярэдне-верхні*, *прытарна-салодкі* і інш.;

часткі якіх абазначаюць раўнапраўныя паняцці: *рабоча-сялянскі*, *руска-беларускі*;

часткі якіх абазначаюць асаблівасці ці адценні разнароднай якасці: *кісла-салодкі*, *жоўта-зялёны*, *горка-салёны*, *гучна-пявучы* і інш.;

часткі якіх абазначаюць напрамкі свету ў іх спалучэнні: *паўночна-заходні*;

якія ўваходзяць у склад геаграфічных назваў з пачатковай часткай *Усходне-*, *Заходне-*, *Паўднёва-*, *Паўночна-*, *Цэнтральна-* і інш.: *Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка*, *Заходне-Сібірская раўніна*, *Цэнтральна-Азіяцкі рэгіён* і інш.;

пачатковай часткай якіх з'яўляюцца лічба або літара любога алфавіта: *1000-гадовы*, *5-павярховы*, *Т-падобны*.

**Увага!** Праз злучок пішуцца словы тыпу *альфа-падобны* (***альфа-падобная*** *актыўнасць у жывёл*). Да апошняга выпадку адносяцца і напісанні з "вісячым" злучком: *альфа-*, *бэта-*, *гама-актыўны* ці *α-*, *β-*, *γ-актыўны*.

Ёсць напісанні, якія патрабуюць запамінання. Да іх адносяцца наступныя: **ваенна-** (*ваенна-медыцынскі, ваенна-хірургічны, ваенна-юрыдычны*), **масава-** (*масава-палітычны, масава-спартыўны, масава-інфармацыйны*, але *масава адключаныя паслугі*), **народна-** (*народна-дзяржаўны, народна-рэвалюцыйны*, але *народнагаспадарчы, народнапаэтычны*), **навукова-** (*навукова-даследчы, навукова-папулярны*), **вучэбна-** (*вучэбна-дапаможны, вучэбна-метадычны, вучэбна-вытворчы*).

# *ОДИНЪНАДЕСЯТЕ*, ці ПРАВАПІС СКЛАДАНЫХ ЛІЧЭБНІКАЎ

Наша жыццё цяжка ўявіць без лічбаў. Без элементарных падлікаў мы не змаглі б набыць рэч, прымераць па сабе кашулю ці капялюш, вызначыць рэйтынг спевака ці палітыка, пабудаваць дом, устанавіць адлегласць паміж гарадамі. Шмат чаго яшчэ не змаглі б рабіць, калі б не было лічбаў. Мы вельмі прызвычаіліся да іх. Аднак яны існавалі не заўсёды. Далёкі наш продак мог на вока "вымераць" статак, але не мог указаць канкрэтную колькасць жывёл. Паступова людзі сталі ўсведамляць лічбу незалежна ад прадметаў і асоб, якія маглі падвяргацца лічэнню: проста лічба "пяць" або "сем". У сувязі з гэтым у нас з'явілася паняцце "лік". З цягам часу ўзнікла матэматыка – навука, якая гістарычна засноўваецца на рашэнні задач пра колькасныя суадносіны і прасторавыя формы рэальнага свету. У яе аснове ляжыць аперыраванне лікам і лічбамі.

Калі ўзнікла пісьменнасць, для абазначэння лічбаў сталі выкарыстоўваць літары. У славян літара *А* абазначала адзін, *В* – два, *Г* – тры, *Д* – чатыры, *Е* – пяць і г. д. Пасля сфарміравалася традыцыя абазначэння ліку рымскімі і арабскімі лічбамі.

Рымскія лічбы ў беларускай мове выкарыстоўваюцца абмежавана: найчасцей пры нумарацыі стагоддзя ці тысячагоддзя, нейкай важнай падзеі або пунктаў спіса: *XXI ст.*, *II тысячагоддзе да н. э*, *III Усебеларускі нацыянальны сход*, *V пастулат Эўкліда*. Імі пазначаюцца парадкавыя нумары манархаў, да якіх у розных народаў адносяцца цар, імператар, кароль, цэзар, кайзер, фараон, князь, прынц, герцаг, тагавор, экзарх, негус, султан, эмір, халіф і інш. Напрыклад, *Кароль Швецыі Карл XVI Густаў*, *Кароль Іарданіі Абдала II*, *Каралева Вялікабрытаніі Лізавета II*, *Князь Ліхтэнштэйна Ханс Адам II*. Звычайна рымскімі лічбамі пазначаюцца нумары тамоў у шматтомнай кнізе (часам – нумары частак кнігі, раздзелаў або глаў). У стылізаваным выглядзе "пад даўніну" маркіроўка цыферблатаў гадзіннікаў таксама афармляецца рымскімі лічбамі.

Спецыяльныя лічбы 0, 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, якія вынайшлі індыйцы, а завезлі ў Еўропу арабы, атрымалі распаўсюджанне ў еўрапейскіх краінах у другой палове XV ст. Адсюль і назва – арабскія лічбы. Імі часцей за ўсё мы і карыстаемся. Знаходзім іх больш зручнымі, што відаць з простага параўнання: 1988 і MCMLXXXVIII. Аднак адна справа запісаць пэўную колькасць лічбамі, а другая – словамі. Тут пачынае дзейнічаць арфаграфія.

У старажытнасці не было і часціны мовы, якая абазначала лічбы, колькасць і парадак прадметаў пры лічэнні. Гэта не гаворыць пра тое, што не існавала лікавых слоў. Напрыклад, у агульнаўсходнеславянскай мове слова *сто* (*съто*) абазначала лік, але не мела граматычных прымет самастойнай часціны мовы, бо змянялася як назоўнік.

Самастойная часціна мовы – лічэбнік – аформілася ў эпоху распаду агульнаўсходнеславянскай мовы на беларускую, рускую і ўкраінскую. Словы з лікавым значэннем паступова страцілі склон, лік, род. Так, слова *сто* сёння захавала толькі дзве формы (*сто* і *ста*), не мае ні адзіночнага, ні множнага ліку. Нельга вызначыць яго род, хоць некалі яно скланялася ў адзіночным, множным і парным ліках, адносілася да ніякага роду.

Некаторыя лічэбнікі ўтварыліся з двух слоў, што не зусім распазнаецца сучаснікамі. Напрыклад, лічэбнік *абодва* (*абедзве*) утварыўся з *оба + дъва*. Раней ён мог пісацца ў два словы. У Статуце Вялікага Княства Літоўскага 1566 г. чытаем: *У адной зваде оба два ся ранили*.

З граматычных спалучэнняў узніклі складаныя лічэбнікі *адзіна́ццаць* – *дзевятна́ццаць*,

*дваццаць*, *трыццаць*, *пяцьдзяся́т* – *во́семдзесят*, *дзвесце*, *семсот*. Іх напісанне вымагае ўменне правільна адрозніваць часткі *-дзесят* / *-дзясят*, *-сце*, *-ста*, *-сот* у складаных колькасных лічэбніках.

Лічэнне пасля дзесяці ў старажытнасці ішло шляхам накладання адзінак *адзін*, *два*, *тры*, *чатыры*, *пяць*, *шэсць*, *сем*, *восем*, *дзевяць* на *дзесяць*: *один, дъва… на десяте*, дзе *десяте* – форма меснага склону адзіночнага ліку слова *дзесяць*. Атрымлівалася *одинънадесяте* – *девятьнадесяте*, што не зусім было ўласціва для старажытнай мовы, бо лічэбнікі вылучаліся вялікай колькасцю складоў: *о-ди-нъ-на-де-ся-те*.

На працягу развіцця мовы паводле закона эканоміі маўленчых намаганняў, аб'ядноўваючыся ў адным слове, частка *-десяте* страчвала націск. З-за частага і хуткага вымаўлення адбыліся фанетычныя змены, якія прывялі да сучаснага выгляду другой часткі складанага лічэбніка: у беларускай мове *-ццаць*: *адзіна-ццаць*, *двана-ццаць*, *трына-цацаць* і інш.

**Увага!** На напісанне па-беларуску лічбы 11 можа ўплываць веданне рускай мовы, у якой слова *одиннадцать* пішацца з дзвюма *н*.

У новай рэдакцыі "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" складаным лічэбнікам прысвечаны § 37, у якім вызначаюцца выпадкі напісання іх разам, асобна і праз злучок, а таксама акрэслены нормы напісання ўмоўных абазначэнняў. Такім чынам, пішуцца разам:

складаныя колькасныя лічэбнікі, апошняй часткай якіх з'яўляюцца

*- дзесят* / *-дзясят*, *-сце*, *-ста*, *-сот*: *пяцьдзясят*, *дзвесце*, *трыста*, *пяцьсот*;

складаныя парадкавыя лічэбнікі, апошняй часткай якіх з'яўляюцца

*- дзясяты*, *-соты*, *-тысячны*, *-мільённы* і інш.: *пяцідзясяты*, *трохсоты*, *двухтысячны*, *сямімільённы*, *пяцімільярдны*, *двухсотпяцідзесяцівасьмімільённы* і інш.

Асобна пішуцца састаўныя колькасныя, парадкавыя і дробавыя лічэбнікі: *сто дваццаць пяць*, *трыццаць тры*, *тысяча пяцьсот адзін*, *сто дваццаць пяты*, *трыццаць трэці*, *тысяча пяцьсот першы*, *два з паловай*, *пяць з чвэрткай*, *тры пятыя*, *пяць дзясятых*, *сем сотых*.

Праз злучок пішуцца парадкавыя лічэбнікі, напісаныя лічбамі, пры спалучэнні іх з канчаткамі, часткамі канчаткаў, састаўнымі часткамі ў выглядзе слоў: *25-ы*, на *10-м км*, *31-га*, *10-мільённы*, *18-мільярдны*.

**Увага!** Трэба адрозніваць пастаноўку злучка і працяжніка пры абазначэнні прыблізнага ліку простымі і складанымі лічэбнікамі. Так, злучок ставіцца ў лічэбніках, напісаных **простымі словамі або лічбамі**, якія абазначаюць прыблізны лік: *восем-дзевяць гадоў*, *дзве-тры гадзіны*, *сёмае-восьмае стагоддзе*, *2-3 гады*.

Ставіцца працяжнік:

у **складаных і састаўных лічэбніках** прыблізнага ліку: *праз трыццаць пяць – трыццаць сем гадоў*, *50 – 60-я гады*;

пры ўмоўным пералічэнні: *артыкулы 2 – 7*, *1 – 10 класы*.

*Працяг будзе.*

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2011 год

МАЙ

*Працяг. Пачатак на с. 14.*

**15 мая** – 105 гадоў з дня нараджэння Рывы (Рэвекі) Рубінай (1906 – 1987), яўрэйска-беларускага крытыка, літаратуразнаўцы, празаіка, перакладчыка. Пісала на ідыш, рускай і беларускай мовах

95 гадоў з дня нараджэння Ніны Тарас (1916 – 2006), паэткі

75 гадоў з дня нараджэння Барыса Сачанкі (1936 – 1995), празаіка

70 гадоў з дня нараджэння Мікалая Абабуркі, мовазнаўцы

**16 мая** – 100 гадоў з дня нараджэння Васіля Віткі (сапр. Цімох Крысько; 1911 – 1996), паэта, празаіка, крытыка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

90 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Мельнікава (1921 – 1993), краязнаўцы, заслужанага работніка культуры Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння Льва Караічава (1936 – 2001), беларуска- і рускамоўнага празаіка, драматурга

**17 мая** – 125 гадоў з дня нараджэння Стафана Маркоўскага (1886 – 1949), музыканта, педагога, заснавальніка школы ігры на ўдарных інструментах

**18 мая** – 70 гадоў з дня нараджэння Мікалая Бакуменкі, скульптара

70 гадоў з дня нараджэння Юрыя Корсака, піяніста, педагога, заслужанага артыста Беларусі

**19 мая** – 75 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Піліпенкі, этнолага, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

70 гадоў з дня нараджэння Генадзя Царова, кларнетыста, педагога, заслужанага артыста Беларусі

**20 мая** – 75 гадоў з дня нараджэння Мікалая Пашкевіча (1936 – 1972), літаратуразнаўцы, краязнаўцы, педагога

75 гадоў з дня нараджэння Пятра Суцько, журналіста, заслужанага работніка культуры Беларусі

**21 мая** – 80 гадоў з дня нараджэння Якуна Хайруліна, плакатыста, жывапісца, акварэліста, афармляльніка

**22 мая** – 80 гадоў з дня нараджэння Маі Яніцкай, мастацтвазнаўцы

75 гадоў з дня нараджэння Галіны Бараноўскай, архітэктара, мастака-акварэліста

**23 мая** – 35 гадоў таму створаны Магілёўскі абласны тэатр лялек

*Заканчэнне на с. 74.*

# БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС: ДЫДАКТЫЧНЫ МАТЭРЫЯЛ

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 6, 9 – 12 за 2010 г., № 1, 2 за 2011 г.*

### ПРАВАПІС ВЯЛІКАЙ ЛІТАРЫ

**Заданне 1.** Спішыце, раскрываючы дужкі.

Рычард (І, і)львінае (С, с)эрца, піражнае "(Н, н)апалеон", (М, м)ецэнат, (Дз, дз)ед (М, м)ароз, (Д, д)арвініст, Кірыла (Т, т)ураўскі, (П, п)ецярбуржац, (П, п)аўночны (З, з)ахад, (К, к)раіны Балтыі, (Н, н)імфа, (П, п)аўночны (П, п)олюс, (Т, т)ропік Казярога, (С, с)увораўская тактыка, (Б, б)алканскі паўвостраў, стыль (Р, р)энесанс, (Д, д)ругая сусветная вайна, (А, а)лмазны фонд, (Б, б)еларускі (Дз, дз)яржаўны ўніверсітэт, (З, з)алаты век, (Б, б)елтэлерадыё, (О, о)рдэн Францыска Скарыны, (Н, н)овы год, (Дз, дз)ень адчыненых дзвярэй, (Дз, дз)ень памяці, (І, і)мперыялістычная вайна, (Н, н)обелеўская прэмія, (Л, л)ітоўская метрыка.

**Заданне 2.** Спішыце, раскрываючы дужкі.

(К, к)упалаўская прэмія, (П, п)алоній, (А, а)хілесава пята, род (Р, р)адзівілаў, (М, м)іхал (К, к)леафас Агінскі, Леанарда (Д, д)а Вінчы, (Н, н)аваградчына, (Л, л)ос-(А,а)нджэлес, праспект (Н, н)езалежнасці, Балеарскія (А, а)стравы, 100 (А, а)мпер, аэрапорт "(М, м)інск-2", (Б, б)атлейка, Буда-(К, к)ашалёва, (З, з)апарожжа, (П, п)алярная (З, з)орка, (Б, б)ярэзінскі (Б, б)іясферны запаведнік, (К, к)упалаўская стыпендыя, Вольфганг (А, а)мадэй Моцарт, (Д, д)'(А,а)ртаньян, (К, к)упалаўская манера, (С, с)ент-(Э, э)кзюперы, (Б, б)роўнаўскі рух, (П, п)устыня Сахара, народы (П, п)оўначы, (Э, э)льзас-(Л, л)атарынгія, (А, а)фрыканскі кантынент, (М, м)іхасёў голас, (Р, р)энтген, (Э, э)зопава мова, Іван (У, у)довін (С, с)ын, Князь-(В, в)озера, (З, з)ямля (К, к)аралевы (М, м)од, Аўгустоўскі (К, к)анал, (А, а)стравы Каралевы Шарлоты, (С, с)тарыя (Д, д)арогі.

**Заданне 3.** Запішыце ў два слупкі словы, якія трэба напісаць а) з вялікай літары, б) з малой літары.

(А, а)рганізацыя (А, а)б'яднаных (Н, н)ацый, (Б, б)елтэлерадыёкампанія, (Б, б)ог сонца Дажбог, (Б, б)оская міласць, Дзень (Б, б)еларускай навукі, (Дз, дз)яржаўны герб Рэспублікі Беларусь, (Д, д)ом адпачынку, (К, к)аран, (К, к)рыж Ефрасінні Полацкай, (К, к)рычаўскае паўстанне, (К, к)урган Славы, лупіць як (С, с)ідараву казу, Магеланаў (П, п)раліў, Міжнародная прэмія (М, м)іру, (М, м)іжнародны алімпійскі камітэт, Мінскае (С, с)увораўскае ваеннае вучылішча, Мінска-(М, м)аладзечанскае ўзвышша, (М, м)уза, (Н, н)араджэнне Хрыстова, Нацыянальная (А, а)кадэмія навук Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны (С, с)ход Рэспублікі Беларусь, не давядзі (Г, г)оспадзі, Ніягарскі (В, в)адаспад, Новы (А, а)рлеан, (О, о)рдэн Дружбы народаў, (П, п)алац мастацтваў, Палац (С, с)порту, (П, п)лошча Перамогі, (П, п)расвятая (Т, т)ройца, (С, с)авет па абароне дысертацый, Сарока-(Б, б)елабока, (С, с)тары (З, з)апавет, стыль (М, м)адэрн, (С, с)усветны паштовы саюз, (У, у)сеагульная дэкларацыя правоў чалавека, эпоха (П, п)алеаліту.

### АДКАЗЫ

**Заданне 1.**

Рычард Ільвінае Сэрца, піражнае "Напалеон", мецэнат, Дзед Мароз, дарвініст, Кірыла Тураўскі, пецярбуржац, паўночны захад, краіны Балтыі, німфа, Паўночны полюс, тропік Казярога, суворaўская тактыка, Балканскі паўвостраў, стыль рэнесанс, Другая сусветная вайна, Алмазны фонд, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, залаты век, Белтэлерадыё, ордэн Францыска Скарыны, Новы год, дзень адчыненых дзвярэй, Дзень памяці, імперыялістычная вайна, Нобелеўская прэмія, Літоўская метрыка.

**Заданне 2.**

Купалаўская прэмія, Паланій (персанаж У. Шэкспіра) / палоній (хімічны элемент), ахілесава пята, род Радзівілаў, Міхал Клеафас Агінскі, Леанарда да Вінчы, Наваградчына, Лос-Анджэлес, праспект Незалежнасці, Балеарскія астравы, 100 ампер, аэрапорт "Мінск-2", батлейка, Буда-Кашалёва, Запарожжа, Палярная зорка, Бярэзінскі біясферны запаведнік, Купалаўская стыпендыя, Вольфганг Амадэй Моцарт, Д'Артаньян, купалаўская манера, Сент-Экзюперы, броўнаўскі рух, пустыня Сахара, народы Поўначы, Эльзас-Латарынгія, Афрыканскі кантынент, Міхасёў голас, рэнтген, эзопава мова, Іван Удовін Сын, Князь-возера, Зямля Каралевы Мод, Аўгустоўскі канал, астравы Каралевы Шарлоты, Старыя Дарогі.

**Заданне 3.**

| а) з вялікай літары | б) з малой літары |
|---|---|
| *Арганізацыя Аб'яднаных Нацый*, *Белтэлерадыёкампанія*, *Боская* міласць, *Дзяржаўны* герб Рэспублікі Беларусь, *Каран*, *Крыж* Ефрасінні Полацкай, *Крычаўскае* паўстанне, *Курган* Славы, Міжнародная прэмія *Міру*, *Міжнародны* алімпійскі камітэт, Мінска-*Маладзечанскае* ўзвышша, *Нараджэнне* Хрыстова, Новы *Арлеан*, *Палац* мастацтваў, *Прасвятая Тройца*, *Стары Запавет*, *Сусветны* паштовы саюз, *Усеагульная* дэкларацыя правоў чалавека | *бог* сонца Дажбог, Дзень *беларускай* навукі, *дом* адпачынку, лупіць як *сідараву* казу, Магеланаў *праліў*, Мінскае *суворaўскае* ваеннае вучылішча, *муза*, Нацыянальная *акадэмія* навук Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны *сход* Рэспублікі Беларусь, не давядзі *госпадзі*, Ніягарскі *вадаспад*, *ордэн* Дружбы народаў, Палац *спорту*, *плошча* Перамогі, *савет* па абароне дысертацый, Сарока-*белабока*, стыль *мадэрн*, эпоха *палеаліту* |

**Ірына САВІЦКАЯ,**
кандыдат філалагічных навук,
дацэнт кафедры сучаснай беларускай мовы
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

*З вопыту работы*

# СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ З РОЗНЫМІ ВІДАМІ СУВЯЗІ

## ЗАНЯТКІ ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ*

**Мэты:** абагульніць, сістэматызаваць і паглыбіць веды навучэнцаў пра складаныя сказы з рознымі відамі сувязі, іх сінтаксічныя прыметы і ўжыванне ў маўленні, правілы пастаноўкі знакаў прыпынку ў такіх сказах; удасканаліць уменні і навыкі правільна інтанаваць складаныя сказы з рознымі відамі сувязі, ставіць знакі прыпынку ў іх, ужываць у вусным і пісьмовым маўленні; спрыяць развіццю ў навучэнцаў пазнавальных здольнасцей, памяці; выхоўваць пачуццё павагі да роднай мовы, нацыянальных каштоўнасцей.

**Абсталяванне:** Беларуская мова : вучэб. дапам. для 11-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / Г. М. Валочка [і інш.]. – Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2010. – 256 с.; карткі з рознаўзроўневымі заданнямі; карткі з адказамі на заданні для самастойнай работы; табліца "Знакі прыпынку ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі".

**Эпіграф:**

*Нас б'е па сэрцах паскарэнне,*
*Сціскаюцца прастора, час.*
*А матчынай зямлі карэнні*
*Ніколі не адпусцяць нас.*

П. Панчанка.

### ХОД ЗАНЯТКАЎ

**I. Арганізацыйны момант.**

**II. Праверка дамашняга задання.**

• ***Апераджальнае заданне.*** Тэарэтычны матэрыял па тэме "Складаныя сказы з рознымі відамі сувязі".

• ***Апытанне.***

*Правяраецца засваенне ведаў па вывучанай тэме і ўменне складаць выказванне на лінгвістычную тэму.*

**Прыкладныя пытанні па тэме "Бяззлучнікавыя складаныя сказы".**

1. Які сказ называецца складаным?
2. Назавіце віды складаных сказаў па спосабе сінтаксічнай сувязі частак?
3. Як мэта і стыль маўлення ўплываюць на ўжыванне складаных сказаў?
4. Як звязваюцца часткі ў бяззлучнікавых складаных сказах?
5. Што вам вядома пра значэнне, будову і сінтаксічную ролю бяззлучнікавых складаных сказаў?
6. Якая сэнсава-стылістычная і тэкстаўтваральная роля бяззлучнікавых складаных сказаў?
7. Якія знакі прыпынку ставяцца ў бяззлучнікавых складаных сказах? Ад чаго залежыць пастаноўка знакаў прыпынку?
8. Калі ставіцца коска, кропка з коскай, двукроп'е, працяжнік паміж часткамі ў бяззлучнікавых складаных сказах? Прывядзіце прыклады.

• ***Праверка пісьмовага задання.***

**III. Вывучэнне новага матэрыялу.**

*Паведамленне тэмы, вызначэнне мэты і задач занятказў, парадку работы.*

• ***Актуалізацыя ведаў па тэме "Складаныя сказы з рознымі відамі сувязі".***

*Навучэнцы вызначаюць пытанні для абмеркавання з шэрагу прапанаваных выкладчыкам.*

**Прыкладныя пытанні і заданні для абмеркавання.**

1. Што агульнага паміж складанымі сказамі з рознымі відамі сувязі і іншымі відамі складаных сказаў? Чым адрозніваюцца?
2. Як злучаюцца часткі ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі?
3. Раскажыце пра значэнне, будову і сінтаксічную ролю складаных сказаў з рознымі відамі сувязі.
4. Якая сэнсава-стылістычная і тэкстаўтваральная роля складаных сказаў з рознымі відамі сувязі?
5. Якія знакі прыпынку ставяцца ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі?

*Праца вядзецца ў форме гутаркі ў працэсе выканання заданняў 1 – 3.*

**Заданне 1.** Выпішыце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі. Пабудуйце іх схемы. Адкажыце на пытанні:

– як звязваюцца часткі ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі?

– раскажыце пра значэнне, будову і сінтаксічную ролю складаных сказаў з рознымі відамі сувязі.

– пракаменціруйце інтанаванне складаных сказаў з рознымі відамі сувязі, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх.

1. Я гэту песню берагу: яна ў сэрца мне запала (П. Панчанка). 2. Застаўшыся з маленства на вайне, я аднаго хачу, мая краіна: каб гэта скончылася ўсё на мне, каб гэта ўсё не стала доляй сына (Н. Гілевіч). 3. А на Палессі ўсё ндробна: цяжкая спадчына вякоў, цяжкія рукі хлебаробаў, цяжкія сны палешукоў (П. Панчанка). 4. У не-

* Матэрыял распрацаваны для сярэдне-спецыяльнай навучальнай установы, разлічаны на 2 гадзіны. У сістэме школьнага навучання прапануецца вучням XI класа ў IV чвэрці.

бе сніліся пілоту спакойныя зямныя сны: тугая сцежка каля плоту і шум карэльскае сасны (С. Грахоўскі). 5. Я прыйшоў да вас, каб сказаць, што няма на зямлі небыцця: будзе вечна пад сонцам грацы залатое кола жыцця (К. Цвірка).

Для даведкі.

4. [1]: [[2] і [3]].

5. [[-×-⁰], (каб сказаць¹), (што…²)]: [II].

Састаўныя часткі ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі могуць аб'ядноўвацца рознымі *відамі сувязі*: злучальнай і падпарадкавальнай; бяззлучнікавай і падпарадкавальнай; бяззлучнікавай і злучальнай; бяззлучнікавай, злучальнай і падпарадкавальнай і г. д.

*Граматычнае значэнне* складанага сказа з рознымі відамі сувязі вызначаецца па адносінах паміж логіка-структурнымі часткамі на мяжы галоўнага віду сувязі. *Сэнсавыя адносіны* набліжаюцца да адносін у складаным сказе (ці ў складаназлучаным, ці ў складаназалежным, ці ў бяззлучнікавым складаным сказе).

*Будова.* У большасці складаных сказаў з рознымі відамі сувязі вылучаюцца дзве логіка-структурныя часткі, якія ўтвараюць асобага віду складаназлучаны, бяззлучнікавы ці складаназалежны сказ.

*Сінтаксічная роля.* Сказ дазваляе выразіць самую складаную думку.

**Заданне 2.** Выразна прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак. Вызначце стыль і тып тэксту (адказ абгрунтуйце).

Знайдзіце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі. Пабудуйце іх схемы. Абгрунтуйце мэтазгоднасць ужывання такіх сказаў у тэксце. Якую сэнсава-стылістычную і тэкстаўтваральную ролю выконваюць складаныя сказы з рознымі відамі сувязі?

1. Большую частку года востраў быў як бы адасоблены ад іншых вёсак і мястэчак. 2. Нават у непаганыя дні рэдкія газеты ці лісты ад сыноў і братоў дабіраліся сюды ў паляшуцкай торбе нялёгка – каму было прыемна лазіць па гразі без вельмі важнай прычыны, – але і гэтая нямоцная сувязь са светам пры кожным зацяжным дажджы лёгка рвалася. 3. Восенню ці вясной яна перарывалася на цэлыя месяцы: багна адразала востраў ад свету мацней, чым гэта маглі б зрабіць абшары вадзянога прастору. 4. Многія дні людзі жылі, як на плыце, які злая нягода адарвала ад берага і занесла ў мора, – трэба чакаць адно, калі спадарожны вецер ці лёс зноў падгоніць да зямлі (паводле І. Мележа).

Падзяліце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі на меншыя сінтаксічныя адзінкі, параўнайце тэксты.

Для даведкі.

Стыль тэксту – мастацкі.

Тып тэксту – апісанне.

Схемы складаных сказаў з рознымі відамі сувязі.

3. [I]: [[-×-⁰], (чым…¹)].

4. [[на плыце⁰], (які…¹)], –

[[трэба чакаць⁰], (калі…¹)].

**Заданне 3.** Разгледзьце табліцу "Знакі прыпынку ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі". Выдзеліце па магчымасці новы тэарэтычны матэрыял. Вусна дапоўніце табліцу прыкладамі з папярэдняга тэксту. Падрыхтуйце паведамленне (паведамленні) на тэму: "Знакі прыпынку ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі".

**Знакі прыпынку ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі.**

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Коска не ставіцца паміж злучальным і падпарадкавальным злучнікамі, калі апошні з'яўляецца састаўным | Толькі вясною высока ў небе клічуць радасна жураўы, і калі яна запазнілася да цябе, дык абавязкова прыйдзе з гэтай песняй… (М. Стральцоў). [I], і [(калі…¹), [дык…⁰]]… |
| 2 | Коска ставіцца пры збегу злучальнага і падпарадкавальнага злучнікаў толькі тады, калі пропуск дадзенай часткі, якая пачынаецца падпарадкавальным злучнікам, не парушае структуры сказа | Прайшоў гадок, і, калі мінуў другі, у касьбу запахлі мурагі (Я. Колас). [I], і, [(калі…¹), [⁰]]. Мы гаворым пра ўсё, і калі я раптоўна змаўкаю, яна не здзіўляецца (Я. Брыль). [I], і [(калі…¹), [⁰]]. |
| 3 | Коска не ставіцца паміж дзвюма часткамі, звязанымі пры дапамозе спалучальных злучнікаў (*і, ды*), калі трэцяя частка з'яўляецца агульнай для іх | У птушак галасней размовы: адталі рэчак берагі і скрозь па ўзгорках і дубровах нібы шавеляцца снягі (П. Броўка). [1]: [[2] і [3]]. |
| 4 | Кропка з коскай ставіцца, калі логіка-структурныя часткі развітыя, маюць свае знакі прыпынку або слаба звязаны сэнсам | Яна ішла, мабыць, з гадзіну, але патрэбнай ёй лесніччоўкі ўсё не было відаць; навокал цягнулася незнаёмае мёрзлае балота (В. Быкаў). [[1], але [2]]; [II]. |
| 5 | Двукроп'е ставіцца тады, калі другая логіка-структурная частка раскрывае сэнс першай або абазначае прычыну таго, пра што гаворыцца ў ёй | Знаю: няма таго зелля, што хоць на міг ад тугі па Айчыне вылечвае (Г. Бураўкін). [I]: [[⁰], (што…¹)]. |
| 6 | Працяжнік ставіцца, калі наступная логіка-структурная частка паказвае вынік папярэдняй | Хутка мясціна, па якой ішлі, пагоршылася – зямля пад нагамі ўгіналася, пахіствалася (І. Мележ). [[…, (па якой…¹), …⁰]] – [II]. |

***Заўвага:*** *пункты правіла 1, 2, 3 – новы тэарэтычны матэрыял.*

**IV. Замацаванне вывучанага.**

**Заданне 1.** Выразна прачытайце сказы. Суаднясіце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі і прыведзеныя схемы (запішыце для кожнага сказа адпаведны нумар схемы). Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку (*выконваецца вусна па ланцужку*).

1. Сцяпан яшчэ раз з усмешкай зірнуў на мяне і прыцішыў ход: мы праязджалі гарадскую рысу, і наперадзе былі ўжо добра відаць прыгожыя дамы Зялёнага Луга (У. Ляўданскі). 2. У звычаях і абліччах нашых землякоў ёсць нешта агульнае, і дзе б ні жыў беларус, у яго гаворцы заўсёды чуецца вымаўленне і мелодыка яго народа (С. Грахоўскі). 3. Радзіннага*, знаёмага не вытруцілі з нас: аерам пахне Сёмуха* і яблыкамі – Спас* (А. Пісьмянкоў). 4. Ці то Вялікдзень, ці Раство, ці проста дзень будзённы, шэры – паэтаў вабіць хараство, як матылькоў – святло Венеры (Э. Акулін). 5. Лес наступаў і расступаўся, лужком зялёным разрываўся; а дзе прыгожыя загібы так міла ішлі каля сядзібы, што проста б імі любаваўся (Я. Колас).

Схема 1.



Схема 2.



Схема 3.



Схема 4.



Схема 5.



Для даведкі.

Сказ 1 – схема 4.
Сказ 2 – схема 2.
Сказ 3 – схема 3.
Сказ 4 – схема 1.
Сказ 5 – схема 5.

*Прагляд слайдаў з выявамі прыроды Беларусі вясной.*

**Заданне 2.** Практ. 262 па дапаможніку для 11-га класа.

**Заданне 3.** Дыктант па памяці. Прачытайце верш, вызначце яго тэму і асноўную думку. Вызначце апорныя (ключавыя) словы ў вершы. Ахарактарызуйце яго сінтаксічныя асаблівасці. Абгрунтуйце мэтазгоднасць ужывання ў творы складаных сказаў з рознымі відамі сувязі. Падзяліце верш на дзве адносна закончаныя сэнсавыя часткі, вывучыце адну з іх і запішыце па памяці. Праверце запісаны тэкст.

* * *

Пачынаецца лета, і ў травах зялёных
Зноў губляюцца сцежкі на лузе
шырокім,
Дзе крыніца бруіцца вадою сцюдзёнай,
У якую глядзяцца сусвет і аблокі.
А калісьці рака па вясне затапляла
Гэты ціхі прастор, дзе раслі
вербалозы,
І вада звар'яцела наўкол віравала…
Я гляджу на прастор праз самотныя
слёзы,
Бо я помню яшчэ белы ветразь і вецер,
Што мяне і сяброў прадзімаў на
світанні.
Разышліся сябры па задымленым свеце,
І сплылі вербалозы, загінулі ў твані.
Ды крыніца бруіцца вадою сцюдзёнай,
І пакуль мы ў трывозе – яна не загіне…
Пачынаецца лета, і ў травах зялёных
Вольна дыхаць людзям і Айчыне.

В. Шніп.

Для даведкі.

Ды крыніца бруіцца вадою сцюдзёнай, і пакуль мы ў трывозе – яна не загіне…

Складаны сказ з рознымі відамі сувязі мае ў складзе дзве логіка-структурныя часткі.

На мяжы логіка-структурных частак перад злучальным злучнікам (у далучальнай ролі) *і* ставіцца коска (як у складаназлучаным сказе). Другая логіка-структурная частка – складаназалежны сказ. Працяжнік стаіць пасля дадзенай часткі, бо яна размешчана перад галоўнай і вымаўляецца з узмоцненай інтанацыяй. Коска паміж злучальным злучнікам *і* (у далучальнай ролі) і падпарадкавальным *пакуль* не ставіцца, бо пропуск дадзенай часткі парушае сэнс сказа.



**Заданне 4.** Творчы пераказ прачытанага тэксту.

**Хто такая Ганна**

Той, каму быў час і ахвота прыглядацца, хто лепш бачыў Ганну, заўважаў, што перамянілася яна не толькі з аблічча.

…Амаль усе куранёўскія цёткі і дзядзькі згодна лічылі, што, набыўшы паважнасці, Ганна разам з тым стала і больш неспакойнай і – аж лішне задзірыстай. Не аднаму ў Куранях не да спадобы была і яе ганарыстая ўпэўненасць: ледзь не кожным учынкам Ганна, здавалася, паказвала, што ў яе на ўсё свае сталыя меркаванні, свой цвёрды погляд…

Хлопцы і гарнуліся да яе і нібы пабойваліся. Акрамя таго, што стрымлівала Ганніна задзірыстасць і ганарлівасць*, ім помнілася, што не лішне асцерагацца і яе язычка. Ведалі яны і тое, што Ганну не дай бог увесці ў гнеў: тады яна ў момант страціць роўнасць сваю, забудзецца на

* Лексічнае значэнне павінна тлумачыцца ў працэсе работы.

ўсё, загарыцца адным. Гарачая, н**я**стрымная, н**е**бяспечная яна, ганарліўка Ганна!..

Васіль не прыглядаўся асабліва, не перабіраў, не вымяркоўваў. Ён быў да гэтага вельмі ж здзіўлены, зачараваны. Жылі побач, бегалі з другімі на выган, пасвілі жывёлу, колькі гадоў бачыў між іншых і не ведаў, не здагадваўся, хто такая Ганна. І нечакана пасля вечара на лузе адкрылася ўсё…

Паводле І. Мележа.

**Заданні да тэксту.**

1. Прачытайце тэкст.

2. Прааналізуйце змест тэксту:

а) растлумачце лексічнае значэнне пазначанага слова;

б) адкажыце на пытанні:

– у які час свайго жыцця паказана Ганна?

– якія рысы характару Ганны адзначаюць куранёўцы?

– паразважайце, калі і чым Ганна ўзрушыла сэрца Васіля.

– як аўтар ставіцца да сваёй гераіні?

– як вы ставіцеся да паводзін Ганны?

3. Вызначце стыль і тып тэксту, абгрунтуйце свой адказ.

4. Складзіце і запішыце план пераказу.

5. Растлумачце напісанне выдзеленых літар.

6. Абазначце ў тэксце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі. Пабудуйце іх схемы. Вусна растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

7. Вусна перакажыце змест тэксту па частках.

8. Перачытайце тэкст.

9. Напішыце творчы пераказ тэксту, развіваючы яго тэму (2-3 сказы). Выкарыстайце па магчымасці складаныя сказы з рознымі відамі сувязі.

*У канцы работы наладжваецца самаправерка.*

Для даведкі.

Не аднаму ў Куранях не да спадобы была і яе ганарыстая ўпэўненасць: ледзь не кожным учынкам Ганна, здавалася, паказвала, што ў яе на ўсё свае сталыя меркаванні, свой цвёрды погляд…

што? II
[I]: [ $^0$], (што…$^1$)…

Ведалі яны і тое, што Ганну не дай бог увесці ў гнеў: тады яна ў момант страціць роўнасць сваю, забудзецца на ўсё, загарыцца адным.

што? I
[ $^0$], (што…$^1$): [II].

Жылі побач, бегалі з другімі на выган, пасвілі жывёлу, колькі гадоў бачыў між іншых і не ведаў, не здагадваўся, хто такая Ганна.

аб чым? II
[I], [ $^0$], (хто…$^1$).

• ***Самастойная праца ў групах.***

**І група**

**Заданне 1.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары, раскрываючы дужкі і расстаўляючы знакі прыпынку. Пабудуйце схемы сказаў. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. На алешніцкім полі змрок стаў паволі радзець адыходзіць а калі выбраліся на шлях пакацілі між радоў згалелых рослых бяроз (н…)яркае і (н…)гарачае сонца зач…рванела ўжо ў дымным яе бы туманным небе (І. Мележ). 2. Снег ужо начыста выбел…ваў сцежку і дарогу на якую выбраўся за ўзболаткам хмызнякі па бак…цямнелі (н…)звычайна рэзка (І. Мележ).

**Заданне 2.** Вызначце будову і значэнне сказаў. Дапоўніце сказы, далучыўшы да іх сэнсава-граматычныя часткі. Вызначце тыпы складаных сказаў. Запішыце сказы, расстаўляючы знакі прыпынку.

1. Не змаўляючыся ўзялі яны кожны сабе абавязак і глядзелі яго… 2. Толькі пад самы Новы год маразы скавалі зямлю як след і зіма стала ўладарыць адна…

**Заданне 3.** Прачытайце тэкст. Падбярыце сінонімы да выдзеленых слоў. Падумайце, у які час свайго жыцця паказана Хадоська. Вызначце тэму і асноўную думку тэксту. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары, ставячы знакі прыпынку і раскрываючы дужкі. Растлумачце напісанне. Пабудуйце схему аднаго складанага сказа з рознымі відамі сувязі. Дапішыце складаны сказ з рознымі відамі сувязі.

**Хадоська**

1. Харошая яна сабою стала (красуня)канапляначка! 2. Невялічкая "акуратная" як казаў Хоня яна яшчэ пакруглела здаецца ўся налілася дужасцю. 3. Дужая стала яе шыя дужыя паўнаватыя рукі і *пру…кія* ногі. 4. І хадзіла і стаяла Хадоська прама заўсёды і ў паставе і ў рухах яе чуліся *пру…касць* і дужасць хараство не (абы)як здаровай дзяўчыны ў самай пары спеласці. 5. І яшчэ чулася ў Хадосьцы (н…)знаная каліс…ці годнасць строгасць строгія былі вочы строгія губы што здавалася не маглі смяяцца. 6. Харошая была Хадоська асабліва цяпер у *заўзятасці* працы у тым як яна рабіла бачылася колькі ў ёй і дужасці і маладога агн… . 7. Прыгожая яна была сярод *куп* сена і лазняк… сярод зіхотнай залітай сонцам сенажаці. 8. Толькі не было каму любавацца ёю…

Паводле І. Мележа.

**ІІ група**

**Заданне 1.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары, раскрываючы дужкі і расстаўляючы знакі прыпынку. Пабудуйце схемы сказаў. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. Так многія старыя гасцінныя звычаі пакрысе выміраюць гара(дс, ц)кі чалавек можа часам не ведаць чалавека з суседняга пад…езда але і

цяпер у нас рэ…ка знойдзецца хата у якой не паставілі б рубам* апошняга рубля калі ў доме госць (У. Караткевіч). 2. А там дзе першы крок рабілі дзе нашы мац…ркі жывуць растуць бярозы і рабіны і лісце падае ў траву (Г. Бураўкін).

**Заданне 2.** Вызначце будову і значэнне сказаў. Дапоўніце сказы, далучыўшы да іх сэнсава-граматычныя часткі. Вызначце тыпы складаных сказаў. Запішыце сказы, расстаўляючы знакі прыпынку.

1. І знаю дзень пражыты недарма… 2. Мая дарога за бацькоўскім домам святая сувязь з роднаю зямлёй на ёй залежнасць вырасла свядома ад усяго…

**Заданне 3.** Прачытайце тэкст. Падбярыце сінонімы да выдзеленых слоў. Падумайце, у які час свайго жыцця паказаны Васіль. Вызначце тэму тэксту. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары, ставячы знакі прыпынку і раскрываючы дужкі. Растлумачце напісанне. Пабудуйце схему аднаго складанага сказа з рознымі відамі сувязі. Напішыце працяг тэксту (2-3 сказы), захоўваючы яго стыль і тып. Выкарыстайце па магчымасці складаныя сказы з рознымі відамі сувязі.

**Суседзі**

1. (Пад)вечар калі Васіль прыцягнуўся з лесу з возам дроў маці пераказала яму што прыходзіў Міканор і прасіў зайсці пагаманіць. 2. Васіль на гэтае запрашэнне не сказаў нічога але па тым як (н…)здаволена матнуў ён галавою маці здагадалася што яно не спадабалася сыну.

3. Маці не стала дапытвацца што ж такое ўчынілася між сынам і суседам ведала што Васіль (усё)роўна не скажа але не ўтрывала каб і раз і другі не перадаць (М, м)іканорава запрашэнне знарок дадаючы ад сябе розныя выдумкі якія маглі б усцешыць сынава сэрца. 4. Сказала што вельмі хваліў Васіля за гаспадарлівасць і прасіў каб ён за нешта не злаваў… 5. Дзед Дзяніс па…трымаў яе не а…ведаць суседа *не ўважыць ласкай* такую радасць як прыход са службы (н…)гожа…

Паводле І. Мележа.

**III група**

**Заданне 1.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары, раскрываючы дужкі і расстаўляючы знакі прыпынку. Пабудуйце схемы сказаў. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. Гразь дзе было яе (н…)глыбока ўжо ўгрэлася але калі ногі ўя…джалі па калені ці глыбей костачкі нылі ад холад… (І. Мележ). 2. Міканора і самога хіліла на др…моту і ён падумаў ці не на дождж санлівасць гэта паказвае але неба было пакуль чыстае з рэ…кімі белымі хмаркамі што здавалася таксама др…малі ў (н…)рухомай гарачай высі (І. Мележ).

**Заданне 2.** Вызначце будову і значэнне сказаў. Дапоўніце сказы, далучыўшы да іх сэнсава-граматычныя часткі. Вызначце тыпы складаных сказаў. Запішыце сказы, расстаўляючы знакі прыпынку.

1. Не вельмі думалася ў спякотнай дрымотнасці але і цераз яе Міканор чуў… 2. Хоць сабралася людзей пакуль што небагата Міканор адчуў…

**Заданне 3.** Прачытайце. Растлумачце лексічнае значэнне выдзеленых слоў. Падумайце, калі могуць адбывацца апісаныя падзеі. Напішыце працяг тэксту, дайце яму загаловак. У сваім тэксце абазначце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі, растлумачце знакі прыпынку ў іх.

1. Амаль два тыдні дзень у дзень збіраліся куранёўцы на грэблі, капалі канавы, цягалі галлё, вазілі, раскідалі зямлю. 2. Пад канец другога тыдня грэбля* вымяралася ўжо не дзясяткам-другім крокаў: без малога на вярсту* між балотных алешніку, беразняку, шызых купчастых лазнякоў напрасткі ішла жаўтлявая цвёрдая паласа, па якой так лёгка, так радасна было ісці і ехаць возам. 3. Дні гэтыя былі ці не самыя турботныя і, мусіць, самыя шчаслівыя ў Міканоравым жыцці. 4. Яшчэ б які тыдзень-другі – і абодва канцы грэблі маглі б сысціся…

Паводле І. Мележа.

*Справаздача груп аб выкананай працы.*
*Праверка выкананых заданняў.*

**АДКАЗЫ**

**І група**

**Заданне 1.**

1. На алешніцкім полі змрок стаў паволі радзець, адыходзіць, а калі выбраліся на шлях, пакацілі між радоў згалелых рослых бяроз, няяркае і негарачае сонца зачырванела ўжо ў дымным, як бы туманным, небе (І. Мележ).

калі?
[ ], а (калі …$^{1}$), [ $^{0}$].

2. Снег ужо начыста выбельваў сцежку і дарогу, на якую выбраўся за ўзболаткам, – хмызнякі па баках цямнелі незвычайна рэзка (І. Мележ).

якую? I
[ $^{0}$], (на якую …$^{1}$), – [II].

**Заданне 3.**

**Хадоська**

1. Харошая яна сабою стала, красуня-канапляначка! 2. Невялічкая, “акуратная”, як казаў Хоня, яна яшчэ пакруглела, здаецца, уся налілася дужасцю. 3. Дужая стала яе шыя, дужыя паўнаватыя рукі і пругкія ногі. 4. І хадзіла, і стаяла Хадоська прама – заўсёды і ў паставе, і ў рухах яе чуліся пругкасць і дужасць, хараство не абыяк здаровай дзяўчыны ў самай пары спеласці. 5. І яшчэ чулася ў Хадосьцы нязнаная калісьці годнасць, строгасць: строгія былі вочы, строгія губы, што, здавалася, не маглі смяяцца. 6. Харошая была Хадоська асабліва цяпер, у заўзятасці

працы; у тым, як яна рабіла, бачылася, колькі ў ёй і дужасці, і маладога агню. 7. Прыгожая яна была сярод куп сена і лазняку, сярод зіхотнай, залітай сонцам сенажаці. 8. Толькі не было каму любавацца ёю, усе, нават Хоня, жылі сваім клопатам, рабілі; адна маці раз-пораз паглядвала, але не так з любаваннем, як ужо са звыклым жалем за немаведама чаму няўдалы дзявочы лёс яе.

Паводле І. Мележа.

Стыль тэксту – мастацкі.
Тып тэксту – апісанне.

якія?
5. [1]: [2], [ $^{0}$], (што…$^{1}$).

у чым?   што?   II
6. [І]; […, (як…$^{1}$), …$^{0}$], (колькі…$^{2}$).

**II група**

**Заданне 1.**

1. Так, многія старыя гасцінныя звычаі пакрысе выміраюць, гарадскі чалавек можа часам не ведаць чалавека з суседняга пад'езда, але і цяпер у нас рэдка знойдзецца хата, у якой не паставілі б рубам апошняга рубля, калі ў доме госць (У. Караткевіч).

І   якая?   калі?   II
[ ], [ ], але [ $^{0}$], (у якой…$^{1}$), (калі…).

2. А там, дзе першы крок рабілі, дзе нашы мацеркі жывуць, растуць бярозы і рабіны і лісце падае ў траву (Г. Бураўкін).

дзе?
[…, (дзе…), (дзе…), …] і [ ].

**Заданне 3.**

**Суседзі**

1. Пад вечар, калі Васіль прыцягнуўся з лесу з возам дроў, маці пераказала яму, што прыходзіў Міканор і прасіў зайсці пагаманіць. 2. Васіль на гэтае запрашэнне не сказаў нічога, але па тым, як нездаволена матнуў ён галавою, маці здагадалася, што яно не спадабалася сыну. 3. Маці не стала дапытвацца, што ж такое ўчынілася між сынам і суседам, – ведала, што Васіль усё роўна не скажа, – але не ўтрывала, каб і раз, і другі не перадаць Міканорава запрашэнне, знарок дадаючы ад сябе розныя выдумкі, якія маглі б усцешыць сынава сэрца. 4. Сказала, што вельмі хваліў Васіля за гаспадарлівасць і прасіў, каб ён за нешта не злаваў… 5. Дзед Дзяніс падтрымаў яе: не адведаць суседа, не ўважыць ласкай такую радасць, як прыход са службы, нягожа…

Паводле І. Мележа.

Стыль тэксту – мастацкі.
Тып тэксту – апавяданне.

па чым?   пра што?   II
2. [І], але […, (як…$^{1}$), …$^{0}$], (што…$^{2}$).

якую?   II
5. [І]: […, (як…$^{1}$), …$^{0}$].

**III група**

**Заданне 1.**

Для даведкі.

1. Гразь, дзе было яе неглыбока, ужо ўгрэлася, але калі ногі ўязджалі па калені ці глыбей, костачкі нылі ад холаду (І. Мележ).

дзе?   І   пры якой умове?   II
[…, (дзе…$^{1}$), …$^{0}$], але (калі…$^{1}$), [ $^{0}$].

2. Міканора і самога хіліла на дрымоту, і ён падумаў, ці не на дождж санлівасць гэта паказвае; але неба было пакуль чыстае, з рэдкімі белымі хмаркамі, што, здавалася, таксама драмалі ў нерухомай, гарачай высі (І. Мележ).

што?   І   якімі?   II
[1], і [ $^{0}$], (ці…$^{1}$); але [ $^{0}$], (што…$^{1}$).

**V. Падагульненне і замацаванне вывучанага.**

1. Ахарактарызуйце складаны сказ з рознымі відамі сувязі як сінтаксічную адзінку.

2. Якая сэнсава-стылістычная роля складаных сказаў з рознымі відамі сувязі?

3. Што новага вы даведаліся пра знакі прыпынку ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі?

4. Паразважайце над пытаннем “Якое значэнне сёння маюць народныя духоўна-маральныя каштоўнасці?”.

*Вуснае выказванне публіцыстычнага стылю.*

**VI. Падвядзенне вынікаў. Рэфлексія.**

**VII. Дамашняе заданне.**

**Спіс літаратуры**

1. **Беларуская мова** : у 2 ч. / Я. М. Адамовіч [і інш.]; пад агул. рэд. Л. М. Грыгор'евай. – 4-е выд. – Мінск : Выш. шк., 2004. – Ч. 2. Сінтаксіс : падручнік. – 222 с.

2. **Красней, В. П.** Беларуская мова : поўны школьны курс : тэорыя : дапаможнік для вучняў старшых класаў агульнаадукацыйных устаноў / В. П. Красней, Я. М. Лаўрэль. – 4-е выд.; перапрац. – Мінск : Аверсэв, 2010. – 272 с.

3. **Протчанка, В. У.** Беларуская мова : вучэб. дапам. для 10-га кл. устаноў, якія забяспечваюць атрыманне агул. сярэд. адукацыі, з беларус. і рус. мовамі навучання з 12-гадовым тэрмінам навучання (базавы і павыш. узроўні) / В. У. Протчанка, В. П. Протчанка; навук. рэд. А. Я. Міхневіч. – Мінск : НІА, 2006. – 256 с.

4. **Протчанка, В. У.** Вывучэнне сінтаксісу ў школе : склад. сказ / В. У. Протчанка. – Мінск : Нар. асвета, 1989. – 128 с.

5. **Яленскі, М. Г.** Методыка выкладання беларускай мовы. Сучасная лінгвадыдактыка : вучэб. дапам. для студэнтаў філал. спецыяльнасцей устаноў, якія забяспечваюць атрыманне выш. адукацыі / М. Г. Яленскі. – Мінск : Адукацыя і выхаванне, 2005. – 224 с.

**Тамара ДАВЫДАВА,**
выкладчык Вышэйшага дзяржаўнага каледжа сувязі.

*Прапануем план-канспект*

# ЗАГАДНЫ ЛАД: ЗНАЧЭННЕ, УТВАРЭННЕ, УЖЫВАННЕ І ПРАВАПІС

## УРОК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ (VI КЛАС)

**Мэты:** арганізаваць работу па вывучэнні дзеясловаў загаднага ладу, іх утварэння і правапісу, спосабаў утварэння; пазнаёміць з выпадкамі ўжывання формаў загаднага ладу ў паэтычнай мове; выпрацоўваць уменні вылучаць формы загаднага ладу ў тэкстах, называць адценні іх значэння; развіваць арфаграфічную пільнасць, уважлівасць; садзейнічаць выхаванню павагі да роднай мовы.

**Тып урока:** урок камбінаванай структуры.

**Абсталяванне:** карткі, мультымедыйная ўстаноўка, прэзентацыя, падручнік.

**Літаратура:** Беларуская мова ў табліцах і схемах / аўт.-склад. Г. М. Валочка і інш. – Мінск, 2005.

Паўрочны і тэматычны кантроль па беларускай мове: 6-ы кл.: дапаможнік для настаўнікаў агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання / С. І. Цыбульская. – Мінск: ТэтраСістэмс, 2008.

### ХОД УРОКА

**І. Арганізацыйны момант.**

**ІІ. Праверка дамашняга задання.**

**• Франтальнае апытванне.**

*Прыкладны варыянт.*

– Дайце азначэнне: лад дзеяслова – гэта…

– Назавіце лады дзеяслова.

– Што абазначаюць дзеясловы абвеснага ладу?

– Якое дзеянне называюць дзеясловы ўмоўнага ладу?

– Як утвараюцца дзеясловы ўмоўнага ладу?

– Як пішацца часціца *бы* (*б*) з дзеясловамі?

– Калі з дзеясловамі пішацца часціца *бы*, а калі *б*?

– Прывядзіце прыклады, калі будзе пісацца часціца *бы*, а калі часціца *б*.

*Падчас франтальнага апытвання некалькі вучняў працуюць каля дошкі.*

**Заданне.** Запішыце сказы, устаўце прапушчаныя літары, раскрыйце дужкі.

А ты, Алёнка, пачытала (б, бы) мне што-небу…ь. Я быў бы …аслівы, калі б (у, ў)далося здзейсніць мае мары.

– Назавіце дзеясловы ўмоўнага ладу. Якое дзеянне яны абазначаюць?

*Праверка працы вучняў каля дошкі.*

*(Звяртаецца ўвага на правапіс часціц **бы**, **б**, займенніка **што-небудзь**.)*

**• Паведамленне тэмы і мэт урока.**

**Настаўнік.** Вывучэнне мовы, яе адметнасцей – гэта своеасаблівае падарожжа, падчас якога мы даведваемся пра нешта новае, цікавае, пераадольваем пэўныя цяжкасці. Тэма нашага сённяшняга падарожжа “Загадны лад дзеясловаў”. Давайце сфармулюем мэты ўрока.

***Слайд 1.***

*На слайдзе змешчаны словы **даведацца, навучыцца**. Вучні фармулююць мэту, абапіраючыся на гэтыя словы.*

**ІІІ. Вывучэнне новага матэрыялу.**

**Настаўнік.** А зараз звернемся да тэмы ўрока. Вывучэнне пачнём са знаёмства з вершам А. Ставера. Пра што гэты твор, чаму ён прысвечаны?

***Слайд 2.***

*Любіце* травы, дрэвы, рэкі,
Прастор палёў, блакіт нябёс,
*Цаніце* Працу, Чалавека, –
І Бог вам дасць спагадны лёс.
А каб цанілі вас у свеце, –
(Я лепшых слоў не падбяру), –
Шануйце дзіва на планеце –
Святую нашу Беларусь.
І мову Коласа, Купалы
Беражыце з роду ў род,
Каб наша воля не прапала,
Каб не загінуў наш народ.

А. Ставер. Размова з нашчадкамі.

Знайдзіце ў вершы дзеясловы, якія абазначаюць пабуджэнне да дзеяння (*любіце, цаніце, шануйце, беражыце*). Яны ўжыты ў форме загаднага ладу, якую сёння мы будзем вывучаць.

*Тлумачэнне новага матэрыялу пры дапамозе схемы і табліцы. Паказ слайдаў.*

***Слайд 3.***

| Загадны лад дзеяслова | | |
|---|---|---|
| **просьба** | **загад** | **прапанова, парада** |
| *Прынясі, калі ласка, сшытак.* | *Кладзіцеся спаць!* | *Праходзьце, сядайце!* |

***Слайд 4.***

**Утварэнне формаў загаднага ладу дзеяслова.**

| Абвесны лад | Загадны лад | |
|---|---|---|
| | Адзіночны лік | Множны лік |
| 3-я асоба | 2-я асоба | 2-я асоба |
| прынясуць | прынясі □ | прынясіце |
| сяда[йу]ць | сядай □ | сядайце |
| бяруць | бяры □ | бярыце |

Звярніцеся да падручніка (§ 69, с. 275 – 276) і знайдзіце той матэрыял, які мы з вамі не разгледзелі.

*Каментарый настаўніка: пабуджэнне да дзеяння можа выражацца дзеясловамі 3-й асобы адз. і мн. ліку, дзеясловамі 1-й асобы.*

**IV. Фарміраванне ўменняў і навыкаў.**

**Заданне 1.** Дзеясловы, што ў дужках, пастаўце ў форме 2-й асобы адзіночнага ліку (вусна).

*Паказ слайда.*

***Слайд 5.***

У гутарцы (старацца) закрануць такую тэму, якая можа быць цікавай для твайго субяседніка. Менш (гаварыць) пра сябе. (Вучыцца) ўважліва слухаць. Не (перабіваць) суразмоўцу. (Даслухаць) тое, што ён гаворыць, і толькі пасля (пярэчыць), калі не згодны. Размаўляючы, (глядзець) на субяседніка. Але не (хапаць) яго за руку, не (біць) па плячах. (Умець) выклікаць увагу словамі, а не рукамі.

**Заданне 2.** Запішыце наступныя выказванні. Устаўце прапушчаныя літары. Ад дзеясловаў, якія падкрэслены, утварыце формы адзіночнага ліку загаднага ладу.

*Паказ слайда.*

***Слайд 6.***

Прамяніцца ярчэй і ярчэй
Ды звінець усё званчэй і званчэй,
Наш… прост…, шчыр… слова –
Белару…кая мова.

А. Дзеружынскі.

Ты жыць, мая мова, жыць,
Як в…сновая квецень, як неба…
Абудзіць, астудзіць, абнавіць –
Ад чужой такой ласк… не трэба!

С. Чыгрын.

– Пра што гэтыя выказванні, што хацелі сказаць аўтары гэтых слоў?

*Звяртаецца ўвага на знакі прыпынку пры звароту.*

• **Фізкультхвілінка.** Гімнастыка для вачэй.

**Заданне 3.** Успомніце, што такое прыказка. Састаўце з прыведзеных ніжэй слоў прыказкі. Назавіце дзеясловы загаднага ладу, абазначце іх канчаткі.

*Паказ слайда.*

***Слайд 7.***

**I варыянт**

1. нажывай, новых сяброў, не забывай, але і старых;
2. на заўтра, што паспееш зрабіць, не адкладвай, сёння;
3. справаю, не спяшайся, языком, а спяшайся;
4. папрацуй, паясі, у ахвоту, да поту.

**II варыянт**

1. летам сані, а зімою, калёсы, рыхтуй;
2. у родны край, там і пад елкаю, ідзі, рай;
3. на заўтра адкладзі, сёння зрабі, а справу, сон;
4. збярэш хлеба, сей, гару, у добрую пару.

– Чаму вучаць запісаныя вамі прыказкі?

**Заданне 4.** Складзіце 4-5 сказаў на тэму "Мая родная мова", выкарыстоўваючы дзеясловы *размаўляць, чытаць, шанаваць, запомніць* у форме загаднага ладу.

**V. Падвядзенне вынікаў урока.**

*Абагульняльная гутарка.*

**VI. Выстаўленне і каменціраванне адзнак.**

**VII. Рэфлексія.**

***Слайд 8.***

Сёння на ўроку я даведаўся…
Сёння на ўроку я навучыўся…
Было цікава…
Было складана…
У мяне атрымалася…

**VIII. Дамашняе заданне.**

Павіншуйце родных (сяброў) з якім-небудзь святам ці добрай падзеяй у іх жыцці, выкарыстоўвайце пры гэтым дзеясловы загаднага ладу (§ 69, практ. 534).

**Настаўнік.** Вось і закончылася наша сённяшняе падарожжа, і развітацца хацелася б такімі словамі:

**Дзесяць запаведзяў**

Мову родную *беражы.*
Мовай роднай *даражы.*
Мову родную *шануй.*
Мовай роднай *не гандлюй.*
Мову родную *любі.*
Мову ў сэрцы *не губі.*
Мовы роднай *не кідай.*
Мову дзецям *перадай.*
Мовы *не аддай* на здзек.
Толькі з ёй жыцьмеш, чалавек.

В. Швед.

**Эліна КАЛІНІНА,**
настаўнік беларускай мовы і літаратуры
сярэдняй агульнаадукацыйнай школы
№ 94 г. Мінска.

# КОМПЛЕКСНАЯ РАБОТА ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ І ЛІТАРАТУРЫ

## ТРЭЦІ (АБЛАСНЫ) ЭТАП РЭСПУБЛІКАНСКАЙ АЛІМПІЯДЫ ШКОЛЬНІКАЎ. 2010/2011 НАВУЧАЛЬНЫ ГОД

*Працяг. Пачатак у № 2.*

### X КЛАС

**Заданне 1.** Спалучыце паронімы *вадзяністы – вадзяны – водны* з адпаведнымі ім словамі.

Максімальная колькасць балаў – 5.

| Словы: *выдра, знак, млын, па́ра, прастора, раствор, снег, спорт, чарніла, шлях* | |
|---|---|
| вадзяністы | |
| вадзяны | |
| водны | |

**Заданне 2.** Размяжуйце архаізмы і гістарызмы. Да архаізмаў прывядзіце сучасныя адпаведнікі.

Атрамант, веча, вярста, іспыты, ланіты, паморак, радца, рондаль, станавы прыстаў, яцвягі.

Максімальная колькасць балаў – 8
(за правільна вызначаны гістарызм – 0,5,
за правільна вызначаны архаізм
і яго сучасны адпаведнік – 0,5).

| | |
|---|---|
| архаізмы | |
| сінонімы да архаізмаў | |
| гістарызмы | |

**Заданне 3.** Патлумачце фразеалагізмы і ўкажыце, як яны звязаны з мімікай і жэстыкуляцыяй.

Максімальная колькасць балаў – 5
(за тлумачэнне фразеалагізма – 0,5, за сувязь
фразеалагізма з паралінгвістычнымі сродкамі – 0,5).

1. Вырачыць вочы: ________________;
2. і брывом не павёў: ________________;
3. падняць галаву: ________________;
4. развесці рукамі: ________________;
5. раскрыць рот: ________________.

**Заданне 4.** Назавіце прыкметы, якія аб’ядноўваюць вытворныя суфіксальныя словы ў групе *1* і *2*.

Максімальная колькасць балаў – 2.

| Група вытворных суфіксальных слоў | Прыкмета для аб’яднання |
|---|---|
| 1) лісце, кацялок, беларуска, зубраня, канюк, шараваты, беленькі | |
| 2) сяброўства, чытач, гаспадарлівасць, каменны, ляток, багач, ільняны | |

**Заданне 5.** Адзначце, які(ія) з прыведзеных прыкладаў адпавядае(юць) наступнаму азначэнню: *“Сказ, у якім выражаецца значэнне павіннасці, неабходнасці, немагчымасці, непазбежнасці, пажаданасці, мэтазгоднасці дзеяння ці меркаванне адносна яго ажыццяўлення”*.

Вызначце тып гэтых сказаў.

Максімальная колькасць балаў – 3.

| Сказ | Тып сказа |
|---|---|
| 1. Паслухаць бы драздоў свістанне ў час ружовага світання. | |
| 2. Пахам мядовым дыхнула ад дрэў. | |
| 3. На граніцы паласу барануюць, нібы ў полі. | |
| 4. Нам пройдзеных дарог не перамераць, / І нанава нікому не прайсці. | |
| 5. Там ліры гук і посвіст косаў / Злучу ў адзін нячутны хор. | |

Правільны адказ: ________________.

**Заданне 6.** Кінастужка здымаецца на *“**Беларусь**фільме”*, калійныя мінеральныя ўгнаенні пастаўляе *“**Беларусь**калій”*, але грошы мы захоўваем у *“**Белarus**банку”*. Чым можна растлумачыць асаблівасці правапісу назваў гэтых устаноў? Адказ аргументуйце.

Максімальная колькасць балаў – 4.

Правільны адказ: ________________.

**Заданне 7.** Запішыце сказы, якія адпавядаюць прыведзеным схемам. Укажыце тыпы гэтых сказаў.

Максімальная колькасць балаў – 10.

**Схема 1.** [*Здавалася*], (*нібы*… ).
Сказ: ____________. Тып: ____________.
**Схема 2.** […], (*дарма што*…).
Сказ: ____________. Тып: ____________.
**Схема 3.** […], (*ажно*…).
Сказ: ____________. Тып: ____________.
**Схема 4.** [*…усё*], (*што*…).
Сказ: ____________. Тып: ____________.
**Схема 5.** […], (*ці*…).
Сказ: ____________. Тып: ____________.

**Заданне 8.** Запоўніце табліцу (табліца 1).

Максімальная колькасць балаў – 9
(1 бал за правільны адказ).

**Заданне 9.** Знайдзіце два адасобленыя элементы ў пераліку, якія не суадносяцца з іншымі тэрмінамі. Выбар абгрунтуйце.

Максімальная колькасць балаў – 4
(2 балы за правільнае вызначэнне,
2 балы за тлумачэнне).

Паэма, барока, ямб, сентыменталізм, развязка, рамантызм, раман, камедыя, апавяданне, байка.

Абгрунтаванне: ________________.

**Заданне 10.** Устаўце прапушчаныя словы, запішыце назву твора і яго аўтара.

Максімальная колькасць балаў – 7.

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла…
Помніш, калі я __________ з табою,
Зорка Венера ўзышла.

**Табліца 1.**

| Род літаратуры | Аўтар | Сапраўднае імя | Твор | Жанр | Ідэя і яе ўвасабленне |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | "Летапісец" | філасофская лірыка | зварот да культурна-гістарычнай спадчыны Беларусі |
| эпас | | | | апавяданне | суровая праўда пра Першую сусветную вайну; аўтабіяграфічнасць апавядання; гуманізм; вобраз Яна Шымкунаса |
| драма | Янка Купала | | | | пошукі шляхоў вызвалення Бацькаўшчыны; вобразы Сымона, Зосі, Старца, Незнаёмага |

З гэтай пары я пачаў углядацца
Ў неба начное і зорку шукаў.
____________ каханнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.
Але расстацца нам час наступае;
Пэўна, ўжо доля такая у нас.
Моцна кахаў я цябе, дарагая,
Але расстацца нам час.
Буду ў далёкім краю я нудзіцца,
Ў сэрцы любоў ________ сваю;
Кожную ночку на зорку дзівіцца
Буду ў далёкім краю.
Глянь ________ раз на яе, – у расстанні
Там з ёй зліём мы ________ свае…
Каб хоць на міг уваскрэсла каханне,
Глянь іншы раз на яе…
Назва твора: ________________________.
Аўтар твора: ________________________.

### ТЭКСТ ДЛЯ ВОДГУКУ

* * *

І тады закахалася хмара…
У паплавы, ад расы прамяністыя,
І ва ўсю Беларусь маю чыстую,
Ў мары бору, ў палёў абшары.

І заплакала ад кахання,
І слязою чыстай абмыла
Ўсе абшары зямлі маёй мілай,
Ўсе калыскі яе і магілы,
Ўсе змяркanні яе і світанні.

І пад птушак вясёлы гоман
Нарадзіліся для абшараў, –
Плод кахання бору і хмары, –
Мой Дняпро, і Бяроза, і Нёман.

Уладзімір Караткевіч.

### ДАВЕДКІ

**Заданне 1.**

| | |
|---|---|
| Словы: *выдра, знак, млын, па́ра, прастора, раствор, снег, спорт, чарніла, шлях* | |
| вадзяністы | *снег, чарніла* |
| вадзяны | *знак, выдра, млын, па́ра* |
| водны | *прастора, шлях, раствор, спорт* |

**Заданне 2.**

| | |
|---|---|
| архаізмы | *атрамант, іспыты, ланіты, паморак, радца, рондаль* |
| сінонімы да архаізмаў | *чарніла, экзамены (выпрабаванне, праверка), шчокі, мор, дарадчык, каструля* |
| гістарызмы | *веча, вярста, станавы прыстаў, яцвягі* |

**Заданне 3.**

1. Вырачыць вочы – *'моцна здзівіцца; старацца пераканаць каго-н.': пры моцным здзіўленні або жаданні пераканаць чалавек вельмі шырока раскрывае вочы, ад чаго яны становяцца выпуклыя, як у рака*;
2. і брывом не павёў – *'не выказаў здзіўлення, застаўся абыякавы': пры здзіўленні бровы чалавека высока паднімаюцца*;
3. падняць галаву – *'адчуць сябе ўпэўнена, самастойна; вызваліцца ад чаго-н.': калі чалавек адчувае сябе ўпэўнена, ён трымаецца прама, роўна. І наадварот: няўпэўнены або прыгнечаны чалавек часцей пазірае сабе пад ногі*;
4. развесці рукамі – *'паказаць сваю бездапаможнасць': калі чалавек не можа справіцца з сітуацыяй, ён расстаўляе рукі ў розныя бакі;*
5. раскрыць рот – *'моцна здзівіцца': пры ашаламляльнай інфармацыі рот чалавека міжвольна раскрываецца.*

**Заданне 4.**

| Група вытворных суфіксальных слоў | Прыкмета для аб'яднання |
|---|---|
| 1) лісце, кацялок, беларуска, зубраня, канюк, шараваты, беленькі | *Суфіксы, якія сталі сродкам утварэння слоў гэтай групы, "дзейнічаюць" у межах адной часціны мовы: зыходнае значэнне (прадметнасці, атрыбутыўнасці і інш.) не змяняецца* |
| 2) сяброўства, чытач, гаспадарлівасць, каменны, ляток, багач, ільняны | *Суфіксальнае словаўтварэнне, таксама характэрнае для гэтай групы, суправаджаецца пераходам адной часціны мовы ў другую* |

**Заданне 5.**

Правільны адказ: Вызначэнню адпавядаюць сказы *1* і *4*. Тып сказаў – аднасастаўныя інфінітыўныя сказы.

**Заданне 6.**

Каментарый: Асаблівасці правапісу назваў устаноў *"**Беларусь**фільм"*, *"**Беларусь**калій"*

**Табліца 2.**

| Род літаратуры | Аўтар | Сапраўднае імя | Твор | Жанр | Ідэя і яе ўвасабленне |
|---|---|---|---|---|---|
| *лірыка* | *Максім Багдановіч* | *Максім Багдановіч* | "Летапісец" | філасофская лірыка | зварот да культурна-гістарычнай спадчыны Беларусі |
| эпас | *Максім Гарэцкі* | *Максім Гарэцкі* | *"Літоўскі хутарок"* | апавяданне | суровая праўда пра Першую сусветную вайну; аўтабіяграфічнасць апавядання; гуманізм; вобраз Яна Шымкунаса |
| драма | Янка Купала | *Іван Луцэвіч* | *"Раскіданае гняздо"* | *сацыяльна-філасофская (філасофская) драма* | пошукі шляхоў вызвалення Бацькаўшчыны; вобразы Сымона, Зосі, Старца, Незнаёмага |

і "***Беларус****банк*" можна патлумачыць так званым сэнсава-ідэалагічным прынцыпам у арфаграфіі. Дзяржаўным рашэннем было вызначана, што выкарыстоўваць афіцыйную назву *Беларусь* можна толькі ў складзе найменняў тых устаноў, што маюць адпаведны статус. Таму "***Беларусь****фільм*", "***Беларусь****калій*" як дзяржаўныя прадпрыемствы, але "***Беларус****банк*" як акцыянернае прадпрыемства (ААБ "Беларусбанк" – акцыянерны ашчадны банк "Беларусбанк").

**Заданне 7.**

**Схема 1.** [*Здавалася*], (*нібы…*).

Сказ: ***Здавалася**, **нібы** дрэвы спяваюць сваю адвечную песню.*

Тып: *складаназалежны сказ з даданай дзейнікавай.*

**Схема 2.** […], (*дарма што…*).

Сказ: *Дрэва выглядала яшчэ моцным, **дарма што** вецер прыціснуў яго да зямлі.*

Тып: *складаназалежны сказ з даданай уступальнай.*

**Схема 3.** […], (*ажно…*).

Сказ: *Пабялела ўсё навокал, **ажно** люба паглядзець.*

Тып: *складаназалежны сказ з даданай выніковай.*

**Схема 4.** [*…усё*], (*што…*).

Сказ: *Гэта **ўсё**, **што** я хацеў сказаць.*

Тып: *складаназалежны сказ з даданай выказнікавай.*

**Схема 5.** […], (*ці…*).

Сказ: *Часам думаю, **ці** надоўга прыйшла зіма.*

Тып: *складаназалежны сказ з даданай дапаўняльнай.*

**Заданне 8.**

Табліца 2.

Каментарый: Не могуць быць прыняты за правільныя адказы *сацыяльна-побытавая драма, аўтабіяграфічная драма, гістарычная драма*.

**Заданне 9.**

*Развязка* (элемент сюжэтна-кампазіцыйнай будовы твора), *ямб* (вершаваны метр).

Каментарый: Астатнія тэрміны ў групах абазначаюць або мастацкія сістэмы, або жанры твораў.

**Заданне 10.**

Спаткаўся, ціхім, затаіўшы, іншы, пагляды. "Раманс". Максім Багдановіч.

*Працяг будзе.*

Падрыхтавалі
**Усевалад РАГОЙША,**
**Аляксандр РАДЗЕВІЧ,**
**Ірына САВІЦКАЯ.**

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2011 год

МАЙ

*Заканчэнне. Пачатак на с. 14, 62.*

**24 мая** – 165 гадоў з дня нараджэння Антона Будзіловіча (1846 – 1908), беларускага і рускага філолага, гісторыка, педагога, публіцыста

**26 мая** – 100 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Шапса (1911 – 1965), рускага рэжысёра, заслужанага артыста Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтваў Расіі

85 гадоў з дня стварэння "Узвышша", літаратурна-мастацкага аб'яднання беларускіх пісьменнікаў. Існавала да снежня 1931 г.

75 гадоў з дня нараджэння Віктара Варламава (1936 – 1996), жывапісца

**27 мая** – 140 гадоў з дня нараджэння Ісака Сербава (1871 – 1943), этнографа, фальклрыста, археолага

80 гадоў з дня нараджэння Васіля Жураўлёва, крытыка і літаратуразнаўцы

**28 мая** – 175 гадоў з дня нараджэння Яна Карловіча (1836 – 1903), этнографа, мовазнаўцы, фальклрыста, музыказнаўцы

**30 мая** – 115 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Саннікава (1896 – 1965), рэжысёра, акцёра і педагога, народнага артыста Беларусі

105 гадоў з дня заснавання першага беларускага легальнага выдавецтва "Загляне сонца і ў наша аконца" ў Пецярбургу. Існавала да 1914 г.

80 гадоў з дня нараджэння Ірыны Глазавай (1931 – 1987), жывапісца

* * *

100 гадоў з дня нараджэння Ігната Канчэўскага (1896 – 1923), філосафа, паэта, публіцыста

*Паводле картатэкі БДАМЛМ.*

*Настаўнік прапануе*

# ЖЫЦЦЁ І ТВОРЧАСЦЬ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

## УРОК БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ (IX КЛАС)

**Мэты ўрока:** даць звесткі з біяграфіі Максіма Багдановіча; раскрыць творчую гісторыю выдання зборніка "Вянок"; фарміраваць уменне тэзіснага канспектавання лекцыйнага матэрыялу; развіваць лагічнае мысленне; стварыць умовы для выхавання павагі да роднага слова, беларускай літаратуры.

**Тып урока:** вывучэнне новага матэрыялу.

**Форма правядзення ўрока:** урок-лекцыя з элементамі гутаркі.

**Абсталяванне:** партрэт М. Багдановіча; зборнік "Вянок" М. Багдановіча (факсімільнае выданне); выстава кніг, прысвечаная Максіму Багдановічу; запісы песень "Айчына-Радзіма", "Літаценне адзіноце" ў выкананні В. Цярэшчанкі, "Паланэз Агінскага" – ВІА "Песняры", "Слуцкія ткачыхі" – В. Дайнекі, "Зорка Венера" – Данчыка.

### ХОД УРОКА

**I. Арганізацыйны момант.**

**II. Вывучэнне новага матэрыялу.**

**• Уступнае слова настаўніка.**

**• Праца над новым матэрыялам.**

*Вучні складаюць тэзісы.*

**Жыццёвы і творчы шлях М. Багдановіча.**

**9 снежня 1891 г.** у Мінску на вуліцы Аляксандраўскай пачаўся зямны шлях паэта. "Бацька Максіма – Адам Ягоравіч нарадзіўся ў Халопенічах у год вызвалення ад прыгону… У 1882 г. Адам Ягоравіч скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, пасля настаўнічаў у Мінску, працаваў у Сялянскім банку ў Гродне, Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі… Адам Ягоравіч на працягу ўсяго жыцця вёў навуковую работу, стаў вядомым этнографам.

Маці, Марыя Апанасаўна, нарадзілася ў 1869 г. Яна спрабавала пісаць апавяданні. Замуж за Адама Ягоравіча яна выйшла ў 1888 г. У іх было чацвёра дзяцей…" – піша Ніна Ватацы.

У **чэрвені 1892 г.** сям'я пераязджае ў Гародню (Гродна). "Умовы для выхавання дзяцей былі спрыяльнымі: вакол сады, палі, недалёку лес, ды і Нёман побач", – адзначае Адам Багдановіч. Жылі не багата, але дружна і шчасліва. Ужо падрасталі тры хлапчукі: Вадзім, Максім і Лёва.

Марылі пра дзяўчынку. І неўзабаве з'явілася Ніна. Але тут сям'ю напаткала бяда. У кастрычніку 1896 г. памерла маці. Было ёй толькі 27. Следам за маці памерла і дзяўчынка. Усяго пяць гадоў споўнілася маленькаму Максіму, калі ён застаўся без самага блізкага чалавека. Смерць маці стала для будучага паэта душэўнай драмай, якая прайшла праз усё ягонае жыццё. А наперадзе чакала развітанне з Радзімай. "Сваю родную маці Максім любіў горача. У доме зберагліся ноты, па якіх яна іграла на фартэпіяна, і любімыя яе творы былі адначасна любімымі творамі Максіма. Вобраз той, хто даў яму жыццё, вечна жыў у Максімавым сэрцы, як вобраз радзімы. Ён і зачароўваў, і клікаў да сябе…" – піша Алесь Бачыла.

*Гучыць "Развітанне з Радзімай" у выкананні ансамбля"Песняры".*

У лістападзе 1896-га Багдановічы назаўсёды пакідаюць Беларусь. Бацька з дзецьмі і сваёй малодшай сястрой пераехалі ў Ніжні Ноўгарад. Тут Адам Ягоравіч пасябраваў з сям'ёй Максіма Горкага, пасля ажаніўся з сястрою жонкі пісьменніка Аляксандрай Волжынай.

У **1902 г.** Максім паступіў у Ніжагародскую мужчынскую гімназію. Там ён пасябраваў з выкладчыкам гісторыі А. К. Кабанавым.

Беларускую мову Максім вывучаў па слоўніку.

**6 ліпеня 1907 г.** упершыню ў друку ("Наша Ніва", № 24) з'яўляецца алегарычнае апавяданне "Музыка" М. Багдановіча.

**1908 г.** Сям'я пераязджае ў Яраслаўль. Максім пераводзіцца ў 6-ы клас Яраслаўскай гімназіі. Здольнага юнака адразу заўважылі. Ён займаўся ў літаратурным гуртку. «На занятках гуртка Максім прачытаў многа рэфератаў: "Новыя павевы ў рускай літаратуры", "Сучасная літаратура і народны рух", "Сімвалізм і дэкадэнцтва"…

На адных занятках гуртка Максім зрабіў даклад пра беларускую паэзію. Ён пазнаёміў нас з развіццём беларускай літаратуры, з творамі Янкі Купалы, Змітрака Бядулі, Якуба Коласа і іншых. Максім упершыню прачытаў нам свае вершы на беларускай мове», – успамінае Ціхан Годнеў.

Моцным ударам для Максіма стала смерць старэйшага брата, які памёр вясной 1909 г. ад сухотаў. Максім страціў брата-сябра. Пасля смерці Вадзіма і ў Максіма стаў актыўна развівацца туберкулёзны працэс.

У **1908 г.** у кнізе ўкраінскага вучонага Іларыёна Свянціцкага "Адраджэнне беларускага пісьменства" ўпершыню ў крытыцы сустракаецца імя Максіма Багдановіча, цытуецца ўрывак з яго апавядання "Музыка". «…Максіма Багдановіча ведалі не толькі чытачы "Нашай Нівы" і яраслаўскіх выданняў. Пра яго, як пра маладога майстра, пісалі ўжо Сяргей Палуян, Іларыён Свянціцкі, Аляксандр Пагодзін, чэшскі літара-

турны крытык Адольф Чэрны», – удакладняе Генадзь Каханоўскі.

**На пачатку вясны 1909 г.** Максім Багдановіч захварэў на сухоты.

**1911 год.** Бацька раіў паехаць у Крым, але Максіма цягнула на Беларусь.

10 чэрвеня 1911 г. у чэшскім часопісе "Slovanský Přehled" надрукаваны артыкул "Нацыянальныя і літаратурныя імкненні беларусаў у 1909 – 1910 гг." Адальфа Чэрнага, у якім аўтар зазначае: "Максім Багдановіч – чалавек новай культуры, сюжэты яго нешматлікіх невялікіх вершаў агульначалавечыя. Адрознівае паэзію незвычайнае пачуццё народнага духу, што адпавядае аб'ектыўным пачуццям сучаснага чалавека, выхаванага сусветнай літаратурай".

У рэдакцыі "Нашай Нівы" Максіма сустрэлі гасцінна. Тут ён пазнаёміўся з братамі Іванам і Антонам Луцкевічамі, Вацлавам Ластоўскім, Браніславам Эпімахам-Шыпілам. "Пры першай сустрэчы з ім мяне ўразілі яго вочы з даволі праніклівым поглядам, але калі ён гаворачы захапляўся, вочы яго глядзелі не на зне, а ўнутр, быццам былі звернуты ў мозг. М. Багдановіч прыехаў у Вільню ўжо як актыўны і свядомы працаўнік беларускага адраджэння", – успамінае Вацлаў Ластоўскі.

Максім наведаў музей Луцкевічаў. Сярод экспанатаў яго вельмі ўразілі слуцкія паясы. Уражанне было настолькі вялікім, што нарадзіўся верш, пра які крытык Рыгор Бярозкін напісаў: «Калі б нават Багдановіч быў аўтарам толькі "Слуцкіх ткачых", яго імя засталося б сярод лепшых імён беларускай паэзіі».

*Гучыць песня "Слуцкія ткачыхі" ў выкананні Валерыя Дайнекі.*

Браты Луцкевічы запрасілі Максіма ў госці ў Ракуцёўшчыну, што недалёка ад Маладзечна. «У Ракуцёўшчыне паэт напісаў невялікія паэмы. Першая – "У вёсцы" – абразок убачанага вясковага жыцця, з апісаннем самой Ракуцёўшчыны… Другая паэма – "Вераніка", падставай для яе з'яўлення было каханне Максіма да Ганны Какуевай, сястры ягонага аднакласніка па Яраслаўскай гімназіі Рафаіла Какуева. Паэт аб'яднаў гэтыя паэмы ў цыкл "Мадонны" і прысвяціў яго Ганне. Каханне да Ганны, з думкаю пра якую ён зноў прыехаў у Яраслаўль, засталося бездакорным. Сумуючы па ёй, ён стварае поўны пяшчоты раманс "Зорка Венера"», – піша Алесь Бяляцкі.

*Гучыць песня "Зорка Венера" ў выкананні Данчыка.*

**1911 год.** Максім марыў вучыцца на філалагічным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта. Ён меў запрашэнне акадэміка Шахматава. «Да 1910 года аўтарытэт Багдановіча як знаўцы Беларусі, яе гісторыі, культуры, мастацтва і этнаграфіі ўжо настолькі ўсталяваўся, што ў адказ на просьбу прафесара А. А. Шахматава параіць яму чалавека для спецыяльных заняткаў беларусазнаўствам у Пецярбургскім універсітэце рэдакцыя "Нашай Нівы" без ваганняў назвала свайго маладога карэспандэнта з Яраслаўля.

Аднак у Пецярбург Максім не паехаў, а, як на тым настойваў бацька, паступіў у Яраслаўскі юрыдычны ліцэй», – піша Рыгор Бярозкін.

Максім самастойна вывучаў украінскую мову. Пазнаёміўся з паэзіяй чэхаў, харватаў, сербаў, балгар. Італьянскую мову вывучаў па падручніку, каб чытаць у арыгінале Дантэ. Грэчаскіх паэтаў чытаў у перакладах, з нямецкіх любіў Шылера, часта паўтараючы яго афарызм: *"Над формай працуй упарта, каб словам было цесна, а думкам прасторна"*. Французскую паэзію ён ведаў лепш, чым якуюнебудзь іншую замежную; многа чытаў Верлена ў арыгінале і перакладаў яго на беларускую мову.

З першай публікацыі ў "Нашай Ніве" Максім Багдановіч нястомна шчыраваў на ніве беларускай паэзіі. Але нялёгка прабіваўся ён на старонкі беларускага друку, нялёгкім быў шлях і да першага зборніка.

**• Паведамленне вучня «Зборнік "Вянок": гісторыя выдання».**

*Вучні складаюць тэзісы.*

Працу над кніжкай сваіх вершаў Максім Багдановіч пачынае адразу пасля вяртання з Беларусі ў Яраслаўль. Паэт акрэслівае план выдання, якое *"мелася складацца з 2-х частак, кожная з якіх уключала некалькі цыклаў"*. Летам 1912 г. рукапіс быў ужо ў Вільні. На вокладцы стаяла назва "Кніжка выбраных вершаў". Максім Багдановіч надзвычай патрабавальна ставіўся да акрэсленай ім структуры выдання і мастацкай якасці твораў. Ён быў сам для сябе надзвычай суровым крытыкам: *"Выкідвайце* [вершаў] *болі, тады зборнік выйдзе лепей"*.

Выдаць кнігу вершаў хутка не атрымалася з-за фінансавых праблем. У лісце ад пачатку 1913 г.: *"Што да выдання кніжкі, дык бачу, што яно спыняецца галоўным чынам праз недахоп грошай. Сам я не зарабляю, у бацькі прасіць, дык ён многа даць не можа, бо жыве ад 20-га да 20-га, да таго ж вінен шмат каму… я паспрабую заняць пад кніжку ў розных сваіх знаёмых грошы. Значыцца, прадасца колькі сот экзэмпляраў яе, вы мне надашлеце тыя грошы. Другое, Вы мне не шліце аўтарскіх экзэмпляраў, я іх куплю і куплю шмат. Калі Вам займы здадуцца прыдатнымі, дык напішыце мне"*.

Нечакана грошы на выданне зборніка Максіма Багдановіча знайшліся, але кніга ўбачыла свет не такой, як хацеў аўтар. Вацлаў Ластоўскі даў ёй назву "Вянок", хоць ніжэй і змясціў – "Кніжка выбраных вершаў".

*Дэманстрацыя факсімільнага выдання зборніка "Вянок" М. Багдановіча.*

Як бачым, прозвішча аўтара і назву кнігі абрамляе вянок. На тытульнай старонцы і змешча-

на гэтае ўдакладненне, якое мелася стаць назвай кнігі, і малюнак лебедзя, які быў не выпадковым, бо княгіня Магдалена Радзівіл падтрымлівала рэдакцыю "Нашай Нівы" грашовымі сродкамі… Унізе старонкі змешчана інфармацыя: "Вільня, друкарня Марціна Кухты, 1913".

Калі перагарнуць яшчэ адну старонку кнігі, то прачытаем наступнае: "Вянок на магілу С. А. Палуяна (✞ 8 красавіка 1910 г.)". Прысвячэнне таксама належыць Вацлаву Ластоўскаму.

Па словах Вацлава Ластоўскага, «рысунак на акладку даў я са свайго сабрання… Рысунак напамінае крыху вянок, дзеля гэтага я і паставіў, карыстаючыся правамі выдаўца, надпісаць на кніжцы да аўтарскага яшчэ і свой загаловак "Вянок" і прысвячэнне С. Палуяну. Зрабіў я гэта без ведама аўтара, асноўваючыся на яго сардэчныя адносіны да нябожчыка Палуяна».

Максім Багдановіч назвай зборніка і прысвячэннем быў задаволены. Паэт даражыў адзінай сваёй кнігай, сваім "Вянком". Пра гэта сведчаць і цытаваныя ці не апошнія радкі Максіма Багдановіча, якія ён паклаў на паперу, і ліст да Ванды Лявіцкай: *"Недахватаў розных – гібель: але ў ёй усё ж такі ёсць і творчасць, і натхненне, і сур'ёзная праца"*.

**1916 г.** Заканчвалася вучоба ў Яраслаўскім юрыдычным ліцэі. З ліста да Ванды Лявіцкай: *«Дадам да другой паловы вершаў з "Вянка" лепшыя вершы 1912 – 15 гадоў, і выйдзе зборнік "Маладзік" ці "Красавік". Выйдзе яшчэ адзін зборнічак "Пярсцёнак". А з вершаў апошняга часу трэці – "Шыпшына"»*.

Максім, здаўшы апошнія залікі, пачаў збірацца на Беларусь. Ён вырашыў канчаткова: там ён патрэбны.

У Мінску Багдановіч напіша свой перадсмяротны твор – паэму "Страцім-лебедзь". «З падрабязнага дзённіка дум і перажыванняў пяцімесячнага жыцця М. Багдановіча ў Мінску няма. Але ёсць яго вершы таго часу, у якіх, як у "Страцім-лебедзі", і боль паэта – уласны, асабісты (ці не сваю лебядзіную песню ён сам піша?), і трубны голас грамадзянскасці паэта – быць гатовым да самаахвярнага служэння справе», – прачытаем у Алега Лойкі.

Сімвалам ахвярнасці, сапраўдным Страцімам-лебедзем і стаў сам Творца.

У **1917 г.** Максіма Багдановіча сустракае ў Мінску пісьменніцкая сям'я "Беларускай хаткі". Усе чакалі вялікіх змен…

На жаль, здароўе Максіма Багдановіча пагаршалася. Максім, разумеючы гэта, настойліва працуе: думкі і пачуцці прасіліся на паперу. Сябры сабралі грошы, адправілі Максіма на лячэнне ў Крым.

Май ужо быў у самым разгары, а яму рабілася ўсё горш і горш. Нягледзячы на цяжкі стан здароўя, не кідаў працы над складаннем беларускага буквара, ні на хвіліну не забываўся пра Беларусь. Гаспадыня думала, што ён піша лісты сваякам. Напісаў бацьку на паштоўцы алоўкам, што справы зусім дрэнныя: *"Вітаю, стары варабей. Маладому вараб'ю дрэнна. <…> З ложка ўжо не падымаюся – аслаб канчаткова"*. Адпраўляць не спяшаўся…

Максім Багдановіч браў у рукі "Вянок", перачытваў, правіў асобныя раздзелы. Апошнім, што напісаў паэт на вокладцы свайго паэтычнага зборніка, было:

*У краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты,*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты.*

*Гучыць песня "Літаценне адзіноты" ў выкананні Вольгі Цярэшчанкі.*

**25 мая 1917 г.** ноччу памёр Максім Багдановіч.

Пахавалі паэта ў Ялце на могілках, што знаходзіліся ў гарах, над горадам.

У **1924 г.** беларускія паэты Уладзімір Дубоўка, Анатоль Вольны, Андрэй Александровіч адшукалі магілу паэта, і пазней на ёй быў устаноўлены помнік з надпісам: "Беларускі пісьменнік-поэта Максім Багдановіч. Нарадзіўся 27 лістапада 1891 года ў Менску. Памёр 12 мая ў Ялце". А вышэй:

*Хоць зерняткі засохшымі былі,*
*Усё ж такі жыццёвая іх сіла*
*Збудзілася і буйна ўскаласіла*
*Парой вясенняй збожжа на раллі.*

*Гучыць песня "Айчына-Радзіма" ў выкананні Вольгі Цярэшчанкі.*

• **Заключнае слова настаўніка.**

Рыгор Барадулін пісаў: "Максім Багдановіч ратаваў нацыю, ратаваў мову на краі адчаю. Аднаго жыцця мала, каб дарасці да разумення Максіма Багдановіча, да разумення ягонай унікальнасці, велічы, глыбіннай прастаты. Богам дадзены, каб мы па-багдановічаўску любілі сваю святую зямлю, імя якой Беларусь…"

**III. Замацаванне.**

*Агучванне тэзісаў канспекта.*

**IV. Дамашняе заданне (на выбар).**

Падрыхтаваць выказванне на тэму "Беларусь: яе лёс і гісторыя ў творчым асэнсаванні М. Багдановіча".

Прааналізаваць вершы М. Багдановіча грамадзянскай тэматыкі.

**V. Падвядзенне вынікаў. Рэфлексія.**

Працягніце думку (на выбар):
Я зразумеў, што Максім Багдановіч…
Я думаю, што Максім Багдановіч…
Для Беларусі Максім Багдановіч – гэта…

**Яўген ЕСІС,**
выкладчык беларускай мовы і літаратуры
Прудкоўскай сярэдняй агульнаадукацыйнай
школы Мазырскага раёна,
магістр філалагічных навук.

*ВНУ – школе*

# РАМАН “ЧУЖАЯ БАЦЬКАЎШЧЫНА” ВЯЧАСЛАВА АДАМЧЫКА

Вячаслаў Адамчык (1933 – 2001) пачынаў творчы шлях у канцы 50 – пачатку 60-х гг. Гэты перыяд у гісторыі беларускай літаратуры характарызуецца інтэнсіўным развіццём, узбагачэннем у ідэйна-тэматычных і жанрава-стылёвых адносінах. Пісьменнікі адыходзілі ад стэрэатыпаў, праяўлялі цікавасць да ўнутранага свету асобы, падаючы яго ў развіцці, у складаных узаемасувязях з жыццём. Менавіта ў адзначаны час у слоўнае мастацтва ўваходзіць пакаленне пісьменнікаў, названае пазней “філалагічным”, “шасцідзясятнікамі”. Яркім прадстаўніком гэтага пакалення з’яўляецца В. Адамчык – аўтар некалькіх зборнікаў апавяданняў, драматургічных твораў. Вядомасць пісьменніку прынесла тэтралогія [“Чужая бацькаўшчына” (1977), “Год нулявы” (1983), “І скажа той, хто народзіцца” (1987), “Голас крыві брата твайго” (1990)].

**Праблематыка, ідэйны пафас, наватарства пісьменніка ў адлюстраванні заходнебеларускай рэчаіснасці напярэдадні Другой сусветнай вайны.** У рамане “Чужая бацькаўшчына” В. Адамчык стварае панараму жыцця заходнебеларускай вёскі ва ўмовах даваеннай польскай дзяржавы (1938 – 1939 гг.). Пісьменнік паказвае бяспраўнае становішча беларусаў на іх крэўнай зямлі, даследуе свядомасць народа, у якога забралі Бацькаўшчыну. У глухой вёсцы Верасава, дзе разгортваюцца падзеі, нацыянальная самасвядомасць амаль адсутнічала. Пра прыналежнасць да беларускага народа, які мае сваю тэрыторыю, багатую гісторыю, самабытную культуру, многія героі нават не здагадваюцца. Нацыянальнае падменьваецца ў іх быцці веравызнаннем: католікі называюць сябе “палякамі”, праваслаўныя – “рускімі”. Верасаўцы жывуць па прынцыпе “жыць як набяжыць”, занятыя думкамі пра ўласны надзел зямлі, пра ўраджай, пра хлеб надзённы.

Працягваючы традыцыі класікаў нацыянальнага слоўнага мастацтва – Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, Івана Мележа, – Вячаслаў Адамчык звярнуўся да адлюстравання жыцця беларускай вёскі, побыту і звычаяў беларускага народа, каб паказаць супярэчлівы і драматычны лёс герояў на пераломе, на пачатку новага этапу іх жыцця. Аўтар рамана раскрывае ўнутранае хараство і моц народнага характару, у той жа час не пакідае па-за ўвагай негатыўныя, адмоўныя тэндэнцыі, якія сфарміраваліся ва ўмовах нацыянальнага і сацыяльнага ўціску. Перад чытачом паўстае непрыхаваная праўда і ў бесчалавечным учынку Алесі Мондрай, якая падманным спосабам набыла зямлю сваячак, а потым атруціла іх; і ў імкненні Уласа Корсака (як і большай часткі беларускага народа) адмежавацца ад грамадскіх праблем. В. Адамчык адлюстроўвае непасрэдную залежнасць маральнага стану асобнага чалавека, усяго грамадства ад сацыяльных фактараў жыцця, ад наяўнасці ў жыцці людзей агульназначнай мэты. Чалавек, у якога яна адсутнічае, – даводзіць да чытача празаік – духоўна збядняецца, паглынаецца побытам.

**Калектыўны партрэт народа.** У цэнтры ўвагі мастака слова – паказ народнага жыцця, народнага характару, а беларуская вёска – непадзельны мікрасвет са сваімі спрадвечнымі традыцыямі, звычкамі. У рамане “Чужая бацькаўшчына” В. Адамчык стварыў шэраг яркіх, запамінальных вобразаў: Улас Корсак, Алеся, Міця, Хрысця, Імполь, Ваўчок, Мондрыя, Вайтовічы, Рэдзькі і іншыя. Пісьменнік здолеў адкрыць у кожным героію непаўторны свет. Усе ўчынкі герояў выпісаны псіхалагічна праўдзіва і па-мастацку пераканаўча. Ім, як і ўсім звычайным людзям, уласцівы і страх за сябе, і памылкі. Пісьменнік дакладна перадае атмасферу жыцця даваеннай вёскі, па-майстэрску малюе жывую, цэласную карціну, на фоне якой паўстаюць героі ўсе разам і ў той жа час – кожны паасобку. Высокая маральнасць, душэўная шчодрасць і дабрата такіх сялян, як цётка Сцяпаня, Улас Корсак, старая Літаварыха, Рэпчыха, сведчаць пра невычэрпныя духоўныя сілы народа.

Аб’ектам увагі В. Адамчыка з’яўляецца лёс сям’і Корсакаў. Гэта тыповая, але ў той жа час і адметная сялянская сям’я. Жыццё сям’і Корсакаў паказана падрабязна, усебакова. Яно ілюструе жыццё вёскі Верасава, а жыццё вёскі – жыццё ўсяго заходнебеларускага народа. Асноўны спосаб падачы матэрыялу ў рамане – спалучэнне асабістага жыцця чалавека з гісторыяй яго народа. Праз паказ лёсу гэтай сям’і раскрываецца ход гісторыі, важныя грамадскія працэсы, сацыяльныя катаклізмы. Дэтальнае апісанне побыту часам пераходзіць у глыбокую псіхалагічную драматызацыю, якая выяўляе супярэчлівы стан грамадства і асабістага чалавечага жыцця. Такім чынам, праблема чужой бацькаўшчыны вырашаецца ў разрэзе лёсу адной сям’і – адной вёскі – усяго народа.

**Вобразы герояў. Народныя тыпы.** Моцны народны маральны грунт выявіўся ў вобразе Уласа Корсака. Стары Корсак валодае тымі вызначальнымі рысамі характару, якія спрадвеку былі ўласцівы беларускаму селяніну: гаспадарлівы падыход

да любой справы, прыродная кемлівасць, грунтоўнасць поглядаў, паважнае стаўленне і ўмельства ў працы, дабрата, шчырасць, жыццястойкасць. Аснова, сэнс жыцця, галоўнае багацце і галоўны клопат чалавека, як лічыць Улас, – зямля. Улас Корсак жыве па законах продкаў, ён чалавек веруючы і лічыць, што жыццё трэба пражыць як Бог дасць. Корсак жыве ціха, усё яго задавальняе, ён нічога не імкнецца змяніць у жыцці. Сусвет для старога – гэта яго гаспадарка, зямля, сям'я. Хоць і жыў Улас аднаасобнікам, мала цікавіўся тым, што адбываецца ў свеце, аднак кіраваўся ён у жыцці народнай мудрасцю, народнай логікай.

**Трагедыя Алесі Мондрай.** Алеся Мондрая (дачка Уласа Корсака) – натура складаная, валявая. Даследчыкі творчасці В. Адамчыка называюць гэты вобраз адным з самых яркіх жаночых вобразаў у нацыянальнай літаратуры: ён вызначаецца ўнутранай драматычнай напружанасцю, складанасцю псіхалагічнай распрацоўкі. Алеся – сумленная, старанная працаўніца. Рана застаўшыся без маці, яна клапоціцца пра бацьку, па-мацярынску пяшчотна і ласкава ставіцца да брата. Паўната перажыванняў, уменне аддаваць сябе родным і блізкім без астатку – вызначальная асаблівасць характару гераіні. Аднак жанчына заходзіць у жыццёвы тупік, калі выбірае злачынны шлях да шчасця: завалодвае спадчынай родзічаў памерлага мужа, перапісаўшы іх зямлю на сябе, а потым, каб ніхто не перашкаджаў яе каханню з маладым наймітам Імполем, атручвае свякроў і залвіцу. Але чужая бацькаўшчына не прынесла Алесі шчасця: яна стала душэўна скалечаным чалавекам, да таго ж знікла ўзаемаразуменне з Імполем.

**Вобраз нацыянальнага інтэлігента Міці Корсака ў вырашэнні праблемы "беларускага шляху".** У адрозненне ад аднавяскоўцаў Міця Корсак імкнецца мысліць маштабамі не толькі верасаўскімі, але і ўсяго заходнебеларускага народа. Юнак адчувае сябе Асобаю, знаходзіцца на высокай ступені самасвядомасці, гістарычнай і нацыянальнай. У Міцевай душы жыве пачуццё еднасці з народам, адчуванне асабістай адказнасці за яго лёс, моцнае і шчырае жаданне служыць Бацькаўшчыне і жыць дзеля яе. Хлопца вядзе па жыцці беларуская ідэя, ён хінецца да свайго, нацыянальнага, піша вершы на роднай мове. За адкрытае праяўленне нацыянальнай свядомасці прадстаўнікі польскай улады збіваюць яго да крыві ў пастарунку. Але і там Міця захаваў чалавечы гонар і вернасць прынцыпам свабоды.

Ісці па такому шляху Міцю было нялёгка: з боку блізкіх людзей ён не знаходзіў падтрымкі. У дадзенай сітуацыі юнак сутыкнуўся з моцнай і жывучай народнай традыцыяй. Стагоддзі ўціску адбіліся на псіхалогіі беларусаў. В. Адамчыка цікавіць уплыў сацыяльна-грамадскіх, жыццёвых абставін на сям'ю, на людзей, на іх характары. За знешняй абыякавасцю Уласа Корсака да навакольнага свету, нежаданнем умешвацца ў штодзённы ход падзей прасочваецца вопыт пакаленняў. Міця – натура актыўная, рашуча выступае супраць пасіўнага чакання і не пагаджаецца з заведзеным укладам жыцця. Дык наколькі свядомы беларус Міця Корсак у параўнанні з бацькам, сястрой? Праз вобразы апошніх В. Адамчык паказаў асноўную нацыянальную адметнасць большай часткі беларусаў – паважлівае стаўленне чалавека да карміцелькі-зямлі. Валоданне зямлёй азначала для селяніна і шчасце, і радасць, і волю, і незалежнае жыццё. Што да Міці, то яму ўжо недастаткова было жыць ва ўмовах, вызначаных паходжаннем. Ён марыў пра іншую будучыню, чым тая, якую яму абяцала родная вёска. Міця – чалавек, ужо адарваны ад зямлі, народжаны на свет не толькі для працы на ёй, а для таго, каб стаць прарокам, лідарам нацыі.

**Адметнасць мастацкай канцэпцыі беларускай гісторыі.** Гістарычны кантэкст у "Чужой бацькаўшчыне" нярэдка падаецца скупымі намёкамі, пры дапамозе ёмістай мастацкай дэталі. Ледзь прыкметныя імпульсы новага ў паводзінах герояў аўтар выяўляе праз вобразны змест. У рамане выразна ствараецца атмасфера павольнага руху жыцця, якая часам успрымаецца героямі як амаль невыносная. Пры ўсёй змрочнасці ў паказе даваеннай рэчаіснасці прысутнічаюць аптымістычныя ноткі. Як бы драматычна і трагічна ні складвалася жыццё, яно не стаіць на месцы, у ім абавязкова адбудуцца перамены, бо ў народзе "жывуць" здаровыя маральна-этычныя каштоўнасці, спадзяванне на лепшы лёс.

**Сімволіка назвы рамана, яе палемічная накіраванасць.** У назве рамана заключаны глыбокі сацыяльна-філасофскі змест, аўтарскае разуменне супярэчлівых узаемаадносін асобы і Бацькаўшчыны. Цэнтральная тэма рамана – Бацькаўшчына – раскрываецца пісьменнікам праз глыбокае асэнсаванне драматызму і складанасці жыцця заходнебеларускіх сялян на крутым гістарычным пераломе. Героі рамана хочуць так мала – дабра, шчасця, справядлівасці. Але ці магчыма гэта на "чужой бацькаўшчыне"? Радзіма становіцца чужой для ўсіх герояў: для Міці Корсака, які пакутуе за тое, што "шукае Беларусь", для Алесі і Імполя, бо зямля Мондрых не прыносіць ім шчасця.

У рамане "Чужая бацькаўшчына" выявіліся многія рысы майстэрства Вячаслава Адамчыка.

**Майстэрства ў стварэнні пейзажаў.** Для пісьменніка паняцці Радзіма, Зямля, Бацькаўшчына – непадзельныя, таму сваіх персанажаў аўтар бачыць у адзінстве з прыродай. Малюнкі вясковай прыроды – асаблівая ўдача мастака слова. Ён шырока карыстаецца сродкамі пластыкі пры стварэн-

ні падрабязных пейзажных (і побытавых) замалёвак, дзе колеры, пахі, рухі – цэласнае, гарманічнае адзінства. Прырода ў рамане паўстае як неад'емная частка матэрыяльнага і духоўнага дабрабыту працаўніка-беларуса, у няспынным руху – падзеі ў творы пачынаюць разгортвацца позняй восенню, а заканчваюцца летам.

Па-майстэрску выпісаныя пейзажы садзейнічаюць глыбокаму псіхалагічнаму аналізу ўнутранага стану персанажаў, дапамагаюць раскрыць дынаміку іх душэўных перажыванняў. Так, Міця тонка адчувае прыгажосць родных краявідаў, якія наводзяць хлопца на няспынныя разважанні, духоўныя пошукі, роздум над складанымі пытаннямі філасофскага характару – мэта жыцця і прызначэнне чалавека.

У "Чужой бацькаўшчыне" В. Адамчык выкарыстоўвае прыём паралелізму паміж станам прыроды і станам чалавека. Пейзажы прадвызначаюць агульную танальнасць твора, яго інтанацыйна-экспрэсіўны лад, той душэўны стан, які перажываюць героі рамана. Часта прырода намалявана сумнымі фарбамі, якія падкрэсліваюць змрочны час, драматызм жыцця заходнебеларускіх сялян, самотны настрой герояў. Эмацыянальную атмасферу твора вызначаюць смутак, схільнасць да шчымліва-журботных настрояў і краявіды дажджлівай восені.

Такім чынам, пейзаж у рамане з'яўляецца адным з галоўных кампанентаў і выконвае адразу некалькі функцый: па-першае, служыць фонам дзеяння, па-другое, праз яго ўспрыманне раскрываюцца ідэйна-эстэтычныя пазіцыі персанажаў твора, аўтара, нарэшце, гэта дзейсны сродак псіхалагізацыі вобразаў.

У стварэнні і раскрыцці вобразаў Алесі Мондрай, Уласа Корсака, Міці, Хрысці, Імполя і некаторых іншых герояў В. Адамчык выявіў сябе як выдатны знаўца чалавечай душы, сапраўдны *майстар псіхалагічнага аналізу*. Трагічная сцэна атручвання Алесяй сваячак у рамане глыбока псіхалагічная. Аўтар паказвае шырокі спектр перажыванняў жанчыны. Драматызмам, напружанасцю ўражвае і заключная сцэна твора. Адамчык-псіхолаг дакладна перадае перажыванні Алесі, яе засяроджанасць на сваім горы, пакутах, яе раскіданыя, неарганізаваныя думкі. Даведаўшыся пра здраду Імполя, поўная адчаю, роспачы, крыўды, гераіня рамана бяжыць на чыгуначную станцыю, каб кінуцца пад колы цягніка, і толькі дзіця, якое жыве пад сэрцам, уратоўвае ад самагубства.

Вялікую ролю ў рамане адыгрывае *мастацкая дэталь*. Стыль пісьма В. Адамчыка вызначаецца багаццем умела выпісаных побытавых і жыццёвых дэталей. З выключнай дакладнасцю, маляўнічасцю, пластычнасцю паказаны ў рамане вясковы побыт: штодзённае жыццё верасаўцаў, святы, вечарынкі, хрэсьбіны і г. д. Мастацкая дэталь часта выконвае двайную функцыю: з аднаго боку, характарызуе побытавую сферу, знешні свет, у якім жыве герой, з другога – з'яўляецца прыёмам псіхалагічнага адлюстравання.

**Асаблівасці аўтарскага маўлення і стылю.** Носьбітам сапраўднай народнай мовы ў рамане выступае Улас Корсак. Мова гэтага героя індывідуалізаваная. Яна багатая на прыказкі, прымаўкі, трапныя заўвагі, заўсёды выказаныя дарэчы: "Баба з воза – каню лягчэй"; "Воўк сабакі не баіцца, але звягі наравіцца"; "Аладку, не падмазаўшы, і то не спячэш". Натуральна-гутарковы лад аўтарскага аповеду, схільнасць празаіка да дэталізаваных малюнкаў, актыўнае ўжыванне лексікі родных мясцін – усё гэта перадае карціны адметнага жыцця, стварае натуральную, жывую стыхію народнага маўлення.

**Пытанні**

1. Да якога пакалення пісьменнікаў адносіцца Вячаслаў Адамчык? У якім рэгіёне Беларусі ён нарадзіўся?

2. Які перыяд гісторыі Беларусі адлюстраваны ў рамане? У чым яго адметнасць?

3. Ці можна назваць раман сацыяльна-бытавым; сацыяльна-філасофскім? Які пачатак у ім выходзіць на першы план – бытавы ці грамадска-сацыяльны?

4. У якіх сцэнах выяўляюцца найлепшыя рысы характару Уласа Корсака? Ахарактарызуйце падрабязна адну з іх.

5. Сфармулюйце мэту жыцця Алесі Мондрай. Якімі сродкамі яна старалася яе дасягнуць? Ці запомнілася вам знешнасць гераіні?

6. Просты ці складаны характар мае Імполь? Здрада – выпадковасць ці звяно ў лініі паводзінаў героя?

7. Міця Корсак і яго погляд на рэчаіснасць, жыццёвае крэда. Дайце сціслую характарыстыку герою.

8. Якія народныя тыпы запомніліся вам у рамане?

9. Растлумачце назву рамана. Хто з герояў твора асабліва востра адчувае сваю адчужанасць ад Бацькаўшчыны?

**Заданні**

1. Параўнайце ідэйны пафас раманаў "Чужая бацькаўшчына" Вячаслава Адамчыка і "Пошукі будучыні" Кузьмы Чорнага.

2. Выпішыце па 10 тропаў і трапных слоў (дыялектызмаў, нavатвораў) з рамана і патлумачце іх значэнне ў кантэксце.

3. Знайдзіце ў тэксце апісанні прыроды. Які колер у іх пераважае і чаму?

4. Ахарактарызуйце сюжэт рамана. Ці ёсць у творы такія яго складнікі, як экспазіцыя, эпілог? Якую сцэну (сцэны) можна лічыць кульмінацыйнай (кульмінацыйнымі)?

### Тэмы рэфератаў

1. Лірызм як адметнасць прозы Вячаслава Адамчыка (на прыкладзе апавяданняў).

2. Перачытваючы апавяданні Вячаслава Адамчыка.

3. Чалавек і зямля ў рамане "Чужая бацькаўшчына" Вячаслава Адамчыка.

4. Самабытнасць народных характараў у рамане "Чужая бацькаўшчына" Вячаслава Адамчыка.

### Тэставае заданне

**1.** Раман "Чужая бацькаўшчына" быў напісаны ў:
1) 1982 г.;
2) 1977 г.;
3) 1965 г.

**2.** Падзеі ў рамане адбываюцца ў наступны часавы прамежак:
1) 1925 – 1927;
2) 1941 – 1943;
3) 1938 – 1939.

**3.** Падзеі разгортваюцца ў:
1) Заходняй Беларусі;
2) Цэнтральнай частцы Беларусі;
3) Усходняй Беларусі.

**4.** Галоўнымі героямі рамана з'яўляюцца:
1) сям'я Мондрых;
2) сям'я Корсакаў;
3) сям'я Ваўчкоў.

**5.** Раман "Чужая бацькаўшчына" пачынаецца са сцэны:
1) у хату Мондрых прыходзяць наймацца на працу малацьбіты;
2) у хаце Корсакаў верасаўцы сабраліся на вечарыну;
3) Алеся ўспамінае дзіцячыя і дзявочыя гады.

**6.** Якое дзявочае прозвішча Алесі?
1) Рэпка;
2) Мондрая;
3) Корсак.

**7.** Чаму Алеся доўга не выходзіла замуж?
1) Марыла пра іншую будучыню, чым тая, што абацяла вёска;
2) ніхто не браў замуж;
3) бацька быў супраць выбару дачкі.

**8.** Хто такая Хрысця?
1) Сяброўка Алесі;
2) наймічка;
3) каханая Міці.

**9.** Чым займаўся Міця Корсак?
1) Маляваў карціны;
2) складаў музыку;
3) пісаў вершы.

**10.** Якую адукацыю атрымаў Міця?
1) Скончыў Верасаўскую сямігодку;
2) скончыў Дварчанскую сямігодку;
3) атрымаў хатнюю адукацыю.

**11.** У Дварчаны Міця ідзе з мэтаю:
1) працягнуць вучобу;
2) на допыт у паліцэйскі пастарунак;
3) набыць новыя кнігі;
4) наведаць родзічаў.

**12.** За што Міцю збіваюць у пастарунку?
1) За праяўленне нацыянальнай самасвядомасці;
2) за тое, што ўзначаліў выступленне сялян супраць польскай улады;
3) за тое, што абразіў паліцэйскага.

**13.** Як звалі жонку Уласа?
1) Марыя;
2) Караліна;
3) Сцепаніда.

**14.** Даведаўшыся пра здраду Імполя, Алеся:
1) выганяе Імполя з хаты;
2) спрабуе скончыць жыццё самагубствам;
3) высвятляе адносіны з разлучніцай.

**15.** Як ставіцца Улас да жыццёвай пазіцыі сына Міці?
1) Падтрымлівае сына;
2) займаецца з сынам адной справай;
3) катэгарычна выступае супраць.

**16.** Чаму Улас абраў для сябе пазіцыю аднаасобніка?
1) Галоўнае для яго – сям'я, гаспадарка, зямля;
2) жыве на далёкім хутары;
3) не карыстаецца павагаю аднавяскоўцаў.

**17.** Хто з герояў рамана часта выкарыстоўвае ў сваёй мове народныя прыказкі, прымаўкі?
1) Алеся;
2) Міця;
3) Хрысця;
4) Улас.

### Правільныя адказы

**1.** – 2; **2.** – 3; **3.** – 1; **4.** – 2; **5.** – 1; **6.** – 3; **7.** – 1; **8.** – 2; **9.** – 3; **10.** – 2; **11.** – 2; **12.** – 1; **13.** – 2; **14.** – 2; **15.** – 3; **16.** – 1; 17. – 4.

### Цікава ведаць

Вячаслаў Адамчык – не толькі выдатны беларускі празаік, але і перакладчык (мастацкія пераклады на беларускую мову твораў рускіх празаікаў, кнігі балгарскіх народных казак "Незвычайны асілак"), аўтар сцэнарыяў дакументальных фільмаў "Валянцін Таўлай", "Іван Мележ", "Дзядзька Якуб". Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1980; за раман "Чужая бацькаўшчына"), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1988; за раманы "Чужая бацькаўшчына", "Год нулявы", "І скажа той, хто народзіцца"). Паводле рамана "Чужая бацькаўшчына" быў зняты аднайменны мастацкі фільм (1982) і пастаўлены тэлеспектакль (1983).

**Наталля ДАМБРОЎСКАЯ,**
кандыдат філалагічных навук,
дацэнт кафедры замежных моў з методыкай выкладання
Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна.

Актуальная тэма

# КАМУНІКАТЫЎНАЯ КАМПЕТЭНЦЫЯ

## СУТНАСЦЬ ПАНЯЦЦЯ І ПРЫНЦЫПЫ АДБОРУ ЗМЕСТУ ЯЕ ФАРМІРАВАННЯ

У артыкуле раскрываецца паняцце *камунікатыўная кампетэнцыя*. Разглядаюцца кампаненты камунікатыўнай кампетэнцыі – моўны, маўленчы і ўласна камунікатыўны, іх зместавае напаўненне.

Вылучаныя складнікі дазваляюць выразна ўбачыць кірункі камунікатыўна-дзейнаснага навучання беларускай мове, сфармуляваць прынцыпы адбору зместу фарміравання камунікатыўнай кампетэнцыі.

**1. Сутнасць паняцця *камунікатыўная кампетэнцыя*.**

У працах лінгваметадыстаў адзначаецца, што камунікатыўная кампетэнцыя – гэта здольнасць забяспечваць моўнымі сродкамі маўленчыя паводзіны ў працэсе суразмоўніцтва, ствараць і ўспрымаць выказванне ў адпаведнасці з мэтай, сферай і сітуацыяй маўлення, наладжваць кантакт з суразмоўцамі і ўключацца ў маўленчую дзейнасць (А. Быстрова, Г. Валочка, Л. Мурына, В. Русецкі, М. Яленскі і інш.). Яе фарміраванне немагчыма без ведання сістэмы мовы: разумення значэнняў слоў і фразеалагізмаў, іх спалучальных магчымасцей, сферы ўжывання. Усведамленне адценняў лексічных і граматычных значэнняў будзе дапамагаць выбару з ліку моўных сродкаў, што ўтрымлівае маўленчая памяць, менавіта тых, што неабходны ў пэўнай сітуацыі. Таму пры навучанні неабходна развіваць закладзеныя камунікатыўныя здольнасці і будаваць сістэму мэтанакіраванага авалодання моўнай структурай. Гэта значыць, што авалоданне моўнымі сродкамі ў працэсе вывучэння беларускай мовы павінна адбывацца на функцыянальнай аснове.

Маўленчыя паводзіны патрабуюць валодання правіламі карыстання мовай, якія вызначаюцца наступнымі камунікатыўнымі фактарамі: сферай маўлення, тэмай, камунікатыўнай задачай, сітуацыяй, удзельнікамі. Вынікам маўленчай дзейнасці будзе выказванне і тэкст, вынікам маўленчых паводзін – адносіны паміж людзьмі і эмацыйны стан суразмоўцаў, што ў сваю чаргу аказвае ўплыў на працэс камунікацыі. Моўца павінен правільна, дарэчна, дакладна, лагічна і выразна перадаваць свае думкі з улікам маўленчай сітуацыі. Таму для якасных моўных зносін вучням неабходна авалодаць рознымі відамі маўленчай дзейнасці, камунікатыўнымі якасцямі маўлення і адпаведнымі ўменнямі “арганізоўваць суразмоўніцтва з улікам сацыяльных нормаў паводзін” [1, с. 4].

*Сутнасць паняцця “камунікатыўная кампетэнцыя” намі разглядаецца як сістэма моўных, маўленчых і ўласна камунікатыўных ведаў, уменняў і навыкаў, якая забяспечвае свабоднае маўленне.*

Такім чынам, камунікатыўная кампетэнцыя фарміруецца на аснове ведаў пра сістэму мовы, уменняў маўленчай дзейнасці, а таксама ўласна камунікатыўных уменняў і навыкаў, якія мы услед за А. Быстровай разумеем “як уменні і навыкі суразмоўніцтва з улікам таго, з кім мы гаворым, дзе гаворым і, нарэшце, з якой мэтай” [2, с. 38], што дазваляе ў структуру камунікатыўнай кампетэнцыі вучняў уключыць арганічна ўзаемазвязаныя і ўзаемаабумоўленыя кампаненты – моўны, маўленчы і ўласна камунікатыўны.

*Моўны кампанент* складаюць веды, уменні і навыкі на ўсіх узроўнях беларускай мовы, неабходныя для забеспячэння зместу камунікацыі: веды фанетычнай сістэмы беларускай мовы, арфаэпічныя, акцэнтуацыйныя, інтанацыйныя ўменні і навыкі; веды пра асаблівасці лексічнай і фразеалагічнай сістэм, валоданне лексічнымі і фразеалагічнымі адзінкамі беларускай мовы, уменне дакладнага і дарэчнага словаўжывання, разуменне сінанімічнасці і антанімічнасці адносін у лексіцы і фразеалогіі; веданне граматыкі беларускай мовы, уменні і навыкі “граматычнага маркіравання” моўных адзінак, правільнае графічнае і арфаграфічнае афармленне выказвання на марфалагічным узроўні. На іх аснове адбываецца адэкватны выбар, спалучэнне і правільнае ўжыванне ў маўленні лексічных адзінак і граматычных формаў і канструкцый, сэнсавае і граматычнае афармленне выказвання ў адпаведнасці з сітуацыяй камунікацыі.

*Маўленчы кампанент* – гэта маўленчыя веды (засваенне маўленчых паняццяў *сітуацыя маўлення, тэкст, стыль, жанр, тып маўлення*), уменні і навыкі ў рэцэптыўных (чытанне, аўдзіраванне) і прадуктыўных відах маўлення (гаварэнне, пісьмо); камунікатыўныя якасці маўлення. На гэтай аснове фарміруюцца базавыя камунікатыўныя веды, уменні і навыкі, неабходныя для якаснага аналізу гатовага тэксту, яго рэдагавання з улікам крытэрыяў камунікатыў-

най мэтазгоднасці (дасягненне мэты маўлення), ацэнкі тэксту з пазіцый камунікатыўных якасцей маўлення.

*Уласна камунікатыўны кампанент* складаюць камунікатыўныя ўменні і навыкі, якія вылучаюць камунікатыўную кампетэнцыю сярод іншых. На нашу думку, гэты кампанент патрабуе спецыяльнага разгляду і ўдакладнення.

Традыцыйна ў лінгваметодыцы дамінуе падыход да вызначэння камунікатыўных уменняў адносна асноўнай адзінкі маўлення – тэксту – і відаў работ прадуктыўнага характару ў працэсе навучання, якія выконваюць "сваю ролю ў фарміраванні пэўнага камунікатыўнага ўмення" [3, с. 47]. У адпаведнасці з гэтым адзін з напрамкаў у методыцы фарміравання камунікатыўных уменняў – "гэта розныя віды работы з тэкстам", што накіраваны на аналіз (план, кампазіцыя, загаловак) і прадуцыраванне тэксту (сачыненне, пераказ, творчы дыктант) [4, с. 100].

Пагаджаемся з думкай, што ўменні адрозніваць тэкст ад набору сказаў, раскрываць тэму і асноўную думку выказвання, збіраць і сістэматызаваць матэрыял, удасканальваць напісанае можна назваць *базавымі камунікатыўнымі ўменнямі*. На наш погляд, для фарміравання камунікатыўнай кампетэнцыі яны не могуць быць самадастатковымі, таму што ў маўленчай сітуацыі "мы *выходзім за межы мовы*… кіруемся такімі экстралінгвістычнымі матывамі, як *сэнс маўлення, задачы выказвання, умовы суразмоўніцтва*" [5, с. 37]. Гэта значыць, да базавых уменняў неабходна дадаць уменні і навыкі маўленчых паводзін, якія запатрабаваны сітуацыяй і ўмовамі маўлення.

Пры разглядзе камунікатыўных уменняў (Г. Валочка, В. Капінос, Л. Мурына) адносна працэсу стварэння тэкстаў у адпаведнасці са стылем, тыпам і жанрам маўлення ўлічваецца, што "ўсе камунікатыўныя ўменні вызначаюцца дакладнай мэтавай накіраванасцю" [6, с. 262]. Таму ў сучаснай лінгваметодыцы сістэма працы па развіцці вуснага і пісьмовага звязнага маўлення арыентавана "не на ўменні, бо яны аўтаномна не існуюць, а на тэксты ў іх жанрава-стылістычнай разнастайнасці" [7, с. 19]. Разам з тым адзначаюць, што ўменні і навыкі аналізу тэксту, веданне маўленчых паняццяў "яшчэ не забяспечваюць суразмоўніцтва, адэкватнага камунікатыўнай сітуацыі" [2, с. 38].

Не існуе маўлення дзеля маўлення. Камунікацыя заўсёды носіць сацыяльны характар. Кожнае выказванне абумоўлена мэтай і адрасатам, ствараецца ў камунікатыўным кантэксце, у якім удзельнікі маюць пэўны сацыяльны статус. Адбор лексічных і граматычных сродкаў дыктуецца мэтай і ўмовамі маўлення, залежыць ад інтэнцыі суразмоўцаў. Таму пры аналізе тэксту варта не толькі вучыць вызначаць і характарызаваць яго стыль, тып і жанр, але і аднаўляць умовы яго функцыянавання, звязаныя з арганізацыяй суразмоўніцтва "ў адпаведнасці з яго матывамі, мэтамі, задачамі, з аднаго боку, а з другога – у адпаведнасці з сацыяльнымі нормамі маўленчых паводзін" [8, с. 141].

Гэта значыць, што ў працэсе фарміравання камунікатыўнай кампетэнцыі трэба ўлічваць, што, *па-першае, для моўных зносін важна зразумець сітуацыю маўлення, правільна падабраць моўныя сродкі і аформіць выказванне згодна з камунікатыўным намерам і мэтай суразмоўніцтва; па-другое, каб моўныя зносіны былі эфектыўнымі, неабходна ведаць нормы культуры маўлення, валодаць пэўнымі правіламі, як таго патрабуе маўленчая сітуацыя.*

Уласна камунікатыўныя веды, уменні і навыкі, як вядома, вызначаюцца экстралінгвістычнымі фактарамі маўлення – сітуацыяй, сацыяльным статусам, узростам суразмоўцаў, што непасрэдна ўплывае на адэкватны выбар моўных адзінак, усведамленне правільнасці свайго маўлення і рэалізацыю камунікатыўнай задачы.

Уласна камунікатыўны кампанент камунікатыўнай кампетэнцыі ўтрымлівае *спецыяльныя веды, уменні і навыкі, якія вызначаюцца матывацыйна-мэтавым і сітуацыйным фактарамі (сферай, мэтай, адрасатам) суразмоўніцтва і абумоўлены сацыяльнымі нормамі паводзін*. Гэта значыць, уласна камунікатыўны кампанент складаюць:

1) формулы маўленчага этыкету, сацыяльна маркіраваных маўленчых адзінак і ўменне выкарыстоўваць іх згодна з мэтай маўлення;

2) правілы маўленчых паводзін і ўменні паводзіць сябе ў адпаведнасці з умовамі сітуацыі зносін;

3) спосабы выражэння думкі і ўменні прадуцыравання ўласнага выказвання ў адпаведнасці з мэтай, задачамі і ўмовамі зносін.

Маўленчыя паводзіны разумеем як "сістэму выказванняў, меркаванняў, доказаў, што могуць быць зафіксаваны як яўныя прыметы псіхічных станаў" [10, с. 193], паводле якіх будуюцца мадэлі ўзаемаадносін у працэсе камунікацыі. Яны "прыстасоўваюць" моўныя і маўленчыя веды і ўменні да сацыякультурных умоў, у якіх адбываецца суразмоўніцтва.

Такім чынам, да ведаў, уменняў і навыкаў моўнага і маўленчага кампанентаў камунікатыўнай кампетэнцыі арганічна далучаецца зместавае напаўненне ўласна камунікатыўнага кампанента – маўленчы этыкет, этыка маўленчых паводзін і спосабы адбору камунікатыўна значымых моўных сродкаў.

**2. Прынцыпы адбору зместу фарміравання камунікатыўнай кампетэнцыі.**

Камунікатыўная кампетэнцыя залежыць ад уменняў свабоднага аперыравання сродкамі мовы адпаведна задачам маўлення і ад функцыянальна-стылявога афармлення выказвання, свядомага валодання нормамі і правіламі маўленчых паводзін з улікам этычнага аспекту канкрэтнай сітуацыі суразмоўніцтва. Таму змест фарміравання камунікатыўнай кампетэнцыі вучняў павінен адбірацца на аснове прынцыпаў, якія рэалізуюць ідэі камунікатыўна-дзейнаснага падыходу да навучання беларускай мове.

*Прынцып функцыянальнасці моўнага матэрыялу* патрабуе ўключэння ў змест камунікатыўнай кампетэнцыі моўных фактаў і з'яў, якія вызначаюць аснову сістэмы беларускай мовы, у адзінстве іх значэння і функцыі. Маўленчая дзейнасць можа адбывацца толькі тады, калі чалавек валодае мовай як сістэмай. Мова з'яўляецца своеасаблівым кодам, які забяспечвае камунікатыўны працэс. Задума выказвання рэалізуецца дзякуючы моўным адзінкам розных узроўняў. Вывучэнне матэрыялу, які апісвае ўсе ўзроўні беларускай мовы, спрыяе фарміраванню цэласнага ўяўлення пра моўныя сродкі. Да таго ж ствараецца магчымасць засвойваць моўныя адзінкі "не ізалявана, а ў супрацьпастаўленнях, у сваіх парадыгматычных і сінтагматычных сувязях… і характарызаваць не толькі з пункту гледжання іх зместу, будовы, але і функцыі" [8, с. 87]. Пры гэтым, авалодваючы разнастайнымі адзінкамі мовы, вучні набываюць уменне выбіраць неабходныя варыянты, найбольш прымальныя для афармлення думкі і засвойваць правілы такога выбару, якія залежаць ад віду моўных зносін, камунікатыўнай задачы, тыпу і стылю выказвання.

Функцыянальнасць навучання павінна праяўляцца і на тэматычным, і на сітуацыйным узроўнях, бо маўленне заўсёды арыентавана на адрасата, залежыць ад сферы суразмоўніцтва і камунікатыўнай формы. Таму моўныя факты і з'явы неабходна суадносіць з сітуацыямі і тыпамі маўлення, на аснове ўпарадкаванага тэкставага матэрыялу дэманстраваць магчымыя варыянты афармлення думкі ў афіцыйнай / неафіцыйнай сітуацыі, з улікам узросту, сацыяльнага статусу, адносін з суразмоўцам.

Кіруючыся *прынцыпам рэлевантнасці моўных адзінак для працэсу маўлення* пры адборы зместу фарміравання камунікатыўнай кампетэнцыі, найбольш важным лічым той моўны матэрыял, на аснове якога фарміруюцца ўменні камунікатыўнай мэтазгоднасці маўлення. Таму ў змест павінны быць уключаны *нарматыўна і камунікатыўна значымыя тэмы* курса беларускай мовы. Перш за ўсё, гэта моўныя факты і з'явы, на аснове якіх адбываецца засваенне нормаў беларускай мовы (арфаэпічных, словаўтваральных, лексічных, арфаграфічных, марфалагічных, сінтаксічных, стылістычных) і авалоданне ёй як сродкам суразмоўніцтва. Правільнасць і камунікатыўная мэтазгоднасць маўлення выяўляюцца на ўзроўні адпаведнасці моўнай структуры выказванняў вучняў усім пералічаным нормам беларускай мовы.

*Прынцып уліку блізкароднаснасці рускай і беларускай моў* патрабуе браць пад увагу тое, што вывучэнне беларускай мовы адбываецца ў кантэксце блізкароднаснай рускай мовы, якой большасць вучняў у сённяшняй моўнай сітуацыі карыстаюцца ў паўсядзённа-побытавых зносінах і ў працэсе вывучэння іншых вучэбных дысцыплін. Таму неабходна ўлічваць, што некаторыя веды могуць засвойвацца больш хутка на аснове карэляцыі моўных законаў дзвюх сістэм. У беларускай лінгваметодыцы гэта вызначаецца заканамернасцямі засваення беларускай мовы як другой, сярод якіх – "семантычная бесканфліктнасць перцэпцыі і ўнутраная міжмоўная ідэнтыфікацыя" [10, с. 99].

*Прынцып акцэнтацыі (вылучэння) нацыянальна адметнага моўнага матэрыялу* вызначае, што ў вучэбным працэсе неабходна спецыяльна засяроджваць увагу на прыкладах, што ілюструюць спецыфічныя законы беларускай мовы, спыняцца на разглядзе лексічных адзінак, якія могуць выклікаць цяжкасці пры вызначэнні семантыкі, і сінтаксічных канструкцыях, што дэманструюць асаблівасці граматычнага ладу беларускай мовы. Гэта дапаможа вучням авалодаць камунікатыўна значымымі моўнымі адзінкамі, асэнсаваць "сістэму моўных сродкаў у адзінстве іх значэння, формы і функцыі… тую карціну свету, якая адлюстравалася ў мове праз культурна-гістарычны вопыт народа" [11, с. 28].

*Прынцып арганічнага спалучэння моўнага, маўленчага і ўласна камунікатыўнага развіцця вучняў пры авалоданні лінгвістычным матэрыялам* вызначае, што беларуская мова выкладаецца ў камунікатыўным аспекце. Падача тэарэтычных звестак павінна быць накіравана на развіццё здольнасці якаснай рэпрэзентацыі моўных сродкаў у адпаведнасці з камунікатыўнай мэтазгоднасцю маўлення. Маўленчыя звесткі засвойваюцца на аснове тэарэтычнага і практычнага матэрыялу, які не толькі дае магчымасць авалодваць спецыяльнымі ведамі пра формы маўлення, але і разам з гэтым спрыяе ўдасканаленню лексіка-семантычнай і сінтаксічнай арганізацыі выказвання. Гэта стварае аснову для цэласнага ўспрымання сістэмы мовы як сродку адлюстравання рэчаіснасці, выражэння думак і пачуццяў у працэсе моўных зносін.

Да таго ж названы прынцып патрабуе скіроўваць увагу вучняў на тое, што маўленчая дзейнасць адбываецца пад уплывам сукупнасці ўмоў, якія знаходзяцца за межамі мовы, – гэта прадмет, сітуацыя, мэта маўлення, адрасат. Таму неабходна ўключаць звесткі пра ролевыя і міжасобасныя адносіны ў час маўлення, спосабы адбору моўных адзінак, вучыць карыстацца нормамі этыкету. Такім чынам, моўнае і маўленчае развіццё вучняў немагчыма без уліку этычнага аспекту, які прадвызначае авалоданне ветлівымі і карэктнымі формамі суразмоўніцтва.

Моўны кампанент уключае моўныя адзінкі розных узроўняў – фанетычнага, лексічнага, граматычнага. Іх засваенне створыць аснову для фарміравання арфаэпічных, акцэнтуацыйных, інтанацыйных, лексічных, фразеалагічных, марфалагічных, сінтаксічных уменняў і навыкаў, неабходных для стварэння выказванняў.

Маўленчы кампанент стварае аснову для мэтанакіраванай рэалізацыі камунікатыўных задач пры суразмоўніцтве. Свядомае засваенне правіл арганізацыі выказвання садзейнічае дакладнаму яго афармленню па-беларуску. Таму неабходна ўзяць пад увагу вывучэнне маўленчых паняццяў, што дапаможа вучням зразумець ролю маўленчай сітуацыі ў працэсе моўных зносін.

Аднак, калі гаварыць пра фарміраванне камунікатыўнай кампетэнцыі ў цэлым, дасканала развітых моўных і маўленчых уменняў і навыкаў не дастаткова, бо стасункі патрабуюць падпарадкавання правілам маўленчага этыкету, захавання этыкі паводзін, выбару пэўных прыёмаў суразмоўніцтва адпаведна сферы маўлення і сацыяльнаму статусу суразмоўцы.

Уласна камунікатыўны кампанент вызначае ўлік матывацыйна-мэтавага і сітуацыйнага фактараў маўлення (сферы, мэты, адрасата) і сацыяльных нормаў паводзін. Спецыфічныя формулы, сацыяльна маркіраваныя маўленчыя адзінкі, правілы паводзін у адпаведнасці з умовамі сітуацыі зносін і спосабы выражэння думкі згодна з мэтай, задачамі і ўмовамі зносін разам з базавымі камунікатыўнымі ўменнямі і навыкамі (збіраць і сістэматызаваць матэрыял, раскрываць тэму і асноўную думку, удасканальваць выказванне) канкрэтызуюць сутнасць паняцця *камунікатыўная кампетэнцыя* і вылучаюць яе сярод іншых кампетэнцый.

Моўны, маўленчы і ўласна камунікатыўны кампаненты дапамагаюць вызначыць кірункі працы ў фарміраванні камунікатыўнай кампетэнцыі.

Фарміраванне камунікатыўнай кампетэнцыі вучняў як стратэгічная мэта навучання павінна адбывацца, па-першае, на аснове ведаў пра мову як сістэму і законаў функцыянавання яе адзінак у маўленні, па-другое, з улікам таго, што ў сітуацыі двухмоўя варта ўлічваць блізкароднаснасць беларускай і рускай моў. Па-трэцяе, пры гэтым варта спецыяльна акцэнтаваць увагу на спецыфічных беларускамоўных законах і спрыяць іх трываламу засваенню. Па-чацвёртае, трэба ўлічваць, што выказванне не можа існаваць па-за сітуацыяй моўных зносін: яго спараджэнне вызначаецца пэўным камунікатыўным намерам і мэтай маўлення, ён мае адрасата і выражае пэўныя адносіны паміж суразмоўцамі. Таму моўнае і маўленчае развіццё пры вывучэнні беларускай мовы павінна арганічна спалучацца з фарміраваннем уласна камунікатыўных уменняў, неабходных для наладжвання эфектыўных моўных зносін.

**Спіс літаратуры**

1. **Кудрявцева, Т. С.** Современные подходы к обучению речи / Т. С. Кудрявцева // Русский язык в школе. – 1996. – № 3. – С. 3 – 7.
2. **Быстрова, Е. А.** Цели обучения русскому языку, или Какую компетенцию мы формируем / Е. А. Быстрова // Русская словесность. – 2003. – № 1. – С. 35 – 40.
3. **Ладыженская, Т. А.** Система упражнений по развитию связной речи / Т. А. Ладыженская // Совершенствование методов обучения русскому языку : сб. ст. Пособие для учителей / сост. А. Ю. Купалова. – М. : Просвещение, 1981. – С. 43 – 47.
4. **Литневская, Е. И.** Методика преподавания русского языка в средней школе : учеб. пособие для студентов высших учеб. заведений / Е. И. Литневская, В. А. Багрянцева; под ред. Е. И. Литневской. – М. : Академический проект, 2006. – 590 с.
5. **Капинос, В. И.** Активизация методов работы по развитию речи / В. И. Капинос // Совершенствование методов обучения русскому языку : сб. ст. Пособие для учителей / сост. А. Ю. Купалова. – М. : Просвещение, 1981. – С. 34 – 42.
6. **Мурина, Л. А.** Методика русского языка в школах Белоруссии : учеб. пособие / Л. А. Мурина. – Минск : Университетское, 1990. – 320 с.
7. **Валочка, Г. М.** Лінгваметадычная сістэма развіцця звязнага маўлення школьнікаў пры навучанні беларускай мове : аўтарэф. дыс. … докт. пед. навук. / Г. М. Валочка. – Мінск, 2008. – 48 с.
8. **Шанский, Н. М.** Что значит знать язык и владеть им / Н. М. Шанский, И. Л. Резниченко, Т. С. Кудрявцева [и др.]. – Л. : Просвещение, Ленингр. отд-ние, 1989. – 192 с.
9. **Педагогическое речеведение** : словарь-справочник / под ред. Т. А. Ладыженской; сост. А. А. Князьков. – Изд. 2-е, испр. и доп. – М. : Флинта, Наука, 1988. – 312 с.
10. **Яленскі, М. Г.** Лінгвадыдактычная парадыгма асобасна арыентаванага навучання мове ў сучаснай школе / М. Г. Яленскі. – Мінск : НІА, 2002. – 212 с.
11. **Купалова, А. Ю.** Язык и речь в школьном курсе родного языка / А. Ю. Купалова // Русский язык в школе. – 1999. – № 1. – С. 27 – 31.

**Святлана МАРТЫНКЕВІЧ,**
старшы выкладчык
кафедры беларускага мовазнаўства
Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта
імя П. М. Машэрава.

*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам педагагічных навук прафесарам М. Яленскім.*

Вольга ПРАСКАЛОВІЧ

# КОНКУРС ВУСНЫХ ВЫКАЗВАННЯЎ

## МЕТАДЫЧНЫЯ ПАРАДЫ

Традыцыйна алімпіяда па беларускай мове і літаратуры складаецца з трох узаемазвязаных конкурсаў: 1) лінгвістычнага; 2) водгуку на мастацкі ці публіцыстычны твор; 3) вуснага выказвання.

Вуснае выказванне на трэцім і заключным этапе Рэспубліканскай алімпіяды школьнікаў па беларускай мове і літаратуры праводзіцца па білетах. Білет для вуснага выказвання ўключае дзве тэмы – літаратурную ці лінгвістычную, маральна-этычную або публіцыстычную (на выбар удзельніка). Фармулёўка задання вызначае, як правіла, стыль, жанр і тып маўлення. Калі заданне не арыентуе на канкрэтны жанр і тып маўлення, удзельнік алімпіяды выбірае іх у адпаведнасці са сваёй задумай. Конкурсам вусных выказванняў прадугледжваецца маналог на зададзеную тэму. Час падрыхтоўкі – 30 хвілін. Само выказванне 5 – 7 хвілін. Крытэрыі ацэнкі вуснага выказвання прадстаўлены на старонках дапаможнікаў [1].

Прывядзём *прыклады тэм для вуснага выказвання* (па матэрыялах трэцяга этапу XXVII Рэспубліканскай алімпіяды школьнікаў па беларускай мове і літаратуры).

IX клас – “Бывае, праўда вочы коле…” (К. Крапіва), “Прырода – найцікавейшая кніга…” (Я. Колас), “Мая матуля”, “Спорт у жыцці сучаснай Беларусі”, “Хачу дапамагчы сябру…” і інш.

X клас – “Чалавек – гэта цэлы свет” (К. Чорны), “Мой любімы персанаж у літаратуры (кіно)”, “Беларусь – краіна высокіх тэхналогій”, “Народныя святы беларусаў”, “Калі я скончу школу…” і інш.

XI клас – “Магутнае слова ты, роднае слова!..” (Я. Купала), “Францыск Скарына – выдатны дзеяч эпохі Адраджэння”, “Беларуская фразеалогія”, “Нацыянальная бібліятэка Беларусі – агульнанародная каштоўнасць”, “Хачу расказаць пра нядаўняе здарэнне” і інш.

Пры падрыхтоўцы да вуснага выказвання варта згадаць, што алімпіяда з 2006 г. праводзіцца па беларускай мове і літаратуры. Гэта значыць, што тэмы, прапанаваныя для публічнага выступлення, арыентаваны на веданне праграмных твораў па літаратуры, творчасці пісьменнікаў («“Палеская хроніка” – нацыянальны эпас беларусаў», “Максім Гарэцкі – класік беларускай літаратуры”), тэорыі літаратуры (“Канфлікт у літаратурным творы”, “Літаратурны пейзаж – важны элемент мастацкай сістэмы эпічнага твора”), гісторыі літаратуры (“Беларуская літаратура: ад рамантызму да рэалізму”, “Беларуская літаратура: барока, класіцызм, асветніцтва” і да т. п.).

Конкурс вусных выказванняў для вучняў, на жаль, стаў самым складаным. Пра сціплыя поспехі ўдзельнікаў трэцяга конкурсу “красамоўна” сведчаць наступныя каментарыі членаў журы: “Адказы вучняў грашылі механічна завучанымі штампамі”; “У пераважнай большасці вусныя выказванні не ўразілі”; “Выступоўцам не хапала артыстычнасці, эмацыянальнасці, умення пабудовы выказвання, яго выразнасці, тэмпу маўлення”; “З году ў год вучні ўсё горш і горш умеюць гаварыць, не маючы ніякага ўяўлення пра рыторыку, якая патрабуе ад выступоўцы прамаўлення, а не чытання па запісаным” і да т. п. Таму перад настаўнікамі востра стаіць пытанне ўдасканалення методыкі навучання вуснаму выказванню як публічнаму выступленню. Прапануем свой алгарытм* навучання стварэнню вусных выказванняў [2].

Вуснае выказванне – тэкст, які ствараецца па законах вуснага маўлення, гэта ні ў якім разе не агучаны пісьмовы тэкст, ён будуецца з улікам асаблівасцей вуснага публічнага маўлення. Менавіта ўласнае выказванне (тэкст) лічыцца найвышэйшым этапам свядомай маўленчай дзейнасці асобы[3], самым надзейным паказчыкам дасведчанасці чалавека ў той ці іншай сферы.

Публічная (ад лац. *publikus* ‘грамадскі’) прамова – гэта вуснае выступленне перад слухачамі з мэтай растлумачыць, даказаць што-небудзь, пераканаць у важнасці і неабходнасці якіх-небудзь дзеянняў, аказваючы жывым словам адпаведнае ўздзеянне на свядомасць, розум і пачуцці аўдыторыі.

У класічных рыторыках ідэавербальная схема – схема пераходу ад думкі да слова – складаецца з пяці этапаў.

Пяць прыступак “аратарскай лесвіцы” – аснова паслядоўнасці ў працы над выказваннем:




* Прайшоў апрабацыю пры падрыхтоўцы школьнікаў г. Мінска, пераможцаў трэцяга этапу XXVII Рэспубліканскай алімпіяды па беларускай мове і літаратуры да ўдзелу ў заключным рэспубліканскім этапе алімпіяды.

**Алгарытм паэтапнага канструявання вуснага выказвання.**

| Дакамунікатыўны | | Камунікатыўны | | Посткамунікатыўны |
|---|---|---|---|---|
| выбар тэмы, вызначэнне мэты і віду прамовы | рэпетыцыя | тэхніка выканання | | рэфлексія (аналіз) |
| збор і сістэматызацыя інфармацыі | | | | |
| падбор доказаў і аргументаў | | паводзіны аратара і кіраванне аўдыторыяй | | прагназаванне пытанняў і адказаў на іх |
| лагічная арганізацыя выказвання | | майстэрства весці дыскусію, адказваць на пытанні | | удасканаленне матэрыялаў да выступлення |
| праца над мовай і стылем | | | | |

Працэс падрыхтоўкі да вуснага выказвання пачынаецца з ***знаходніцтва думак*** (або вырашэння прамоўцам праблемы *што сказаць?*). Гэта першая прыступка ў падрыхтоўцы звязнага выказвання, складаецца з некалькіх этапаў: выбар тэмы; вызначэнне асноўнай ідэі выказвання, асэнсаванне мэтавай устаноўкі прамовы; фармуляванне назвы прамовы; прадумванне яе папярэдняга плана, падбор матэрыялу.

Для раскрыцця выбранай тэмы інфармацыя (сабраны матэрыял) павінна быць канкрэтнай, прадметнай, упарадкаванай. Класічная рыторыка вылучае тры тыпы матэрыялу: эмпірычны, энцыклапедычны, кампаратыўны. Эмпірычны матэрыял абапіраецца на дадзеныя, здабытыя самім аратарам; энцыклапедычны – выбіраецца з розных крыніц: навуковай, навукова-папулярнай, мастацкай літаратуры, публіцыстыкі, сродкаў масавай інфармацыі, інтэрнэт-рэсурсаў; кампаратыўны – дазваляе суаднесці эмпірычныя і энцыклапедычныя звесткі. Найважнейшай крыніцай сэнсавага ўзбагачэння аратарскага выступлення лічыцца афарыстыка – сукупнасць трапных, лаканічных, часам дасціпных выказванняў, у якіх увасоблены значныя жыццёвыя назіранні і развагі. Да афарыстыкі адносяцца народныя выслоўі, прыказкі і прымаўкі, крылатыя словы. Уключэнне ў вуснае выказванне афарызмаў у выглядзе прамога або ўскоснага цытавання ўяўляе сабой адзін з моцных аргументаў – “аргумент да аўтарытэта”.

***Размяшчэнне думак*** (або *дзе сказаць?*) – другая прыступка ў падрыхтоўцы звязнага выказвання. “Кожная прамова павінна нагадваць жывую істоту: у яе таксама павінна быць цела з галавой і з нагамі, прычым тулава і канечнасці павінны падыходзіць адно аднаму і адпавядаць цэламу” – так, у вобразнай афарыстычнай форме Платон сфармуляваў закон суадносін розных кампазіцыйных частак публічнай прамовы. Кампазіцыя прамовы – дзяленне матэрыялу на часткі, размяшчэнне гэтых частак, стварэнне належных суадносін, прапорцый паміж часткамі прамовы, а таксама паміж прамовай і кожнай з яе частак, паслядоўнасць іх размяшчэння.

*Агульныя правілы пабудовы выступлення.*

*Першае правіла* – правіла “залатога сячэння”. У дачыненні да аратарскага выступлення фармулёўка правіла гучыць так: уступ і заключэнне прамовы (яе кампазіцыйнае абрамленне) па аб’ёме сумарна не павінны перавышаць ⅓ усяго выступлення.

*Другое правіла* – “правіла рамкі”, або “закон краю” (“эфект мяжы”), “закон Эбінгаўза”. Засноўваецца на асаблівасцях успрымання і памяці; у дачыненні да аратарскай прамовы зводзіцца да наступнага: пачатак і канец любога інфармацыйнага рада запамінаюцца лепш за сярэдзіну.

Мастацтва аратара – гэта палёт. У яго ёсць узлёт і пасадка – уступ і заключэнне. У сярэдзіне могуць быць паветраныя ямы. Але, як у палёце, поспех залежыць ад плаўнага паступовага ўзлёту і мяккай пасадкі.

Такім чынам, падрыхтоўка кампазіцыйнага абрамлення патрабуе асаблівай увагі і стараннасці.

Вылучаюць 3 віды ўступаў:

1) *просты* (прамы, непасрэдны), або натуральны ўступ – гэта прамое ўключэнне слухача ў тэму;

2) *ускосны* (штучны, апасродкаваны) – ажыццяўляецца псіхалагічная падрыхтоўка слухачоў да ўспрымання выступлення.

Існуе шэраг прыёмаў, характэрных для ўскоснага ўступу, – т. зв. “зачапляльныя кручкі” (тэрмін А. Коні, вядомага рускага дзяржаўнага і судовага дзеяча, бліскучага аратара), “прынады для слыху”. Гэта яскравы(я) прыклад(ы), у прыватнасці сюжэтны аповед (байка, прытча, жыццёвая гісторыя і г. д.); гумарыстычная, сатырычная, іранічная заўвага, дарэчны анекдот; цытата (асабліва паэтычная і / або афарыстычная); пытанне або серыя пытанняў, якія падтрымліваюць інтарэс; дэманстрацыя нагляднасці і г. д.;

3) *нечаканы* ўступ (раптоўны, экспрэсіўны) – аратар пачынае нечакана для аўдыторыі рэзка і эмацыянальна. Класічным прыкладам у гэтым сэнсе лічыцца пачатак прамовы Цыцэрона супраць Каціліны – прамы, патрабавальны, гнеўны зварот.

Па аналогіі з дыферэнцыяцыяй асноўных відаў уступаў да прамовы можна вылучыць *прамое* і *ўскоснае* заключэнне.

Выклад матэрыялу ў *асноўнай частцы* выступлення можа арганізоўвацца рознымі спосабамі (гл. кластар на с. 88).

Для актывізацыі ўвагі і інтарэса слухачоў выкарыстоўваюцца наступныя хады ў структурнай




арганізацыі матэрыялу: кампазіцыйная *інверсія* (адваротны парадак) і *рэтардацыя* – наўмыснае запавольванне аповеду, адтэрмінаванае паведамленне важных звестак. Найбольш тыповая для практыкі маўлення – *камбінаваная форма* падачы матэрыялу ў выказваннях.

***Элакуцыя*** (слоўнае афармленне, або вырашэнне прамоўцам праблемы *як сказаць?*) – трэцяя прыступка ў падрыхтоўцы звязнага выказвання. На этапе слоўнага афармлення прадугледжваецца выбар вербальных сродкаў і напісанне поўнага тэксту выказвання. Характар выказвання залежыць ад таго, дзе, з кім, навошта і як мы размаўляем, г. зн. ад маўленчай сітуацыі. У залежнасці ад асаблівасцей маўленчай сітуацыі выбіраецца для выступлення пэўны функцыянальны *стыль* і *жанр маўлення.* У забеспячэнні эфектыўнасці камунікацыі актыўную ролю выконваюць *камунікатыўныя якасці маўлення* (яны характарызуюць узровень маўленчай культуры). Да асноўных якасцей маўлення прафесар Б. Галавін адносіў правільнасць, дакладнасць, змястоўнасць, лагічнасць, чысціню, багацце (разнастайнасць), выразнасць і дарэчнасць. Правільнасць (нарматыўнасць маўлення), ці кадыфікацыя, зафіксавана ў граматыках і слоўніках. Захаванне арфаэпічных, акцэнталагічных, словаўтваральных, марфалагічных, сінтаксічных, лексіка-семантычных, фразеалагічных, стылістычных нормаў з'яўляецца неабходнай умовай культуры маўлення. Змястоўнасць маўлення прадугледжвае інфармацыйна насычанае, лагічна, паслядоўна, даступна выкладзенае, пераканаўчае выказванне. Лагічнасць выказвання патрабуе адпаведнасці паміж сэнсавай сувяззю слоў, сказаў і законамі логікі. Лагічнасць выказвання залежыць ад культуры мыслення чалавека. Наколькі лагічнае выказванне, можна вызначыць, цэласна ўспрыняўшы выступленне. Лагічнасць і дакладнасць цесна звязаны паміж сабой. Дакладнасць словаўжывання – паказчык культуры выказвання. Дарэчнасць выказвання – гэта адпаведнасць ужытых моўных сродкаў тэме, мэце, жанру выказвання, часу і месцу зносін. Змешванне слоў, выразаў, якія належаць да розных стыляў літаратурнай мовы, сведчыць пра нізкі ўзровень культуры маўлення і з'яўляецца стылёвай памылкай. Адзінства стылю – найважнейшае патрабаванне да вуснага выказвання. Чысціня маўлення дасягаецца адзінствам формы і зместу, правільным падборам і арганізацыяй вербальных сродкаў у строгай адпаведнасці са стылем і задачамі выказвання. Збыткоўная інфармацыя, моўныя штампы і клішэ, словы-паразіты засмечваюць маўленне. Выразнасць выказвання выяўляецца ў такім падборы вербальных сродкаў, якія здольны паўплываць на пачуцці і свядомасць слухача, падтрымліваць яго ўвагу і цікавасць. Пераважная большасць даследчыкаў лічыць, што выразнасць маўлення – гэта яго экспрэсія, вобразнасць, маляўнічасць, звязаныя з выкарыстаннем тропаў і фігур маўлення. Багацце маўлення выяўляецца ў разнастайнасці ўжывання моўных сродкаў і залежыць ад актыўнага лексічнага, фразеалагічнага, сінтаксічнага запасу чалавека. Неапраўданае паўтарэнне адных і тых жа слоў, выразаў, сінтаксічных канструкцый збядняе выказванне, зніжае яго пераканаўчасць.

Вядома, што на пытанне пра самае важнае ў красамоўстве, Дэмасфен адказаў: "Па-першае, выкананне, па-другое, выкананне, патрэцяе, выкананне". ***Выкананне*** – гэта не проста агучванне падрыхтаванага аратарам тэксту, гэта прад'яўленне яго аўдыторыі; гэта ***заключны этап*** працы над прамовай; гэта "жывое" ўзаемадзеянне са слухачамі. Для таго каб узаемадзеянне аратара і аўдыторыі было паспяховым, прыносіла радасць і задавальненне, трэба ведаць тэхніку маўлення і валодаць ёю. Голас, дыкцыя, артыкуляцыйная і інтанацыйная выразнасць, валоданне жэстава-мімічнымі сродкамі выразнасці – усё гэта элементы тэхнікі "слоўнага ўзаемадзеяння" (К. Станіслаўскі), або ў тэрміналогіі З. Саўковай –"маўленчага дзеяння".

Такім чынам, авалодаць мастацтвам вусных выказванняў магчыма, бо, як сцвярджаў Цыцэрон, – *"Poetae nascuntur, oratores fiunt"* ("Паэтамі нараджаюцца, аратарамі становяцца").

---

[1] Гл.: **Кулiковiч, У.** Алімпіяды па беларускай мове / У. Кулiковiч. – Мінск : Аверсэв, 2007. – 416 с. – (Школьнікам, абітурыентам, навучэнцам); **Праскаловіч, В.** "Выкажыся, каб я цябе ўбачыў!" : (Мастацтва вусных выказванняў) : 9-ы кл. : дапам. для настаўнікаў агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / В. Праскаловіч, В. Кушнярэвіч. – Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2010. – 88 с. – (Беларуская літаратура. Факультатыўныя заняткі); **Русецкий, В.** Живая риторика : готовимся к публичному выступлению / В. Русецкий, Т. Игнатович, Е. Долбик. – Минск : Белорус. асоц. "Конкурс", 2010. – 352 с.

[2] Гл.: **Праскаловіч, В.** "Выкажыся, каб я цябе ўбачыў!" : (Мастацтва вусных выказванняў) : 9-ы кл. : дапам. для вучняў агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / В. Праскаловіч, В. Кушнярэвіч. – Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2010. – 96 с. – (Беларуская літаратура. Факультатыўныя заняткі).

[3] Гл.: **Методыка выкладання беларускай мовы** : вучэб. дапам. для студэнтаў філал. спецыяльнасцей / М. Яленскі [і інш.]; пад рэд. М. Яленскага. – Мінск : Адукацыя і выхаванне, 2007. – С. 359.

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

*Малады даследчык прапануе*

# ФАРМІРАВАННЕ ЎМЕННЯЎ І НАВЫКАЎ ВУЧЭБНА-ДАСЛЕДЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ Ў ПРАЦЭСЕ ВЫВУЧЭННЯ ЛІРЫКІ

Праблема развіцця даследчых здольнасцей вучняў шматгранная. Творчы даследчы кірунак развіцця асобы праяўляецца ва ўменні працягнуць дзейнасць за рамкамі вырашэння задачы, якая ставіцца перад чалавекам. Развіццё асобы патрабуе працяглай і мэтанакіраванай работы, а літаратура як мастацтва слова прадстаўляе шырокае поле дзейнасці для іх фарміравання. Яна вучыць думаць, вызначае свет каштоўнасцей вучняў, аказвае эстэтычнае і выхаваўчае ўздзеянне.

Працэсы, якія адбываюцца сёння ў грамадстве, выклікаюць пераасэнсаванне маральных арыенціраў, а таксама зніжэнне цікавасці да мастацкіх твораў; з іншага боку, працэсы гуманізацыі і гуманітарызацыі сучаснай школы ставяць новыя задачы перад літаратурнай адукацыяй: выхаванне духоўна багатай асобы, развіццё вобразнага мыслення, стымуляванне пазнавальнай дзейнасці, уменне самастойна спасцігаць ідэйны і эстэтычны сэнс твораў. На сучасным этапе адукацыйны працэс скіраваны на развіццё і актывізацыю творчых здольнасцей вучняў. Іх матывацыяй выступае вучэбна-даследчая дзейнасць, асноўная мэта якой – скіраваць школьнікаў да пазнання сябе, свету і сябе ў свеце.

У сувязі з пашырэннем інфармацыйнага поля функцыі настаўніка ў адукацыйным працэсе змяніліся. Ён перастаў быць адзінай крыніцай ведаў, настаўнік – арганізатар навучальнай прасторы, у якой нельга існаваць без авалодання навыкамі вучэбна-даследчай дзейнасці.

Недастаткова высокі ўзровень сфарміраванасці даследчых навыкаў і адсутнасць сістэмнасці іх фарміравання ў школьнай практыцы абмяжоўвае інтэлектуальна-творчыя магчымасці навучэнцаў, іх сацыялізацыю.

Ад сфарміраванасці вучэбна-даследчых навыкаў залежыць не толькі поспех вучняў у пазнавальнай ці практычнай дзейнасці на ўроках беларускай літаратуры, мовы, гісторыі, фізікі ці іншага прадмета ў школе, але і на наступных ступенях атрымання адукацыі (ліцэй, каледж ці ВНУ), а таксама фарміраванне агульнаадукацыйных кампетэнцый, магчымасць сацыяльнай адаптацыі ва ўмовах навізны і змен у сучасным грамадстве.

Названая праблема асабліва актуальная для вучняў VII – VIII класаў, бо ў гэтым узросце фарміруюцца кагнітыўныя, інтэнцыянальныя, эмацыянальныя працэсы. Вывучэнне лірыкі дазваляе найбольш эфектыўна скарыстаць выхаваўча-развіццёвы патэнцыял літаратуры.

Старшакласнікі павінны мець сфарміраванае слоўна-лагічнае мысленне, валодаць метадамі навуковага пазнання, развітымі формамі тэарэтычнага мыслення, што садзейнічае выпрацоўцы патрэбнасці ў інтэлектуальнай дзейнасці і праяўленню даследчай ініцыятывы. Даследчая і пошукавая дзейнасць дазваляе найбольш поўна выяўляць і развіваць інтэлектуальныя і творчыя здольнасці. Разам з практычнымі даследчымі навыкамі вучні набываюць камунікатыўныя, аратарскія якасці, у іх фарміруюцца навыкі працы з разнастайнымі інфармацыйнымі рэсурсамі.

Такім чынам, даследчая дзейнасць можа праяўляцца: у аналізе твораў розных відаў і жанраў (лірыка, проза, драматургія); у выкананні творчых работ розных тыпаў (сачыненне, эсэ, водгук, праект і інш.); у пазакласнай рабоце (складанне радаводаў, краязнаўства, удзел у навуковых гуртках, аналіз матэрыялаў у інтэрнэце і інш.); у аналізе слэмаў* у сеціве; у самаадукацыі вучняў.

Розныя аспекты праблемы фарміравання навыкаў вучэбна-даследчай дзейнасці вучняў былі аб'ектам вывучэння айчынных і замежных навукоўцаў: вывучэнне асаблівасцей фарміравання даследчых уменняў, структура і працэс фарміравання (У. Загвязінскі, М. Скаткін, В. Андрэеў, В. Івашын, М. Лазарук), даследаванне ўменняў і асаблівасці іх фарміравання (Т. Шамава, А. Усава, Л. Мурына, В. Рагойша), тэорыя фарміравання розных груп уменняў (А. Новікаў, С. Вараўшчыкоў, А. Баброў), значэнне дыдактычных сродкаў у працэсе фарміравання ўменняў (Г. Клокава, А. Каласкоў), асаблівасці навуковага даследавання (Ю. Бабанскі, І. Зімняя), развіццё творчага мыслення (П. Гальперын, В. Зарэцкі), узроставых асаблівасцей вучняў (І. Кон, А. Мудрык), развіццё разумовых здольнасцей (І. Паспелаў, М. Паспелаў).

Усё гэта пацвярджае актуальнасць вывучэння праблемы фарміравання асноў вучэбна-даследчай дзейнасці і стварэння методыкі яе навучання з-за недастатковай практычнай распрацаванасці.

**Антон КНЫШ,**
аспірант Нацыянальнага інстытута адукацыі.

* **Слэм** – паняцце шматграннае, але нас цікавіць яго інтэрактыўны літаратурны бок.



# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ І СУСВЕТНАЯ КУЛЬТУРА

*Вяртанне да вытокаў*

Анатоль СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ

## КЕРНАЖЫЦКІЯ ГЕРБА "ЮНОША" І МАСТВІЛОВІЧЫ ГЕРБА "ДАЛЕНГА"



**Герб "Юноша" роду Кернажыцкіх.**

У XVIII ст. наш род Забэлаў аб'яднаўся са шляхецкімі родамі Кернажыцкіх. Парадніў нас з вядомым дваранскім родам, які праславіўся і на палях бітваў, і ў мірных справах, Казімір Пятровіч Забэла. Ён абвянчаўся з Кацярынай, дачкой рэчыцкага чашніка Валяр'яна Кернажыцкага, чалавека годнага і паважанага. Пра гэта сказана ў прашэнні двараніна Барысаўскага павета асэсара Тадэвуша-Яна Янава Кернажыцкага ў Мінскі дваранскі дэпутацкі сход ад 20 кастрычніка 1832 г.

*"Дом Керножицких, перейдя с Короны в Литву, в том княжестве польском от непамятных времен оселясь, дворянским достоинством приличным сословию своему, похвальными своими деяниями и заслугами в помещичьем обществе защищался у престола королей польских, был известен земскими имениями в разных воеводствах лежащими, правом вотчинным приобретёнными. Где и поднесь, в том же самом достоянии не престал быть. Наследники, приобрев огромные имения при столь личном размножении своей фамилии заедва посредством неутомимых своих трудов и старательств в достоинстве своём в небольших имениях удерживались".*

Продкі Кернажыцкіх мелі спачатку герб "Астоя", затым атрымалі герб "Юноша". Чаму так адбылося, невядома: дакументаў не захавалася. А паходзіць гэты герб з Германіі. Легенда распавядае пра рыцара па імені Юноша, што ў перакладзе з нямецкай мовы азначае "малады баран". Ён лоўка абхітрыў непрыяцеля, прыкінуўшыся пастухом: накіраваў варожы табун коней на пашу, якая знаходзілася вельмі далёка. Паколькі коні пасвіліся адны, атрад на чале з Юношам спачатку перабіў іх, а затым і пешых захопнікаў. Пра подзвіг рыцара стала вядома каралю, і той пажалаваў яму названы герб.

На шчыце герба ў чырвоным полі – выява белага барана з рагамі на галаве, у правы бок звернутая, на баках таго барана відаць кроў; у шлеме, па-шляхецку каранаваным, пяць страусавых пёраў.

Дрэнны стан старажытных дакументаў не дазваляе ахарактарызаваць заснавальніка роду Івана Мікіціча Кернажыцкага.

Яго сын Ленарт Іванавіч быў палкоўнікам у польскіх войсках, што пацвярджае прывілей караля Жыгімонта III ад 6 мая 1591 г. З дакумента вынікае, што за ваенныя подзвігі ў якасці ўзнагароды Ленарту і яго нашчадкам "пажалаваны двор Кернажыцы з 50 дварамі сялян у Навагрудскім ваяводстве".

Ленарт ажаніўся з Раінай Янаўнай Маствіловіч, падчашанкай троцкай, якая прынесла яму ў пасаг частку маёнтка Уса. Пасля гэты маёнтак стаў поўнасцю належаць Кернажыцкім разам з урадлівымі землямі і млынам.

Раіна паходзіла са знакамітага шляхецкага роду, вядомага ў ВКЛ яшчэ з XIV ст. І невыпадкова, што калі ў ВКЛ 47 родаў каталіцкага паходжання надзяляліся Гарадзельскай уніяй 1413 г. прыват-

*Часопісны варыянт выбраных раздзелаў з кнігі "Я – сын Ваш" **Анатоля Статкевіча-Чабаганава** друкуецца з № 4 за 2010 г.*

ными гербамі, сярод іх быў і Маствіл, сын Жадзейкі. Маствіловічы атрымалі герб "Даленга".

Як вынікае з дакументаў Гарадзельскай уніі, род Маствіловічаў мае жамойцкае паходжанне. У далейшым двое з пяці ўнукаў Маствіла Іван і Станіслаў Багданавічы засталіся ў Жамойцкай зямлі, а іншыя – Мікалай, Андрэй і Габрыэль Багданавічы – асталяваліся ў Ашмянскім павеце, дзе і валодалі маёнткамі Ашмянскім, Уса, Амлішава.

Адзін з братоў, Мікалай Багданавіч, не меў нашчадкаў і тую частку маёмасці, якая яму належала па тастаменце 1525 г., перадаў пляменніку Яну Андрэевічу.

Менавіта з-за гэтай маёмасці некалькі гадоў паміж дваюраднымі братамі Іванам Габрыэлавічам і Янам Андрэевічам Маствіловічамі ішла цяжкая барацьба, якая скончылася трагедыяй для апошняга. Пра гэта захаваліся звесткі ў метрыках ВКЛ. Думаю, чытачам будзе цікава пазнаёміцца са зместам гэтых матэрыялаў.

Зямянін Віленскага павета Юрый Хрышчановіч Дакурновіч разам з жонкай свайго родзіча, на той час нябожчыка Яна Маствіловіча, Зафеяй 15 студзеня 1541 г. падалі прашэнне да пана віленскага, дзе гаварылася пра забойства Яна Андрэевіча Маствіловіча намеснікам даўнароўскім Васькам Чорным пры ўдзеле Шчаснага Мажайковіча.

Згаданы Васька разам з іншымі сваімі памочнікамі і гаспадарскім Шчасным Мажайковічам прыехалі ў маёнтак Амлішава да Яна, дзе, як сведчыць Дакурновіч, Васька дзвюма стрэламі (адной – у руку, а другой у нагу) параніў Яна, "не маючы к нему жадное потребы", схапілі яго і забралі шмат чаго з маёнтка – "п(е)н(е)зей, серебра, шатъ, цыну, котловъ, коней, стадо свирепъ и инъшых всякихъ домовыхъ статъковъ", а самога Яна пасадзілі ў клетку і ў ланцугах павезлі ў Вільню. Па дарозе забілі і каля Краснага Сяла ўтапілі ў рацэ, дзе яго выпадкова знайшлі пастухі.

Юрый Дакурновіч і ўдава Яна Маствіловіча Зафея прасілі пана віленскага Марка Лубніцкага пакараць забойцу, аднак той вырашыў на пэўны час справу адкласці і ўтварыць заклад на тры тысячы коп грошай.

Праз два месяцы, 15 сакавіка 1541 г., віленскі ўрад зноў вярнуўся да разгляду гэтага здарэння. Відаць, на той час не стала і жонкі Яна Андрэевіча Маствіловіча, а таму яго дваюрадны брат Юрый Хрышчановіч Дакурновіч стаў апекуном над дзецьмі і маёнткамі Маствіловічаў і падаў скаргу на Ганну Мацееўну Кандратовіч, чый муж, Іван Габрыэлавіч Маствіловіч, як сведчыцца ў гэтым дакуменце, "замордовалъ дядковича своего Яна Анъдреевича Мостcovиловича".



**Пячатка дваранскага сходу Мінскай губерні.** XIX ст.

Як відаць з гэтай справы, з-за барацьбы за маёмасць нейкае дачыненне да забойства свайго дваюраднага брата меў Іван Габрыэлавіч Маствіловіч.

Калі Яна Андрэевіча забілі, дакументы разам з іншымі рэчамі прапалі, выкарыстаўшы гэта, Ганна, жонка Івана Габрыэлавіча, заняла маёнтак Уса, сцвярджаючы, што мае на гэта права, бо яе муж перадаў брату 200 коп грошай, якія Ганна прынесла ў пасаг пры шлюбе.

З іншага боку, Юрый Хрышчановіч паведаміў, што муж Ганны свой маёнтак Уса выменяў у Яна Андрэевіча, ужо нябожчыка, на маёнтак у Валожыне, таму Ганна на яго не мае права.

Справу слухалі князь Венцлаў, біскуп жамойцкі, пан Ян Юр'евіч Глебавіч, ваявода полацкі, пан Мацей Вайцяховіч (Янавіча), ваявода віцебскі, пан Шымко Мацковіч, цівун і гараднічы віленскі. Разгляд яе ішоў няпроста, таму зноў быў адкладзены на пэўны час.

Наступнае слуханне справы адбылося 24 кастрычніка 1542 г. У гэтай судовай справе ўжо больш поўна апісаны тыя трагічныя падзеі. У прыватнасці, гаворыцца пра тое, што забойства Яна Андрэевіча Маствіловіча Васька ўчыніў не адзін, а па змове з дзецкім Шчасным Мажайковічам і Іванам Габрыэлавічам.

Жонка Івана Габрыэлавіча Ганна старалася ўсю віну за забойства ўскласці на іншых: «...на жалобу отпираючи, мовила: "В листе короля, ег(о) м(и)л(о)сти, описано, иж тот Щасный, будучи децкимъ по нег(о) посланымъ, ег(о) забил, которого он, поимавши до везенья осадити далъ, а потомъ, снать зъгодивши ся с ним, з




**Адам Іванавіч Кернажыцкі.** 1920-я гг.

везенья его выпустил, а теперъ на мужа моего жалуеть"».

Юрый Дакурновіч падрабязна сведчыў, што Іван Габрыэлавіч са Шчасным Мажайковічам і пры падтрымцы амаль 25 татарскіх коннікаў, накіраваных віленскім панам, і іншымі гвалтоўна напаў на маёнтак Ашмянскі, дзе Яна Маствіловіча не знайшлі. Засталі толькі яго нявестку і дзяцей, якіх абрабавалі і выгналі з маёнтка. Затым паехалі да Усы, другога маёнтка брата. Яна Андрэевіча і там не было, а "тое именье со всими людьми и тежъ со всими маетъностями, што – колвекъ у клетехъ, у свинехъ схованья было, они позабирали, ку тому тежъ челядь и кони, и быдло ку своей моцы побрали и, бывъши в томъ именьи, на Усе, и взявши тое именье ку своеи моцы, и ехалъ с тымъ же Щаснымъ Можейковичомъ а з намесникомъ пана виленъског(о) дайнаровскимъ, з Васкомъ Чорънымъ, и с помочники своими до третего именья того жъ брата моего, до Омълишова".

Яна Андрэевіча знайшлі толькі ў трэцім маёнтку – у Амлішаве. Тады ж і здарылася тая крывавая трагедыя, судовая справа па якой так доўга разглядалася віленскім урадам. Закончылася тым, што "именье Омлишово тогды жъ, коли его небожъчика с того именья вывезли, намесникъ пана виленъского дойнаровский ку своеи моцы взялъ и теперъ дерьжить, нетъ ведома которымъ обычаемъ".

Як бачым, гісторыя даволі складаная. І сёння цяжка адназначна сцвярджаць, хто вінаваты, відаць, былі ўзаемныя прэтэнзіі. І вельмі шкада, што ўсё так трагічна скончылася. Чытаючы пра гэта праз столькі стагоддзяў, не перастаеш шкадаваць, што браты так і не змаглі дамовіцца паміж сабою, а падчас спрэчкі і бойкі здарылася непапраўнае…

Але вернемся да дзяцей Яна Андрэевіча Маствіловіча. Раіна, Андрэй, Рожа і Ганна выхоўваліся пад апекай Юрыя Хрышчановіча Дакурны, дваюраднага дзядзькі. Іх жыццё склалася ўдала. Пасталеўшы, яны стварылі сем'і з прадстаўнікамі вядомых у той час родаў. Андрэй Маствіловіч ажаніўся з Настассяй Войнай. Рожа выйшла замуж за Гаўрыіла Зябку, Ганна – за Юрыя Копаця, Раіна, як ужо згадвалася, стала жонкай палкоўніка польскіх войскаў Ленарта Кернажыцкага.

У Ленарта з Раінай было тры сыны: Іван, Юрый і Ілья. Пра Ілью і Івана звестак захавалася вельмі мала, а пра Юрыя ёсць некалькі архіўных дакументаў. Ён ажаніўся з Варварай Іванаўнай Кавецкай і, валодаючы маёнткамі ў Навагародскім павеце, прырошчваў да іх землі, пра што сведчыць шэраг дакументаў. (Здзелкі з Пятром Русанам у лютым і маі 1598 г. на зямлю з пабудовамі ў маёнтку Мажэйкаўшчызна, потым 20 чэрвеня 1601 г. Кернажыцкі атрымлівае права на пяць валок зямлі ў той жа Мажэйкаўшчызне, а 13 верасня 1603 г. у яго карысць пераходзіць маёнтак Дараговічы.)

Юрый Ленартавіч і Варвара Іванаўна мелі чатырох сыноў. Нам вядома, што адзін з іх, Сігізмунд, служыў у польскіх войсках харунжым, гэта пацвярджае выпіс з прывілея караля польскага Уладзіслава ад 25 верасня 1637 г., да таго ж ён быў харунжым пяцігорскім і чашнікам рэчыцкім. Сігізмунд Кернажыцкі купіў 9 студзеня 1660 г. у Багуслава Ляшчынскага маёнтак Ратамка.

Вядомым чалавекам быў і брат Сігізмунда Гаўрыіл, капітан польскіх войскаў, уладальнік вотчыннага маёнтка Дараговічы пад Навагародкам і маёнтка Уса ў Мінскім ваяводстве.

Сыны Гаўрыіла і Сігізмунда – Валяр'ян Гаўрылавіч і Геранім-Міхаіл Сігізмундавіч – сталі рэчыцкімі чашнікамі. Яны вылучаліся польскімі каралямі і атрымлівалі ўзнагароды, *"у пацвярджэнне чаго прадстаўляецца 1669 года прывілей караля Міхаіла на чын чашніка гаспадзіну Валерыяну Кернажыцкаму за заслугі пажалаваны"*.

У Валяр'яна нарадзіліся два сыны: Аляксандр і двухіменны Іван-Антон. Аляксандр стаў стольнікам драгічыцкім, а Іван-Антон чашнікам рэчыцкім. Гэта было ўжо пятае калена роду Кернажыцкіх. Для нас яно цікавае тым, што ў Валяр'яна,

акрамя сыноў, была дачка Кацярына, якая стала жонкаю нашага Казіміра Пятровіча Забэлы, пра што я ўжо распавядаў*. Кацярына была прыхаджанкаю капыльскага касцёла, і звесткі пра яе мы знаходзім у метрычных кнігах гэтага храма, якія захаваліся да гэтага часу. З іх мы даведваемся, што Кацярына жыла ў засценку Дараговічы разам з бацькамі і сваякамі з роду Кернажыцкіх. Гэта ўсяго за некалькі кіламетраў ад маёнтка Крывое Сяло, дзе з даўніх часоў жылі прадстаўнікі роду Забэлаў. Ад шлюбу Казіміра Забэлы і Кацярыны нарадзілася чацвёра сыноў. У 1704 г. – Аляксандр-Хрызастом, у 1706 г. – Канстанцін, у 1708 г. – Уладзіслаў-Валяр'ян і ў 1710 г. – Людовік-Антоній. Сярод іх хрышчоных бацькоў узгадваецца сваячка Ефрасіння Кернажыцкая.

А цяпер вернемся да Гераніма-Міхаіла Сігізмундавіча, жонкай якога была Ганна Гейстар. Амаль праз дзвесце гадоў дзве галіны яго нашчадкаў перабраліся пад Слуцк, дзе жылі ў засценках Балотчыцы, Гарохаўка, Альшанка, Язвіла…

Іван Грыгор'евіч Кернажыцкі і Стэфанія Сцяпанаўна Кернажыцкая, якія паходзілі з гэтых галін роду, а таму былі далёкімі родзічамі, ажаніліся.

Гэта быў другі шлюб Івана Грыгор'евіча, ад якога нарадзілася трое дзяцей: Адам, Міхаіл і Дар'я. (У першым ён быў жанаты з Таццянай Сямёнаўнай Кернажыцкай і меў чацвёра дзяцей.)

Цікавы лёс старэйшага сына Івана і Стэфаніі Кернажыцкіх. Адам працаваў сельскім хатнім настаўнікам. Служыў на Балтыйскім флоце. У час Першай сусветнай вайны ў 1916 г. закончыў курсы ў электратэхнічным батальёне Петраграда і быў камандзіраваны ў штаб Галоўнага камандавання Паўночнай Арміі фронта. Пасля дэмабілізацыі працаваў пчалаводам, вядома, што адмоўна ставіўся да калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Яго жонкай была Марыя Іосіфаўна Малевіч.

Сын Адама і Марыі Валянцін – заслужаны настаўнік, выкладаў матэматыку, перад Айчыннай вайной вучыўся разам з маёй мамай Аляксандрай Міхайлаўнай Статкевіч у Слуцкім педвучылішчы. Працаваў дырэктарам школы, затым дырэктарам дзіцячага дома. Капітан Савецкай Арміі, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, быў узнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі і Айчыннай вайны, медалямі "За адвагу", "За ўзяцце Варшавы".

Пляменніца Адама, дачка яго сястры Дар'і, Валянціна была замужам за контр-адміралам Ваенна-Марскога флота СССР Іванам Іванавічам Папылёвым, чалавекам гераічнага лёсу, выдатным ваенным спецыялістам і камандзірам, які зрабіў значны ўнёсак у развіццё падводнага флоту і ў агульную перамогу над фашысцкай Германіяй.



**Валянцін Адамавіч Кернажыцкі.** 1945 г.

Валянціна Аляксандраўна і яе дачка Ала Іванаўна Грыгор'ева захавалі для нашчадкаў рукапісы, якія ляглі ў аснову кнігі "Из Полярного во Владивосток", выдадзеную ў Санкт-Пецярбургу ў 2007 г., пра якую варта сказаць некалькі слоў.

У кнізе апублікаваны дзённік Івана Іванавіча Папылёва, дзе распавядаецца пра незвычайна складаны паход у час вайны савецкіх падводных лодак з Каспійскага ў Баранцава мора амаль на вачах у ворага, а таксама пра паход падводных лодак у Англію па водах, усеяных мінамі. Старонкі гэтай кнігі – сапраўдны гістарычны дакумент.

Распавядаючы пра Кернажыцкіх, неабходна адзначыць, што Урадавы Сенат заўсёды зацвярджаў прадстаўнікоў гэтага вядомага роду ў старажытнай дваранскай годнасці з унясеннем у шостую частку дваранскай радаводнай кнігі. На схеме дваранскага роду Кернажыцкіх герба "Юноша" за 1856 г. запісаны 94 прадстаўнікі роду ў 10 пакаленнях.

У наш час няма ўжо вялікіх маёнткаў Уса, Ратамка, Кернажыцы, але ёсць *"нястомная праца і стараннасць у годнасці сваёй"*. Усе Кернажыцкія, якіх я ведаю, – годныя людзі, старанна працуюць на карысць Айчыны. Сапраўды, не золатам, не срэбрам славіцца чалавек, а сваім талентам, майстэрствам. Душа чалавека – у яго справах. Так было і будзе заўсёды – сёння і ў далёкім заўтра…

*Пераклад з рускай мовы.*

*Працяг будзе.*

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

* Гл. артыкул «Забэлы герба "Тапор"» **Анатоля Статкевіча-Чабаганава**, які друкаваўся ў № 8 за 2010 г.

Алена САЛАМЕВІЧ

# АДУКАЦЫЯ НА ВАЛОЖЫНШЧЫНЕ

## ПАЧАТАК СТВАРЭННЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ШКОЛЫ

Паводле гістарычных крыніц, адукацыя на тэрыторыі сучаснай Валожыншчыны бярэ пачатак з XVI ст.: тады ў Івянцы дзейнічала школа [1, с. 469]. У 1681 г. у Валожыне маршалак надворны Юзаф Багуслаў Служка заснаваў касцёл і кляштар бернардзінцаў, пры якім была школа, а ў 1806 – 1892 гг. працавала яўрэйская духоўная акадэмія (ешыбот), дзе вучыліся студэнты не толькі з Расійскай імперыі, але і з Англіі, Сірыі, іншых краін [2, с. 211]. Дзякуючы руплівасці графа Іахіма Храптовіча ў Вішневе з 1775 г. працавала павятовая свецкая школа, у якой у 1782 г. налічвалася 86 вучняў, у 1804/1805 навучальным годзе – 48 [3, с. 342].

Яшчэ да канца 1850-х гг. духавенства Літоўскай епархіі імкнулася па магчымасці далучаць да вучобы і сялянскіх дзяцей. Так, 3 верасня 1859 г. быў выдадзены ўказ Сінода аб утварэнні пры цэрквах вучылішчаў для дзяцей сялян. “Літоўскія епархіяльныя ведамасці” адзначалі, што нейкі час сяляне з недаверам глядзелі на карысць асветы, а тыя, хто выступаў супраць праваслаўя, бачылі ў пісьменнасці, якую распаўсюджвала духавенства, “разрушительный удар для своих антинациональных замыслов и незаконных стремлений” [4, с. 294]. Тым не менш да 8 лістапада 1860 г. у Віленскай і Гродзенскай губернях было адкрыта 175 прыходскіх вучылішчаў, у 1862 г. іх было ўжо 290, а на 1 красавіка 1863 г. іх колькасць складала 323, 245 з якіх утрымлівалася самім духавенствам, 78 – духавенствам пры дапамозе Міністэрства народнай асветы. Такім чынам, паводле звестак на 1 красавіка 1863 г., на тэрыторыі сучаснай Валожыншчыны працавалі прыходскія вучылішчы: у Валожыне (займалася 47 хлопчыкаў; адкрыта святаром Адамовічам, змяшчалася ў памяшканні бернардзінскага кляштара), Славенску (32 хлопчыкі, 3 дзяўчынкі; адкрыта святаром Арлоўскім, змяшчалася ў царкоўным доме), Вішневе (39 хлопчыкаў, 3 дзяўчынкі; адкрыта святаром Арлоўскім, змяшчалася ў доме дваранскай управы), Забрэззі (7 хлопчыкаў; адкрыта святаром Марозам, змяшчалася ў доме святара), Гародзьках (7 хлопчыкаў; адкрыта святаром Трацэўскім, змяшчалася ў доме дзяка), Дубіне (8 хлопчыкаў; адкрыта святаром Ражановічам), Даўбені (5 хлопчыкаў; адкрыта святаром Ержыкоўскім, змяшчалася ў доме селяніна), Яршэвічах (30 хлопчыкаў, 7 дзяўчынак; адкрыта святаром Траянам, змяшчалася ў царкоўным доме) [4, с. 294 – 297].

З пачатку 1860-х гг., калі было зацверджана “Палажэнне аб пачатковых народных вучылішчах”, гэтыя ўстановы адкрываліся ў многіх населеных пунктах Ашмянскага павета (палова тэрыторыі Валожынскага раёна ўваходзіла ў яго склад) і ў 1864 г. афіцыйна атрымалі статус прыходскіх вучылішчаў [5, с. 292].

Народныя вучылішчы ў залежнасці ад узроўню фінансавання былі аднакласныя і двухкласныя, але адзін клас адпавядаў не аднаму году навучання, як цяпер, тэрмін навучання быў роўны 3-4 гадам для аднакласных вучылішчаў і 5-6 гадам – для двухкласных. Выкладаліся Закон Божы, руская мова, арыфметыка, царкоўныя спевы, рамёствы і рукадзелле [5, с. 293]. У двухкласных дадаваліся яшчэ гісторыя, асновы геаметрыі, чарчэння, прыродазнаўства, гімнастыка, садаводства, паляводства, агародніцтва [6, с. 220]. Паводле інфармацыі з газеты “Наша Ніва”, у Гародзьках да Першай сусветнай вайны “заўсёды была двухкласная пачатковая школа”, г. зн. вучылішча [7, с. 4].

З пачатку 1891 г. Гародзькаўская валасць была перайменавана ў Забрэзскую: Памятная кніжка Віленскай дырэкцыі народных вучылішчаў на 1892/1893 навучальны год стала даваць пералік тых жа народных вучылішчаў Забрэзскай валасці, якія раней адносіліся да Гародзькаўскай [8, с. 4], а ў Памятнай кніжцы Віленскай губерні на 1892 г., выдадзенай у 1891-м, апрача шматразовага ўжывання новай назвы валасці, сустрэлася (памылкова) і яе ранейшае найменне. У 1920-я гг., калі землі Заходняй Беларусі ўвайшлі ў склад Польшчы, Забрэзская валасць стала называцца гмінай.

У канцы XIX ст. у Валожынскай валасці сталі працаваць двухкласная царкоўнапрыходская школа ў мястэчку Валожыне (1883), школы граматы ў валожынскім Канстанціна-Аленінскім прыходзе: у вёсках Мінцы (1882), Жураўцы (1884), Чартовічы (1885), Улазавічы (1889); крыху пазней адкрыты школы граматы ў валожынскім Іосіфаўскім прыходзе: у вёсках Рум (1898), Саланая (1898), Александрова (1900). У Забрэзскай валасці: аднакласныя царкоўнапрыходскія школы адкрыліся ў Лоску (1886), Дубіне (1889),

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 2.*

Славенску (1901), а таксама школы граматы ў лоскім прыходзе: у Кашчэлічах (1891), Крыўску (1895), Рымпелях (1900), Слабадзе (1901); у забрэзскім прыходзе: у Вялікай Дайнаве (1895), Малой Дайнаве (1896); у славенскім прыходзе: у Замасцянах (1901); у гародзькаўскім прыходзе: у Вялікім Запруддзі (1894), Лістападах (1894), Малым Запруддзі (1899), Гарадзечне (1900), Ганькавічах (1901); у дубінскім прыходзе: у Лужанах (1897), Кібутах (1898), Рачанятах (1900), Маршалках (1901) [9, с. 218]. У Вішневе, акрамя народнага вучылішча, таксама працавала аднакласная царкоўнапрыходская школа (з 1897 г.) [9, с. 218].

Выкладанне ўсіх прадметаў у гэтых навучальных установах вялося на рускай мове, бо Валожыншчына, як і ўся тагачасная Беларусь, была часткай Расіі. Андрэй Лабановіч, герой аўтабіяграфічнай трылогіі "На ростанях" Якуба Коласа, працаваў у такой жа рускамоўнай пачатковай школе на Палессі. Колас, паказваючы, як малады настаўнік стараўся наладзіць работу ў школе, пісаў, чаму так складана арганізаваць навучальны працэс: "Усе тыя спосабы, якія так гладка і проста апісаны ў методыках, часта зусім не падыходзілі і не адпавядалі ўмовам школы, трэба было тут жа выдумляць іх самому. А колькі часу прыходзілася траціць на тое, каб дастасаваць мову дзяцей да кніжнае мовы! І колькі смешных і непажаданых выпадкаў вынікала на грунце гэтага непаразумення ў школе, дзе мова мацеры зневажаецца і забіваецца!" [10, с. 54].

Настаўнікі-беларусы былі абмежаваны ў сваіх правах. За актыўную палітычную дзейнасць маглі быць звольнены з працы (успомнім нелегальны настаўніцкі з'езд у 1906 г.), яны не мелі магчымасці выпісваць тыя перыядычныя выданні, якія іх цікавілі. Безумоўна, у тагачаснай Расіі было шмат часопісаў для настаўнікаў, напрыклад, у 1910 г. выходзілі "Белорусский учительский вестник", "Русская школа", "Семья и школа", "Народный Учитель", "Народное образование" і іншыя, але ўсе яны былі рускамоўныя і рыхтавалі да працы ў рускай школе. Праўда, "Белорусский учительский вестник" у 1910 г. даваў аб'яву пра падпіску і на першую беларускамоўную газету "Наша Ніва". Апошняя ў 1913 г. пісала, што «дагэтуль цыркулярамі было забаронена "Нашу Ніву" выпісываць і чытаць усім вучыцелям Віленскага Вучэбнага Округа, усім бацюшкам, усім пачтовым чынам, усім паліцэйскім чынам, усім валасным чынам, а цяпер забаранілі… вучням Варанецкай сельска-гаспадарчай школы» [11, с. 3]. Зразумела, чаму яна была забароненай для настаўнікаў: на яе старонках уздымалася і праблема навучання на Беларусі, якой патрэбна была нацыянальная школа. Антон Луцкевіч у 1912 г. у артыкуле "Думкі аб школьнай справе" пісаў, што "чужая мова забівае дзіцячую думку", што кожны народ думае па-свойму і школа не павінна знішчаць нацыянальную псіхіку [12, с. 3].

Памятная кніжка Віленскай губерні на 1869 г. дае спіс прыходскіх святароў і пералічвае ўзнагароды, якія яны мелі, многія з іх працавалі ў народных вучылішчах і выкладалі калі не ўсе прадметы, то хоць бы Закон Божы. Якія ж гэта былі ўзнагароды? Святары праваслаўных храмаў Аўгусцін Віторскі (Гародзькі), Ігнацій Мароз (Забрэззе), Філарэт Арлоўскі (Славенск), Ігнацій Лісецкі (Даўбені), Пётр Дарашэўскі (Лоск), Іосіф Ражановіч (Дубіна), Антоній Адамовіч (Валожын) і многія іншыя мелі медалі ў памяць вайны 1853 – 1856 гг. і ў памяць уціхамірвання польскага мяцяжу 1863 – 1864 гг. Так што тагачасныя настаўнікі царкоўнапрыходскіх школ і народных вучылішчаў падтрымлівалі (ці павінны былі падтрымліваць) палітыку дзяржавы. Пра поспехі вучняў навучальных устаноў у праваслаўных выданнях гаварылася ў кантэксце з іншымі гістарычнымі фактамі. Напрыклад, "Літоўскія епархіяльныя ведамасці" 31 сакавіка 1864 г. напісалі, як грамадскасць (напэўна, больш само духавенства) цешылася з царкоўных спеваў хлопчыкаў Вішнеўскага народнага вучылішча падчас асвячэння часовай праваслаўнай царквы, выказвала падзяку настаўніку Івану Пігулеўскаму, што навучыў дзетак спяваць праваслаўныя песні, падкрэсліваючы важнасць гэтага моманту пасля нядаўняга гучання ў краі песень паўстанцаў [13].

Як ішоў працэс стварэння нацыянальнай школы на Беларусі, калі былі адкрыты беларускія школы на тэрыторыі сучаснай Валожыншчыны і непасрэдна ў маіх родных Гародзьках? Часткова адказ на гэтыя пытанні прагучаў у артыкуле "Беларускі кнігар" (часопіс "Куфэрак Віленшчыны") маладзечанскага даследчыка Міхася Казлоўскага (пазней артыкул увайшоў у яго кнігу "Галасы разбуджаных птушак"). Аўтар паведаміў пра тое, чаго мы, гародзькаўцы, на наш сорам, не ведалі: дзякуючы Міхасю Ануфрыевічу Станкевічу 10 мая 1920 г. у Гародзьках была адкрыта беларуская школа. Міхась Станкевіч вучыўся на настаўніцкіх курсах у Вільні летам 1921 г., а калі вярнуўся з іх, працягваў працу ў школе. "Стварае беларускі культурна-асветны гурток… арганізоўвае моладзь, ставіць спектаклі, распаўсюджвае беларускую кнігу і газету… Зусім нечакана для Станкевіча загадам Валожынскага старосты ад 20 чэрвеня 1923 года была зачынена і беларуская школа ў Гародзьках, якую ён стварыў і ў якую ўклаў столькі намаганняў" [14, с. 279 – 280]. Прыемна, што быў у нас сапраўдны

адраджэнец, які на працягу трох гадоў працаваў у беларускай школе. З 1926 г. ён меў у Маладзечне сваю кнігарню. На жаль, у канцы 1930-х гг. Міхася Станкевіча і яго сям'ю не абышла хваля палітычных рэпрэсій.

Звесткі М. Казлоўскага настолькі зацікавілі мяне, што я вырашыла звярнуцца ў архівы і знайсці яшчэ больш інфармацыі пра школу ў Гародзьках. Хацелася стварыць летапіс школы, каб гэтым аддаць даніну павагі сваёй першай навучальнай установе, у якой да выхаду на пенсію працавалі і мае бацькі. У школьным музеі, на жаль, падрабязных звестак пра навучанне ў дакастрычніцкі і польскі перыяды няма.

Заставаліся яшчэ некаторыя пытанні. А чым была адметная дзейнасць настаўніка Міхася Адамавіча Станкевіча? Чым вызначыўся Міхась Восіпавіч Станкевіч, якога як свядомага беларуса па рэкамендацыі Янкі Станкевіча накіравалі на вучобу ў Чэхію, але які пасля пераезду спачатку ў Савецкую Беларусь, а потым у Расію, быў арыштаваны і расстраляны за "сувязь з замежжам", г. зн. з Беларуссю, у 1938 г.? Ці зрабілі што-небудзь гэтыя людзі для стварэння нацыянальнай школы, для адраджэння нашай Бацькаўшчыны? Безумоўна, зрабілі. І разабрацца ў дзейнасці кожнага з іх стала магчымым толькі пасля карпатлівага аналізу і параўнання ўсіх фактаў і звестак, зверкі па архіўных матэрыялах почыркаў кожнага з Міхасёў, аповедаў і пісьмаў іх дачок. Знойдзена інфармацыя не толькі пра ўсіх трох Міхасёў Станкевічаў з Гародзькаў (у адным дакуменце сустрэўся і Міхась Станкевіч, сын Пятра), але і пра многіх іншых настаўнікаў, якія разам рабілі агульную справу – змагаліся за права беларусаў мець сваю нацыянальную школу.

Даследаванне вялося ў асноўным па Забрэзскай гміне Валожынскага павета, аднак мы не абыдзем увагай тых асоб з суседніх мясцовасцей, чые імёны ў архіўных дакументах сустракаліся часта, якія зацікавілі сваімі ўчынкамі… Тым больш што многія настаўнікі не заўсёды працавалі ў адной школе, на тэрыторыі адной гміны. Іх дзейнасць мела больш шырокія межы: была цесна звязана з цэнтрам павета Ашмянамі, з Вільняй, дзе знаходзілася Беларуская цэнтральная школьная рада, з Валожынам, цэнтрам павета ў польскі перыяд.

13 лістапада 1915 г. у Вільні на акупаванай немцамі тэрыторыі была адкрыта першая беларуская навучальная ўстанова [15, с. 11]. Вельмі многа ў справе арганізацыі беларускіх школ зрабіла Алаіза Пашкевіч (Цётка), а каб падрыхтаваць настаўнікаў, намаганнямі яе і братоў Луцкевічаў у Вільні былі адчынены трохмесячныя курсы, на якіх вучылася 22 асобы. Кіраўніком курсаў і выкладчыкам на іх быў Б. Пачобка, выкладалі таксама браты Луцкевічы, Юльяна Менке (Вітан-Дубейкаўская) і інш. [16, с. 3].

Падзеі Першай сусветнай вайны, безумоўна, не маглі спрыяць адукацыі ў прыфрантавой паласе. Па тэрыторыі сучаснага Валожынскага раёна якраз прайшла лінія фронту, Гародзькі і наваколле былі заняты расійскімі войскамі, у Вішневе знаходзілася лінія нямецкай абароны. Многія настаўнікі былі прызваны ў войска. Навучальныя ўстановы эвакуіраваліся, як, напрыклад, Маладзечанская настаўніцкая семінарыя, якая працавала далей ад фронту, у Смаленску.

Яшчэ ў 1915 г. А. Луцкевіч у "Нашай Ніве" пісаў, што ў цяжкі для краіны час патрэбна ўзаемадапамога, "экономічная самапомач", якая можа рэалізавацца праз кааператывы, хоць і прагназаваў, што гэтая работа па-сапраўднаму закіпіць пасля вайны [17, с. 1].

У лютым 1919 г. у Гародзьках арганізаваны кааператыў "Надзея", заснавальнікамі якога сталі Міхась Адамавіч Станкевіч, Восіп Станкевіч, Леў Станкевіч, Ануфрый Станкевіч, Міхал Клакевіч, Аляксандр Канапелька, Якаў Сівец. Старшынёй быў Міхась Станкевіч, скарбнікам – А. Станкевіч, сакратаром – Емяльян Сівец [18]. Статут таварыства засведчаны Мінскім саветам народнага гаспадарства 20 чэрвеня 1919 г., а з прыходам польскай улады – пасланы ў Віленскае аддзяленне, якое выдала штэмпель і пячатку. Пра гэта паведамляе дакумент, напісаны рукой старшыні таварыства М. Станкевіча [19].

Кааператыўнае таварыства мела на мэце: забеспячэнне членаў кааператыва рознымі прадметамі спажывання, садзейнічанне зберажэнням членаў шляхам прыёму ад іх укладаў, паляпшэнне дабрабыту і духоўнае развіццё сваіх членаў. Дзеля гэтага таварыства мела права весці гандаль, а таксама прыходзіць на дапамогу сваім членам шляхам уладкоўвання жылля, лячэбніц, калоній для дзяцей, **адчыняць школы, бібліятэкі, чытальныя народныя дамы і іншыя асветныя ўстановы** (вылучана намі. – ***А. С.***), выпускаць перыядычныя выданні [20]. Спажывецкія таварыствы былі ўтвораны і ў суседніх вёсках: "Еднасць" у Забрэззі [21], "Выгада" ў Вялікім Запруддзі [22].

Якраз у гэты час, калі толькі стала аднаўляцца гаспадарка і культурнае жыццё рэгіёна, і прыехаў у нашы мясціны Янка Купала, які гаварыў на сустрэчы з настаўнікамі і дзецьмі пра адраджэнне нашай Бацькаўшчыны і стварэнне школы на роднай мове*.

*Працяг будзе.*

*Пра наведванне Валожыншчыны ў 1919 г. Янкам Купалам **Алена Саламевіч** распавядала ў першай публікацыі аўтарскага цыкла "Натхнёныя Купалам" (2010, № 7).

**Спіс літаратуры**

1. **Батвіннік, М.** Івянец / М. Батвіннік, В. Шаблюк // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. [далей : ЭГБ]. – Мінск : БелЭн, 1996. – Т. 3.

2. **Батвіннік, М.** Валожын / М. Батвіннік, В. Шаблюк // ЭГБ. – Мінск : БелЭн, 1994. – Т. 2.

3. **Батвіннік, М.** Вішнева / М. Батвіннік // ЭГБ. – Мінск : БелЭн, 1994. – Т. 2.

4. **Литовские епархиальные ведомости.** – 1863. – № 9. – 15 мая.

5. **Самусік, А.** Народныя вучылішчы / А. Самусік // ЭГБ. – Мінск : БелЭн, 1999. – Т. 5.

6. **Сянькевіч, Г.** Двухкласныя пачатковыя вучылішчы / Г. Сянькевіч // ЭГБ. – Мінск : БелЭн, 1996. – Т. 3.

7. **Наша Ніва.** – 1920. – № 9. – 20 снеж.

8. **Памятная книжка Виленской Дирекціи народныхъ училищъ на 1892/93 учебн. годъ.** – Вильна, 1892.

9. **Виленская губернія.** Полный список населенных мест со статистическими данными о каждом поселении, составленный по официальным сведениям І. І. Гошкевичем. – Вильна : Губернская типография, 1905.

10. **Колас, Я.** Збор твораў : у 14 т. / Я. Колас. – Мінск, 1975. – Т. 9.

11. **Наша Ніва.** – 1913. – № 23. – 7 чэрв.

12. **а-н-а.** Думкі аб школьнай справе / а-н-а // Наша Ніва. – 1912. – № 11. – 15 (28) сак.

13. **Литовские епархиальные ведомости.** – 1864. – № 6. – 31 марта.

14. **Казлоўскі, М.** Галасы разбуджаных птушак : гістарычна-біяграфічныя нарысы, роздумы над кнігамі, літаратурныя партрэты / М. Казлоўскі. – Мінск : Логвінаў, 2006.

15. **Вабішчэвіч, А. М.** Асвета ў Заходняй Беларусі (1921 – 1939) : манаграфія / А. М. Вабішчэвіч; Брэст. дзярж. ун-т. – Брэст : Выд-ва БрДУ, 2004.

16. **Вітан-Дубейкаўская, Ю.** Беларускае школьніцтва (1915 – 1919) / Ю. Вітан-Дубейкаўская // Беларус. – 1982. – № 300.

17. **а-н-а.** Чаго вучыць вайна? / а-н-а // Наша Ніва. – 1915. – № 24. – 19 чэрв.

18. **Занальны архіў у Маладзечне.** – Ф. Р4. – Воп. 1. – Зв. 1. – Спр. 36. – Арк. 019.

19. **Занальны архіў у Маладзечне.** – Ф. Р4. – Воп. 1. – Зв. 1. – Спр. 36. – Арк. 002.

20. **Устав Городьковского Кооперативного общества потребителей Забрезской волости Ошмянского уезда** // Занальны архіў у Маладзечне. – Ф. Р4. – Воп. 1. – Зв. 1. – Спр. 36. – Арк. 003 – 004.

21. **Занальны архіў у Маладзечне.** – Ф. Р4. – Воп. 1. – Зв. 1. – Спр. 44. – Арк. 002.

22. **Занальны архіў у Маладзечне.** – Ф. Р4. – Воп. 1. – Зв. 3. – Спр. 97. – Арк. 030.

*З гісторыі музыкі*

# МУЗЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ БЕЛАРУСІ КАНЦА XIX – ПАЧАТКУ XX ст.

## КАЛЯ ВЫТОКАЎ ЖАНРАЎ ВАКАЛЬНАЙ ЭСТРАДЫ

Тэма артыкула – гісторыя ўзнікнення і першага этапу развіцця вакальнага эстраднага жанру ў музычным мастацтве Беларусі. Акрэсліваюцца шляхі фарміравання першых формаў эстраднай культуры, якія нарадзіліся ў сімбіёзе нацыянальных і замежных, прафесіянальных і народных традыцый, напрамкі распаўсюджання жанраў вакальнага эстраднага мастацтва. Адзначаецца цесная ўзаемаабумоўленасць грамадска-сацыяльнай аўдыторыі і развіцця структуры эстрадных жанраў.

Вакальнае эстраднае мастацтва належыць да ліку самых яркіх праяў сучаснай музычнай культуры. Дзякуючы сродкам масавай інфармацыі і камунікацыі яно заняло дамінантнае месца ў культурным жыцці людзей усіх узростаў і зацікаўленасцей. Між тым у беларускім мастацтвазнаўстве тэма вакальнага эстраднага жанру амаль не распрацавана. Па-за ўвагай даследчыкаў апынуліся і пытанні гісторыі зараджэння першых формаў эстраднага мастацтва на Беларусі. Сістэмнае вывучэнне тэорыі і гісторыі вакальнай эстрады патрабуе паглыблення ў вірлівую і супярэчлівую культуру другой паловы XIX ст., дзе на перасячэнні розных культурных з'яў фарміравалася будучая папулярная песня.

Мэтай даследавання ў дадзеным артыкуле з'яўляецца агляд гісторыі ўзнікнення і першага этапу развіцця вакальнага эстраднага жанру ў асяроддзі музычнай і музычна-народнай культуры з другой паловы XIX ст. да 1917 г.

Даследаванне грунтуецца на вывучэнні літаратуры, архіўных дакументаў і перыядычнага друку сярэдзіны XIX – пачатку XX ст., дзякуючы якім стала магчымым перагледзець многія памылковыя ўяўленні пра станаўленне вакальнага эстраднага жанру на Беларусі, бо гісторыя песенных жанраў цесна звязана з паўсядзённым жыццём, падзеямі і настроямі часу і па-свойму выступае ілюстрацыяй дзяржаўнай палітыкі розных гістарычных фармацый.

“Піянерам” вывучэння музычнай культуры Беларусі дарэвалюцыйнага перыяду стаў А. Мальдзіс – аўтар легендарнай кнігі “Падарожжа ў XIX стагоддзе: з гісторыі беларускай літаратуры, мастацтва і культуры”. Услед за ім даследаванню невядомых старонак беларускай культуры прысвяцілі свае працы мастацтвазнаўцы В. Антаневіч, В. Дадзіёмава (музычная творчасць), Г. Барышаў (тэатр), В. Пракапцова (музычная адукацыя), А. Ахвердава і А. Капілаў

(музычнае выканальніцкае мастацтва, канцэртна-гастрольнае жыццё), Т. Шчарбакова (побытавая музыка), Н. Юўчанка (музыка ў драматычным тэатры), Т. Ліхач (музыка царквы).

Грунтоўныя даследаванні гэтых аўтараў пераважна факусіраваліся на вытоках прафесійных формаў мастацтва, але лакальна акрэслівалі і абставіны нараджэння эстрадных жанраў. Для больш яркага ўяўлення пра іх можна звярнуцца да работ, у якіх асвятляецца сацыяльна-культурнае і забаўляльнае жыццё беларускіх гарадоў. Так, музычнае жыццё магілёўскіх паркаў, рэстаранаў, кінематографа, прафесійнае і аматарскае музіцыраванне разглядаюцца ў дысертацыі В. Марозавай "Музыкальная культура Могилева XIX – начала XX века", жыццё Мінска – у даследаваннях З. Шыбекі, А. Шэдавай, артыкулах А. Калеснік, І. Ліпай. З выкладзеных у іх фактаў збіраецца багатая карціна культурнага жыцця Беларусі другой паловы XIX ст., дзе цесна спляліся самыя розныя формы нацыянальных і замежных, прафесійных і народных традыцый.

Сярэдзіна XIX стагоддзя – час бурнага навукова-тэхнічнага прагрэсу, эканамічных і сацыяльна-палітычных пераўтварэнняў. Адмена прыгоннага права, развіццё прамысловасці, індустрыялізацыя і ўрбанізацыя аказалі вялікі ўплыў на развіццё ўсіх сфер жыцця чалавека, у тым ліку культуру і мастацтва. Асабліва важным фактарам інтэнсіфікацыі культурных стасункаў стала будаўніцтва чыгункі на тэрыторыі Расійскай імперыі, што ахапіла ў тым ліку Віленскую, Віцебскую, Мінскую і Магілёўскую губерні. Да пачатку XX ст. Беларусь мела вялікую чыгуначную сетку працягласцю 2837 вёрстаў. Хуткасць і зручнасць перамяшчэння дазволілі артыстам з Масквы, Варшавы, Кіева, Санкт-Пецярбурга гастраляваць па беларускіх гарадах і мястэчках.

Другім фактарам камунікацыі стала развіццё друкаванай прэсы. Кожны павятовы горад Беларусі меў сваю газету. У другой палове XIX – пачатку XX ст. выходзяць такія правінцыйныя гарадскія газеты, як "Мінскія губернскія ведамасці", "Магілёўскія губернскія ведамасці", "Магілёўскі веснік", "Дзень", "Мінскі голас", "Рабочы", "Віцебскае слова", на тэрыторыі Беларусі распаўсюджваюцца часопісы "Маскі", "Штогоднік імператарскіх тэатраў", штомесячныя літаратурныя і папулярна-навуковыя дадаткі "Ніва", "Голас жыцця" і "Шалі". У газетах, акрамя палітычных, сацыяльных і эканамічных падзей, асвятлялася таксама культурнае жыццё правінцыйных гарадоў, распавядалася пра гастролі артыстаў і тэатральных калектываў, мясцовыя культурныя мерапрыемствы. Прэса адыграла значную ролю ў пашырэнні ўзроўню культуры гарадоў і мястэчак Беларусі.

Рост гарадскога насельніцтва за кошт вызваленых ад прыгоннага права сялян, павелічэнне адукаванага купецтва, збядненне дваранства – усе гэтыя і іншыя фактары, прааналізаваныя ў гістарычных, этнаграфічных і мастацтвазнаўчых даследаваннях, радыкальна відазмянілі склад глядацкай аўдыторыі і яе густы. Глядач новага, разначыннага, саслоўя запатрабаваў відовішчаў і, што немалаважна, разнастайнасці іх формаў. Так з'яўляліся – адначасова з попытам на іх – самыя розныя формы забаўляльных прадстаўленняў, ад традыцыйнага канцэрта да цырка, фокусаў, эксцэнтрыяды.

Перадумовай крышталізацыі вакальных эстрадных жанраў стаў дывертысмент – маленькі канцэрт, складзены з вакальных і харэаграфічных нумароў. У канцы XVIII – пачатку XIX ст. такія канцэрты звычайна даваліся на сцэнах імператарскіх тэатраў пасля завяршэння драматычных ці оперна-балетных спектакляў. У прыватнаўласніцкіх тэатрах Беларусі практыкаваліся аб'яднаныя дывертысментныя праграмы, у склад якіх уваходзілі оперныя арыі і балетныя нумары, а таксама народныя песні ў выкананні сялян. Хутка дывертысмент стаў самастойнай формай сцэнічнага мастацтва. Для яго спецыяльна ствараліся музычна-танцавальныя кампазіцыі з выкарыстаннем элементаў святочнай народнай абрадавасці, сюжэтаў з казак і балад [1].

На перакрыжаванні аўтэнтычнай сялянскай культуры і тэатральнага дывертысменту нарадзілася дэмакратычная традыцыя вечарынак. На самых розных вечарынках у пачатку XX ст. выконваўся шэраг беларускіх народных песень, гарадскія, цыганскія, бытавыя рамансы, паказваліся сцэнкі з народнага жыцця.

І ў пачатку XX ст. дывертысментныя паказы ўсё яшчэ ставіліся на сцэнах імператарскіх тэатраў, у іх бралі ўдзел вядучыя артысты оперы, аперэты, драмы. Але ў дні Вялікага посту ці Масленіцы, калі казённыя тэатры былі зачынены, гэтыя паказы пераносіліся ў іншыя месцы, часта ў прыватныя дамы багатых людзей. На такіх імпрэзах нярэдка выступалі спевакі з народа. Яркія афішы паведамлялі пра месца правядзення канцэртаў. У газетах размяшчаліся аб'явы падобнага зместу*: «В городском театре товарищество русско-малорусских опереточно-драматических артистов под управлением А. А. Кравченко и Н. А. Кучеренко дадут "Бенефис артиста", 1.04.11. в бенефисе режиссера распорядителя труппы А. А. Кравченко представлена пьеса "За голод и холод". В заключение большой разнохарактерный "Дивертисмент"» ("Могилевский вестник", 1911 г., № 205, 4 кастрычніка).

* Тут і далей тэксты аб'яў з газет даюцца на мове арыгіналу.

Менавіта спевакі з народа прыўносілі ў канцэртны дывертысмент каларыт народнай мудрасці, непаўторнасць падачы песні. Такія выступленні часта праводзіліся для ўвесялення беларускай шляхты. Народныя артысты выконвалі самыя розныя песні: лірычныя, танцавальныя, жартоўныя і інш. Цікавасць да народнай культуры была ў многім выклікана забаронамі на афіцыйныя канцэртныя выступленні народных спевакоў на сцэнах грамадскіх тэатраў, таму палацы знаці былі для іх адчынены.

Такім чынам, падмуркам вакальнай эстрады можна лічыць з'яўленне попыту на сінтэтычныя формы канцэртных прадстаўленняў, якія былі прызваныя задаволіць культурныя патрэбы шырокага сацыяльнага кола публікі. Як вынікае, на фарміраванне глядацкага попыту ў значнай ступені паўздзейнічала шматгранная народная песенная культура, дзе вылучаліся як калектыўныя, так і індывідуальна-аўтарскія ці сольныя спосабы падачы песні.

Не меншую значнасць набыла і прафесіяналізацыя музычнага мастацтва Беларусі і Расіі канца XIX ст., калі публіцы было ўжо мала ярмарачных, народных святочных формаў увесялення (яны мелі распаўсюджанне ў асноўным сярод сялян і дробнай шляхты), а дывертысменты з разнастайнымі нумарамі задавальнялі эстэтычныя густы больш патрабавальнай публікі. Неабходна адзначыць, што дывертысменты не толькі актывізавалі працэс станаўлення вакальнага жанру як самастойнага віду музычнага мастацтва, але і праклалі шлях да ўзнікнення новага песенна-рамансавага стылю, у якім перакрыжаваліся народныя традыцыі і сучасныя тэндэнцыі. У прадстаўленні такога кшталту маглі злучацца ўзоры народнай песеннай культуры, опернай музыкі, балета і характарнага танца, аперэты, бытавога, салоннага раманса. А запазычаныя эстрадныя формы (кабарэ, вар'етэ і інш.) мастацтва Заходняй Еўропы XIX ст. служылі прыкладам для фарміравання ўласнабеларускіх эстрадных формаў мастацтва.

Драматычныя і імператарскія тэатры садзейнічалі развіццю і сцвярджэнню яшчэ аднаго жанру – так званай музычнай мазаікі – найбліжэйшай сваячкі аперэты.

У Беларусі аперэту выконвалі тэатры, якія прыязджалі на гастролі. Напрыклад, у Гарадскім тэатры Маскоўская аперэта дэманстравала "Тайну гарэма" (кампазітар В. Валянцінаў), "Мартына Рудакопа" (кампазітар К. Цэлер), "Вясёлую ўдаву" (кампазітар Ф. Легар) і інш. На хвалі папулярнасці аперэты жанр музычнай мазаікі ў многім прадвызначыў рэпертуар аперэтачных тэатраў, а потым і садова-паркавай і канцэртнай эстрады, дзе шырока выкарыстоўваліся сольныя выкананні песень.

Музычную мазаіку напісаў для свайго бенефісу А. Нільскі разам з драматургам і перакладчыкам М. Куліковым. Прэм'ера пастаноўкі "Рускія рамансы ў асобах" прайшла на сцэне Александрынскага тэатра ў 1877 г. Пазней М. Кулікоў стварыў "Цыганскія песні ў асобах", пастаноўка якіх адбылася ў 1878 г.

Адзін з выканаўцаў модных рамансаў у аперэтачнай мазаіцы "Цыганскія песні ў асобах" А. Давыдаў складаў сваю «канцэртную праграму цалкам з гэтых у цэлым мілых, але несур'ёзных песенак. Пасля з'яўлення Сашы Давыдава публіка са здзіўленнем убачыла, што, аказваецца, калі прыходзіш у тэатр, можна цэлы вечар слухаць "Хрызантэмы", "Сляза мой погляд туманіць", "Сэрца маё баліць" і інш.» [5]. Аднак ні адзін з артыстаў у той час не складаў сваю канцэртную праграму толькі з рамансаў.

Да пачатку XX ст. у канцэртных залах прадстаўляліся ўсемагчымыя жанры эстрадных праграм: дывертысмент, вар'етэ, сольны канцэрт, дзе маглі гучаць оперныя і аперэтачныя арыі і сцэны, цыганскія, рускія, гарадскія рамансы і інш. Розныя вакальныя жанры складаліся ў музыкальную мазаіку, якая была вельмі папулярнай у шматлікіх забаўляльных установах Мінскай, Магілёўскай, Віленскай, Гродзенскай, Палескай губерній. Менавіта вакальны жанр музычнай культуры спрыяў узнікненню і сцвярджэнню эстраднага мастацтва. Ён узаемадзейнічаў з фальклорам, аперэтай, операй, драматычнымі спектаклямі і такім чынам стаў заўважным, пераўтварыўся ў самастойны від дзейнасці – вакальную эстраду.

Своеасаблівымі цэнтрамі эстраднага канцэртнага жыцця былі канцэртныя залы рэстаранаў. У газеце "Мінскі голас" чытаем наступныя рэкламныя аб'явы:

«*В Минске при ресторанах "Брюссель" на Захарьевской улице грандиозные концерты и дивертисменты при участии интернациональных столичных артистов, каждые 15 дней новая первоклассная программа, режиссёр С. И. Купришевский*» ("Минский голос", № 452, 30.04.1911 г.);

«*Открывается ресторан "Бристоль", в программе концертное струнное трио, а также ежедневно концерты-варьете при участии оперного тенора г-на Нежданова, оперной немецкой и русской певицы госпожи Гумани, шансонетной певицы госпожи Нюсиной, известного автора куплетиста-юмориста г-на Войцеховского, бальной танцовщицы Тамариной, шансонетной певицы г-жи Волгиной*» ("Могилевский вестник", № 243, 22.11.1911 г.).

Падобныя паведамленні дэманстравалі змешванне жанраў у канцэртнай праграме, калі побач выступалі оперныя спевакі, напрыклад

цыганскі хор, які ўвогуле быў вельмі папулярны ў той час. Так, спецыяльна для ўдзельнікаў цыганскага хору І. Сакалова музыканты-дылетанты з дваранскай моладзі напісалі рамансы, якія адкрылі ім дарогу ў прафесійнае мастацтва. Музычнае афармленне гэтых рамансаў набліжалася да цыганскай манеры выканання з захаваннем ладу "адукаванай" музыкі. Паступова ў рэпертуары хору І. Сакалова пачалі пераважаць рускія народныя песні і рамансы рускіх кампазітараў, асаблівасцю спеўна-выканаўчага стылю калектыву стаў цыганскі мелас. Знакамітыя оперныя спевакі з вялікай цікавасцю ставіліся да падобнай творчасці, многае пераймаючы для свайго рэпертуару.

Рэстараны, якія прапаноўвалі наведвальнікам эстрадныя праграмы, атрымалі назву кафэшантанаў. Зразумела, прыцягненне артыстаў несла камерцыйную выгаду, дзеля чаго арганізатары рэстаранных канцэртаў падтрымлівалі, напрыклад, эратычныя элементы ў нумары. Але нярэдка рэстаранная эстрада рабілася месцам нязмушанага мастацкага самавыяўлення, месцам, вольным ад цэнзуры, своеасаблівай апазіцыяй афіцыйнай сцэне. Так, спевакі нярэдка звярталіся да сацыяльных праблем, напрыклад, французская спявачка І. Гільбер закранала тэму жыцця абяздоленых, а спявак А. Бруан выступаў у вобразе бадзягі, чым эпаціраваў буржуазную публіку.

Час найбольш інтэнсіўнага распаўсюджвання эстраднай песні ў Беларусі супаў з адкрыццём тэатраў-рэстаранаў, кінатэатраў і святочнай садова-паркавай эстрады. Выявілася яшчэ адна тэндэнцыя: рэакцыяй на шматгадовае засілле салоннай "цыганшчыны" стала захапленне народнай песняй, але не традыцыйнай, а "паўпрафесійнай", цесна звязанай з побытам гарадскіх нізоў, культурай пераселеных у горад сялян. Нават некаторыя цыганскія спевакі сталі перагледзець свой рэпертуар у адпаведнасці з модай на "рускую песню".

Упершыню на канцэртных падмостках губернскіх гарадоў загучалі галасы сапраўдных народных выканаўцаў. На сцэне легендарнага піцерскага рэстарана "Яр", а пазней у тэатры "Буфф" і на іншых пляцоўках выступала папулярная ў той час спявачка Н. Плявіцкая. Менавіта яна пазнаёміла масавую аўдыторыю з рускімі песнямі "Дубинушка", "Калинка", "Из-за острова на стрежень", "По диким степям Забайкалья" і многімі іншымі.

Асобнага каментарыя патрабуе майстэрства выканання песні. Папулярныя артысты карысталіся ўніверсальнай сінтэтычнасцю эстраднага музычнага мастацтва, у якім адвольна спалучаліся элементы спеваў і дэкламацыі, пластыкі і жэста, інтанаванага слова і фартэпіяннай імправізацыі. Так стваралася агульнадаступнасць новага мастацтва, адбывалася прыцягненне спевакоў розных талентаў. Многія даследчыкі адзначалі, што ні музыка, ні тэксты Плявіцкай, Вяльцавай, Дулькевіч самі па сабе не вытрымлівалі мастацкай крытыкі, але ў сукупнасці элементы простай музыкі і слоў, экспрэсіі і мімікі спявачак прыводзілі да сінтэтычнага ўздзеяння на захопленую публіку. Шырокае хаджэнне мелі арыеткі А. Вярцінскага, што гучалі з грампласцінак, аднак на імправізаванай пляцоўцы маглі выступаць і артысты з народа, якія мелі сваю публіку. "Выканаўца песень вуліцы, Вера Вярыга выступала ў простай сукенцы, высокіх шнураваных чаравіках і чорнай хустачцы, абдымаючы жоўты вулічны ліхтар" [4, с. 205].

Мелі поспех і харавыя калектывы пад кіраўніцтвам Д. Агрэнева-Славянскага, І. Юхава, С. Садоўнікава, І. Аляксандрава, якія выконвалі новыя рускія песні (да іх адносіліся ўзоры гарадскога песеннага рэпертуару – песні катаргі, фабрычныя, салдацкія, студэнцкія, а таксама балады і куплеты, што бытавалі ў люмпенскім і мяшчанскім асяроддзях). З рускімі хорамі канкурыравалі ўкраінскія і цыганскія хоры, аркестры балалаечнікаў, харавыя ансамблі "сібірскіх катаржан". Уваходзілі ў моду і ўзоры замежных эстрадных танцаў (бразільскіх, аргенцінскіх), шлягеры венскай і венгерскай аперэт, інтымныя песенькі французскага паходжання. На Беларусі актыўна гастраляваў з беларускімі народнымі песнямі хор У. Тэраўскага.

Спосабам прапаганды вакальнага эстраднага мастацтва сталі зборнікі-песеннікі, якія выходзілі ў Маскве, Пецярбургу, Кіеве (кнігавыдаўцы Сыцін, Губанаў, Марозаў, Канавалаў і інш.). Кожны з выпускаў меў да дваццаці тысяч экзэмпляраў, маляўнічыя вокладкі і гучную назву, звычайна адпаведную назве самай папулярнай на той час песні. Некаторыя з песеннікаў цалкам прысвячаліся рэпертуару аднаго выканаўцы, напрыклад выдадзены фірмай Філатава песеннік "Цыганскія рамансы, праспяваныя Н. Д. Вяльцавай" (Масква, 1905) ці зборнік «"Лебядзіная песня" і іншыя цыганскія песні, праспяваныя В. Панінай» (Масква, 1907). Так любімыя выканаўцы рабіліся заканадаўцамі масавых музычных захапленняў. У Мінску песеннікі, музычныя інструменты, грамафоны, грампласцінкі, а таксама білеты на спектаклі і музычныя вечары прадаваліся ў музычным магазіне на вуліцы Захар'еўскай.

У сярэдзіне XIX ст. у грамадскіх тэатрах дзейнічала забарона на арганізацыю прыватных сцэнічных паказаў з размовамі і спевамі, расклейкай афіш і продажам білетаў, разам з тым дазваляліся выступленні замежных, пераважна

французскіх, артыстаў лёгкіх жанраў. У выніку, як адзначае І. Несцьеў, "спрадвечныя нацыянальныя жанры, якія бытавалі ў Расіі, суседнічалі з імпартным мастацтвам французскіх шансонаў і заакеанскіх танцаў; мастацкія традыцыі, якія ўзыходзяць яшчэ да часоў кірмашовых відовішчаў пачатку XIX ст. ці табарнага цыганскага спеву пушкінскіх часоў, ужываліся з моднымі ўздзеяннямі сучаснага буржуазнага горада" [2, с. 20]. У сімбіёзе нацыянальнага і замежнага, а таксама прафесійнага і народнага адбывалася зараджэнне першых формаў эстраднай культуры, якая толькі пачынала выпрацоўваць уласную канцэпцыю жанру.

Месцам для ўзнікнення эстрады разам з тэатрам, канцэртнай сцэнай і рэстаранам стаў кінатэатр. У 1900-я гг. у Мінску адкрыліся электратэатры "Гігант", "Мадэрн", "Ілюзіён", "Люкс". Кінапраграма звычайна складалася з чатырох аддзяленняў і ўключала паказы дакументальных фільмаў, драм, камічных фільмаў, а таксама канцэртныя праграмы з удзелам гастралёраў і мясцовых артыстаў самых розных жанраў.

Для небагатай публікі (рамеснікаў, служачых, рабочых і сялян) кінатэатры сталі своеасаблівым культурным цэнтрам і месцам адпачынку, а таму, улічваючы таннасць білетаў і частую змену рэпертуару, іх наведвальнасць была стапрацэнтнай. На канцэртах, якія ішлі паміж сеансамі, не было ніякай цэнзуры, а таму часта выконваліся песенькі фрывольнага зместу, прыпеўкі, рамансы, шансанеткі.

Менавіта ў гэты час з'яўляецца грамафон як сродак музычнай прапаганды і заробак для артыста. Мільёны грампласцінак з запісамі распаўсюджваліся ў тракцірах, казармах, дамах гарадскога мяшчанства, найбольш забяспечаных фабрычных рабочых і сялян. У запісах гучалі арыі з опер, аперэт, шансанеткі, рамансы. Сяляне, рамеснікі, служачыя перапявалі тое, што чулі з пласцінак, таму на народных гуляннях можна было пачуць не толькі народную песню, эпічную баладу, прыпеўку, але і гарадскі, рускі, цыганскі і бытавы раманс.

Пачатак XX ст. на Беларусі адзначаны і тым, што сельская моладзь пачынае ўсё больш цягнуцца да адукацыі. У час летніх канікул у мястэчку Дукора студэнты ставілі драматычныя спектаклі па Д. Фанвізіну, А. Чэхаву, М. Гогалю, Я. Купалу. Патрабаванні да тэатральнага і музычнага мастацтва таксама ўзрастаюць. «Публіка патрабуе розных формаў у пацяшальных выступленнях артыстаў, і эстрадныя жанры дыферэнцыраваліся адпаведна саслоўнаму статусу слухачоў і гледачоў: зоркі песні выступалі ў дарагіх рэстаранах, на падмостках дваранскіх клубаў, а папулярныя хоры "лапатнікаў", куплетысты, балалаечнікі абслугоўвалі дэмакратычную публіку паркаў, манежаў, кірмашоў» [1, с. 11].

Такім чынам, на рубяжы XIX – XX стст. адбывалася карэнная змена ўяўленняў аб прызначэнні мастацтва, яго прыродзе і ролі ў грамадскім жыцці. Адпаведна відазмянялася сістэма каштоўнасцей, якая вызначала развіццё мастацтва ў папярэднія стагоддзі. Сацыяльныя пераўтварэнні і перамешванне саслоўяў стваралі новыя формы гарадской і сялянскай культуры. Як піша Е. Уварава, "шматлікія выхадцы з вёсак прынеслі з сабой фальклор, які ў новых умовах відазмяняўся, трансфармаваўся. Ствараўся так званы гарадскі фальклор – адна з састаўных частак масавай культуры, якая ўступала ў своеасаблівы дыялог з класічным мастацтвам, што дасягнула ў Расіі ў канцы XIX ст. сваіх вяршынь" [3, с. 6]. Традыцыйныя народныя песні, танцы, інструменты (дудка, скрыпка, цымбалы, пазней гармонік) трапляюць у горад, новыя ж гарадскія набыткі (напрыклад, гітара ці грамафон) хутка становяцца часткай побыту заможных сялян.

Імпульсам для змены культурнай парадыгмы і фарміравання новых канцэртных формаў і жанраў стаў рост цікавасці да стыхійна-эмацыйнага пачатку, да жанраў, якія доўгі час лічыліся "нізкімі" і знаходзіліся на перыферыі афіцыйнай культуры: цыганскі раманс, шансанетка, вадэвільны куплет. Напрыканцы XIX ст. яны трапляюць на вялікую эстраду і набываюць масавага і прыхільнага спажыўца. Новыя формы мастацтва, народжаныя часам, маюць лаканічную форму сцэнічнага нумара і падкрэслена дэмакратычную скіраванасць. Адны з іх існавалі нядоўга і зніклі пасля 1917 г., іншыя перажылі пераўтварэнне, аднак вызначаны імі рух да большай дэмакратычнасці мастацтва застаўся галоўным прынцыпам культурнай парадыгмы да нашага часу.

**Спіс літаратуры**

1. **Музыкальный театр Белоруссии** : доокт. период / Г. И. Барышев, А. Л. Капилов, Г. Г. Кулешова [и др.]. – Минск : Навука і тэхніка, 1990. – 384 с.

2. **Нестьев, И. В.** Звезды русской эстрады (Панина, Вяльцева, Плевицкая) / И. В. Нестьев. – М. : Советский композитор, 1974. – 175 с.

3. **Уварова, Е. Д.** Как развлекались в российских столицах / Е. Д. Уварова. – СПб. : Алетейя, 2004. – 280 с.

4. **Шибеко, З. В.** Минск : Страницы жизни дореволюционного города / З. В. Шибеко, С. Ф. Шибеко. – Минск : Полымя, 1990. – 352 с.

5. **Ширинский, Н. А.** Саша Давыдов / Н. А. Ширинский // Русская линия : православ. информ. агентство [Электронный ресурс]. – 1998 – 2010. – Режим доступа : http://www.rusk.ru/monitoring_smi. – Дата доступа : 09.01.2010.

**Алена СЕМІКАВА,**
саіскальнік Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

*Артыкул рэкамендаваны да друку кандыдатам мастацтвазнаўства Р. Баравіком.*

*Спадчына*

# КОЛТЫ ЯК ЧАСТКА ЎРАЧЫСТАГА ЮВЕЛІРНАГА ЎБРАННЯ ЖАНЧЫН НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ XII – XIII стст.

*Заканчэнне. Пачатак у № 2.*

У літаратуры ёсць сведчанні пра знойдзеныя ў паўднёва-заходняй частцы вішчынскага гарадзішча рэштکі майстэрні ювеліра [18, с. 139]: абломкі гліняных трубак ад соплаў кавальскага горна або домніцы, гліняная лыжачка з застылай бронзай, невялікае кавадла, свінцовыя палоскі, матрыцы для вырабу крыжападобных прывесак, раснаў, колтаў з выявамі грыфонаў, вырабы з каляровых і каштоўных металаў. Цікавасць уяўляюць знаходкі трох відаў матрыц [19, с. 12]. Так, у 1979 г. была знойдзена жалезная бляшка з прораззю стылізаванага дрэва (або крына) з дзвюма парамі выгнутых, сіметрычна размешчаных галінак. Э. Загарульскі выказаў меркаванне, што гэтая матрыца прызначалася для адцiскання бляшак расны. Проразі і давалі лункі пад эмаль. Калі гэта сапраўды так, то на гарадзішчы, магчыма, існавала вытворчасць перагародчатых эмалей [20; 18, с. 140].

З развіццём ювелірных тэхнік ціснення, скані і зярнення ў сярэдзіне XII ст. у моду ўвайшлі лёгкія і вытанчаныя сярэбраныя колты, упрыгожаныя чарненнем, якія дапоўнілі залатое ўбранне заможнай жанчыны. Да такіх упрыгажэнняў адносяцца два сярэбраныя колты з вішчынскага скарбу.

Колт з ажурнай аблямоўкай мае форму лёгкага авала, блізкага да круга. Яго шырыня 46 *мм*, вышыня 36 *мм*. Каля асновы вырабу ёсць круглая скрыначка для духмяных рэчываў, на якой замацаваны ўстаўкі з выявамі. Ад скрыначкі адыходзяць дротавыя праменьчыкі, злучаныя агульным вонкавым абручом у ажурную аблямоўку колта. З бакоў скрыначкі прыпаяны дзве пласціны, злучаныя паміж сабой трэцяй. Абедзве пласціны ўпрыгожаны вітым дротам, а зверху злучаны агульным стрыжнем з вялікай колькасцю нанізаных на яго найдрабнейшых колцаў. На канцах стрыжня ёсць мацаванне з дужкай.

Устаўка колта з аднаго боку дэкаравана выявамі дзвюх птушак і крына на чарнёным фоне. Галовы птушак павернуты адна да адной. Дэталі выявы майстар удакладніў разцом. Адваротны бок колта ўпрыгожаны ўстаўкай з выявай лілеяпадобнай галінкі, па баках абкружанай чарнёнымі геаметрычнымі рысамі ў выглядзе дужак.

Выявы на ўстаўках выкананы метадам штампавання (ціснення) на матрыцах [13, с. 135]. Тэхніка чарнення, якую выкарыстаў майстар, уяўляе пакрыццё вырабу спецыяльным саставам чорнага матавага колеру. Практычна ўсе часткі колта аздоблены сканню.

Згодна з тыпалогіяй Т. Макаравай, па характары аправы чарнёныя колты можна падзяліць на чатыры тыпы: першы – колты з аблямоўкай з дробных шарыкаў (імітацыя жамчужнага аздаблення); другі – колты з аблямоўкай з буйных шарыкаў; трэці – колты з ажурнай аблямоўкай і сканню; чацвёрты – колты з шматпрамянёвай аблямоўкай [11, с. 49]. Кожны з гэтых тыпаў падзяляецца на падтыпы паводле характару дэкору і адрозненняў у сюжэтах. У падтып 1 уваходзяць вырабы з выявамі фантастычных жывёл, у падтып 2 – з выявамі птушак, у падтып 3 – з кампазіцыямі расліннага ці геаметрычнага паходжання. Такая класіфікацыя колтаў адлюстроўвае сапраўдную эвалюцыю іх формы і дэкору на працягу больш як двух стагоддзяў.

Сярэбраны колт з вішчынскага скарбу можна аднесці да чацвёртага тыпу – са шматпрамянёвай аблямоўкай і ўстаўкай з чарнёным арнаментам. Колты чацвёртага тыпу таксама можна падзяліць на падтыпы па сюжэтах, але ўсе гэтыя ўпрыгажэнні, незалежна ад сюжэта, утвараюць два варыянты – з чарненнем па гравіроўцы і з чарненнем фону. Вышэйзгаданы колт адносіцца да другога варыянта, і выйшаў ён, несумненна, з рук майстра высокага ўзроўню.

Колты, аналагічныя вішчынскаму, сустракаюцца часцей за ўсё ў скарбах і добра вядомыя даследчыкам. Напрыклад, колты кіеўскага скарбу 1885 г. з сядзібы Есікорскага [11, с. 62]. Падобныя ўпрыгажэнні завяршаюць эвалюцыйны рад старажытнарускіх сярэбраных колтаў з чарненнем.

У распаўсюджанні сярэбраных колтаў на тэрыторыі Старажытнай Русі назіраецца наступная заканамернасць: вырабы з устаўным шчыткам бытавалі ў Кіеве і яго найбліжэйшым наваколлі (Княжа Гара, Обухава, Пераяслаў), у сярэдзіне XII ст. з'явіліся і выкарыстоўваліся ў XIII ст. ціснёныя колты без устаўнога шчытка, аздобленыя ажурнай аблямоўкай ці ўпрыгажэннем з шарыкаў. Для іх быў тыповым дэкор у выглядзе птушак і дрэва жыцця. Такія ўпрыгажэнні былі раўнамерна распаўсюджаны на тэрыторыі паўднёвай, паўднёва-заходняй і паўднёва-усходняй Русі.

На працягу XII – XIII стст. у вырабе сярэбраных колтаў назіраюцца некаторыя змены. Больш познія колты часцей былі значна меншыя па памерах. У XIII ст. з'яўляюцца розныя віды аблямоўкі на ўпрыгажэннях. Акрамя традыцыйных буйных

шарыкаў выкарыстоўваюцца разнастайныя камбінацыі з дробных шарыкаў, тоўстага рубчастага ці тонкага плюшчанага дроту, а ў дэкоры колтаў з'яўляюцца матывы пляцёнкі і інш. [21, с. 228].

Па меркаванні Т. Макаравай, першыя ўзоры сярэбраных колтаў з чарненнем, як і залатыя з эмалямі, былі выкананы візантыйскімі майстрамі ў Кіеве. Потым майстэрні па вырабе эмалевых упрыгажэнняў функцыянавалі толькі ў буйных гарадах – Кіеве, Разані, магчыма, у Ноўгарадзе і Уладзіміры, а майстэрні сярэбранікаў – і ў невялікіх населеных пунктах. Былі яны і на тэрыторыі Беларусі, пра што сведчаць знаходкі матрыц і рэшткі майстэрняў. Матрыцы для ціснення колтаў з выявамі грыфонаў выяўлены ў Навагрудку, вёсцы Вішчын, ліцейная формачка для адліўкі паходзіць з Гародні [3, с. 35].

Сярэбраныя і выкананыя са свінцова-алавяных сплаваў колты знойдзены ў Мінску, Полацку, Гародні, Бярэсці, Навагрудку [14, с. 35; 22, с. 391]. На тэрыторыі Беларусі колты з ажурнай аблямоўкай выяўлены пры археалагічных даследаваннях Мінска і Бярэсця.

На Берасцейскім гарадзішчы ў слоі канца XI – пачатку XII ст. знойдзены білонавы колт на аснове серабра, арнаментаваны ціснёным узорам з раслінных парасткаў і крынападобных расткоў [22, с. 391]. Выраб мае форму круга з адсечаным сегментам. Па краі акружнасці напаяна ажурная аблямоўка, а па краях сегмента – вушкі, з дапамогай якіх ланцужком ці стужачкай колт мацаваўся да галаўнога ўбору. Як і ў больш каштоўных упрыгажэннях, полы корпус колта мог змяшчаць духмяныя рэчывы. Вельмі падобны выраб сустрэўся ў слоі XI ст. у Ноўгарадзе Вялікім [23, с. 108].

На тэрыторыі Мінска знойдзены два колты [1, с. 81]. Сярэбраны быў спаяны з дзвюх пласцінак з ціснёнымі выявамі птушак з павернутымі адна да адной галовамі і абкружаны ажурнай аблямоўкай. Другі адліты ў імітацыйнай форме з алавяна-свінцовага сплаву. Колт меў на вонкавым баку несапраўдназярнёны ўзор і па кромцы пласцін – буйныя пустацелыя шарыкі.

Вырабы з волава ці алавяна-свінцовых сплаваў на тэрыторыі Беларусі нярэдкія. З дапамогай ліцця выконваліся даступныя танныя рэчы, падобныя па форме і малюнку да ўпрыгажэнняў з каштоўных металаў. У апрацоўцы каляровых металаў і іх сплаваў ліцейная справа мела вялікае значэнне, нягледзячы на адсутнасць мясцовай сыравіннай базы. Каляровыя і высакародныя металы на тэрыторыю старажытнай Беларусі траплялі праз гандлёвыя сувязі.

Даследчыкі змяшчаюць колты з ажурнай аблямоўкай у храналагічныя рамкі 1170 – 1240 гг. [12, с. 310 – 311; 15, с. 70 – 71]. Пры параўнанні вядомых знаходак нельга не заўважыць, што яны маюць падобную канструкцыю і складаюцца з аднолькавых элементаў, тым не менш усе вырабы розныя, няма зусім ідэнтычных экзэмпляраў. Нават у складзе аднаго скарбу пададзеныя парамі ювелірныя вырабы адрозніваюцца адзін ад аднаго. Магчыма, выконваючы заказ, майстар не капіраваў упрыгажэнні, што значна лягчэй, паколькі не толькі ліццё, але і выкарыстанне матрыц дазвалялі ажыццявіць гэтую працу. Добрыя майстры, якія не жадалі ставіць сваю творчасць на паток, былі, верагодна, заўсёды. Але такім магло быць і патрабаванне заказчыка пра непаўторнасць кожнага ўпрыгажэння. Ёсць прыклады, калі нават парныя колты, якія належалі аднаму ўладальніку, былі не зусім аднолькавыя. Тут ужо вызначальным момантам была ці мода на непадобныя элементы галаўнога ювелірнага ўбрання, ці нейкае ўстойлівае павер'е, якое забараняла абсалютную ідэнтычнасць. Такое назіранне тычыцца не толькі колтаў з ажурнай аблямоўкай, але і іншых каштоўных упрыгажэнняў.



**Зорчаты колт з вішчынскага скарбу (Рагачоўскі р-н).**
Другая палова XII ст. Серабро, зярненне.

Зоркавы сярэбраны колт, знойдзены ў складзе вішчынскага скарбу, можна аднесці да трэцяй групы тыпалогіі Т. Макаравай. Ювелірны выраб быў вельмі пашкоджаны яшчэ ў старажытнасці: адламаны прамень, адсутнічае лунніца на адным баку, у верхняй частцы няма вушка і пятлі. Затое такі стан колта дазволіў зазірнуць унутр і зразумець яго канструкцыю і тэхніку выканання. Гэта даволі складаны ювелірны выраб, які патрабаваў ад майстра высокага прафесіяналізму ў валоданні рознымі тэхнічнымі прыёмамі.

Даследаваны колт складаецца з шасці прамянёў, што завяршаюцца на канцах пірамідкамі з пяці напаяных шарыкаў. Паверхня вырабу аздоблена сканню і зярненнем. Высокая цэнт-

ральная паўсфера ўпрыгожана чатырма сканымі колцамі. Паміж імі ўнізе выкладзены ў форме пірaміды тры дротавыя колцы. Сканыя колцы, у сваю чаргу, упрыгожаны чатырма дротавымі колцамі, якія ўтвараюць крыжыкі. У верхняй частцы паўсферы чатыры зерні ствараюць аснову, на якую прыпаяны шарык. Вакол асновы цэнтральнай паўсферы размешчаны два сканыя колцы і шэраг дротавых колцаў. Плоская лунніца абкружана сканню. Верхняя частка аздоблена дротавымі колцамі. Дужка ўяўляе колца, на якое надзета і прыпаяна па краях рагоў лунніца.

Шэсць прамянёў колта выкананы з суцэльных пласцін у форме пустацелых конусаў з адным бакавым швом. Ад канцоў прамянёў да асновы разыходзяцца шэсць сканых ліній. Прамяні аздоблены пяццю прыпаянымі сярэбранымі шарыкамі (на адным з прамянёў яны не захаваліся).

З-за адсутнасці на вонкавым баку колта паўсферы можна бачыць унутраную канструкцыю вырабу. Аснову колта складае цыліндр з сярэбранай палоскі, неспаяныя канцы якой заведзены адзін на адзін. Да цыліндра з абодвух бакоў прыпаяны цэнтральныя паўсферы, якія, магчыма, выціскаліся з пласціны. Паўсфера, такім чынам, узвышаецца на плоскай аснове.

Блізкія аналагі вішчынскаму зорчатаму колту сустракаюцца ў скарбах Кіева, Старой Разані, на гарадзішчы Княжа Гара [15].

Білонавы колт XIII ст. на сярэбранай аснове з берасцейскай калекцыі жаночых упрыгажэнняў мае больш сціплую форму, якая нагадвае пяціпрамянёвую зорку. Прамяні ювелірнага вырабу адыходзяць ад прамавугольнага полага корпуса, спаянага з дзвюх пласцін [23, с. 108].

Старажытнарускія ювеліры распрацавалі сістэму дэкору колтаў, у якой была свая колеравая гама, свае персанажы: дзевы-сірыны, грыфоны, птушкі, а таксама выявы дзявочых твараў і аблічча святых, раслінныя і геаметрычныя ўзоры.

Стылізаваныя сілуэты розных жывёл і птушак, што зберагаюць дрэва жыцця, былі папулярнымі ў дэкоры металічных вырабаў. Гэты дэкаратыўны матыў сустракаецца на колтах вішчынскага скарбу, на сярэбраным колцы з Мінска. Птушкі ў геральдычным процістаянні па баках дрэва атрымалі шырокае распаўсюджанне ў візантыйскім і ўсходнеславянскім мастацтве X – XII стст. Сюжэт парных птушак па баках дрэва жыцця належыць да катэгорыі агульнасусветных: ён існаваў у старажытнасці, шырока распаўсюдзіўся ў раннесярэднявечным беларускім мастацтве, дайшоў і да нашага часу амаль ва ўсіх відах народнага мастацтва.

З'яўленне колтаў на тэрыторыі Беларусі дало штуршок для стварэння новых тыпаў параднага ювелірнага ўбрання, спрыяла распрацоўцы некалькіх варыянтаў прывесак-раснаў, якія выконваліся з колтамі ў адным стылі.

**Спіс літаратуры**

1. **Загорульский, Э. М.** Древний Минск / Э. М. Загорульский. – Минск : Госиздат БССР, 1963. – 118 с.
2. **Забелин, И. Е.** Домашний быт русских цариц в XVI – XVII столетиях / И. Е. Забелин. – Новосибирск : Наука, 1992. – 240 с.
3. **Кондаков, Н. П.** Русские клады : исследование древностей великокняжеского периода / Н. П. Кондаков. – СПб. : Тип. Гл. упр. уделов, 1896. – 213 с.
4. **Срезневский, И. И.** Материалы для словаря древнерусского языка : в 3 т. / И. И. Срезневский. – М. : Знак, 2003. – Т. 1. – 1419 с.
5. **Седова, М. В.** Ювелирные изделия древнего Новгорода (X – XV вв.) / М. В. Седова. – М. : Наука, 1981. – 195 с.
6. **Березова, С. А.** Так звані сережки "калачики" з колекції Музею історичних коштовностей України / С. А. Березова, Л. С. Клочко // Від першовитоків до сьогодення : з історії формування колекцій музею : тематичний збірник наукових праць. – Київ, 1995. – С. 37 – 53.
7. **Петренко, В. Г.** Украшения Скифии VII – III вв. до н. э. / В. Г. Петренко // Свод археологических источников. – 1978. – Т. II. – С. 4 – 5.
8. **Засецкая, И. П.** Золотые украшения гуннской эпохи / И. П. Засецкая. – Л. : Аврора, 1975. – 78 с.
9. **Лихачев, Д. С.** Развитие русской литературы X – XVII вв. Эпохи и стили / Д. С. Лихачев. – Л. : Наука, 1973. – 254 с.
10. **Рябцева, С. С.** Древнерусский женский ювелирный убор IX – XIII вв. в контексте евразийских культурных связей (основные тенденции формирования) : автореф. дис. … канд. ист. наук / С. С. Рябцева. – СПб., 2001. – 24 с.
11. **Макарова, Т. И.** Черневое дело Древней Руси / Т. И. Макарова. – М. : Наука, 1986. – 153 с.
12. **Рыбаков, Б. А.** Ремесло Древней Руси / Б. А. Рыбаков. – М. : Изд-во АН СССР, 1948. – 742 с.
13. **Загорульский, Э. М.** Вищинский замок XII – XIII вв. / Э. М. Загорульский. – Минск : БГУ, 2004. – 159 с.
14. **Дучыц, Л. У.** Касцюм жыхароў Беларусі X – XIII стст. : (паводле археалагічных звестак) / Л. У. Дучыц. – Мінск : Беларус. навука, 2001. – 80 с.
15. **Корзухина, Г. Ф.** Русские клады IX – XIII вв. / Г. Ф. Корзухина. – М.; Л. : Изд-во АН СССР, 1954. – 156 с.
16. **Кошман, В. И.** Изделия с перегородчатой эмалью на территории Беларуси / В. И. Кошман // Гістарычна-археалагічны зборнік. – Мінск, 2001. – № 16. – С. 13 – 137.
17. **Скрипченко, Т. С.** Обмен и местное производство на территории Белоруссии в XI – XIV вв. (по материалам стеклянных браслетов) : автореф. дис. … канд. ист. наук / Т. С. Скрипченко. – М., 1982. – 12 с.
18. **Археалогія і нумізматыка Беларусі** : энцыкл. / рэдкал. : В. В. Гетаў [і інш.]. – Мінск: БелЭн, 1993. – 702 с.
19. **Ваганова, А. Н.** Древнерусский феодальный замок : автореф. дис. … канд. ист. наук / А. Н. Ваганова. – Вильнюс, 1985. – 16 с.
20. **Загорульский, Э. М.** Исследования Вищинского замка / Э. М. Загорульский // Древнерусское государство и славяне. – Минск : Наука и техника, 1983. – С. 86 – 89.
21. **Корзухина, Г. Ф.** Киевские ювелиры накануне монгольского завоевания / Г. Ф. Корзухина // Советская археология. – М. : Наука, 1950. – № 14. – С. 217 – 235.
22. **Археалогія Беларусі** : у 4 т. / НАН Беларусі, Ін-т гісторыі. – Мінск : Беларус. навука, 1998 – 2001. – Т. 3 : Сярэдневяковы перыяд (IX – XIII стст.). – 2000. – 554 с.
23. **Лысенко, П. Ф.** Открытие Берестья / П. Ф. Лысенко. – Минск : Белорус. наука, 2007. – 181 с.

**Наталля НАРКЕВІЧ,**
выкладчык кафедры гісторыі Беларусі і паліталогіі
Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта.

*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам мастацтвазнаўства Я. Сахутам.*

*З гісторыі выяўленчага мастацтва*

# ПЛАКАТ У ПЕРЫЯД КІРАВАННЯ ХРУШЧОВА: АД "АДЛІГІ" ДА "ЗАСТОЮ"

Артыкул працягвае цыкл публікацый па даследаванні гісторыі беларускага плаката, што ахоплівае амаль усё XX стагоддзе*.

Беларускае плакатнае мастацтва – з'ява ўнікальная. Яму прысвечана шмат навуковых работ, але ў постсавецкім беларускім мастацтвазнаўстве яшчэ не звярталася ўвага на ўплыў "эпохі" М. Хрушчова на беларускае мастацтва. У дадзенай публікацыі разглядаецца менавіта гэтая праблема.

Савецкая ўлада доўгія гады кантралявала ўсе без выключэння сферы культуры і мастацтва, у тым ліку дзіцячую, народную, аматарскую творчасць, іншадумства жорстка вынішчалася. З надыходам хрушчоўскай адлігі ў сярэдзіне 1950-х гг. сітуацыя пачала павольна змяняцца.

Шырокае распаўсюджанне тэрміна "адліга", які адносіцца да гістарычнага перыяду ў жыцці савецкага грамадства канца 1950 – пачатку 1960-х гг., звязваюць з публікацыяй у 1954 г. у майскім нумары часопіса "Новый мир" аповесці І. Эрэнбурга "Адліга" (праз 14 месяцаў пасля смерці І. Сталіна). Цікавая сувязь эпох: вядома, што стагоддзем раней Ф. Цютчаў называў "адлігай" час пасля смерці цара Мікалая І [1, с. 486].

З прыходам да ўлады М. Хрушчова (1894 – 1971) надышоў час пераасэнсавання нядаўніх падзей гісторыі. Гэта выявілася, у першую чаргу, у выкрыцці культу асобы І. Сталіна на XX з'ездзе КПСС у 1956 г., што, па сутнасці, змяніла атмасферу ва ўсім савецкім грамадстве, і ў тым ліку ў мастацтве. У 1961 г. была прынята новая праграма партыі на XXII з'ездзе КПСС [2, с. 281].

Вынікам гэтых падзей стала вяртанне дадому большасці рэпрэсіраваных з так званых сталінскіх лагераў і наступная іх рэабілітацыя. Падобная "адкрытасць" кіруючай партыі выклікала рамантычную веру інтэлігенцыі ў адносную ліберальнасць і надзейнасць палітыкі, якая праводзілася ў галіне культуры і мастацтва.

У той час было ўжо відавочна, што палітычны курс, вызначаны вышэйшым партыйным кіраўніцтвам, аказаўся памылковым, што аспрэчыла ранейшую артадаксальную дактрыну КПСС. Непарушны аўтарытэт партыі пахіснуўся, і ўлада была вымушана ісці на саступкі, пры гэтым яна разумела, што культура і выяўленчае мастацтва – важныя інструменты для падтрымкі і прапаганды палітычных ідэй. Усе сродкі агітацыі былі накіраваны на аднаўленне і далейшае ўмацаванне аўтарытэту КПСС.

Непазбежна саступаючы капіталістычнай сістэме ў галіне эканомікі, улада камуністаў спрабавала ўзяць рэванш у сферы ідэалогіі, а мастацтва ў СССР, як вядома, было яе надзвычай важным элементам. Плакат заўсёды заставаўся нязменным дапаможцам прапаганды.

Прыярытэтным у мастацтве плаката тых часоў, як і раней, заставалася ўслаўленне КПСС і Кастрычніка, але на першы план зноў выйшаў вобраз Леніна і "ленінскіх нормаў жыцця". Яркім прыкладам з'яўляецца плакат Я. Тараса "Ленинизм – боевое оружие нашей партии", выдадзены ў 1957 г. Названыя тэмы былі асабліва актуальныя напярэдадні шэрагу юбілейных дат: 50-годдзя Кастрычніка, 100-годдзя з дня нараджэння Леніна, 20-годдзя пачатку Другой сусветнай вайны і Перамогі. Асаблівая ўвага аддавалася прапагандзе партыйных з'ездаў, а таксама ўслаўленню камуністычнага ладу жыцця, што добра выяўляе, напрыклад, плакат беларускага мастака М. Гуціева "Слава Савецкай Беларусі!" 1958 г. Акрамя таго, час Хрушчова і яго палітыка далі жыццё новым значным сюжэтам мастацтва.

Упэўненасць кіраўніка ў тым, што "цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме", адрадзіла цікавасць да "светлай будучыні" і да сучасніка, ідэальны вобраз якога быў адлюстраваны ў "маральным кодэксе будаўніка камунізму". Усе гэтыя ідэі, зразумела, перадаваў тагачасны плакат.

Новая праграма партыі, прынятая ў 1961 г., здавалася, адпавядала і самаадчуванню народа. Ва ўсіх сферах дзейнасці панаваў незвычайны ўздым. Краіна жыла выключна будучым.

Асваенне космасу: запуск савецкага штучнага спадарожніка на арбіту Зямлі 4 кастрычніка 1957 г., палёт Юрыя Гагарына ў космас 12 красавіка 1961 г., першай у свеце жанчыны-касманаўта Валянціны Церашковай – у чэрвені 1963 г., як і іншыя дасягненні айчыннай навукі, нібы правакавалі такія лозунгі і заклікі на плакатах: "Дагнаць і перагнаць Амерыку!", "Наперад да перамогі камунізму!" і г. д. Вобразы 1960-х – выявы паўсядзённага жыцця яшчэ далёкага ад ідэалу, але якое можна стварыць дзякуючы ўпартай працы, жаданню новых адкрыццяў і цярпенню.

У плакаце побач з "параднымі партрэтамі" герояў сацыялістычнай працы сталі з'яўляцца

* У папярэднім нумары змешчаны артыкул **Аляксандры Галубовіч** «"Вялікі стыль" у беларускім плакаце 1945 – 1953 гг.».







Злева: ***А. Кашкурэвіч.*** **"Атам – міру!".** 1961 г. Тыраж 4000 экз.

Справа: **Х. Кантаровіч. "Беларусь, мая Радзіма...".** 1968 г. Тыраж 700 экз.

вобразы дастаткова сур'ёзных маладых людзей і дзяўчат за працай з характэрнымі атрыбутамі: рыдлёўкамі, заплечнікамі, кіркамі. Герояў малявалі ў рабочай вопратцы на фоне будоўлі, індустрыяльнага пейзажа, арматуры. Яны сталі сімваламі пераходу да новага часу, яго будаўнікамі.

Усе гэтыя перамены нарадзілі іншыя сюжэты ў выяўленчым мастацтве, а творча асвоіць новыя тэмы і выканаць палітычны заказ у плакаце магчыма толькі пасля змены мастацкага метаду, пераадолення жорсткага каркаса эстэтычных нарматываў сацыялістычнага рэалізму. Для гэтага існавалі ўсе перадумовы. Перш за ўсё, да ўздыму грамадства натхняла адчуванне перспектыў. На зыходзе першага пасляваеннага дзесяцігоддзя СССР актыўна адкрываў для сябе замежны свет. Безумоўна, Захад у гэты перыяд быў паняццем не проста геаграфічным, але і ідэалагічным. Сітуацыя была дастаткова супярэчлівая, але змены назіраліся ў тым ліку і ў сферы выяўленчага мастацтва. У прыватнасці, пасля VI Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў, які адбыўся ў Маскве ў 1957 г., пачалося абнаўленне мовы графічных сімвалаў. Калі раней выкарыстоўвалі агульнавядомыя кананізаваныя вобразы-эмблемы (герб, серп, молат, лаўр), звязаныя часцей за ўсё з ідэяй дзяржаўнасці, то цяпер сімволіка стала выступаць як адна з формаў мастацкага ладу, даступная творчаму пераасэнсаванню, свабоднай інтэрпрэтацыі, дэкаратыўнай апрацоўцы. Мастакі сталі верыць, што глядач можа зразумець і правільна адрэагаваць на створаныя імі сімвалы, што ў знаку ён можа прачытаць ідэю, нават калі яна не мае апісальна-паведамляльнага характару. Сярод беларускіх плакатыстаў такія сімвалы пачаў ствараць А. Кашкурэвіч.

Падчас правядзення фестывалю моладзі і студэнтаў вялікі павільён быў адведзены сучаснаму мастацтву, дзе экспанаваліся творы Д. Джонса, Р. Раўшэнберга, а таксама Н. дэ Сталь (М. Гальштэйна). Вялікі ўплыў на беларускіх мастакоў мелі таксама выставы тагачасных творцаў Англіі і Р. Кента, што былі наладжаны ў Дзяржаўным музеі выяўленчых мастацтваў (ДМВМ) імя А. С. Пушкіна. У 1959 г. адбылася выстава амерыканскага мастацтва ў Маскве, на якой дэманстраваліся работы Д. Полака, М. Ротка (М. Роткавіч), В. дэ Кунінга і інш. [3, с. 3]. У 1960 г. прайшла выстава мастацтва Мексікі ў ДМВМ імя А. С. Пушкіна, у экспазіцыі якой былі работы Х. Ароска і Д. Сікейраса; у 1961 г. – выстава Р. Гутуза. У тым жа 1961 г. у рамках французскай выставы ў Маскве ў выставачным комплексе "Сакольнікі" была арганізавана мастацкая экспазіцыя, дзе фігуравалі творы Х. Суціна, Х. Хартунга, П. Сулажа [3, с. 3].

У ДМВМ імя А. С. Пушкіна экспанаваліся ў 1964 г. творы Ф. Лежэ, а ў 1967 г. і 1971 г. – графіка П. Пікаса [3, с. 3]. Мы невыпадкова падаём гэтую інфармацыю, творчасць названых мэтраў, безумоўна, мела неверагодны ўплыў на ўсіх савецкіх мастакоў, змяніла іх светапогляд, дала магчымасць пераасэнсаваць старое і прыйсці да новага мастацкага метаду.

Інстынктыўна адчуваючы недахоп вопыту, сустракаючы мноства цяжкасцей, нашы мастакі ў пачатку 1960-х пайшлі па шляху ўзбагачэння сродкаў выяўленчай мовы, зрабіўшы акцэнт на асваенне выяўленчай метафары.

Вельмі вялікую ролю ў гэтым плане адыграў прыклад польскіх плакатыстаў, чыя творчасць пасля фестывалю моладзі і студэнтаў 1957 г. стала аб'ектам пільнага вывучэння. Такія якасці польскага плаката, як інтэлектуалізм, дэкаратыўнасць,

вострая выразнасць формы, творча ўспрымаліся маладымі мастакамі Беларусі, якія праявілі асаблівую цікавасць да творчасці вядомых польскіх плакатыстаў Т. Трэпакоўскага, Я. Леніцы, Г. Тамашэўскага, Э. Лапінскага, В. Свежага і інш.

Нашы мастакі маглі пераканацца ў шэрагу плённых тэарэтычных і метадычных ідэй, сфармуляваных польскімі плакатыстамі. Напрыклад, Я. Леніца пісаў у прадмове да альбома "Польскі кінаплакат" (Варшава, 1957 г.): "Плакат звяртаецца да гледача з дапамогай сучасных выяўленчых сродкаў і ўяўляе своеасаблівы буквар, які вучыць пазнаваць і ўспрымаць жывапіс, засвойваць формы і разумець мову выяўленчага мастацтва" [4, с. 4]. Гэтыя словы сёння не патрабуюць каментарыяў, а 60 гадоў таму гучалі па-наватарску, бо праблема распрацоўкі вобразнай метафары ў плакаце сутыкалася з тэзісам пра важнасць агульназразумелага рашэння.

Не меншае значэнне мела змяненне статусу плаката. Сродкі масавай камунікацыі: тэлебачанне, кіно, друк – узялі на сябе частку функцый агітацыйнага мастацтва. Плакату трэба было замацаваць уласную ніву, якая б вызначалася эстэтычнай значнасцю, а для гэтага абнавіць вобразную мову. Працэс праходзіў у некалькіх напрамках. Самы значны – зварот да традыцыйнага рускага і беларускага савецкага агітацыйнага мастацтва, да творчасці Д. Маора (Д. Арлова), М. Чарамных, А. Дайнекі, М. Гуціева, Г. Змудзінскага – многае з іх вопыту было асэнсавана маладымі плакатыстамі, якія ўступілі ў творчае жыццё ў канцы 1950 – пачатку 1960-х гг. У гэты ж час нашы мастакі дзякуючы названым вышэй выставам атрымалі магчымасць зносін з замежнымі калегамі і вывучэння вопыту польскай, чэшскай, нямецкай і іншых нацыянальных школ плаката.

Яшчэ адным важным момантам у фарміраванні новага ўяўлення пра мастацтва плаката стала знаёмства з творчасцю землякоў, якія працавалі ў першай палове XX ст., – М. Шагала, Л. Лісіцкага.

Значную ролю ў працэсе станаўлення беларускага плаката ў даследаваны перыяд адыгралі кіно, тэатр, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Так, тагачаснае кіно вызначыла творчыя поспехі майстроў кінаплаката [5, с. 153]. Багацце графічных манер (магчымых дзякуючы афсетнаму друку, які замяніў каляровыя літаграфіі) дазволіла мастакам кінарэкламы стварыць вобраз станоўчага героя-сучасніка і даць новае тлумачэнне вобразам вядомых герояў літаратурных твораў – ад Шэкспіра да Дастаеўскага.

Імкненне да эстэтычнай самадастатковасці фарміравала новы стыль плаката, які шмат у чым адмовіўся ад мастацкіх крытэрыяў папярэдняга часу. Трафарэтныя вобразы плакатных герояў у стылі "фатаграфічнага натуралізму" выклікалі адваротную рэакцыю – абагульненне вобраза чалавека, звядзенне яго да знака або адмовы ад яго ўвогуле. Прамалінейнасць і адназначнасць плакатнай мовы змяніліся мастацкім іншасказаннем – метафарай, алегорыяй, сімвалам. Напрыклад, беларускі мастак Х. Кантаровіч зрабіў сімвалам Беларусі маладую і прыгожую дзяўчыну.

Другая палова 1960-х гг. адзначылася ўзмацненнем увагі да нацыянальных традыцый Беларусі. Выкарыстанне старажытнай сімволікі, прадметаў нацыянальнага побыту, арнаментыкі ўнесла на пачатку вядомую вастрыню і яркасць у плакат, але далей захапленне народным мастацтвам прывяло многіх мастакоў да адкрытай стылізацыі і эклектыкі.

З сярэдзіны 1960-х гг. у плакаце пачынаецца перыяд "спакойнага суіснавання" розных, цяпер ужо прызнаных адзін адным, кірункаў. Аднак гэтая пазбаўленая творчага спаборніцтва атмасфера прывяла да заняпаду, нівеліроўкі беларускага плаката, што відаць, напрыклад, у творы Ю. Лягічава "Границы СССР…".

Новая старонка ў гісторыі плаката была звязана са стварэннем у 1974 г. спецыялізаванага выдавецтва "Плакат", падпарадкаванага непасрэдна ЦК КПСС. Аднак у наступныя гады яно не здолела палепшыць стан мастацкай публіцыстыкі.

Час кіраўніцтва М. Хрушчова быў занадта кароткі, і, як у 1920-я гг., многія мастацкія і эстэтычныя ідэі "адлігі" не паспелі рэалізавацца. Яны "даспявалі" ў іншым палітычным клімаце, на глебе брэжнеўскага застою, пад уплывам новых палітычных і эстэтычных патрабаванняў, вызначаючы як поспехі, так і істотныя недахопы плакатнага мастацтва Беларусі 1970 – 1980-х гг.

**Спіс літаратуры**

1. **Голубович, А. Г.** Каталог художников-плакатистов Беларуси XX века / А. Г. Голубович. – Минск, 2009. – 147 с.
2. **Голубович, А. Г.** Печатный плакат Беларуси / А. Г. Голубович. – Минск, 2009. – Ч. 1. – 99 с.
3. **Голубович, А. Г.** Печатный плакат Беларуси / А. Г. Голубович. – Минск, 2009. – Ч. 2. – 147 с.
4. **Гуревич, П. С.** Современный гуманитарный словарь-справочник / П. С. Гуревич. – М. : Олимп; АСТ, 1999. – 528 с.
5. **Беларуская Савецкая Энцыклапедыя** : у 12 т. / рэдкал. : П. У. Броўка (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Гал. рэд. Бел. Сав. Энц., 1969 – 1975. – Т. 2 : Афіны – Ведрыч / П. У. Броўка [і інш.]. – 1970. – 640 с.
6. **История искусства СССР** : в 9 т. – М. : Изобразительное искусство, 1971 – 1985. – Т. 9.
7. **Леница, Я.** Польский киноплакат / Я. Леница. – Варшава, 1957. – 348 с.
8. **Rademacher, Hellmut.** Gebrauchsgrafik in der DDR / Hellmut Rademacher. – Dresden, VEB Verlag der Kunst, 1975. – 425 p.

**Аляксандра ГАЛУБОВІЧ,**
аспірантка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

*Артыкул рэкамендаваны да друку кандыдатам мастацтвазнаўства М. Баразной.*

Наталля ШАРАНГОВІЧ

# АДЛЮСТРАВАННІ МІНУЛАГА*

Сёння яго творы захоўваюцца ў зборах Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, Музея сучаснага выяўленчага мастацтва, Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі, у калекцыях галерэй Нідэрландаў, Францыі, Бельгіі, Англіі, Італіі, ЗША, шматлікіх прыватных калекцыях.

Мастак паклаў у аснову сваіх жывапісных твораў успаміны дзяцінства і ўспаміны пра дзяцінства. Прыём, які выкарыстоўвае Задорын, не новы. Ён піша палотны, адштурхоўваючыся ад вобразаў і ўражанняў, якія пакідаюць старыя фотаздымкі з сямейных альбомаў. Але інтэрпрэтацыя аўтара вельмі своеасаблівая. Ён адбудоўвае адмысловую духоўную прастору, дзе няма адчужанасці і халоднага нігілізму. На такі вобраз працуюць каларыт, дзе густы карычневы колер падсвечваецца залацістым святлом, дакладны малюнак, дэталізацыя формы, якая дазваляе ўважліва разгледзець героя ці аб'ект. Персанажы карцін Задорына ніколі не вядуць дыялогаў паміж сабою, яны існуюць у асаблівай прасторы крохкай раўнавагі і меланхоліі. Гэта не сцэны з жыцця, хутчэй адчуванні ад яго, цені мінулага, твары і постаці, якія нібыта знікаюць у залацістым мігценні – у часе.

Увага ў Беларусі да твораў Андрэя Задорына невыпадковая. Яна тлумачыцца не толькі тым, што мастак быў адным з удзельнікаў экспазіцыі беларускага павільёна на 51-й Венецыянскай біенале сучаснага мастацтва, але і яго шматлікімі выставамі на радзіме. Задорын – адзін з тых творцаў, які ўласным поспехам сцвярджае сапраўды высокі ўзровень нашай мастацкай школы і беларускай культуры ў Еўропе.

Наша гаворка з Андрэем Задорыным адбылася далёка ад Беларусі. Магчыма, гэта надало многім развагам і ўспамінам мастака крыху настальгічнае адценне.

**– Кожны мастак заўсёды нешта чэрпае ў творчасці іншых. Для Задорына такой крыніцай стаў знакаміты Эндры Уайт. Яго прынцып адлюстравання – гіперрэалістычнасць формы. Але для Задорына галоўным стала іншае – адчужанасць, экзістэнцыяльная, а не візуальная форма выяўлення.**

– Я спрабаваў дасягнуць падобнай адчужанасці, праўда, іншымі сродкамі. Але тэма і сэнс захаваліся такімі ж, як у Уайта. На мяне, безумоўна, уплывалі і іншыя мастакі. У тым ліку Барыс Забораў. Але што датычыць жывапісу, то першае месца застаецца за Эндры Уайтам. Калі ж гаварыць пра сэнс, зместавы і філасофскі бакі, то тут на мяне вялікі ўплыў аказаў кінематограф, а не жывапіс. Найперш Феліні і Антаніоні, часткова – Бергман. Да кінематографа адносіны ў мяне асаблівыя. У крызісныя для мяне часы я ніколі не хадзіў на выставы, толькі ў кіно. Мяне ў Маскве падчас персанальных выставаў нават пыталіся, чаму я не працую ў кінематографе. Што на гэта адказаць, я не ведаў. Магчыма, таму, што вольны мастак – сам сабе гаспадар. Да кінематографа можна яшчэ дадаць фатаграфію. Раней у людзей былі іншыя адносіны да яе – больш адказныя. Некалі чалавек хацеў быць зафіксаваным, для яго гэта было вялікай падзеяй. Сёння гэта цалкам будзённая з'ява. Я таксама спрабаваў звярнуцца да фатаграфіі, калі маляваў свайго дзеда, які прапаў без вестак на вайне.

**– Антаніоні часта замяняе размову на шумавыя эфекты або цішыню. У Вашых карцінах таксама няма дыялогу паміж персанажамі незалежна ад таго, колькі іх на палатне. Яны ўсе ў сабе і свае адчуванні пражываюць індывідуальна.**

– Я імкнуся стварыць атмасферу, каб глядач разважаў. Хачу, каб мае карціны глядзелі, а не разглядвалі. У гады вучобы ў аспірантуры я зрабіў першую спробу пазнаёміцца з заходнееўрапейскім мастацтвам, якое ўяўлялася загадкавым і невядомым. У Маскве адбылося некалькі буйных, цалкам нечаканых выставаў, у тым ліку – канцэптуалістаў. Нешта пахіснулася ў былой іерархіі каштоўнасцей. Калі ўпершыню ў 1990-м трапіў у Парыж, усе крытэрыі змяшаліся. Многае ў той час здавалася незразумелым. У каталогах з выдатнай паліграфіяй трапляліся цалкам прымітыўныя працы. У той жа час сустракаў нешта цікавае, мне блізкае, але ў больш сціплых і простых галерэях і ў каталогах горшай якасці. Калі трапіў у Парыж праз год, абмеркаваў гэта з Барысам Забаравым. І ён растлумачыў, што тут усё залежыць ад твайго жадання і магчымасцей. Але першае адчуванне было вельмі дзіўным. Парыж для мяне быў раней велічнейшым, а тут усё ў свядомасці перавярнулася. Ты нічога не разумееш: мора карцін, рэдкія з іх прыцягваюць увагу. Многае здалося прымітыўным або адкрыта дрэнным, але ўсяго гэтага – неверагодна многа. І гэта Парыж? Куды ж ехаць далей?

* Пачатак артыкула на апошняй старонцы вокладкі.

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1.*

**– Ці часта даводзіцца параўноўваць Ваша цяперашняе жыццё з тым перыядам, калі працавалі ў Беларусі?**

– У Галандыі даводзіцца працаваць у тры-чатыры разы больш, чым гэта рабіў у Беларусі. Радзіма дазваляла весці разняволенае, свабоднае жыццё. Заўжды нехта прыходзіў у госці ў майстэрню, памятаю бясконцыя гутаркі, спрэчкі, абмеркаванні, сяброўскія сустрэчы. Усё гэта было важна, але адцягвала ад малявання. У Галандыі няма нічога падобнага. Мастацтва стала проста штодзённай бесперапыннай працай. Палову майго дома займае майстэрня. Працую на мансардзе. На першым паверсе звычайна нацягваю палотны. Пераношу прафесійныя прылады і проста рэчы з паверха на паверх. Так што творчы асяродак у маім доме “існуе” паўсюль. Адзін з пакояў, дзе раней жыў сын, а ён ужо вучыцца ва ўніверсітэце, мы выкарыстоўваем для камп’ютара або як гасцёўню для сяброў, якія часам нас наведваюць. Прыязджае Раман Заслонаў з-пад Парыжа, Ігар Цішын з Наташай Залознай з Бруселя. З імі мы бачымся даволі часта, рытм нашых стасункаў не змяніўся.

У астатнім жыву вельмі ізалявана. Хоць і ў Еўропе, але часта адчуваю, што жыву ў правінцыі.

**– У якасці пераломнага Вы называеце для сябе 1991 год, калі многія ў краіне звярнуліся да дэкадэнтаў, фармалізму, прадстаўнікоў французскай школы кубізму. А Вы засталіся прыхільнікам фігуратыўнага жывапісу.**

– Так адбылося, мы былі прадстаўнікамі школы фігуратыўнага мастацтва. Мы – маё пакаленне беларускіх мастакоў. Нават на тых, хто працаваў у больш фармальных відах мастацтва, ляжыць гэты адбітак. Гэта – менталітэт. Праз 5 – 10 гадоў пасля майго заканчэння інстытута змянілася многае: даступнасць інфармацыі і яе ўздзеянне на студэнтаў. Але, калі ўлічваць выхаванне і адукацыю, усе мы асуджаны на пэўную форму працы. А тыя, хто спрабуюць ад яе адмовіцца, пакутуюць і неадэкватныя ў тым, што яны хацелі б сказаць.

**– Наша мастацтва заўсёды будзе выпадаць з агульнага кантэксту?**

– Беларускае мастацтва я некалі параўнаў з хадою пешшу. Не ў якасці зняважі. Патрэбны час, каб устаяліся пэўныя тэндэнцыі ў мастацтве. Прывяду прыклад: калі ўжо стала існаваў тэатр, з’явілася кіно, і ўсе вырашылі, што тэатр знікае, будуць здымаць толькі кіно. Спатрэбілася гадоў трыццаць-сорак, каб усе зразумелі, што тэатр не дэградаваў, ён проста ідзе сваім шляхам, а кіно – гэта іншы від мастацтва. Адно не замяняе другое. З жывапісам адбываецца тое самае. Сёння з’явіліся цалкам новыя віды і формы творчасці, мастацкія практыкі і візуальныя, мастацка-тэхнічныя эксперыменты. Але гэта не замена жывапісу, гэта іншы від творчай дзейнасці. Бачыў выставу амерыканскага мастака Біла Віолы – камп’ютарна-візуальныя выявы. Ён лічыцца мастаком. Аднак гэта часткова фатаграфія, часткова кіно, часткова тэхнічная творчасць. Уражанне застаецца фантастычнае. Можна параўнаць з уражаннем ад падарожжа на машыне чалавека, які раней хадзіў пешшу. Пешшу – нам знаёмы жывапіс. На машыне – сучасныя візуальныя тэхналогіі. Але ніхто не спрачаецца, што машына – гэта цудоўна, але часам прагуляцца хадою не горш, а нават лепш. Я з тых, хто любіць хадзіць пешшу.

**– Кожны мастак спрабуе знайсці сваю мову. Але калі гаварыць пра сучаснае канцэптуальнае мастацтва, многім трэба зламаць пэндзлі і пайсці вучыцца іншаму. Сёння мастацтва – гэта новыя тэхналогіі, новыя маштабы мыслення, якое, напрыклад, дазваляе задрапіраваць рэйхстаг. Як гэта звязана з выяўленчай мовай мастацтва і жывапісам?**

– Што датычыць мяне, то ў сорак гадоў прафесію не змяняюць і я задаволены тым, што я са сваім вопытам пакуль запатрабаваны, бо акрамя жывапісу нічога іншага проста не ўмею рабіць. Гэтаму мяне навучылі адмыслова. Дарэчы, і сёння ў Беларусі моцная мастацкая школа, якая вучыць менавіта маляваць. Хто хоча, той стане майстрам. У Еўропе ўсё інакш. У горадзе, дзе мы жывём, ёсць Акадэмія мастацтваў, і яна адна з нямногіх у Галандыі мае фігуратыўны кірунак. Я знаёмы з некаторымі выкладчыкамі. Яны трошкі вучаць маляваць студэнтаў у першы год навучання. У наступныя гады выкладчыкі прыходзяць на заняткі і гавораць з навучэнцамі, разважаюць, будуюць слоўныя схемы, прапаноўваюць ідэі. Гаворка зноў жа ідзе пра канцэпцыю, і гэта добра, калі ты пасля гэтую канцэпцыю можаш рэалізаваць. Але выпускнікі рукамі нічога рабіць не навучаны. Я б сказаў так: у іх па вусным пяцёрка, а па пісьмовым нуль, няма за што атэстоўваць. У гэтым і ёсць праблема развіцця сучаснага заходняга мастацтва.

**– Якое значэнне для Вас будзе мець выстава, калі яна адбудзецца на Радзіме, у Беларусі, дзе Вы даўно не паказвалі свае карціны?**

– Я разумею, што ведаць мяне будуць менавіта ў Беларусі, а не ў Еўропе. У Еўропе ўсё жыццё падзелена на індывідуумы. Наверсе ў промнях славы застаецца некаторая колькасць прадстаўнікоў поп-культуры або сучасных практык мастацтва. Беларусь маленькая, аўтаномная краіна, яна пакуль развіваецца па сваіх правілах, тут цэняць сапраўдную творчасць і шануюць творцаў па заслугах. Іван Бунін жыў і памёр у Францыі, але ведаюць яго ў Расіі. Я не параўноўваю сябе з такімі велічынямі. Але традыцыя застаецца. Акрамя сваёй Айчыны мы нікому не патрэбныя.

# СЛОВА ПРА ВОЛЬГУ НЯЧАЙ





Кожная па-сапраўднаму глыбокая натура шматгранная і ў той жа час унутрана цэласная. У асобе Вольгі Фёдараўны Нячай (04.03.1936 – 02.06.2010) таленавіта злучаліся навуковец, публіцыст, педагог. У сакавіку гэтага года ўсе беларускія кіназнаўцы ўрачыста святкавалі б сямідзесяціпяцігоддзе з дня нараджэння выдатнага навукоўца, чыё жыццё амаль цалкам было прысвечана самаму цудоўнаму з усіх мастацтваў – кінематографу. На жаль, Вольгі Фёдараўны разам з намі ўжо няма. Цяжкая хвароба перакрэсліла ўсе надзеі і мары таленавітага вучонага, а ў плеядзе знакамітых кінакрытыкаў яе імя назаўсёды застанецца ў чорнай жалобнай рамцы.

Нарадзілася Вольга Фёдараўна Нячай у Растовена-Доне, аднак усё далейшае жыццё майстра было звязана з Беларуссю. Праз год пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1958) яна пачала працаваць у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі, дзе і скончыла свой працоўны шлях. Вольга Фёдараўна заўсёды імкнулася быць першай, гэтага ж яна патрабавала ад сваіх вучняў. Аўтар пятнаццаці манаграфій, больш чым 150 артыкулаў, да апошняй хвіліны свайго жыцця яна працягвала работу над калектыўнай манаграфіяй "Вялікая Айчынная вайна ў кінамастацтве Беларусі", але, на жаль, убачыць гэтую кнігу ўжо не паспела. У пошуках новых шляхоў падыходу да кінамастацтва даследчыца вывучала відавую і жанравую накіраванасць нацыянальнага кінематографа, першай спрабавала структураваць сістэму тэлебачання, звярталася ў сваіх працах і да мастацкіх, і да анімацыйных стужак, не абыходзіла ўвагай неігравое кіно, нават вызначыла ролю камп'ютарных гульняў у праектах па рэстаўрацыі гістарычнай мінуўшчыны. Вольга Фёдараўна – аўтар манаграфій пра тэлевізійнае кіно "Фільм у нас дома (пра тэлевізійны дакументальны фільм)" (Мінск, 1974), "Станаўленне мастацкага тэлефільма" (Мінск, 1976), "Тэлебачанне як мастацкая сістэма" (Мінск, 1981), "Ракурсы. Аб тэлевізійнай камунікацыі і эстэтыцы" (Масква, 1990); удзельнічала ў напісанні двухтомнай "Гісторыі беларускага кіно" (Мінск, 1969 – 1970), калектыўнай манаграфіі "Кіно Савецкай Беларусі" (Масква, 1975), чатырохтомнай "Гісторыі кінамастацтва Беларусі" (Мінск, 2001 – 2004); аўтар канцэпцыі, складальнік, навуковы рэдактар зборніка артыкулаў "Беларускае кіно ў асобах" (Мінск, 2004).

Вольга Фёдараўна Нячай была чалавекам шырокіх ведаў і выключнай працавітасці, уяўляла сабой той тып навукоўца, які звязвае свае даследаванні і выкладчыцкую дзейнасць з лёсам роднай краіны. У кола яе навуковых інтарэсаў уваходзілі тэорыя і гісторыя айчыннага і сусветнага кіно, праблемы ігравога і дакументальнага кіно, тэлевізійнага кіно, пытанні кінадраматургіі і рэжысуры.

Свой вопыт Вольга Фёдараўна імкнулася перадаць маладым навукоўцам, шмат часу аддавала падрыхтоўцы студэнтаў, магістрантаў і аспірантаў, накіроўваючы іх да самастойнага шляху ў навуцы. На працягу многіх гадоў чытала аўтарскія лекцыйныя курсы, якія з захапленнем слухалі студэнты Беларускай акадэміі мастацтваў, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў і іншых вышэйшых навучальных устаноў, валодала надзвычайным уменнем абудзіць цікавасць да кінематографа ва ўсіх яго праявах. Вучэбным дапаможнікам В. Нячай "Асновы кінамастацтва" з 1978 г. карысталіся не толькі ў Беларусі, Расіі, Украіне, але і ў краінах Прыбалтыкі (у 1983 г. ён быў перакладзены на латышскую мову).

Бясспрэчна прызнаная навуковай грамадскасцю і паважаная калегамі, В. Нячай была членам Беларускага саюза кінематаграфістаў (з 1969 г.), уваходзіла ў Беларускі саюз літаратурна-мастацкіх крытыкаў (з 1997 г.), працавала ў складзе мастацкага савета Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм", акрамя таго, з 1998 г. лічылася сапраўдным членам Беларускай акадэміі экалагічнай антрапалогіі. Была ўзнагароджана граматамі і прэміямі Саюза кінематаграфістаў СССР і Беларусі, Дзяржкамвыдавецтва БССР, Дзяржтэлерадыё БССР, медалём "За рабочую славу" Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

Светлы вобраз выдатнага вучонага-кіназнаўцы і абаяльнага чалавека назаўсёды застанецца ў памяці вучняў, калег, сяброў.

**Яўгенія ГОЛІКАВА-ПОШКА,**
кандыдат мастацтвазнаўства.

Рубрыку вядзе
Зоя ПАДЛІПСКАЯ

# *“ПАЭЗІЯ – МАЯ ГАСПОДА І МОЙ ХРАМ…”*



Вера Буланда – паэтэса, настаўнік беларускай мовы і літаратуры вышэйшай катэгорыі, член рэдакцыйнай рады часопіса “Роднае слова”. Нарадзілася 26 сакавіка 1955 г. у Маскве.

Закончыла Мінскі педінстытут імя А. М. Горкага ў 1977 г. У час навучання ў ВНУ была актыўнай удзельніцай Народнага тэатра мастацкага чытання “Жывое слова”, якім кіраваў таленавіты педагог А. Каляда.

У 1981 г. закончыла акцёрскае аддзяленне тэатральнага факультэта Маскоўскага завочнага ўніверсітэта мастацтваў. Да працы ў Мінску настаўнічала на Віцебшчыне і Барысаўшчыне. Кіравала тэатральнымі калектывамі, лялечным гуртком, фальклорнымі гуртамі “Спадчына” ў Лепельскім і “Прыданкі” ў Барысаўскім раёнах. За ўклад у выхаванне і навучанне школьнікаў, развіццё здольнасцей таленавітай моладзі ўзнагароджана шматлікімі граматамі, адна з якіх – ад Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

Вера Буланда – гераіня дакументальнага фільма “Сэрца аддаць дзецям”. Аўтар дапаможніка для настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры “Ад свята да свята” (2007), зборнікаў паэзіі “Запалі імгненне” (1991), “Мне не жыць без цябе” (1997), “Цыганскія кастры” (2001), “Не здраджу. Не предам” (2008), “И снова душу греет благодать” (2010).

Нізка вершаў перакладзена на французскую мову расійскай паэтэсай Нінай Дзябольскай.

Вера БУЛАНДА

### Я ВЯРНУСЯ

*Я знайду дарогу назад,*
*пакуль вы будзеце любіць мяне.*
В. Моцарт.

Як час на месцы не стаіць,
Як круціцца зямля у скрусе,
Пакуль вы будзеце любіць,
Я ад сябе да вас вярнуся.

Каб толькі сонцу не астыць –
Я кожнай клетачкай малюся.
Пакуль вы будзеце любіць,
І я пад сонцам застануся.

Пакуль вы будзеце любіць,
Ад шчасця я не адракуся,
Бо як без вас на свеце жыць,
Вы пачакайце – я вярнуся.

* * *

Пасля сустрэчы, пасля белых лілій
Вярнулася наіўнасць смешнай госцяй,
Было так светла – ты мяне акрыліў,
І я лятаю ў нашай маладосці.

І сонца заіграла ў кожнай кветцы,
І дожджык срэбрам чыстым абмывае,
І цесна-цесна радаснаму сэрцу,
Якое аднаго цябе кахае.

### ПАЭЗІЯ

Паэзія – мая гаспода і мой храм,
Мая дзявочая святая летуценнасць,
Даверлівасць прагнозам і вятрам,
Што сталі назаўжды няўлоўным ценем.

Паэзія, мне без цябе не жыць.
Не існаваць, не плыць ва ўласным лёсе,
Як строгі мытнік рыфмы на мяжы
Радкоў спантанных, літасці не просіш.

Паэзія, я да цябе ішла
Праз перашкоды, рытвіны і холад,
І толькі мройны твой глыток цяпла
Спатоліў смагу і суцішыў голад.

* * *

Ласкавым поглядам матулі
Пад вейкі зазірае сонца,
Нібы мяне на Мсціж вярнулі,
І так хачу, каб сон быў моцным.

І так жадаю зноў прачнуцца
Ад дотыку далоні маці,
Абняцца з ёй, ёй усміхнуцца
І босаю прайсці па хаце.

І разам потым завіхацца
Ля печы, у двары і ў пуньцы.
О, як бы слухала я маці,
Калі б не ў снах дамоў вярнуцца…

# ДА ДНЯ ЖАНЧЫН

## КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталі: 1.** Народная артыстка Беларусі, у 1922 – 1977 гг. – актрыса тэатра імя Янкі Купалы. **3.** Багіня кахання і прыгажосці, апякунка шлюбу ў старажытных славян. **8.** Савецкі дыпламат, дзеяч міжнароднага жаночага руху. **9.** Вядомая руская артыстка тэатра і кіно, лаўрэат прэміі імя К. Станіслаўскага. **13.** Опера Ціхана Хрэннікава. **14.** Жаночы вакальны квартэт, які існаваў у 1966 – 1987 гг. пры Дзяржаўным народным хоры Беларусі. **15.** Кола жыццёвых з'яў, падзей, што складаюць змест твора. **18.** Беларуская мастачка, якая на карціне "Сонейка" стварыла вобраз маці з дзіцем. **19.** Балет Арама Хачатурана. **20.** Краіна, дзе ў 1910 г. было прынята рашэнне аб святкаванні Міжнароднага жаночага дня. **23.** Галоўная дзейная асоба ў оперы "Пікавая дама" Пятра Чайкоўскага. **24.** Нарматыўны акт кіраўніка дзяржавы аб прысваенні звання "Маці-гераіня". **25.** Аповесць Алеся Адамовіча. **26.** Від мастацтва, у якім па-новаму раскрыўся талент Стэфаніі Станюты. **29.** Каштоўны камень. **30.** Творчая манера пісьменніка. **33.** Тэатральныя падмосткі. **38.** Літаратурна-мастацкі часопіс, дзе друкаваліся творы Канстанцыі Буйло. **39.** Гродзенская прыма-балерына XVIII ст., працавала ў тэатры Тызенгаўза. **40.** Балет Яўгена Глебава. **43.** Сапраўднае прозвішча пачынальніцы беларускай паэзіі і прозы Цёткі. **44.** Навука, якая стала справай жыцця для Наталлі Казлоўскай. **45.** Сімвал роднага дому, сям'і. **46.** Змена фасонаў жаночага адзення.

**Па вертыкалі: 1.** Святая Ефрасіння …, вобраз якой увасобіла ў карціне мастачка Галіна Русак. **2.** Сібірская рака, што носіць жаночае імя. **4.** Вакальная партыя ў оперы. **5.** Прыгонная артыстка балета, прымадонна Шклоўскага тэатра Зорыча. **6.** Мяккая каляровая шарсцяная пража для вышывання і вязання. **7.** П'еса Уладзіслава Галубка. **8.** Хросная маці. **10.** Стваральнік оперы "Жызэль". **11.** Дакладны дзень Міжнароднага жаночага свята. **12.** Музычны твор, напісаны Леанідам Захлеўным для Беларускага саюза жанчын. **16.** Танцоўшчыца з Палесся, у 1785 – 1794 гг. выступала на каралеўскіх сцэнах і ў Нацыянальным тэатры Варшавы. **17.** Беларускі жаночы эстрадны харэаграфічны ансамбль. **21.** Беларуская пісьменніца, аўтар паэтычнага зборніка "Шчаслівай долю назаві…". **22.** Гераіня камедыі "Лявоніха на арбіце" Андрэя Макаёнка. **27.** Карціна Віктара Васняцова. **28.** Дзейная асоба оперы "Іван Сусанін" Міхаіла Глінкі. **31.** Спартыўнае збудаванне, дзе праславілася беларуская велагоншчыца Н. Цылінская. **32.** Стваральніца паэмы "Мінчанка". **34.** Шаўковая або шарсцяная тканіна, з якой шыюць жаночае адзенне. **35.** Выраб з тканіны або шарсцяных нітак для захутвання шыі. **36.** Маёмасць, якую бацькі давалі маладой. **37.** Замужняя жанчына. **41.** Царыца багоў у грэчаскай міфалогіі. **42.** Аздоба з карункаў для жаночай блузкі, сукенкі.

### Адказы

**Па гарызанталі: 1.** Пола. **3.** Лада. **8.** Калантай. **9.** Барысава. **13.** "Маці". **14.** "Купалінка". **15.** Тэма. **18.** Замай. **19.** "Гаянэ". **20.** Данія. **23.** Ліза. **24.** Указ. **25.** "Асія". **26.** Кіно. **29.** Алмаз. **30.** Стыль. **33.** Сцэна. **38.** "Рунь". **39.** Дарэўская. **40.** "Мара". **43.** Пашкевіч. **44.** Батаніка. **45.** Ачаг. **46.** Мода.

**Па вертыкалі: 1.** Полацкая. **2.** Лена. **4.** Арыя. **5.** Азарэвіч. **6.** Гарус. **7.** "Ганка". **8.** Кума. **10.** Адан. **11.** Дата. **12.** Гімн. **16.** Малінская. **17.** "Чараўніцы". **21.** Мацяш. **22.** Лушка. **27.** "Алёнушка". **28.** Антаніда. **31.** Трэк. **32.** Лось. **34.** Крэп. **35.** Шалік. **36.** Пасаг. **37.** Дама. **41.** Гера. **42.** Жабо.

Склаў **Іосіф КАРПЫЗА.**

Установа «Рэдакцыя часопіса "Роднае слова"». Заснавальнік – Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйны нумар часопіса 561.
220035, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 47, кор. 1, пад'езд 2 (уваход з вул. Гвардзейскай, код на ўваходзе: 43 + званок).
Р/р № 3015702170012 у аддзяленні № 527 ААТ "Белінвестбанк" г. Мінска, код 739, УНН 190241571, ОКПО 37551965.

*Тэлефоны:* галоўнага рэдактара **(017) 203-35-17**, намесніка галоўнага рэдактара **(017) 203-24-69**,
рэдактараў і галоўнага бухгалтара **(017) 203-34-79**, адказнага сакратара і загадчыка прыёмнай **(017) 203-07-40**,
факс **(017) 203-07-40**.
E-mail: **rodnaje_slova@tut.by**
**www.rs.unibel.by**

Падп. да друку 10.03.2011. Фармат 60х84 1/8. Папера афсетная. Гарнітура "Minion Pro". Афсетны друк. Ум.-друк. арк. 11,02.
Ум.-фарб. адбіт. 12,07. Ул.-выд. арк. 13,2. Тыраж 3388 экз. Зак. 567.
Надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва "Беларускі Дом друку"».
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 79. ЛП 02330/0494179 ад 03.04.2009.